ваі. Хлеб яму вельмі спадабаўся. Адчувалася, што ён дае сілу. Вырошчвалі новагараджане акрамя хлеба чачавіцу, боб, капусту, моркву, кроп, цыбулю, часнок, каноплі. За гарадскім валам пасвіліся велізарныя конскія табуны, якія належалі князю і баярам. Адразу ж выведаў Сіверт, што мясцовыя хрысціяне са стараннем і руплівасцю ходзяць у царкву, але гэта нікольк не перашкаджае ім маліцца на сваіх сядзібах богу жывёлін Вялесу.

Пасялілі Сіверта з Морыцам у прытворы * храма Барыса і Глеба. Перад гэтым меў гутарку з дамініканцам новагародскі іерэй Анісім. «Хітры чалавек з халоднымі вачамі»,—падумаў пра яго Сіверт.

— Як толькі вернецца князь Войшалк, будзеце жыць у княжым цераме на дзядзінцы,—паабяцаў Анісім і пачаў выпытваць пра Рым і Рыгу, пра замірэнне Міндоўга з лівонцамі. Сіверт падрабязна расказваў аб усім, а сам пільным вокам слізгаў па багатым убранстве рызніцы, па срэбры і золаце, па прыгожа аздобленых вокладках кніг Ветхага і Новага запавету.

Уважліва выслухаўшы Сіверта, Анісім уздыхнуў:

— У цяжкай рабоце праходзіць чалавечае зямное жыццё.

На што дамініканец, строга звёўшы бровы, прамовіў:

— Яшчэ апостал Павел сказаў: «Хто не робіць, той не есць».

Дні тры ці чатыры, якія Сіверт з Морыцам жылі ў царкоўным прытворы, амаль поўнасцю пайшлі на тое, каб выведаць усё магчымае пра Войшалка. Асабліва цікавілі дамініканца тыя сілы, што ўзвялі Міндоўгавага сына на новагародскі сталец. Вось што ўдалося яму выпытаць. Міндоўг ніколі не заваёўваў Новагародак, а быў, калі выгналі яго з Літвы, падручным князем у мясцовага баярства і купецтва. Падпарадкаваўшы з дапамогаю новагараджан Літву, варуцкі кунігас адчуў сілу і захацеў стаць гаспадаром сваіх былых заступнікаў і абаронцаў. Для гэтага напачатку неабходна было зваліць тутэйшага князя Ізяслава Васількавіча, карэнні якога ішлі з роду менскіх Глебавічаў. Ды не Міндоўг нанёс паражку ** Ізяславу. Узняліся супроць князя купецтва і частка баярства, якія самі хацелі «спраўвавацца», хацелі, каб гандлёвы шлях з русінаў у немцы быў «чыст», «без рубяжа». Пэўна ж, бралі яны прыклад з Ноўгарада і Полацка, дзе галавой усяму веча. Хто такі там князь? Наёмнік, прыхадзень. Сёння яго ўслаўляюць, хваляць, а заўтра, калі што не так, выганяюць з дзядзінца і пасады. Князь са сваёй дружынаю служыць мужам-вечнікам за кармленне, бо сам бедны, як царкоўная мыш. Пра такіх кажуць: «На назе саф'ян рыпіць, а ў катле трасца кіпіць». Ізяслаў даведаўся аб учыненай супроць сябе змове, закаваў у жалезы зачыншчыкаў і жорстка пакараў іх. Браталюбамі, як сказалі Сіверту, называліся тыя людзі. Ды схапілі Ізяслава ў яго ным цераме, прымусілі ехаць у Свіслач. І самае дзіўнае ў гэтай справе тое, што змоўшчыкаў падтрымаў Ізяславаў сын княжыч Далібор-Глеб. Сын узняў руку на бацьку. Што ж, пра такое дамініканец ведаў. Там, дзе бушуе барацьба за ўладу, сціхае голас роднай крыві. І ў Рыме, і ў Ліёне было такое. Сыны садзілі бацькоў у жалезныя клеткі, знясільвалі голадам, гарачай смалой паілі, як той чорт у пекле. Дзівіла Сіверта іншае. Далібор, калі сагналі са стальца ягонага бацьку, мог сам стаць новагародскім князем, баяры і купцы аддавалі яму княжую шапку, але ён адмовіўся. Прычым адмовіўся на карысць Міндоўга, а потым Войшалка. Гэтага Сіверт не разумеў. Што за белая варона між чорных варон аб'явілася ў Новагародку? Ды за ўладу трэба чапляцца не толькі рукамі—зубамі. Жыццё на зямлі зменлівае. На пярсцёнку

* Прытвор—памяшканне перад уваходам у царкву.
** Паражка—паражэнне.



мудрэйшага цара Саламона было выразана: «І гэта пройдзе». Нязменнай застаецца толькі прага ўлады. Будзь імператарам, каралём, князем да таго часу, пакуль не падпаляць твой дом, пакуль на хрыбце паршывай вадавознай кабылы не вывалакуць цябе, абсмяянага і апляванага, з горада. А гэты княжыч-новагараджанін добраахвотна аддаў уладу. «Не веру,—сказаў сам сабе Сіверт.—Ці бог узяў у яго розум, ці яго сілаю змусілі адысці ўбок, у цень». І адразу ж узнікла ў манаха вярэдлівае жаданне сустрэцца з ваўкавыйскім князем.

— Як мне пабачыць князя Глеба Ваўкавыйскага?—спытаў ён у Анісіма.

— Для гэтага трэба паехаць у Ваўкавыйск,—адказаў іерэй.—Але зараз ты не праедзеш, лацінянін, бо зноў з вялікай вайною ідзе на нас князь Даніла Галіцкі з братам Васільнам і са сваімі сынамі Шварнам і Раманам.

— Мне здаецца, што я трапіў на зямлю бясконцых войнаў,—уздыхнуў Сіверт.

Ён загадаў Морыцу варыць заечыну з бобам. Трэба было цярпліва чакаць той дзень, калі князь Войшалк пакліча на дзядзінец. У тым, што яго паклічуць, дамініканец не сумняваўся. Над Новагародскай зямлёю навісла бяда, і Войшалк, хоча ці не хоча, абавязкова пойдзе на замірэнне з кунігасам Міндоўгам. Ён, Сіверт, пасланец Міндоўга, і таму горды праваслаўны князь Новагародка вымушаны будзе даць яму аўдыенцыю. Чакаючы гэты шчаслівы час, манах са смакам еў заечыну і назіраў спешныя рыхтаванні новагараджан да нялёгкай вайны. З сем'ямі і жывёлаю збягаліся ў горад смерды. Дзень і ноч умацоўваўся вал. Дзень і ноч гарэлі на пасадзе вялікія дымныя вогнішчы. Адтуль чуўся грукат жалеза, конскае ржанне.

— Бяжым адсюль, святы айцец, у Варуту,—калоцячыся ад страху, папрасіў аднойчы Морыц.

«Паслаў жа мне бог палахлівага слугу»,—са скрухай падумаў Сіверт, а сам сказаў:

— Князь Даніла дагоніць нас і пад Варутай.

Такое прадбачанне дабіла Морыца. Твар пабраўся чырвонымі плямамі, ніжняя губа агідна затрэслася. Манаху чамусьці падалося, што зараз Морыц укусіць яго.

— Пайшоў прэч,—строга і злосна загадаў ён. Калі слуга знік, Сіверт сеў у крэсла, выцягнуў ногі і заплюшчыў вочы. Як брудная вясновая вада, скочвалася з душы стома, каб даць месца блакітнаму нагрэтаму сонцам струменю. Дзве зоркі заззялі ў змроку, і былі тыя зоркі філосафамі-праведнікамі Альбертам Вялікім і Фамой Аквінскім. Бачыліся спічастыя вокны храмаў, чырвона-сіня-жоўтыя вітражы, гранітныя гарэльефы, лес вастраканцовых вежаў. Бачыўся Ланскі сабор, у якім калісьці так шчыра і натхнёна, праз слёзы, маліўся ён яшчэ юнаком. На шаснаццаці вежах стаіць там шаснаццаць быкоў. Калі ўзводзілі пад неба сабор, калі ў будаўнікоў выцеклі з пякучым салёным потам апошнія сілы, паявіўся аднекуль цудоўны белы бык і дапамог дабудаваць святы будынак. Вось чаму ягоныя сабрацці ўзнесены пад самыя воблакі.

Час у маладосці быў гусцейшы, цвярдзейшы, даводзілася прабівацца праз дні, як праз каменныя сцены. Час хапаў за рукі, зваблівa шаптаў на самае вуха: «Паглядзі, якая прыгожая белая шыйка схавана пад змрокам капюшона, якія агністыя чорныя вочы палаюць у зяленіве вінаградніку, паслухай, як пяшчотна спявае тамбурын у смуглых руках. Маленне і пост выдумалі старыя, высушаныя жыццём жанчыны. Зірні на гэтых агідніц з тоў-

стымі нагамі і жыватамі, з ручаямі маршчын на азызлых чырвоных тварах, з мясістымі барадаўкамі на шчоках і губах. Як яны моляцца, з якой страсцю цалуюць крыж і глядзяць на неба! А некалі ж, чорнавалосыя і чарнавокія, тонкія, як сцяблінкі, з шаўковай пяшчотнай скураю, млелі яны ў абдымках маладых прыгожых рыцараў, пілі пацалункі і віно. Некалі з кветкамі ў пышных прычосках, лянівыя і п'янаватыя, раскошна ляжалі яны ў беламармуровых лазнях, а цемнаскурыя рабы-прыгажуны, сціпла апусціўшы гарачыя вочы, расціралі іх наймякчэйшымі ручнікамі, абпырсквалі духмянымі пахкімі сокамі, абвявалі апахаламі з яркіх птушыных пёраў. Але знясілела, разбурылася плоць, і адразу яны ўспомнілі пра душу, пра Хрыста і ягоную нябесную дзяржаву. Зараз яны аб'яўляюць святатацтвам, смяротным грэхам нават самы сціплы пацалунак. Хрысціянства — рэлігія старых брыдкіх жанчын, якія калісьці былі няўтрымнымі распусніцамі».

Вядома ж, у юначыя гады такое мог нашэптваць на вуха толькі спакуснік-д'ябал. Нездарма Фама Аквінскі ў сваёй тэалогіі адводзіў яму, вярхоўніку дэманскага каралеўства, асобае месца, бо д'ябал валодаў сілаю псаваць надвор'е, чыніць людзям усялякае зло, перашкаджаць тым, што жывуць у шлюбе, выконваць іхнія сямейныя абавязкі. Фама казаў, што памылкова і нават злачынна адмаўляць веру ва ўсемагутнасць д'ябла. Вера ў д'ябла такая ж свяшчэнная, як і ўсё, чаму навучае каталіцкая царква. Тады, адганяючы прэч агіднае шаптанне, юны Сіверт да поўнай знямогі чытаў малітвы, стаяў на каленях і адбіваў паклоны, пакуль не з'яўлялася перад ім Багародзіца, нібы куст чырвоных ружаў у залатым паўзмроку.

Час у маладосці быў, вядома, гусцейшы. Цяперашні час як спакойнае халоднае неба з дужа рэдкімі воблакамі. Хапае месца крылу, ляці куды хочаш, але крыло слабое, няўпэўненае, баішся далёкай цвёрдай зямлі, і толькі вера ў Хрыста трымае ў паветры.

Без дазволу ўвабег Морыц. Выгукнуў спалохана і радасна:

— Святы айцец, цябе кліча на дзядзінец кароль Войшалк.

— Нарэшце, — рэзка, аж зашумела доўгая чорная сутана, узняўся Сіверт. Ён узяў у рукі святую кніжыцу, апусціў, як і належыць, вочы і нетаропка пайшоў у княжы церам.

— А што мне рабіць? — залямантаваў ззаду Морыц.

— Ідзі за мной, — не азіраючыся, сказаў манах.

Войшалк спадабаўся Сіверту і адначасова напалохаў яго. Меў мудры дамініканец вока на людзей, дадзена яму было з першага позірку вызначаць, чым напоўнена душа чалавечая. Калісьці ў навальнічных летніх лясах, у густых ляшчынніках між мноства буйных падружкоўленых гарачым сонцам арэхаў ён, яшчэ хлапчук, беспамылкова знаходзіў арэхі з прапалінкаю ад маланкі. Не возьме ў пальцы, а ўжо ведае: гэта гнілюк. І амаль не памыляўся. Людзей ён вымяраў прагаю ўлады, прагаю распусты і жорсткасці. Кожны рыцар, кожны мужчына, калі ён толькі не змярцвелы еўнух, нястомна дамагаецца плоцкай уцехі, жаночага кахання, а значыць, і ўлады, бо самы нікчэмны з мужчын пачувае сябе, абдымаючы паслухмяную каханку, уладаром. Рабства, як лічыў Сіверт, пачалося з таго самага часу, калі Ева, уздыхнуўшы, згадзілася аддацца Адаму.

Цвёрдасць адчуў і ўбачыў у навагародскім князю манах. Гэты, калі трэба, не збаіцца крыві. А напалохала тое, што не змог адразу ж, як прывык, ухапіць глыбінную сутнасць ягонай душы. Як бы з мноства сотаў, напоўненых і салодкім, і горкім мёдам, складалася душа.

Войшалк сядзеў на княскім троне — вялікім, аздобленым залатымі і срэбнымі пласцінамі крэсле. На сцяне над ім з кавалачкаў смальты, з бліскучага дроту, з птушыных пёраў і звярыных шкур быў прыгожа выштукаваны кляйнот * Навагародска-Літоўскай дзяржавы — збройны муж на белым кані ў чырвоным полі аголены меч над галавой уздымаў.

Па правую руку ад Войшалка на дубовай лаве сядзеў князь Далібор-Глеб Ваўкавыйскі. Сіверт адразу ўпіўся ў князя вачамі. «Вось той, што ад вялікай улады адмовіўся, — падумаў манах. — Здаровым целам узнагародзіў яго бог і трапятлівай душою, але ён, бачу я, няшчасны».

Навагародскія баяры, маўклівыя і суровыя, сядзелі ўздоўж сцяны. Між чорных і шэра-сініх барадаў дзве ці тры былі рыжыя, як чырвоны агонь.

— З чым прыйшоў, лацінянін? — гучна спытаў Войшалк.

— Князь Войшалк, сын Міндоўга, — смела адказаў Сіверт, — прыйшоў я з Варуты ад твайго бацькі, вялікага кунігаса, каб пацвердзіць, што ўзяў ён са сваімі баярамі хрысціянскую веру з Рыма, з рук папы Інакенція IV. Ужо вязуць людзі папы каралеўскую карону ў Літву.

— Ну й што? — нахмурыў бровы Войшалк.

— У вялікім гневе быў кунігас, што зачыніў ты перад ім вароты Навагародка, не пусціў нават рук абагрэць. Хацеў загадаць скапаць твой вал, але злітаваўся. І паслаў мяне да цябе. Я — манах ордэна святога Дамініка Сіверт.

— Навошта ж паслаў цябе кунігас? — яшчэ больш нахмурыўся Войшалк.

— Вялікі кунігас перадае табе словы міру і бацькавай ласкі.

Пачуўшы такое, навагародскія баяры скінулі з твараў суровасць, зашумелі, загаманілі. Паяснелі вочы і ў Войшалка з Даліборам. Яны пераглянуліся між сабою, і Сіверт зразумеў, што навагародскі і ваўкавыйскі князі не адзін пуд солі з'елі разам і, пэўна ж, сябруюць па сённяшні дзень. Гэту акалічнасць варта запомніць на будучае.

— Міндоўг зрабіўся саюзнікам Лівонскаму ордэну, — казаў далей манах, — і магістр Андрэй Стырланд прыслаў на дапамогу Варуце рыцарскі атрад.

— Лівонцы ў Варуце? — паблякнеў Войшалк.

— Так, — лагодна ўсміхнуўся дамініканец. — Калі я ехаў да цябе, граф Уда прымаў хлеб-соль ад жыхароў Варуты.

Ён раптам прыкусіў язык, бо адчуў, што сказаў не тое, што чакалі, і не так.

— Жэрнасы ідуць па нашай зямлі! — крыкнуў князь Глеб Ваўкавыйскі. Вочы блішчалі вялікім гневам. Ён усхапіўся са свайго месца, падбег да Сіверта, быццам хацеў ударыць яго. Баяры і князь Войшалк таксама былі вельмі незадаволеныя.

«Чым я ўгнявіў іх? — разгублена думаў манах. — На гэтай зямлі, між гэтых людзей заўсёды трэба быць вельмі абачлівым. Адно і тое ж слова мае тут падчас зусім іншае значэнне і вагу. Але зараз неабходна маўчаць, бо могуць зняць галаву, калі толькі паспрабуеш уткнуць свой голас. Агідныя дваяверцы! Прынялі хрысціянства, а ў зацішных кутках моляцца Перуну».

— Каб ты катніх рук не мінуў! — крычаў між тым Сіверту дужа раззлаваны рудабароды баярын маленькага росту. Ён упрытык падышоў да манаха, з нянавісцю пазіраў на яго знізу ўверх.

* Кляйнот — герб.

Але большасць баяраў было ў міралюбным настроі. Не выпадала ім сварыцца з лівонцамі, бо ішлі пад сцены Навагародка ворагі, і можа, у гэты самы час ужо гарэлі, руйнаваліся іхнія вотчыны і дзедзіны.

— Кожны чорт на сваё кола ваду цягне,— сказаў баярын Белакур, землі і сядзіба ў якога былі над ракой Шчараю.— Трэба нам, князь Войшалк, узнімаць дружыну, узнімаць апалчэнне мужоў-навагараджан, слаць ганцоў да кунігаса Міндоўга і разам з ім бараніць дзяржаву.

І ўсё ж Сіверта кінулі ў цямніцу. Як ні адбіваўся манах, не дапамагло. Схапілі за каршэнь і пацягнулі ў падзямелле. Пракляў ён той дзень, калі надумаў ехаць з Рыма ў Прусію і Лівонію, а адтуль напрасіўся ў атрад Марціна Голіна. Ззаду енчыў, бегучы за сваім гаспадаром, Морыц. Яго адганялі, лупцавалі дрэўкамі коп'яў. «Прападзе без мяне, дурань,— падумаў Сіверт,— але што зробіш? Для пераможаных няма сонца».

— Морыц!— крыкнуў ён.— Ідзі да караля Войшалка і скажы, каб цябе адвезлі ў Варуту!

— Святы айча, я хачу з табой у цямніцу!— верашчаў, нібы яго рэзалі, Морыц.

— У цямніцы яшчэ паспееш насядзецца,— лагодна сказаў навагародскі дружыннік, а калі Морыц зноў заверашчаў, даў яму поўху.

Сіверт бачыў усё гэта і, як чалавек набожны і мудры, адразу змоўк. Яму ўспомнілася, што пры двары візантыйскіх парфіраносных імператараў звычайна катуюць, дапытваюць вінаватых і невінаватых еўнухі. Імператар сядзіць сабе на троне, а ля падножжа трона раздзіраюць аголеную чалавечую плоць бізуны, у канцы якіх уплецены кавалачкі свінцу. Аж сапуць лютыя еўнухі, пырскае на золата і на мармур кроў, але той, каго катуюць, маўчыць— нельга гаварыць, тым больш крычаць у прысутнасці імператара.

Думаючы пра ўсё гэта, дамініканец апынуўся ў цёмным падземным пограбе, сцены якога былі выкладзены халоднымі шурпатымі камянямі. Заскрыгатаў ключ у замку, нешта сказаў ахоўнік ахоўніку, яны засмяяліся і, гучна тупаючы, пайшлі туды, дзе сінела неба і ззяла сонца. Сіверт застаўся адзін.

— Устаў я перад табой, Хрыстос, як свечка перад іконай,— панылым голасам сказаў манах.— Выратуй мяне. Не дай, каб макрыцы і павукі пасяліліся на маёй галаве.

Ён пашукаў вачамі, дзе б прымасціцца ў гэтай чортавай кішэні, і раптам убачыў, што не адзін у падзямеллі. Каля супрацьлеглай сцяны на падлозе сядзеў ці ляжаў нейкі чалавек. Было вельмі цёмна, толькі праз шчыліну над дзвярыма прабіваўся кволы пук святла, і нельга было разглядзець твар суседа па няшчасці. А можа, незнаёмец спаў, схаваўшы галаву, як робіць гэта лясная птушка, уточваючы галаву пад крыло.

— Хто там?— ціха спытаў Сіверт.

Ні гуку не было ў адказ. Ці той каля сцяны не чуў, ці не хацеў гаварыць. Дамініканец раптам падумаў, што і не можа быць адказу, бо пытанне само сабою вырвалася ў яго на нямецкай мове. Тады ён запытаў па-руску.

— Чалавек,— прагучала ў паўзмроку. І столькі спустошанасці і бяссілля было ў гэтым адзіным слове, што Сіверт уздрыгнуў. Няўжо і ён праз нейкі час будзе такі? «Усё ва ўладзе божай,— адразу ж падумаў ён.— Я, калі паразважаць, яшчэ шчаслівец. Людзей аскапляюць, асляпляюць, садзяць на ланцуг па шыю ў ледзяной вадзе».

Манах укленчыў каля таго, хто назваў сябе чалавекам, бо толькі тручы дрэва аб дрэва можна здабыць агонь, бо толькі ідучы да жывога чалавека



можна захаваць пачуцці і розум у бязмоўі цямніцы. Нельга было вызначыць з першага позірку, якога ўзросту нявольнік. Ды Сіверт і не раздумваў пра гэта.

— Хто ты?— спытаў ён.

— Алехна, сын Іванаў. Навагародскі купец,— адказаў тварыш па бядзе, цяжка варочаючы языком. Пэўна, у магільнай цішыні адвык ад жывой мовы. Быў ён змарнелы, худы, празрысты з твару, бо якое ж аб'едства ў цямніцы.

— Я чуў пра цябе,— паклаў яму руку на плячо Сіверт. Плячо было лёгкае, бязважкае, як птушынае пёрка.

Вочы ў Алехны здзіўлена ўспыхнулі і адразу абвялі.

— Мы не сустракаліся з табой на крыжавых дарогах,— холадна прамовіў ён. Пэўна, адразу ж падумаў, што Сіверта падсадзілі сюды, каб яшчэ нешта выведаць. Але даўно ўсё ўжо сказана, выцягнута з душы і цела распаленымі абцугамі.

Дамініканец адвярнуў крысо плашча, дастаў з патаемнай кішэні сваю запаветную скрыначку, а з яе— жалезны жолуд. Паклаўшы жолуд на далонь, паднёс яго амаль да самых купцовых вачэй. Спытаў:

— Ёсць у цябе такі?

Алехна не скеміў напачатку, што гэта такое. А калі ўгледзеў, калі зразумеў, адхіснуўся ад Сіверта, а потым зірнуў на яго з агідай і нянавісцю. Тут немагата жыць, ліпець на белым свеце, а нейкі прыхадзень, толькі падсуседзіўшыся, пачынае сыпаць соль на раны.

— Што табе трэба ад мяне?— глуха прамовіў Алехна.— Калі ты выведнік, калі за дзвярыма цямніцы цябе чакаюць мае мучыцелі, то скажы ім, што я хачу памерці. Сам накласці на сябе рукі я баюся і не ўмею, але я дужа хачу, каб яны прыйшлі, хоць зараз, і накінулі чорны мяшок на галаву. Скажы ім, каб хутчэй забілі мяне.

Сіверт лагодным голасам пачаў расказваць купцу пра сябе, пра тое, як сустрэў у Лівоніі браталюба Панкрата, як той перад самым кананнем адкрыў яму таямніцу жалезных жалудоў і аддаў свой жолуд, бо не браць жа яго з сабой у магілу. Здалося, што Алехна паверыў. Сплыла з вачэй нянавісць.

— Гаварыў мне Панкрат,— казаў далей Сіверт,— што ты быў самы мудры між усіх, самы справядлівы.

— Будзь сціплы,— перапыніў манаха Алехна.— Вока не бачыць само сябе.

— Але гэта і сапраўды так, бо Панкрат не мог хлусіць на парозе смерці. Толькі вось што дужа мяне здзіўляе, купец. Ты і твае аднамысьнікі хацелі, каб у Навагародку пачаў княжыць Міндоўг. Прыйшоў у Навагародак Міндоўг, зараз на стальцы сядзіць сын ягоны Войшалк, а ты як гніў у падзямеллі пры Ізяславе, так і сёння гніеш.

— Не хлусіш, нямчын?— Алехна аж ускочыў на ногі.

— Клянуся Хрыстом,— пранікнёна пазіраючы яму ў вочы, прамовіў Сіверт.

З глухім стогнам браталюб рухнуў на падлогу.

— Міндоўг і Войшалк забыліся пра мяне! Яны ў Навагародку, а я— у падзямеллі!

У вялікім адчаі ён укусіў сябе за руку.

— А мы ж для іх узаралі першую баразну. Мы ўсё рабілі для таго, каб іхняе зерне ўзышло на навагародскай зямлі. І вось якая плата.

Алехна, угнуўшы галаву ў плечы, пачаў біць па каменнай сцяне кулакамі. Рукі разбіваліся ў кроў, а ён не адчуваў болю. Ледзь здолеў Сіверт утаймаваць браталюба. Часам дамініканцу здавалася, што той звар'яцеў.

— Не трэба было мне гаварыць табе пра такое,— гарачліва ўпікнуў сябе Сіверт, калі Алехна, стаміўшыся, лёг каля сцяны, нібы куль саломы.— Але ж я думаў, што ты ўсё ведаеш. Клянуся табе — як толькі выйду з цямніцы, выйдзеш і ты, бо князь Война Войшалк будзе ведаць аб усім. Сядзець жа мне тут два-тры дні, не болей. Астыне князь і адразу загадае выпусціць мяне. Пачынаецца вайна, і як Войшалк ні дзярэ нос, не абысціся яму без Міндоўга, а я Міндоўгаў пасол.

Усё адбылося так, як меркаваў манах. Праз дзень яго выпусцілі з падзямелля. Войшалк і Глеб Ваўкавыйскі, седзячы на войскіх конях, чакалі Сіверта каля ўваходу ў цямніцу. Калі ён выйшаў нарэшце на сонечнае святло і стаў, заплюшчыўшы вочы, навагародскі і ваўкавыйскі князі борзда саскочылі з шытых золатам чырвоных сёдлаў, падхапілі яго пад рукі. Гэта быў нечуваны гонар для простага манаха. Але спрактыкаваны ў жыццёвых бурах калугер * выдатна разумеў, што не яго так прывячаюць-велічаюць гордыя князі. «Значыць, Даніла і Васілька Раманавічы недалёка ад Навагародка»,— адразу падумаў ён і ўсклікнуў з найвялікшым хваляваннем:

— Шчасце будзе вам, князі! Толькі што бачыў я ў небе два сонцы і якраз над вашымі галовамі. Як німбы залатыя былі тыя сонцы. Ведайце — усміхнецца вам Хрыстос.

Войшалк і Далібор пераглянуліся між сабою. А Сіверт натхнёна бліскаў вачамі. Успомнілася яму, як цяжка і няпроста заваёўваў ён любоў імператара Фрыдрыха II Гогенштаўфена. Суровы быў напачатку Фрыдрых, не дапускаў манаха не толькі да сваёй душы, але і да рукі сваёй. І вось, ідучы ў замак да свайго ўладара, Сіверт узяў двух легканогіх і дужа лютых хартоў. А якраз у полі мышкавала бясклапотная ліса. Сіверт непрыкметна спусціў хартоў са шворкі, яны з усіх ног памчаліся за лісой, схапілі яе. Манах пабег за імі, вызваліў з іхніх зубоў і кіпцюроў лісу і ўрачыста панёс, жывую і непашкоджаную, да імператара. «Глядзі, уладар, які падарунак я табе падрыхтаваў»,— ціхмяна і пакорліва сказаў Фрыдрыху. «Як жа ты змог яе злавіць?» — здзівіўся Фрыдрых, сам заўзяты паляўнічы. Сіверт схіліў галаву і, пакляўшыся здароўем свайго сеньёра, пачаў расказваць: «Я ехаў да цябе верхам на кані, убачыў гэтую лісу і адразу падумаў, як цудоўна ўпрыгожыць яна твой паходны плашч. Ударыўшы каня шпорамі, я панёсся за ёй. Але дзе там! Яна ляцела як вецер, і мой конь пачаў адставаць. Тады я ўзняў рукі да неба і стаў заклінаць: «У імя ўладара майго імператара Фрыдрыха спыніся і не паварушыся!» І яна ў той жа міг застыла як укапаная. Я злез з каня, узваліў лісу на плячо, нібы авечку, і прынёс да цябе ў замак». З таго дня Сіверт зрабіўся ўлюбёнцам славутага імператара, сядзеў з ім за адным сталом, піў віно з аднаго посуду. Галоўнае ў малачасным зямным жыцці — заваяваць любоў моцных.

Вось і зараз манах, малітоўна склаўшы рукі, глядзеў паверх княжых галоў, і яму бачыліся два яркія сонцы. Можа, таму, што з цемры выйшаў, замільгацела, запярэсціла ўваччу, можа, страсна хацеў убачыць, але сонцы былі, налітыя агнём і чырванню, іскрыстыя, звонкагарачыя.

— Хрыстос усміхнецца вам,— натхнёна паўтарыў Сіверт.

Яго ўрачыста павялі ў церам. На дзядзінцы і ў вакольным горадзе Навагародка збіраліся між тым, гуртаваліся вялікія войскія сілы. Манах бачыў тысячы моцных плячыстых рыцараў, якіх тут называюць воямі. Яны былі ў вастраверхіх шлемах і бліскучых кальчугах, з чырвонымі шчытамі, з дзідамі, сякерамі і мячамі.

Увесь час падыходзілі новыя атрады з Ваўкавыйска, Здзітава, Услоніма, Вавярэска, з іншых блізкіх і далёкіх гарадоў і весяў.

— Піняне прыйшлі! — раптам узрадавана крыкнуў Войшалк.— Князі Фёдар, Дзямід і Юры!

Ён, забыўшыся пра Сіверта, кінуўся да пінскіх князёў, кожнага абняў і пацалаваў. Далібор таксама пацалаваўся з пінянамі. Былі яны ўсе чарнавалосыя, з на дзіва сінімі на загарэлых тварах вачамі. Старэйшы між іх Дзямід сказаў, разгладзіўшы тонкія чорныя вусы:

— Хацеў нас князь Даніла Галіцкі забраць пад сваю руку, але мы не даліся, павялі дружыны сюды, бо заўжды верныя Навагародку.

Быў Дзямід Пінскі драбнаваты з выгляду, з маленькімі рукамі і нагамі. Зламыснікі казалі, што нарадзіцца б яму дзяўчынаю, але ў той самы час, калі з'яўляўся ён на белы свет, закукарэкаў певень. Ды ў гэтага драбнюка былі нібы жалезныя пальцы. Хапаў ён на ловах дзіка за тлусты валасаты хіб і вырываў ладны шмат гарачага сала.

— Дзякуй, дзякуй вам, князі,— сваціўся радасцю Войшалк.

Сіверт зразумеў, што радасць у Міндоўгавага сына была шчырая. Не з Варуты прыйшла дапамога, не ад бацькі, якога Войшалк (усе ведалі гэта) не любіў, а з лясной і балоцістай Пінскай зямлі. Жыхары гэтай зямлі спрадвеку цягнуцца да дрыгавічоў і крывічоў Навагародка. Апошнім часам, калі пад татарскімі парокамі рухнулі сцены Кіева, ідзе нястомная барацьба паміж Галіцка-Валынскім княствам і Навагародска-Літоўскай дзяржавай за першынства ў землях, што ляжаць на захад і на поўнач ад стольнага Кіева. Кожны хоча прыбраць гэтыя парушаныя татарскай навалай землі, гэтыя асколкі яшчэ нядаўна такой магутнай Кіеўскай Русі да сваіх рук. Піняне і тураўцы, наколькі вядома дапытліваму Сіверту, аддаюць перавагу Навагародку і ўсё часцей, пераймаючы завядзёнку навагараджан, услонімцаў і ваўкавыйсцаў, называюць сябе літвараўмі або ліцвінамі. «Ліцвіны — новы народ,— думаў манах.— Трэба запісаць гэта для памяці ў свой пергамен». Ён цвёрда рашыў, як толькі наступіць спакой, як толькі надарыцца вольная часіна, пісаць хроніку. Ды дзе той спакой?! Згодна «Вечнаму евангеллю» францысканца Джэрардзіна з Борга-Сан-Даніна ў той дзень, калі Хрысту будзе тысяча, і дзвесце, і шэсцьдзесят гадоў, наступіць усюды мярзотнасць запусцення. Ужо зараз бягуць хрысціяне ў лясы і пустыні або самазабіваюцца разам са сваімі дзецьмі.

— Вяртайся ў Варуту да вялікага кунігаса і перадай, што, адбіўшыся ад галічан, пойдзем на дапамогу,— сказаў Войшалк Сіверту.— А за цямніцу не крыўдуй.

— Там, у цямніцы, сядзіць чалавек,— прамовіў Сіверт, пільна пазіраючы ў вочы навагародскаму князю.

— Ну і што? Шмат на свеце цямніц і дужа шмат у іх вязняў, каб кожнага шкадаваць і пра кожнага помніць.

— Але чалавек, які сядзіць у тваёй, навагародскі кароль, цямніцы, на шыі побач з хрысціянскім крыжам носіць вось такое.

Манах паказаў Войшалку жалезны жолуд. Князі, навагародскі і ваўкавыйскі, з вялікай цікавасцю і ўзрушэннем разглядвалі жолуд, круцілі яго ў руках.

* Калугер — манах.

— Гэта — купец Алехна, — сказаў нарэшце Далібор.
— Ён яшчэ жывы? — спытаў Войшалк.
— Пэўна ж, яшчэ жывы, калі нямчын пра яго гаворыць.
— Купца Алехну толькі што я бачыў у цямніцы, — пацвердзіў Сіверт.
— Алехна, — задумліва круцячы ў пальцах жолуд, прамовіў Войшалк. — Гэта той самы, што больш за ўсіх хацеў мець новагародскім князем Міндоўга. Той, што не вельмі любіў мяне і цябе, князь Глеб. Так?
— Так, — адказаў Далібор.
— Хіба мы павінны любіць таго, хто не любіў нас? Няхай сядзіць купец у цямніцы. Я толькі загадаю, каб яго лепш кармілі і паілі. А жалезны жолуд аддадзім вернаму саюзніку Новагародка князю Дзяміду Пінскаму.

Войшалк падышоў да пінскага князя, надзеў яму на шыю срэбны дробнакаваны ланцужок з цёмным жалезным жолудам.

**Заканчэнне ў наступным нумары.**

Мал. **П. Драчова.**





*Вольга Шпакевіч*

## ЗЯМЛЯ ПАВІННА ЖЫЦЬ

Люблю я квецень веснюю,
Люблю я дождж грыбны,
Каб толькі птушак з песнямі
Ні град, ні гром не біў.

Люблю я лета плыннае,
Калі дажджу шумець,
Каб толькі з неба ліўнямі
Не ліўся нам свінец.

Снягі зямлю ад холаду
Схавалі: цёпла спаць,
Каб толькі ёй, як волату,
Ад болю не стагнаць.

Люблю раку бадзёрую,
Што з лесу ў луг бяжыць.
І сонечнай, і зорнаю
Зямля павінна жыць.

■

За слова мацней не
параніш —
Скажы яго ці напішы.
Загойвае час усе раны,
Ды толькі не раны душы.

## ДВУХМОЎЕ

Двухаблічны, двудушны, двуручны...
Двух зайцоў не злавіць адначас —
Вучыць мудрасць народная, вучыць,
Але ўсё недавучвае нас.

## ТВОЙ ПАГЛЯД

Пагляд кідае ў вір адчаю
Ці шле прымроены агонь.
Пагляд я гэты то чакаю,
А то цураюся яго.

Маніць нікому не умею
І не магу зманіць сабе,
І я, цвярэзніца, хмялею,
А сэрца, сэрца звонам б'е.

Іскрынка жару, лёд развагі —
Злілося ўсё ў пякучы боль.
На шалях страху і павагі
Жыву і дыхаю табой.

## ДАРОГІ

Дарогі нібыта арэлі:
То ўніз, а то ўверх над табой.
Чаму ж вы, чаму не сумелі
Загушкаць, суцішыць мой боль?

Мой боль па растрачаным часе,
Па марнасці лепшых надзей?..
Ці я не за тое ўзялася?
Не так усё, як у людзей.

Дарогі, цяжкія дарогі.
Блукаюць па вас і лятуць.
Губляеце, трацiце многіх,
І тых, што да мэты ідуць.

## КВЕТКІ

На балконе, на ясным паверсе,
Пры выгодах сучасных растуць.
Іх і неба, і сонейка весняць,
І дажджы ім пяшчоту пяюць.
Гаспадыня штодня дагаджае
Ім, сінюткім, каб толькі цвілі.
Але цягнуцца кветкі з адчаем
Да зямлі,
да зямлі,
да зямлі.



## *Ганна Кашуба*

■

Стамілася чакаць і спадзявацца,
Надзеям незбывальным усміхацца
І ткаць жыццё з бяды напалавіну.

Стамілася аб душы разбівацца,
Гукаць таго, каго не дагукацца,
І слухаць пустазвон прыгожых слоў.

І, стомленая цяжкаю хадою,
Напоеная стратамі, бядою,—
Бы зрэнку, берагу сваю любоў.

■

За ўсіх, хто спіной адвярнуўся,
Ты даруй мяне, родная мова,
Хто забыў, як калосіцца
Роднае слова,
Хто табой пагарджаў,
Нават здзекі прыносіў,
Ты даруй, я прашу,
Бы яны не папросяць.
Я з табою жыла
У пакутах гадамі.
І мы з моваю выжылі,
Выжылі самі.
І яшчэ раз прашу
За ўсіх прабачэння.
Сёння мовы і наша
Пара адраджэння.

■

Жыву і веру, веру і жыву,
Хоць моц маю жыццё яшчэ спрабуе,
Але упэўнена уперад ўсё ж іду я,
Таму што веру, веру і жыву.

І толькі злоснік можа усміхацца,
Маўляў, пара, даўно пара здавацца.
Ці ж можна столькі бед разнітаваць,
Каб і сябе ад іх уратаваць?!

І у адказ я злоснікам кажу,
Што вузел моцны, верце, развяжу.
Не трэба спачуваць і усміхацца,
Бо за жыццё умею я трымацца.
Сваёю кожнай кропелькай крыві
Сабе і свету я кажу:
— Жыві!

■

Гавораць, што ўсяму свой час,
І у жыцці яно так і бывае:
Штодня уранку сонца нас вітае,
І на спачын яно праводзіць нас.

У тэрмін хлебароб засее поле,
І птушак песні загайдае лес,
А лета пах сунічны разалье,
І нагрыміцца гром сабе уволю,
Ну пэўна ж, усяму свой час.

Мо зробіць лёс самотны жэст рукой,
Каб болей не шукала лепшай долі.
Ды з тым, што лепш пазней, чым ніколі,
Я не згаджуся, не згаджуся болей,
Сама спазнала: усяму свой час.

■

Жыві, дабрата, у сэрцах,
А без цябе
Кветкам — сохнуць,
Сонцу — быць за хмарамі,
Душам — спапяліцца.

■

Упершыню пераступіла
парог уласнай кватэры.
Ды што гэта?
Няма радасці навасёла.
Толькі пачуццё
стомленасці...



# З ЛІТАРАТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

## *Кандрат Лейка*




**Кандрат Лейка нарадзіўся ў беднай сялянскай сям'і ў вёсцы Збочна на Слонімшчыне. Як пісаў К. Лейка ў аўтабіяграфіі — «у 1860 годзе 17 верасня, здаецца».**

**Вучыўся ў Свіслацкай настаўніцкай семінарыі. Працаваў настаўнікам паблізу родных мясцін у Косаве, затым у Харкаўскай губерні ў Ліціўскім пачатковым народным вучылішчы, інспектарам Харкаўскага вучылішча сляпых дзяцей, слухаў лекцыі ў Харкаўскім універсітэце, у Ваўкавыскім павятовым земстве быў загадчыкам вучэбнага аддзела.**

**Памёр К. Лейка 6/19 верасня 1921 года ў Здалбунаве, дзе і пахаваны.**

**Пісаць пачаў настаўнічаючы ў Косаве на беларускай («забароненай») мове.**

**У 1893 годзе ў Харкаве была выдадзена кніга К. Лейкі «Русская азбука. Учебник родной грамоты для классного и домашнего употребления».**

**Друкаваўся К. Лейка ў «Нашай ніве». Пісаў вершы і прозу. У 1912 годзе асобным выданнем выйшаў «Снатворны мак» (сцэна для дзіцячых тэатраў. Прысвечана вясковым дзецям Слонімскага павета).**

**Вядома, не ўсе творы К. Лейкі напісаны на высокім мастацкім узроўні, але нельга не адзначыць, што Кандрат Лейка займае пачэснае месца сярод першых сейбітаў на ніве беларускай літаратуры канца XIX і пачатку XX стагоддзяў.**

**Мікалай СІДАРОВІЧ**

**А д р э д а к ц ы і: Пры падрыхтоўцы твораў К. Лейкі да друку захавана аўтарская арфаграфія.**

### АПОШНІЯ ХВІЛІНЫ

Німа ужо тых,
Каго любіў,
З кім працаваў,
Бяду дзяліў...
Адных даўно
Узяла зямля,
Другіх згубіў
У дарозі я.
Хто быў,— німа,
І след прапаў;
Застаўся я,—
Бог пакараў.
Адзін, адзін...
Гнію як пень
І смерці жду,
Што ноч, што дзень.
Адзін... без сіл...
А мэнк — гара;
Не варта жыць,
Канаць пара...

### НАПРАДВЕСНУ

Іграй, бацько,
Скачы, маці,—
Будзем весяліцца...
Прыйшла воля,
Німа гнёту,—
Чаго ж нам журыцца.
Знікло панство,
Счэзло хамство,—
Сталі ўсе братамі;
Засвяцілась
У небі зорка
Новая над намі.
Замкі зняты,
Ланцуг упаў,
Астрогі разбіты,—
Канец цемры,
Нам да свету
Дзверы ўсе адкрыты.
Роднай мовай,
Роднай песняй
Адусюль павеець;
Усё святое,
Усё былое
Нам душу сагрэець.
Так танцуйце
І гукайце
Усім, браткі, людзям,
Што мы выйшлі
З-пад няволі,—
Пад ярмом не будзем.
Па вяселлю,—
Да работы!..
Жыццё паднаўляці,
Каб у братстві
І у шчасці
Усім пажываці.

### ПЕСНЯ ПРАЦАЎНІКОЎ

Гдзе ты, шчасце,
Гдзе ты, доля,—
Куды запрапалі?
Цэло жыцце
У дзень і ноч
Мы ўсе вас шукалі.
Пяском жоўтым,
Снегам белым
Вас пазасыпало,
Ці вятрамі
І віхрамі
Вас пазамятало?
У шыроко
Выйдзем поле
І станем гукаці,—
Маўчыць поле,
Шчасце, доля
Не хочуць нас знаці.
Цэло жыцце
Плач ды слёзы,
Мэнка, гнёт, няволя:
Як умрэмо,
Панэ кажуць,
Будзе лепша доля.



# Маці і дзеці

*Пасвячаю*
*на добрую памяць*
*роднай мацеры —*
*Таклюсі Лейко*

Кожны дзень яна горко плачэ і цяжка ўздыхае. Аб чым? Об сваёй нядолі. Галодныя дзеці, гнілыя, абдзертыя будынкі, благі ураджай, з усіх бакоў здзірство, сціск і ўдадатак нікчэмны гаспадар,— як жэ тут не плакаць...

Просіць Бога, просіць людзей, кленчыць перад панамі, каб памаглі, каб далі які-небудзь спосаб да жыцця, але ніхто — ні небо, ні людзі — не звяртаюць увагі на яе бяздолле. Бягуць дні за днямі, ідзе рок за рокам, а яна усё мучыцца, усё бядуе...

Одзінокая, усімі забытая, яна як бчолка у вулейку б'ецца, хлапочэ над сваею гаспадаркаю, каб паддзяржаць яе, каб выгадаваць і давесці да розуму сваіх дзетак.

Згушчаюцца над ёю хмары, ідуць цёмныя хвілі з бліскавіцамі, з грымотамі, сякуць у вочы дажджы, размываюць і уносяць дабро навальніцы, а яна, не звяртаючы увагі на усе гэтыя няўзгоды, усё працуе і дзень, і ноч...

Растуць дзеці сярод убожэства, сярод грязі, у голадзе і холадзе праходзіць іх жыццё, і хоць целам яны благія, але — дзяку Богу — духам дужыя і моцныя. Сваею кроўю, сваімі апошнімі сокамі корміць іх маці; корміць і вучыць, як трэ працаваці, як трэ жыць, уважаючы сябе і шануючы добрых людзей. Растуць дзеці, пераносячы усе тыя няўзгоды, што пераносіць іх маці. Растуць — і пад цяжарам свайго горкаго жыцця гартуюцца, як сталь у вагні...

Усё аддала ім маці — і сілы, і чуццё, і жыццё...

Аддала усё — і сама абнядужала, старая.

От выраслі дзеці і, убраўшыся у сілу, кажуць мацеры:

— Саколка ты наша! Ты давяла нас да розуму, ты аддала нам свае сілы, сваё сэрца, ты ужэ утамілася,— пара табе аддыхнуць; цяпер мы будзем працаваці, цяпер наша чарга зарабляці хлеб пад тваім кірункам...

І выйшлі дзеці гуртам рана на шыроку ніву, каб абрабляць яе, як навучыла іх родная маці...

Із-за лесу цёмнаго выступіло на чыстым небе яснае сонячко і сваімі залатымі праменямі асвяціло і ніву і маладых працаўнікоў, засяваўшых сваю зямельку...

— Бог вам на помач, дзеткі! Працуйце на радасць і шчасце сваёй змучанае мацеры!..

# Грэх скупляецца смерцю

Старая удава Траяніха яшчэ на Тройцу дала афяру пайсці у наступную восень да Кіева, пакланіцца там святым угоднікам Божым, папрасіць у іх адпушчэння грахоў і адслужыць закупную мшу за упакой змерлых душ.

Гаспадаркі свае яна не баялася кінуць на некулькі месяцаў, бо у яе была ужэ узрослая дачка Прузына, катора магла як найлепей і ў хаці управіцца, і худобу даглядзець.

На Багача Траяніха надзела на сябе чыстую бялізну, апранула новую сярмягу, накінула торбачку з хлебам дый, выходзячы ў дарогу, кажа сваёй дачцэ:

— Ну, Прузынка, я іду да Кіева на адпуст, а цябе астаўляю дома на гаспадарцы.

Глядзі ж, нікуды не швэндайся, асабліва не займайся з хлопцамі, каб, не дай Бог, не выйшло якого паклёпу на цябе або не нарабілася сораму.

— Не, матухна,— адказала дачка,— нікуды і нагою з свае хаты не выйду. Будзь спакойна.

Як толькі Траяніха зайшла за аколіцу, да яе дачкі зараз прыцягнуўся папоўскі парабак Пятрусь. Пятрусь быў хлопец вяртлявы, лагодны, але вельмі брыдкі; у сяле яго дражнілі рабым, мусіць, з таго повADу, што ён меў твар зусім зрыты воспаю.

Адкуль Пятрусь быў родам — ніхто не ведаў, а як дзяўчата дапытваліся, скуль ты, Пятрусько, ён адказваў: стуль, гдзе на полі каменнё расце, а у вадзе рыба спявае.

Пятрусь і да гэтага часу не раз заходзіў да Прузыны і прабаваў вызываць яе на залёты, але старая Траяніха кожны раз праганяла яго з хаты, бо бачыла, што ён зусім не падходзіць пад пару яе Прузыне.

Цяпер без старое Пятрусь не стрымоўваўся і дзяржаў сябе вольно, як распутаны конь. Ён сеў на лаві поруч з Прузынаю дый кажэ ёй:

— Ведай, Прузынка, што кахаю цябе больш усяго на свеці. За цябе і душу сваю гатоў аддаць. Ты павінна быць маёю, а як адкажаш, то — дальбог — павешуся альбо ўтаплюся, бо без цябе я жыць не магу...— Сказаўшы гэто, ён ахапіў Прузыну за шыю і, прыцягнуўшы да сябе, стаў цалаваць яе ў губы. Прузына узмятнулася як укушаная асвою і крыкнула:

— Пайшоў вон з хаты, рабы чорт! А то як вазьму качаргу, дык жывого мейсца на табе не астаўлю. Пятрусь схапіўся, стаў перад Прузынаю на укалені дый кажэ:

— Прузынка, ягадка мая, зжалься нада мною, не гані мяне. Я буду цябе кахаць і шанаваць да самае смерці, у гэтым табе клянуся. Звярні увагу, глянь на мяне ясным поглядам, сонейко маё незаходнаё...

Прузына стрымалася. Пятрусь стаў перад ёй на укаленях і плакаў. Маладоё сэрца дзяўчыны размякло. Прузыну ахапіў жаль, яна палажыла рукі на голаў Петрусю і, гладзячы кучаравыя валасэ, стала разважаць яго:

— Ну, перастань, Пятрусько, плакаць,— гаварыла дзяўчына, кідаючы на хлопца ласкавыя погляды.— Ты гэдакі нешчаслівы, заўсюды адзінокі, мне цябе вельмі шкада.

«Каго дзяўчына пашкадуе, таго і пакахае»,— кажуць старыя людзі. І гэто праўда. Праз хвіліну Прузына з Петрусём сядзелі абняўшыся на лаві і, цалуючыся, спявалі:

Чаго ж нам баяцца, чаго ж нам тужыць—
І радасць і шчасце нам жыцце суліць.
Нуду мы і горо у каханню забудзем,
Мы з сонейкам рано станем уставаці,
Дома і на ніўцы ўмеці працаваці,
Хай жа у нашым жыццю нам Бог памагае
І нашыя душы навекі з'яднае.

З гэтаго часу Пятрусь стаў кожны дзень наведвацца да Прузыны і часта праводзіў з ёю цэлыя ночы.

Чарункі першаго кахання як хмельным вінам п'янілі Прузыну, муцілі яе розум, і яна не утрымалася ў тых межах, якія укладам жыцця дзяўчыне забаронено пераступаць. Пайшло новае жыцце... Праўда, трошкі боязно было, каб чаго не выйшло, але затое колькі радашчаў, колькі шчасця ад любоўных патуг ды уздрыгаў!..

Ах, як добро было б, каб маці надалей затрымалася у Кіеві, бо як вернецца, то дабра не будзе — старыя нігды не спагадаюць маладым. О, дзявоцкаё шчасцё, які кароткі твой век! Ты як птушка пералёцістая — прыляціш, пабудзеш трошкі і узлятаеш зноў, ужэ назаўсюды... Праз некулькі месяцаў Прузына пачулася, што у ценжы.

Па сялу пра дзяўчыну ужо хадзіла кепская ганблівая мова. Перад самымі Калядамі вярнулася з Кіева маці і, даведаўшыся, якого сораму нарабіла яе дачка, з гора захварэла і зараз памерла.

Пятрусь хоць і прысягаўся, што да самае смерці будзе кахаць Прузыну, але прэнтко забыў сваю прысягу, і як адно старыя жанкі пачалі прымушаць яго пакрыць грэх і жаніцца з дзяўчынаю, уцёк з сяла, і ніхто аб ём нічого не знаў.

Праўда, раз было прынёс нехто чутку, што Пятрусь згубіў прытомнасць і жыве у лесі асабнём, як воўк; але гэтаму ніхто не паверыў,— мала што людзі гавораць.

Прузына засталася адна са сваёю нудою і горам.

Плачэ дзеўчына, лемантуе, праклінае сваю горкую долю, але забыць свае бяды не можэ.



Наступаў час родаў. Божа, які сорам: усе даведаюцца, што дзяўчына прашкапілася. І хоць апрыч самой сябе яна больш нікому сваім выпадкам не прычыніла шкоды, але усё ж такі нядобро людзі асудзяць, аганьбуюць; знойдуцца і такія прайдзісветы, што услух на вуліцы будуць смяяцца і абзываць брыдкімі словамі.

О, як дораго Прузына заплаціла б, каб можно было усё тое, што зрабілася, скрыць ад людзей, замітусіць усе канцэ, затаптаць усе слядэ і зрабіць так, быдто нічого не было,— усё чыста, гладка. Мыслі аб скрыцці канцоў свайго дзявоцкаго абмылку часта западалі у голаў Прузыны, але яна ні разу не дадумвала іх да канца,— зрывала, бо апошняе звяно гэтых мысляў наводзіло яе на нешто вельмі цяжкоё і страшэннаё.

От Прузына ужэ ледзьве-ледзьве ходзіць і кожны дзень з вялікім страхам чакае развязкі. Яна ужэ прызапасіла усё, што трэба было на гэты час, і ўсё добро абдумала, нават і тыя цяжкія мыслі, якія дагэтуль палохалі яе, цяпер былі даведзены ёю да самаго канца і павінны былі, як яна рахавала, збыцца, чаго б гэто ні стоіло. Як толькі Прузыну схапілі першыя сударагі і пацягі перад родамі, яна з хаты выйшла у адрыну і тамака зашылася у салому. Быў вечар, і ужэ пачынало цямнець. Прузыну зараз схапілі патугі, корчы, і праз некулькі цяжкіх хвілін нарадзіўся поўненькі здаровенькі хлопчык. Маці узяла пялюшкі, спавіла яго і, абгарнуўшы цёплым каптаном, палажыла на саломі. Што ж далей рабіць? О, яна ведае што... «Ну, не марудзь, барджэй, ды глядзі не палохайся,— усё будзе добро»,— шаптаў нехто, як здавалася Прузыні, над самусенькім яе вухам. Устаўшы, яна накінула на сябе кажух, палажыла за пазуху спавітаго хлопчыка і, крадучыся як кошка, выйшла на двор.

Ноч была ціхая, цёплая, на небі ясно, як свечачкі, гарэлі зоркі. Аглядзеўшыся наўкруг, Прузына борздо пайшла цераз агароды на рэчку, што цякла уздоўж сяла. Над рэчкаю ляжаў густы, як ляк, сівы туман. У сяле ужэ усе спалі. Берагі свае рэчкі Прузына знала добро, і мейсцо, якое ёй трэба было, яна знайшла прэнтко, без асобае турбацы. Яна абабрала самы высокі, страмністы бераг, пад каторым у рэчцы быў вір, гдзе заўсёды вада круцілася, як у кіпячым гаршку. Узышоўшы на бугор і стаўшы над самаю кручаю, яна расхіліла кажух, перажагнала хлопчыка, налажыла на яго масяндзовы крыжык, пацалавала моцна у твар і, расшугаўшы на руках, як непрытомная, узмятнула яго ад сябе наперад у самую гушчу туману... Успадзі хлюпнула вада, і болей ні чого,— ціхо, ніякага следу...

Пастаяўшы хвіліну над кручаю, Прузына абярнулася назад і, хістаючыся, як п'яная, пайшла дадому. Але адышоўшы ад рэчкі на некулькі крокаў, яна раптам стала і зжахнулася, быдто угледзела нешто вельмі страшэннае.

Гэто Прузына зразу, як па Божаму зваленню, ясно зразумела, які подлы і звярыны поступ яна толькі што учыніла.

— Што ж гэто зрабіла? Гдзе ж мая совесць? — каялася яна, рвучы на сабе з гора валасы.

Дзявоцкі сорам, якім дагэтуль Прузына мучылася, раптам куды-то счэз. Цяпер сэрца яе білася новым чуццём, якого да гэтаго часу яна яшчэ не знала,— чуццём мацеры.

— Гдзе ж маё дзецятко, гдзе ж маё мілаё? — убівалася яна, ломячы рукі. І у гэты момант ёй здавалася, што німа на свеці нічого лепшайшага, як быць мацераю і пеставаць сваё дзіця.

— Бач, баялася сораму, а не пабаялася збыць са свету сваё роднае дзіця, паскуда! — бічавала далей сама сябе Прузына.

— Маці!.. Якая я маці!.. Я душагубка!.. Смерць мне за гэто! — ускрыкнула нарэшце як не сваім голасам Прузына і, абярнуўшыся назад, як шалёная пабегла на рэчку...

У віру зноў хлюпнула вада, і потым зноў наўкруг стало ціхо...

Цёплая зорыстая ноч, як і раней, моўчачы адбывала сваю чаргу і не звяртала ніякай увагі на тую цяжкую прыгоду, якая з'явілася на рэчцы.

На другі дзень, як выцягвалі з віру грамадзяне утопленнікаў — Прузыну і яе хлопчыка, дзеці, бегаючы каля рэчкі, у альшынніку наткнуліся на вісельніка і, разглядзеўшы добро, апазналі, што гэто быў труп Петруся, папоўскага парабка.

Публікацыя **М. СІДАРОВІЧА.**





# *Алена Котава*

## ДАЛЁКАЕ-БЛІЗКАЕ

I

Пожні іржавы абшар
Азірае жняя.
Жыта жоўты пажар,
Жніўня шчодрага дар.
Як духмяны узвар —
Цуд-вада з ручая.
У жменях холад і жар
Студзяць вусны і твар.

Руды збан на мяжы.
Побач жухне вянок
Залатых каласоў
З сінім сном васількоў.
Жвавы бронзавы жук
На сцяблінцы дрыжыць.
Жніўны жывапіс зноў
Піша ў сэрцы любоў.

II

Чарада курганоў —
Старажытнасці знак —
Шляху вольнага ўздоўж
Вартай-рацццю глядзіць.
Раздарожжа вятроў —
Пылу горкага смак.
На сустрэчы шляхоў
Крыж каменны маўчыць.

На далоні ляжыць
Прасцячок-чарапок,
Скарб курганных глыбінь.
Стужка-хваля на ім
Шмат стагоддзяў бяжыць.
Цур, славянскі гаршчок,
У хвалях часу не згінь
З даўнім продкам маім.

Срэбнай грыўны авал
Важыць тысячу год.
На пялёстках вянцоў
Таямніца замоў.
Грыўнай лёс ахінаў
Шыю той, мо што род
Распачала з высноў.
Як пяе тая кроў!

III

Жоўты ліпы лісток
Лёг у ложак мяжы
І накрыўся сухменню-травою.
Вецер стаў на масток
І пачаў варажыць
Над сцюдзёнай крынічнай вадою.

Павуціння з рукі
Серабрысты аблок
На палі і лугі апусціўся.
У коле лёгкай тугі
Сэрца мовіць зарок:
Тут Купала калісь нарадзіўся.

## ЦІШЫНЯ

Серабрыцца ў рэчцы поўні кола.
У шчыліне пячной цвыркун маўчыць.
Ля пяшчотных руж не ўюцца пчолы.
Шэршань у ажыны не ляціць.

Не шапоча пышная шыпшына.
Птушка у застрэшшы не цвірчыць.
Не скрыгоча шынамі машына.
Шпаркі дождж у лісці не шуміць.

Не гудзе ў чаромсе чмель шурпаты.
У саломе мыш не шамаціць.



Вецер не шугае ў змрочных шатах,
І крумкач на вішні не крычыць.

Не пяе чаротам бераг Шчары.
Шчыры вір ля млына не кіпіць.
Над шырокім срэбраным абшарам
Цішыня. Ды маці ўсё ж не спіць...

■

Уцехай погляду уздоўж
Адхону гонкага чыгункі
Ліловым полымем ізноў
Мільгаюць лубіну рыштункі.

Чароўнай прыхамаццю сноў
Плывуць ліловыя узгоны.
Чаму расце ён ля шляхоў
Цывілізацыі палонным?

Чыя руплівая рука
Яго пакінула аздобай?
Мо грэх на долю наракаць:
Чыгункі подых даспадобы.

Палае колерам тугі
Самаахвярна-рамантычна.
Так чулы сябар дарагі
Сваё апошняе пазычыць.

Ах, мілы сябар-дабрадзей,
Дарогаю наканаваны,
Уцехай погляду квітней,
Люляй зялёныя паляны.





*Ніна Гарагляд*

## НЕПЕРСПЕКТЫЎНАЯ ВЁСКА

Няўжо сваё ты аджыла?
Нядаўна ж шумнаю слыла.
Збірала на вячоркі ў хаты,
На песню, жарт была багата.
А зараз дрэмлеш ля ракі,
Згубілі крылы ветракі.
У хатах — накрыж вокны.
Забыты кот ля ганка мокне...
Над сіратлівасцю гнязда,
Як дожджык, сыплецца жуда.

■

Любы мой, ты мне скажы,
Чым цябе прываражыць?
Песняю вясновай
Ці сукенкай новай?
Ножкамі белымі,
Вуснамі спелымі?
Дзе ўзяць тое зелле,
Каб наша вяселле
На Йвана Купалу
Усё сяло гуляла?

## НА ПІНШЧЫНЕ

Усё часцей сняцца мне паплавы
Ў рыжых купінах мокрай травы
І мурожных лугоў пазалота,
Сніцца лотаць мне, жоўтая лотаць.

Па вадзе дзеўчанём брыду.
Кветкі рву. У прыпол кладу.
Пільна бусел за мною сочыць...
Сніцца Піншчына кожнай ноччу.

## НА ГАРАДСКІМ ПРЫПЫНКУ

На прыпынку маленькім
Дзед як месяц сівенькі.
У дзеда венікі — па рублю.
Я куплю.

Пах радзімы, дзяцінства
У бярозак гаркавых
Люблю.

Толькі б
Даў ты мне, дзеду,
Цэлы гай мой вясковы
З ціхай песняю клёнаў
І бярозавым звонам.







*Таіса Трафімава*

## ПАМЯЦЬ

Жыццё, як ручаёк,
Бяжыць, цячэ.
Гляджу на фотакартку
На сцяне.
Ад успамінаў
У грудзях пячэ —
Не прыйдзеш,
Не адчыніш дзверы,
Не!
Ад успамінаў
У грудзях пячэ —
Цябе для ўнукаў
Я не зберагла.
А ўнукі просяць:
— Раскажы яшчэ,
Якая мама у цябе была?
А была яна нам
сонейкам:
Усіх саграсала нас
цёпленька.
А была яна нам
ластаўкай:
Шчабятала ўсім
так ласкава.
А была яна нам
крынічанькай:
Нас паіла
жывой вадзічанькай...
Чуеш, мама,
Цябе я гукаю.
Дзе ні стану —
Твой голас чакаю.
Толькі песні пяе свае вецер...
Без цябе
Так балюча
На свеце!

■

Я вольнай птушкай да цябе ляцела —
Той лёт мяне заўсёды маладзіў.
Падняцца я да зорак захацела,
А ты мяне у клетку пасадзіў.

Даўно сяджу я у няволі цеснай.
Зусім тут дыхаць немагчыма мне.
І не чуваць маіх шчаслівых песень.
Бо птушка вольная у клетцы не пяе.

На неба нават нельга паглядзець,
А над табою б я кружыла, пела.
Ды без палёту крылы занямелі —
Да зорак мне ужо не даляцець.

## СЦЯЖЫНКА

Даўно ўжо зарасла
сцяжынка тая,
А сон я гэты бачу зноў і зноў:
Матуля, як дзяўчынка, маладая
На досвітку бяжыць
даіць кароў...

Сцяжынка доўжыцца маёй касою.
Слядоў на ёй не выб'юць
навальніцы.
Яна паліта потам і расою,
І матчына сляза
на ёй іскрыцца.

Штосьці сонца даўно не ўсміхаецца —
Трэці дзень на дварышчы слота.
Плача дождж за акном, захліпаецца,
На душы без цябе — самота.

Да тваіх берагоў не даплыць...
Толькі мары дажджамі не змыць!
Прыйдзе час, сонца будзе ўсміхацца,
Мы сустрэнемся, каб — не расстацца.

*Ларыса Геніюш*

# СПОВЕДЗЬ

Піпэры былі выдатнымі людзьмі. Памагалі ня толькі нам, але і чэхам, калі я да іх зьвярталася з просьбамі. Толькі я нічым не магла адудзячыць за ўсё харошае, за тое, як і колькі разоў яны мяне ратавалі. Гэта былі лепшыя людзі, якіх я сустрэла ў жыцьці. Опа і Ома казалі мне нейк, што яны з Гановера родам і па паходжаньню хутчэй англічане.

Вось так павандраваў на ўсход Ермачэнка, а мы ўсё наглядалі жыцьцё і падзеі на ўсходзе. У мяне там ужо нікога не было, большасьць з нашага роду ўжо выгубілі, а мама з братамі і сёстрамі дамярзала ў Казахстане. Мясцовыя «дзеячы» збурылі наш дом і нечаму перавезьлі яго ў Гудзевічы. А дом гэты сьніўся мне начамі, раззвонены галасамі нашай сям'і.

Зямля мая, якая ўзгадавала душу маю, атуліла мяне з дзяцінства вялікай любоўю бацькоў, сялян і кожнага дрэўца, поля каласістага, сёньня чакала мае ўдзячнасьці, мае любові. Зьняволеныя сыны яе чакалі маёй спагады, майго слова. А любоў мая да Айчыны рвалася на старонкі амаль ня нашай газэты, на балонках якой нейкім цудам друкаваліся амаль усе трывогі маяго сэрца. Мяне палюбілі. Калі аднойчы назьбіралася многа вершаў і не было як іх выдаць, бо газэта выходзіла за нашыя сродкі і тыраж яе быў абмежаваны, дык рэдакцыя зьвярнулася да чытачоў, каб памаглі. Пасыпаліся грошы, пасыпаліся лісты ў рэдакцыю. Кажуць, гэта была такая любоў да нас, скромнай жменькі паэтаў за мяжою, што ўзварушвала патрыятызм найболей абыякавых. Наогул хвалілі мяне нашыя дзе ім толькі было можна. Не было газэты, каб не ўспомнілі так ці іначай маё імя. Здавалася мне, што я зноў у сям'і, якой любоў так жа адданая. На Бацькаўшчыну я не пасылала сваіх вершаў, але яны іх часта перадрукоўвалі з «Раніцы». Ермачэнка меў сілу, дзядзька Васіль мінуласьць, бо з немцамі ён нічога супольнага не хацеў мець, я ж мела папулярнасьць дзіўную нейкую, падпольную, чыста беларускую, незалежную ні ад кога і створаную болем маім, знаньем народу нашага і адчайным каханьнем да мае Айчыны.

Я старалася не закранаць ворагаў нашых нядаўніх. Ляжачага не б'юць — вучыў мяне тата. Мне іх было жаль, хоць многія з іх так і нічога не навучыліся і з гэтай бяды. Палякі на нашых землях як мага ўдавалі немцам нашых, яны апанавалі ўсімі гаўляйтэрамі праз сваіх спрытных жанчын. Жудасна было глядзець на такое. Яны проста забыліся, што вайна і свае харошыя, няшчасныя людзі гінуць, як мухі. Літоўцы і латышы, пасколькі мне ведама, таксама вельмі стараліся сабе «ачышчаць тэрыторыю на будучыню», гэта знача вынішчаць даволі-такі пасыўных беларусаў. Як цяжка было ўсё гэта стрываць.

Веліч майго каханьня, здавалася, утроіла мае сілы. Душа мая трапяталася ў маіх вершах, і ўсе да мяне прыслухаліся, нават чужыя. Палякі прыслалі з Варшавы чалавека,

---

Працяг. Пачатак у № 1—2.



які сказаў мне, што каб так трымаць, што яны купляюць «Раніцу» толькі для маіх вершаў, а пасьля прыслалі па мае кніжкі. Чэх. праф. Ціхі, ведамы славянафіл, напісаў мне, што зьнішчыць усё, што друкавалася эмігрантамі на працягу 25 гадоў, толькі мае вершы пакіне. Пераклады з іх ужо зрабіў... Што ж, праф. Ціхі быў слабы чалавек. Калі мяне выдавалі саветам, ён ахвотна кінуў у мяне каменем, каб пасьля выхаду ў сьвет «Невадам з Нёману» зноў мне выразіць сваё вялікае прызнаньне. Што ж, я не гневаюся, бо ніводзін народ так не здзекаваўся нада мною і над маёй сям'ёю, як беларускі... Ні адзін народ так не ўніжаў сваіх паэтаў, сваіх жанчын. Садыстычныя і вышуканыя мучэньні, якія адчуваю амаль штодзённа нават ад людзей, якія ўчора былі сябрамі... Кожны хацеў бы, каб я думала так, як ён, каб гэтак жа прадала сваю душу, сваю беларускасьць і тое найясьнейшае, што я выхавала ў душы са свайго дзяцінства. Тады я толькі думаю пра Маму і ў думках тулюся да яе рук, чую яе прарочыя словы аб тым, што за маю вялікую любоў цёмныя людзі дадуць мне яшчэ большыя мукі. Разумею колішні страх яе, і тады я плачу. Некалі, калі я бачыла свой уплыў на людзей, мне нецікава было выйсьці замуж за харошага чалавека, гэта проста. Мне цікава было выйсьці за злога чалавека і пасьля прабудзіць у ім усё тое вялікае, добрае, да чаго ўжо рознымі шляхамі прыйшлі людзі, і галоўнае — гэта любоў! Злыя людзі, мне здавалася, гэта тыя, якім ніхто яшчэ не пасьпеў давесьці, як соладка, як велічна, калі людзі адчуюць, што ты — іх непахісны сябра, іх брат. Як адыходзіць усё сьвятое ўбок, калі людзям паабяцаюць грошы, як танна яны прадаюць і сяброўства, і мову сваю, і сваю мінуласьць, і зямлю, і дзяцей сваіх, і самых сябе... Так думаю я сяньня, калі душу маю паранілі беларусы. Мне бачыцца дацэнт Воўк, які розна празывае мяне перад сотнямі беларускіх студэнтаў, Еўдакія Лось, як паліць у СБП маю кніжку, зэльвенскае начальства, якое пасылае розных шпіёнаў да нас, а мы іх кормім звычаем бацькоў нашых. Пасылае такіх, якія прабіраюцца ў хату бяз нас, трасуць драбніцы нашыя, мае словы. Настаўнікаў зэльвенскіх, якія займуць увесь аўтобус і не ўступяць мне месца, і я падаю, калі аўтобус трасе на выбоінах, і яны рагочуць... Маіх землякоў, якія, прадаўшы ўвесь мой род, ганьбяць без довадаў бацькоў маіх, паганяць імя маё толькі таму, што сяньня новыя паны яго паганяць... Ды ці апішаш усё, хоць бы пра ўсіх тых нізкіх тыпаў, якіх пасылаюць, каб мне гаварылі пра сваю любоў... Я ўжо не думаю, каго можна купіць, я горка думаю, каго ж нельга купіць з беларусаў? Я гляджу вокал, бачу найстрашнейшых суседзяў сваіх, якія падслухоўваюць кожнае нашае слова, падглядаюць кожны мой крок і даносяць ужо яўна, а да мяне прыходзяць пазычыць ім што ці памагчы. Мне ў вачах Кузняцоў, начальнік зэльвенскага выканкома, як вечар з вокан Музычнай школы, што насупраць нас, сочыць за намі, фатаграфуе нейкім апаратам праз фіранкі, калі мы, старыя, распранаемся нанач. Як ганяюць мужа з работы, як уніжаюць і яго і мяне, як нацкоўваюць на нас роднага сына і ён, вымучаны імі, споены і нацкаваны, глядзіць у нашыя вочы вачамі няшчаснымі і плача пасьля разам з намі... Я баюся чалавека ў хату, калі гэта савецкі чалавек, я баюся сваіх родзічаў, хоць іх у мяне тут пару далёкіх. Я баюся, калі нам нехта нясе падарунак, пасля такіх цукеркаў выратавалі мяне толькі кефір і лекі, а муж зжаўцеў, зьбялеў і ледзь выжыў з такога... Усё гэта распаўзаецца зьверху ў помсту за тое, што такога вось я чалавечнасьцю не назаву і з такімі мэтадамі, з такімі людзьмі мне не па дарозе...

Якія сьвятыя былі бацькі, якія прачыстыя былі нашыя Жлобаўцы, якія адныя, здаецца, маглі б залячыць сяньня гэтыя раны, але там страшна пуста, і толькі галасы замучаных стогнуць з вятрамі ноччу... За што, за што? Чаму так страшна азьвярэлі людзі? Няўжо навечна? Няўжо гэта той народ наш, за які так спакойна я йшла на мучэньні? Што яны будуць рабіць, калі «прачнецца Бог» і ўзварушыцца іхняе сумленьне? Як хочацца бачыць чалавека, які не даносіць, які не жадае зла, не падыходзіць да нас з бруднымі думкамі ўнізіць нас, ашукаць ці данесьці на нас. Калі на чалавека 10 гадоў гаварыць, што ён сабака, дык на адзінаццаты год ён будзе бегаць на чатырох і забрэша. Гэта да нас застасавалі такі мэтад, бо такіх сільных яшчэ не бачылі. «Бо нішто вас ня можа зламаць»,— сказаў мне адзін праўдзівы, хоць іхні, чалавек, які не адзін камень шпурнуў у наш бок, але пасьля адумаўся, убачыўшы кроў...

У культурных народаў ёсьць ахова жывёлаў, зьвяроў і напэўна ахова старых дзеячоў і паэтаў, аддаўшых жыцьцё сваё змаганьню і цярпеньню за свой народ. Няўжо такія глухія былі, калі вывозілі братоў іхніх у Сібір ці Казахстан? Няўжо так абыякава ці варожа глядзелі на тысячы яўрэяў, якіх, безабаронных, вялі жывымі ў супольную яму?

Няўжо не рэагавалі, калі вораг расстрэльваў і спальваў цэлыя вёскі? Людзі ж за маладосьці мае былі літасьцівыя, спагадлівыя ў нясчасьці. З чаго атупелі, што іх зьмяніла, навучыла думаць аб сабе, толькі аб тэлевізарах і мэблях, аб «каврах» і матацыклах, а гдзе ж сумленьне? Калісьці людзі шарахаліся ад тых, у каго чалавечая, нявінная кроў на руках, у каго на сумленьні людскія слёзы, а сяньня — гэта «героі», настаўнікі для моладзі, узор для грамадства... Як акрэсьліць цяпер паняцьце — чалавек? Што рабілі б такія, каб іх усадзіў у адну яму, як ёсьць у Васіля Быкава? Як яны б захоўваліся б да сябе ўзаемна ў абліччы небясьпекі? — баюся думаць. Можа, і за акіянам бываюць такія бяздушныя, глухія на мучэньні людзі, але там ёсьць, напэўна ёсьць і сапраўдныя хрысьціяне і місіянеры, і арганізацыі абароны правоў чалавека, і людзі да іх прыслухоўваюцца. А тут адзіны інтэрас да грамадзян: працуй і яшчэ раз працуй і ні аб чым не пытайся, а калі загадаюць табе, дык йдзі на сьмерць, барані свае путы... Жудасна.

Адбілася я моцна ад тэмы. Казалі ў Празе, што я шчасьлівы чалавек, бо ў мяне ўсяго адзін вораг — Ермачэнка. Так, ён пра нас не забыўся. Перадусім, ад'язджаючы ў Менск, ён пакінуў нам з Бакачом Камітэт. Сьмешна было, увесь архіў Камітэту: пратакол залажэньня арганіз., нашыя анкеты, пратаколы сходаў — усё згінула. Проста згінула, і не пытайцеся! Гэты архіў толькі паказаў мне Коган на сьледстве ў Менску! У Львове, калі мы чакалі разам, я ўгаварыла майго мужа, каб ён нічога не ўспамінаў пра Пражскі Камітэт, няхай ужо я за гэта адказваю, а іначай у яго застаецца толькі тое, што па мабілізацыі яго паслалі на ўсход, а на гэта ёсьць усюды і доказы і паперы. Бедны мой муж маўчаў, як сьцяна! Яго далі ў нейкую буду ў той клятай Амэрыканцы менскай, гдзе можна было толькі стаяць, ды і то ў вадзе. Вось ён тыдзень так стаяў, у вадзе, без ежы. Кажа цяпер, што пяяў песьні... Стаяў, ажно спух, ногі, як бярвеньні... Вось тады і кажа мне Коган: «А чаму ваш муж не прызнаецца да Пражскага Камітэту?» Ах, кажу, падумаўшы найгоршае: «Гэта я яго так навучыла, бо ў мяне віны тут ніякай, а ў яго дык зусім няма». А на сьцяне кроў распырсканая, я так і замерла... «А вы яму паказвалі архіў?» — пытаюся. «Нет, я его показывал только вам...» «Ну, дык пакажэце яго і яму...» Вось тады толькі нехрыст выпусьціў Яначку. Я мацнейшая і фізічна і духова, дык увесь час старалася нейк яго загарадзіць, я і хлеб яму аддавала, і ўсё, што было лепшае, і так вось яму, ня хочучы, «дагадзіла»...

Дык вось, Ермачэнка падае немцам сьпісак, каму яшчэ ехаць на Беларусь, уключае толькі лекараў, бо, мусіць, другіх асоб было нельга. Колькасьць даволі вялікая, але сярод і маё імя! Вось тут і пачаўся перапалох! Усё лёталі, шукалі дапамогі, не шкадавалі грошай, а ў нас ні грошай, ні грамадзянства нават, ніякае дапамогі! Вось тады мы і пастанавілі схадзіць да Піпэраў. Што ж, нас прынялі вельмі ветліва, але Піпэр немец і адказны за гэта, бо ён як міністар аховы здароўя. Але бачу, што вельмі яму хочацца нам памагчы. Перадусім ён адразу сказаў: «Вас, фраў Геніюш, я абараню, бо вы ня лекар і няма вам чаго там рабіць, гэта тут нешта нячэснае, а вось дваіх абараніць — гэта я ніяк не магу. Пакуль, доктар, едзьце, а там будзем бачыць».

Цяжка было мужу пакідаць нас і Прагу, цяжка было Градзілу з ім расставацца, і не было ніякага ратунку... Муж цягнуў час, хоць на дзянёк яшчэ, каб пабыць удома, аж прыйшоў гэстапавец і ветліва папытаўся, чаму муж байкатуе «Бэфэль»? Злажылі мы тое, што лічылі яму неабходным, і раніцай я яго правяла на цягнік. Плакала, дык да непрызваітасьці душа вырывалася з гора... А ўдома вісела ягонае паліто, ляжалі яго кніжкі, рэчы, а ён не прыходзіў, і я ведала, што не прыйдзе, і зноў я залівалася сьлязьмі... Пасьля ўсё яго пахавала, ведала, што трэба глядзець Юрку, і так зьмірылася. Перад ад'ездам яшчэ я папрасіла мужа, каб ветліва папрасіў М. Забэйду і іншых, каб не надакучалі мне ў гэты час, што муж і зрабіў. Юра вучыўся, я перастала добра пісаць — асабісты боль заглушыў на час вялікае, патрыятычнае. Цяпер я чакала лістоў ад мужа, вестак з Беларусі. Яшчэ калі Ермачэнка прыязджаў са сваім шаферам і клікаў усіх да сябе ў Менск, дык гаварыў, што там нам дадуць нямецкія карткі на ежу. Пытаюся: «А што там нашыя людзі ядуць, народ наш, інтэлігенцыя?» «А, ім даюць там нешта...» «Ага,— кажу,— дык як жа можна есьці тое, што вораг, калі народ галадае, я дык ела б толькі тое, што нашыя людзі». «Ну, паглядзелі б мы там»,— кажа ён як заўсёды з усьмехам, ад якога мне халадно... Мы з Яначкам дамовіліся, што ён будзе толькі лекарам і болей ніякіх функцыяў, як і напісана ў той паперы. Так і працаваў ён на клініцы ў Баранавічах. А мы засталіся ў Празе.

Дзядзька Васіль захварэў на лёгкія. Пад сакрэтам сказала мне пані Крэчэўская,





Ларыса Антонаўна.

што ягоны нейкі вельмі падазроны кватарант парнуў яго ў бок нажом... З якой прычыны — магу толькі дадумацца сяньня, калі болей ведаю «мэтады». Дзядзька адмовіўся ад варункаў, якія яму давалі немцы, і яму і Беларусі, і дрыжучы даставаў дапамогу ад Чырвонага Крыжа і чакаў нядобрага. Ратавала яго, як і доктара Градзіла, радыё. Дзядзька быў дэмакрат, і апэратыўнае мудрае Би-би-си толькі яго і трымала на духу. Ён вельмі баяўся, каб якія самазваныя фюрэры не паявіліся ў нас і не павялі дрэнна палітыкі. Ён пазнаў немцаў і сказаў мне так: «Няма ў нас выбару «альбо-альбо». Калі выйграюць немцы, дык вынішчаць усіх нас, калі выйграюць Саветы, дык вынішчаць інтэлігенцыю і асымілююць народ, але гэта лепей, чымсьці сьмерць усяго народу... Трэцяга выхаду няма».

А ў Празе тым часам выходзіла мая кніжка «Ад родных ніў». Чэхі стараліся выдаваць як мага сваю класіку, і мая гордая, чыстая, не халуйская ў гэты час жудасны кніжка была ім вельмі даспадобы! Казаў мне гэта чэскі цэнзар, нейкі ўкраінец Лявіцкі. Кнігу ўкладаў доктар Тумаш, мой завочны сябра і цудоўны крытык і вельмі строгі патрабавальнік мае паэзіі. Ён першы аказаўся на мой голас, ён і вёў мяне, як малую, вучачы, хвалячы і караючы, да большай паэтычнасьці, лепшай формы верша, каб не агітацыя, а паэзія, розум. Але аднойчы ён мне напісаў, што пасадзіў кітаец рыж і глядзеў яго, паліваў, а кальвачко расло, і прабіла страху кітайцавай хаты, і расло да неба, і «бедны кулі» ўжо не мог дасягнуць да яго. Я з гэтага ўсьцешылася крыху, але мне самой яшчэ мая паэзія не падабалася, і я ўсё хацела нечага большага, каб навечна зрабіць душы маіх суродзічаў беларускімі, вытрывалымі, моцнымі на ўсе нягоды беларускага жыцьця, а іх можна было чакаць.

Да нас часта прыходзіў Бакач. Гэта быў сакратар Б. Тарашкевіча, які адседзеў 4 гады ў гродзенскай турме за «Грамаду» і ўцёк у Чэхаславаччыну. Тут ён вучыўся ва унівэрсітэце і працаваў, як некалі Янічка, гдзе толькі мог. У час нашага знаёмства ён быў нечым накшталт служанкі ў аднаго белагвардзейскага генерала. І тут набоб Ермачэнка нічога не памог чалавеку... Бакач, родам недзе ля Ізабэліна, быў добры беларус, харошы, скромны чалавек, вельмі бледны, вымучаны турмою, напэўна, і нездаровы. Ён нейк быў на пабягушках у пражскіх дзеячоў, іх нязьменны сакратар. Жыў ён у харошых чэхаў, і ягоная гаспадыня кахала яго, як толькі можа кахаць чалавека чыстае, самае адданае жаночае сэрца. З ім мы мелі не адзін клопат, як, напрыклад, ладжаньне забэйдаўскіх канцэртаў у Празе — і каб зала найлепшая, і каб гледачоў многа, і каб рэклама, і газеты, і грошы, і «лаўры». Набегаліся мы нямала, і цудоўны голас маэстра меней дзейнічаў на нас, як той страх, каб хоць добра падарыўся сам канцэрт. Бо першы канцэрт, які даваў Забэйда-Суміцкі ў слаўнай чэскай «Смэтановай сіні», быў дэфіцытны настолькі, што мы нічога не маглі даць сьпеваку, акрамя рэкламы і славы, бо ў Празе яшчэ яго ня ведалі. Ён нам гэтага доўга ня мог даравацъ. З Пётрам жылі мы па-братэрску, былі з сабою шчырыя, і я заўсёды за яго заступалася, а ці ён за мяне, дык я сумняваюся... Настолькі чэсным гэты чалавек ня быў.

Жук, які ў нас бываў таксама, быў ведамы як камуніст, чаго ён не скрываў перад намі. Ён хацеў выжыць, дачакацца камунізму. А нам што? Мы былі дэмакраты, якія шанавалі перакананьні чужыя і таксама жадалі, каб шанавалі і нашыя. Калі ён быў галодны, дык крыху яго падкормлівалі, калі немцы яго арыштавалі, дык ратавалі яго. Затое ён, калі мяне выкрадалі з Прагі, вадзіў кэгэбістаў па чэскіх кватэрах, каб знайсьці і выдаць мяне. Яму гэта не ўдалося, каб забралі нас тады, у 45 г., мы ўжо не жылі б напэўна... Пасьля прыйшоў да нас, мы былі да сьмерці напалоханыя, але я яму паказала дзьверы. Хто здрадзіў сяброўства, дык няма такому месца ў скромнай хаце, гдзе мы жывём. Кажуць, што ўдзячнасцю мерыцца культура людзей, і ў гэтым ёсьць праўда.

З Парыжа пераехаў у Бэрлін Мікола Абрамчык і вельмі падняў узровень беларускай работы ў Нямеччыне. Арганізаваў сваіх, бараніў ад нямецкіх напасьцяў, дапамагаў што мог. Было відно, што думае аб сваіх. Людзі, якія ведалі яго, выказваліся пра яго з энтузіязмам. Нейк ён прыехаў і ў Прагу да Русака, і як звычайна яны зайшлі да мяне. Мікола быў сярэдняга росту, чарнявы, меў вельмі інтэлігентны твар, што пацьвердзілася ў гутарцы з ім. Гэты чалавек, здавалася, ня меў слабасьцяў і ведаў, чаго ён хоча. Аб беларускіх справах і людзях ён спакойна гаварыць ня мог, ён жыў гэтым. Гэта быў чалавек чыну, мяне ён цаніў. Гэта пачуццё ўмацавалася, калі мы пазнаёміліся. Мы доўга і шчыра гутарылі, калі ён прыйшоў да мяне назаўтра. Мне падабаўся дыяпазон яго інтарэсаў і тое, што ён ужо прадбачыў вынік вайны (гэта было ў 42 г.) і ўжо думаў пра нашую масу завезеных на работы ці палонных з польскай арміі. Ён прыехаў наконт мае кніжкі, якая мелася друкавацца. Я ня ведала, як гэта ўсё робіцца, бо кніжку фінансаваў Камітэт. Мы напісалі дагавор, што мне належыць 50 % ад чыстага зыску за кніжку і 50 аўтарскіх экз. Я слухала яго і падпісала дагавор. Пасьля аказалася, што аўтару ў Заходняй Эўропе належыць толькі 15 % чыстага даходу ад кнігі! Мікола, калі я не хацела браць за кніжку грошай, бо за свае вершы я іх ніколі не брала, сказаў мне: «А вось мы гэта і прадбачылі, немагчымая ты асоба, і таму цябе «апуталі» дагаварам». Я ўсё роўна ўсяго не ўзяла, бо лічыла, што мы ўсе павінныя працаваць для народу без нагароды. У мяне быў муж і ў мяне быў хлеб, і гэтага нам хапала. Мець магчымасьць працаваць для культуры свайго народу, гэта велічна ўжо само па сабе, а ўздымаць яго адраджэньне — гэта як маліцца Найвышэйшаму, які дае нам мудрасьць і сілы, каб узьняць свой народ. Нядобрая маці адзінага сына, якая не змагла выгадаваць яго, не магла яго забясьпечыць, і ён стаўся ахвяраю вогненнага патрыятызму бацькоў. Але ён не быў галодны, і людзі не заўсёды накармілі яго, але заўсёды пакрыўдзілі. Не, людзі, якія йдуць за народ свой змагацца, не маюць права мець сем'яў, рабіць няшчаснымі сваіх дзяцей...

А бедны дзядзька Васіль ляжаў у туб. шпіталі за Прагаю. Выбраліся мы да яго ўсе разам. Быў рад, Мікола меў яму што сказаць. Я пацешыла яго, што вясной ён будзе мне дыктаваць, і я ўсё запішу... Дзядзька сумна паглядзеў на мяне і сказаў, што вясною ён будзе спаць пад кусьцікам, і я да яго прыйду. Йшлі дамоў пехатою, кожны задуманы.

З чэскім выдавецтвам мы дагаварыліся выдаць беларускія паштоўкі. Гэта зрабіць вайною было цяжка, але зноў, як цуд, чэхі не ўмелі мне ў нечым адказаць, так і ўбачылі свет 12 харошых відокаў нашай прыроды. Мы ўсе славяне моўчкі сябе падтрымоўвалі, затое ніколі не падтрымоўвалі выданьняў з пранямецкім зьместам. Але такога ў нас, беларусаў, не было. Народ мы ня вельмі знаны, і таму ніхто асабліва да нас не прыглядаўся. Прыгледзеліся толькі тады, калі выйшла мая кніжка. Вось гэта не падабалася. У Прагу прыехаў Ермачэнка, выклікаў мяне і загадаў зьбірацца ў дарогу, у Менск! Яго госьці, працаўнікі гэстапа, папыталіся ў мяне, з кім я працую, што выйшла мая кніжка, гдзе нічога няма пра Гітлера, пра Герынга і пра новую Эўропу. Я сказала (даслоўна!), што мой талент замалы на тое, каб пісаць пра так высока пастаўленыя асобы. Што я ні з кім не працую. Тады мне сказалі: «Хто не з намі, той супраць нас». Ермачэнка аднёсся да мяне вельмі груба і сказаў мне, што выбару мне няма — толькі Асьвенцім ці Менск, каб выбірала. Калі я запыталася, што я там буду рабіць, мне сказалі, што «Пропаганда махэн» (рабіць прапаганду). Я кажу ім, што гэта нельга, бо я толькі хатняя гаспадыня і ніякай прапаганды рабіць не ўмею. «А нам патрэбна толькі ваша імя»,— адказаў мне на гэта немец.

Што ж было мне рабіць? Лісты ад мужа йшлі доўга, праходзілі праз строгую цэнзуру. Яшчэ восеньню я ледзь вывернулася з чарговай пасткі. Муж мне прыслаў выклік, каб з сынам прыехала да яго ў госьці. Я заўважыла, што ў гэтым былі вельмі зацікаўленыя Ермачэнка і яго жонка. Ермачэнка ня вельмі добра выказаўся аб мужу: не падабалася яму, што муж, паводле ягоных слоў, замнога гаворыць, непатрэбнае піша дамоў. Што ён такога пісаў, я ўжо ня памятаю. Абое Ермачэнкі ў адзін голас гаварылі мне аб нявернасьці маяго мужа і каб я да яго неадкладна ехала, каб захаваць сям'ю. Яны мне казалі, што муж завёў сабе проста гарэм! Я ведала, што на такое можна было ўзяць любую абмежаваную бабку, зайздрасьць асьляпляе. Пра гарэм, але ў адносінах да самога Ермачэнкі, прабіліся ўжо весткі праз Варшаву ў Прагу, дык чаму ж сама Ермачэнчыха не зьбіралася ў дарогу, а, розна палохаючы, выпраўляла мяне? Аднойчы, калі ён прыехаў, дык прывёз мне ад Янкі ліста, у якім той прасіў чайнік, лекаў і др. драбніцы. Аддаючы мне ліста, Іван Абрамавіч папрасіў, каб я напісала верш у яго гонар. Кажу, што магу яму напісаць толькі памфлет. «Дарма, дарма, Л. А., а вашае фота стаіць у мяне на століку». Я яму сваёй фатаграфіі не давала. Мне казалі прынесьці рэчы мужу вечарам. Было там некалькі асоб і як на ваенны час багатая вячэра, калі я прыйшла. Што ж, запрасілі і мяне. Я выпіла крыху віна, з'ела кавалачак кураняці з каляф-ёрам. Памятаю гэта таму, што вячэру гэтую я ледзь не заплаціла жыцьцём. Гутарка была дзіўнай. Усе яны моцна пачалі выступаць супраць непрысутнага Бакача. Выразна нічога не гаварылі, але можна было думаць, што яму нешта грозіць. Я выказала сваё зьдзіўленьне і папрасіла пры мне гэтага чалавека не ганьбіць... Было позна, калі мы

выйшлі ад іх. Адзін чалавек, якога не хачу называць, ахвяраваўся мяне праводзіць дамоў. Я з абурэньнем адкінула гэта і, са злосьці забыўшыся пра страх, бегла праз Прагу дамоў, бо трамваі ўжо не хадзілі. Сяброў у мяне не было, гэта я пазнавала з вялікім сумам. А дзядзька Васіль з паняй Крэчэўскай жылі за Прагаю. І вось я атрымоўваю ліст ад мужа, каб да яго прыехаць. Мне гэта не падабалася, але я пачала зьбірацца. Рабіць гэта трэба было праз гэстапа, куды я занесла патрэбныя дадзеныя. Паперы гэтыя і розныя даведкі я мусяла некалькі разоў дапаўняць. Нарэшце, пасля некалькіх тыдняў, а мо і болей, мне сказалі прыйсьці па пашпарт. Мы пайшлі разам з Юрачкам, з сынам мне было бясьпечней. У пакой, гдзе сядзела ля стала поўна людзей, Юрачку не пусьцілі. Настрой быў вельмі напружаны, на мяне пільна ўглядаліся з усіх бакоў. Нарэшце сказалі мне, што даюць мне дазвол на паездку ў Слонім, куды ўжо перавялі мужа з клінікі на абласнога лекара, але толькі ў адзін бок. Я сьмела сказала, што такое не прыйдзе ва ўвагу, на такіх варунках я не паеду. Мне груба сказалі, што чаму ж я ім дурыла галаву і што я там на месцы дастану дазвол, каб ехаць назад. За дзвярыма чакала на мяне маё дзіця, і дух мне заняло, калі я ўсьведаміла сабе, куды я яго, абаронцу маяго маленькага, з сабою ўзяла. Назаўтра я дала тэлеграму бацькам мужа ў Зэльве: што мне рабіць? Яны тэлефанавалі Яначку і тэлеграфавалі мне, каб на такіх варунках нікуды ня ехала. Я лічыла, што мне пашыхавала, што гэта была пастка. Божа мой, што б было? Як мы пасьля ўдакладнілі, дык у час, калі мы з Юрам меліся прыехаць у Слонім, там была жудасная аблава, гдзе не пыталіся, хто адкуль, а толькі забівалі каго папала. Тады загінула жонка Гальяша Леўчыка. Дык пасьля тае вячэры ў Ермачэнкі мяне схапілі жудасныя ваніты, жаўцізна і слабасьць. Мяне ледзь выратавалі, паласкалі страўнік, некалькі дзён я не ўставала з ложка, а цяпер зноў такое... Быць пэтам знача ня толькі любоў зьняволеных землякоў, але і помста сільных ворагаў нашай зямлі і свабоды. Нечаму мне прыпомніўся допыт Когана многа пазьней у Менску і дакор, чаму я не прыехала за акупацыі ў Менск, што я шмат дапамагла б партызанам. Нічога я ім не памагла б, паэты не забываюць крывавага...

Вельмі спагадліва аднесьліся да мяне Піпэры. Яны былі супраць якога-кольвек маяго выезду з Прагі. І вось зноў мяне змушаюць выехаць, і што ім трэба? У Ермачэнкі былі вялікія багатыя апартамэнты ў сярэдзіне Прагі. Сам ён не працаваў, яго кабінет вёў нейкі расеец, а ля дзьвярэй стаяў такі дзержыморда, што, калі ён не адчыніць дзьвярэй, то нельга было выбрацца на вонак. Гэта ўсім было вельмі загадкавае. Ермачэнка назначыў дзень і гадзіну мае гатовасьці з ім ехаць. Я дала тэлеграму Абрамчыку, каб ратаваў мяне, і зноў пайшла з просьбаю да Піпэраў, якія вельмі праняліся маім лёсам. Што рабіў у гэтай справе Піпэр, я ня ведаю, але ён мне сказаў, каб я перад тым, як йсці да Ермачэнкі, пайшла на гэстапа і папыталася, чаму, калі мне забралі мужа, грозяць мяне пасадзіць у Асьвенцім. Каб болей нічога не казала. Я так і зрабіла. Мне сказалі, што мяне не пашлюць у Асьвенцім і што, калі я не хачу, дык ніхто мяне ня мусіць сілаю вязьці і ў Менск... А я, як цыбуля, надзела на сябе тры пары бялізны, дзіця аддала знаёмым украінцам і гатовая была ўжо йсці на цярпеньне. Мне ня верылася, што мяне проста пусьцілі. Але да Ермачэнкі я пайшла! Заходжу, дзержыморда мяне ўпусьціў. Заўсёды падкрэслена ветлівы Ермачэнка зьвярнуўся да мяне, як да нейкае рабыні, нават не запрасіў ні далей прайсьці, ні сесьці. Папытаўся толькі, ці паеду з дзецям? Тады я яму і пасыпала, што ведала. Ён павалок мяна за руку ў пакой, яго твар перамяніўся зусім. «Чаго чалавек не зробіць дзеля бацькаўшчыны, гэта таму я вас клікаў. Я ўпаду перад вамі на калені і буду прасіць, каб вы ехалі ў Менск, я зраблю Янку міністрам аховы здароўя, толькі едзьце ў Менск». «Вы не чалавек, вы ж хамэлеон, вы ж здраднік! Зьгінеце вы разам са сваімі немцамі, якія ўжо трашчаць!» А ён не сунімаецца: «Калі немцы прайграюць, я вас завязу ў Швэцыю, я забясьпечу вас, толькі едзем!» Ну і ну! Ну і каша, ну і дрэнь чалавек. Ах, як цяжка, як небясьпечна пісаць для Айчыны, што будзе далей? А далей доктар Піпэр хацеў пісаць на яго, што непакоіць сем'і людзей, якія пасланыя на працу на Усход. Я прасіла яго, каб гэтага не рабіў. Я ніколі не мсьцілася, а дарма. Я дорага за гэта заплаціла, яшчэ горай было з мужам і Юрачкам. Я толькі малілася богу, каб Ён ратаваў нас бедных у вадавароце гэтай вайны. Вялікай, амаль адзінай падтрымкай маёю быў мой маленькі, сьмелы, вельмі харошы сынок.

А тым часам у Богніцах за Прагаю ў санаторыі для цяжка хворых тубэркулёзам дажываў свой век Васіль Іванавіч Захарка, міністар фінансаў і намесьнік Старшыні Рады БНР. Толькі я ад яго вярнулася, як за пару дзён атрымала ад яго паштовую картку, запырсканую крывёю. Прасіў мяне: «Донечка, хутчэй прыязджай» і г. д. Прыехала якраз і п. Крэчэўская, якая сказала мне, што дзядзька вельмі аслаб, у яго горлам ліналася кроў, і ён неадкладна хоча мяне бачыць. Дзядзька даўно ўжо прасіў мяне, каб я часьцей да яго наведвалася, ён баяўся іншых людзей, нікога не хацеў бачыць. Дзядзька быў накрыты сваёю коўдраю, белая наўлечка якое была ўся ў крыві. Ён сказаў мне, што прыходзіць канец яго жыцьця, што ён быў адным з тварцоў акту Дваццаць Пятага Сакавіка 1918, пасьля сьмерці А. Крэчэўскага з'яўляецца Старшынёю БНР і як выбраны народам сябра Ураду, адыходзячы, хоча перадаць свае паўнамоцтвы дастойнаму чалавеку. Што рабіць? Няма адпаведнага чалавека, ёсць толькі такая жанчына, а жанчына ня можа быць Прэзыдэнтам. Што ж, гэта быў 1943 год... Не, кажу, так рабіць нельга! Нельга браць у магілу ідэі незалежнасьці нашага народу! «Нікому ня веру, донечка. Ёсьць многа людзей, але ў кожнага на некага ар'ентацыя, а тут трэба быць верным толькі народу. На гэтае становішча я мог бы паставіць толькі цябе, каб ты не была жанчынай». Тады я запрапанавала Абрамчыка. Я доўга даказвала дзядзькаві ўсю паважнасьць, прадбачлівасьць і любоў да Беларусі гэтага чалавека. Я толькі не сказала, што Мікола крыху замяккі, крыху задобры, каб стаць на такое змаганьне. Мікола ведаў мовы, вельмі добра ар'ентаваўся ў палітыцы, ненавідзеў немцаў, умеў выкарыстаць любую нагоду, каб толькі нешта вартаснае зрабіць для Беларусі. Дзядзька папрасіў падаць яму папер. Я папраўіла яму падушку, ён сеў і пачаў пісаць тэстамэнт, які прасіў у мяне перапісаць у трох экзэмплярах на машынцы і назаўтра яму прынесьці. Пані Косач-Шыманоўска, сястра Лэсі Украінкі, хораша перапісала мне гэты тэстамэнт, і назаўтра дзядзька Васіль падпісаў іх, яшчэ папраўіўшы дробныя памылкі. У тэстамэнце Мікола Абрамчык назначаўся Прэзыдэнтам Беларускай Народнай Рэспублікі, Ларыса Геніюш — Генеральным Сакратаром БНР. На нас абоіх пераходзіў архіў БНР, які быў у кватэры дзядзькі Васіля. Я неадкладна дала тэлеграму Міколу, каб прыехаў у Прагу. Яго не пускалі. Не пусьцілі і яшчэ на адну тэлеграму. Дзядзьку было ведама, што мед. пэрсанал падкуплены і яны некаму мусялі адразу паведамляць аб дзядзькавай сьмерці. Дзядзька жыў, дажываў свой век у вечным страху перад гэстапам, ён вельмі баяўся лагера сьмерці. Нават даючы нам з Міколам тэстамэнт, ён прасіў нас нічога не прадпрымаць за яго жыцьця. Ён баяўся, каб мы, маючы такія паўнамоцтвы, не паднялі на Беларусі нацыянальнае партызанкі. Мы такі спярша аб гэтым падумалі, але ўрэшце дайшлі да вываду, што гэта было б толькі фізычнае нішчаньне нашых людзей. На жэсты мы шкадавалі крыві беларускай. Палітычнае становішча зарысоўвалася так, што трэба было добра аглядацца, гдзе, куды і як ступіць, каб толькі не пашкодзіць справе. А цяпер нам было трэба ратаваць, вывозіць з Прагі беларускі дзяржаўны архіў, каб яго не захапілі немцы. Акту прагалошаньня незалежнасьці, на жаль, ужо ў архіве не было. Былі дагавары з літоўцамі, з Галіцкай Украінскай рэспублікай і інш., папкі з архівамі міністэрстваў БНР і іншымі важнымі дакументамі.

Я была радая хоць тым, што Мікола мог яшчэ ўбачыць Дзядзьку і з яго ўласных рук атрымаць гэты дакумент. Першы экзэмпляр далі мне, другі Міколу, а трэці пакінуў сабе дзядзька Васіль. Ніхто пра гэта нічога ня ведаў, усё рабілася тайна. У Менску ўжо існавала Цэнтральная Рада, а гэта быў як другі ўрад, як апазіцыя. Не па нутру гэта было і немцам, якім дэмакратычнае БНР не магло і не хацела падпарадкоўвацца. Яны давалі дзядзьку Васілю вялікія грошы, каб ён выступіў ад імя БНР. Дзядзька адказаў ім, што «гэта завялікія для мяне грошы, але замалыя для маяго народу». І так жыў ён на вельмі скупыя сродкі ад Чэскага Чырвонага Крыжа. Ён умеў сабе ва ўсім адказаць. Пастушок з дзяцінства, з нішчаты, перанёсшы ў раннім дзяцінстве туберкулёз, дабіўся саматугам сякога-такога становішча, аб якім ня думаўшы кінуўся ў вір барацьбы і змаганьня за волю сваяго народу, ён чэсным і верным застаўся да канца. Найболей было гэта страшным для Сталіна, які ўжо паказаў у 37 годзе, ды і раней, што намерваецца зрабіць з Беларусьсю. Нездарма мне сказалі на сьледстве, што іх паляваньне на мяне пачалося якраз з 43 года. Я гэта адчувала, ведала, чаму мяне хочуць дастаць у Менск, і вельмі, вельмі баялася Ермачэнкі. Каб ён быў з аднымі немцамі, ён даўно выдаў бы Вольфсанаў, думалася мне, але я ведала, што ён вораг Чэхаў і наогул вораг дэмакратыі. Ён вельмі разлічваў на дзядзькаў тэстамэнт, але дзядзька цяпер яго не баяўся, дзядзька паміраў. Васіль Русак разлічваў на гэта таксама, але дзядзька не давяраў і яму. Не падабаўся яму і Кастусь Езавітаў, сябра ўраду БНР, які жыў у Рызе, ён пачаў хіліцца да немцаў, хоць гэта было ня шчыра, а вонкава. Дзядзька ня мог сьцерпець і гэтага. Ён казаў мне: «Езавітаў, як генеральская кабыла, заўсёды



5*

хоча быць першым», а тут трэба было ўмець і быць апошнім. Прыйдзе час, і будзем першымі ня мы, дык патомкі нашыя, на вольнай зямлі нашых продкаў! Час гэты прыйдзе!!! Найболей я баялася ўдару з боку Ермачэнкі, гэта была хітрая штука, ды ў яго руках быў мой муж... Я малілася Богу, каб даў мне сілы быць моцным чалавекам у самых найгоршых варунках жыцьця.

Спакавалі мы з Міколам пару чамаданаў нашага дзяржаўнага архіву, і ён павёз гэта ўсё да сябе з думкай усё гэта пераправіць у Францыю. Я і да сяньня ня ведаю, як яму і ці яму гэта ўдалося. Гэты архіў вельмі хацеў вырваць мне з душы Цанава, паставіўшы шмат пазьней мяне перад абліччам сьмерці. Што ж: «Без волі Божай волас мне з галавы не ўпадзе, і я вас не баюся!» — ледзь стоячы на нагах з голаду, хваробы, допытаў і трываўшай ужо год турмы, дастойна і спакойна гаварыла я. А лютасьць маіх праследаваццеляў і сьмерць нагла заглядала мне ў вочы. А пакуль што ў ноч адыходзіў з чамаданамі Мікола Абрамчык, з трывогай аб лёсе хворага дзядзькі Васіля, нашага архіву, нашага народу.

А дзядзька згасаў з кожным днём. 13 сакавіка 43 г., у нядзелю, я наведала яго. Заўважыла, што яго перавялі да цяжэйшых хворых. Ляжаў ён жоўты, слабы. Хацеў, каб падалі яму судна. Я папрасіла, каб не ўстыдаўся мяне, ён ужо мала на што рэагаваў. Прасіў толькі, каб я так хуценька не хадзіла, каб крыху прысела ля яго. Аддаў мне свой экзэмпляр тэстамэнту і папрасіў, каб гадзіньнік яго я пакінула сабе. Я яму абяцала гэта. Мы разьвіталіся.

Калі назаўтра я пайшла ў бальніцу, дзядзька Васіль ужо памёр. Мне апалі рукі, каля мяне дзеяліся незразумелыя рэчы. Я атрымала загадкавага ліста ад нейкае Энгельгарт, якая загадала мне прыйсьці ўвечары на вуліцу Філіпа дэ Монтэ, грозячы, калі не прыйду (была гэта, як пасля высьветлілася, афэрыстка). Падыходзілі да мяне нейкія людзі на вуліцы, усё было несамавіта. Мне трэба было вытрымаць усё і толькі як сьлед пахаваць дзядзьку. Назаўтра я ўсё што магла аформіла ў пахавальным урадзе. Чэхі з вынятковай ласкавасьці далі Дзядзьку мэталёвую труну, чаго вайною нікому не рабілі. Мне думалася, што некалі мы пазьбіраем усіх сваіх жывых і мёртвых і прывязем у свой беларускі дом, які будзе народным, бацькавым, любым домам для нас. Некалі, некалі... А тым часам то я раўла, то йзноў гатавалася да пахаваньня. Быў бы хоць Янычка, а то сама, як палец.

Назаўтра прыехаў Мікола Абрамчык і Стась Грынкевіч з Бэрліна, прыйшла пані Крэчэўская, і мне стала лягчэй. Стася я ведала з лістоў. Пісаў ён мне з нямецкага лагера ваеннапалонных з польскай арміі, гдзе быў разам з мужавым сваяком, якому мы пісалі, пасылалі кніжкі, часам пасылку. Быў гэта добры беларус, афіцэр польскай арміі, недаканчаны лекар. Яго патрыятызм, інтэлігенцыя і выхаваньне ды нейкая чэснасьць беларуская прытым мне падабаліся. Вызначылі час пахаваньня. На Альшанскія могілкі ў праваслаўную капліцу перавезьлі цела памёршага. Хоць дадаткова было заплачана за агаленьне нябожчыка, на жаль, і тут мяне ашукалі. Людзей на пахаваньне сабралася вельмі многа, было шмат вянкоў. Я трымалася вельмі добра. Юрачку вяла п. Ядзя, адна мая знаёмая. Ён, здавалася, разумеў усю важнасьць гэтай хвіліны, быў спакойны, задуманы. Хараша адпраўляў набажэнства айцец Ісакій, расеец, вельмі харошы чалавек і Сьвятар. Калі ён пачаў гаварыць апошняе слова па Дзядзьку, ды такое — аб долі Беларусі, аб долі памёршага, як бы сам быў з нашага народу. Вось тады я не вытрымала, абмякла, падкасіліся ногі. Мяне вывелі. Бог няхай будзе літасьцівы і вечна міласэрны да таго харошага Сьвятара. Вельмі многа зрабілі здымкаў з пахаваньня, а калі ўжо ўсе разышліся, Стась Грынкевіч пабег па фатографа, і ўжо фатаграфавалі мяне ля магілаў. Дзядзьку Васіля паклалі ля ягонае жонкі Паліны з Ляўтаў, бо магіла загадзя была закупленай і разьлічанай на дваіх. Стаяў там і помнік з вырытым знакам Пагоні. На помнік толькі прырабілі пасьля мармуровую дошку з імем Дзядзькі. Яго званьня напісаць было нельга. Не прызнавалі і тагды незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Гітлер і яго генералы і не генералы будавалі т. зв. Новую Эўропу, тысячагадовы нямецкі Рэйх, гдзе беларусам у рэшце рэшт адводзілася мейсца нявольнікаў, як і ўсім славянам. Прымаючы словы спагаданьня ад чэхаў і розных нацыянальнасьцяў эмігрантаў, я адчувала, што адышоў наш вялікі чалавек, які як умеў, так чэсна адносна сваяго народу рэпрэзэнтаваў нашую Айчыну замежамі. Цёплае слова сказаў і Гайда, гэта быў чэх, пасол у Ліцьве за часу прабываньня там БНР, які застаўся заўсёды верным сябрам беларусаў і асабіста Дзядзькі. Многа пазьней пад час неймавернае шалёнай пургі на Інце падышла да мяне адна эстонка і пачала вельмі хваліць Дзядзьку Васіля Захарку, яна яго ведала. Яе родная цётка эстонка была жонкай консула чэскага Гайды. Сем'і з сабою дружылі, і гэтая маладая жанчына ня раз гасьціла з імі ў дзядзькі Васіля, калі бывала ў Празе.



І так 14 сакавіка 1943 года памёр Васіль Захарка, на яго месца засталіся мы. Я, такая простая і амаль вясковая, якой адзінаю зброяй была нявысказана вялікая любоў да Беларусі, чэснасьць жыцьцёвая і мой талент. Мікола ведаў мовы, добра ар'ентаваўся ў палітыцы, меў ужо практыку ў змаганьні за Беларусь. Усе надта хацелі ведаць, хто ж на месца Дзядзькі Васіля? Мы пакуль маўчалі. Мароз мне па скуры хадзіў, калі я думала пра Ермачэнку, ды не толькі ён... На вечар па Дзядзьку Васілю ўсе нейк пайшлі, сабраліся па групках. Да нас пайшлі толькі мы: Пані Крэчэўская, Мікола, Стась і я. Было нам нейк сумна і ўсё ж добра ў цеснай, сваёй беларускай сямейцы. Мы дык ужо сабе давяралі. Пані Крэчэўская перадала тады Міколу пашпарт беларускі Пятра Антонавіча Крэчэўскага і стары, вялікі артыкул з амэрыканскай газэты (не памятаю назовы) аб прагалошаньні 25 сакавіка 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікі.

Назаўтра мы ўсе разам паехалі ў Моджаны, гдзе перабіралі, сартавалі і адбіралі, што трэба было неадкладна вывезьці з Беларускага архіву дзядзькі Васіля. Рэчы яго скромныя мы, пасля дэзынфэкцыі, аддалі ўсе Стасю Грынкевічу. Ён павёз іх тым беларусам, якія былі на працы ў Нямеччыне і не мелі дастаткова адзеньня. Так я дамовілася з Дзядзькам. Сартаваць архіў нам ніхто не перашкаджаў. Нікога з немцаў не было на пахаваньні, і здавалася, яны нічога ня ведаюць. Адкідаючы непатрэбнае, Мікола проста адсунуў пудэлачка ад запалак. Я падняла яго, і ў ім знайшлі мы цудоўныя беларускія значкі яшчэ з 1918 года з Пагоняю. Благаслаўленна ўсё, да чаго ты дакранаешся, сказаў мне Мікола і дзіўна нейк на мяне паглядзеў. Была вайна, і не было рэчаў, адзеньня, абутку, а ў Дзядзькі былі харошыя, новыя чаравікі як на Міколу, дык кажу яму: «Вазьмі ты сабе па Дзядзьку хоць чаравікі, хоць нешта, твае ж падзёртыя». «А чым я ад цябе горшы, Ларыса Геніюш, я ж ня бачу, каб ты сабе што-кольвечы брала». Так адказаў мне Мікола, і гэта напоўніла мяне нейкім даверам да яго і спакоем за ход нашых спраў. Усё, што было найболей вартасным, мы спакавалі і перавезьлі да нас. Там перапакоўвалі, каб адвезьці далей. У гэты час да нас прыйшоў Забэйда-Суміцкі. Яго не ўпусьціць мы не маглі. Я далей стаяла на каленях і пакавала. Узяўшы ў рукі дзяржаўную пячаць, я пацалавала Яе спачатку. Цікава, што гэты выпадак сказаў мне на сьледстве сьледавацель... А можа, сам Мікола калі гаварыў аб гэтым...

І так сябры паехалі, павезьлі з сабою часць архіву, бо мы вельмі баяліся і не без падставы, што немцы будуць мець на яго зуб. А пакуль што я хадзіла як учадзеўшы, усё думала: што будзе далей? Не давала гэта нам нейкае ўлады, але мы мелі шчасьце захаваць мінулае, факт і традыцыю прагалошаньня незалежнасьці нашай, што для кожнага народу сьвятая, вялікая рэч. Розна складаецца лёс народаў. Ёсьць самастойнасьць дзяржаўная, ёсьць фэдэрацыі, але як бы ні было, маючы такі факт за сабою, мы адчувалі, што мы народ! Нельга адбіраць, ануляваць, заціраць вялікага ў жыцьці людзей і народаў, нельга абядняць нацыі, забіраючы ім іх дасягненьні. Не, я не аддам мінулага!

Час йшоў, дзядзьку Васіля прыпамінала ўсё: кожны сустрэчны эмігрант, кожная справа, якая датычыла Беларусі. Цяпер толькі адчувалася, як гэты ціхі і скромны змагар высока трымаў імя Беларусі. Не было да каго паехаць, не было з кім парадзіцца, толькі на ягоную магілу. Не было болей людзей у Празе, для якіх беларуская справа была б важнейшай за асабістую. Дзядзька наскрозь іх бачыў і ведаў, што ў разе чаго ад'ютанты яны, не камандзіры, і спалягаць на іх нельга. Часам думалася: не тых выслаў Браніслаў Тарашкевіч, якія ахвярна прынясуць здабытыя знаньні і жыцьцё Радзіме. Пэрспэктывы асабістага спакою і дабрабыту даўно ўжо ў іх заглушылі тое лепшае, што яшчэ, можа, адчувалі яны ў юнасьці. Некалі такі, казалі, надзейны Астапкевіч, ажаніўшыся з чэшкаю, думаў цяпер толькі іхнімі катэгор'ямі, таксама Клаўсуць, таксама дакторка Сідарук, якая, каб не паехаць на ўсход, сымулявала хваробу пазваночніка. Гэта якраз нічога, але бабка зусім забылася, скуль яна і на якую стыпэндыю атрымала асьвету.

Найболей мне не падабаўся мастак Салавей. Ён быў членам камітэту, як і ўсе, але як жа нехвотна гутарыў па-беларуску, як жа адмежаваўся ад вестак нават з Бацькаўшчыны. Як за кару прыехала да яго пасьля родная сястра з Беларусі са сваім мужам і сыночкам. Ён і яго чэская жонка не зразумелі няшчасных, харошых людзей

нават тады, калі памёр у Празе на менінгіт іх адзіны сынок і лёс іх далей пагнаў у няведамае на чужыну.

Вельмі нейк інтэрнацыянальна адносіўся да беларускае справы і Забэйда-Суміцкі, які не раз падтыкаў нам, што адзіны мастак Беларусі, яе слава ня мае нават свае машыны, аж пакуль Мікола не сказаў яму некалькі слоў аб тым, як трэба разумець змаганьне за Айчыну, ды яшчэ ў час вайны. Жылося яму няблага, а што мы болей, нявольныя, маглі яму даць? Вузкі ў сваіх асабістых зацікаўленьнях, запалоханы і недалёкі палітычна быў і мой муж. Жук быў нам абсалютна варожы, але ад нашага сяброўства і сякой-такой спагады не адмаўляўся. Сяньня думаю, што такое было тады яго заданьне. Вялы і недалёкі быў Буська і неразгаданы нейкі, няшчыры інг. Юрка Бурак. Кажуць, што ўсе лепшыя пражскія беларусы памерлі ад сухотаў ці паехалі ў Менск, гдзе таксама доўга не пажылі.

Актыўны быў толькі Ермачэнка, болей нават, чымсьці належала, але яго актыўная дзейнасьць была выразна не на наш млын вада. Бакача нейк нагла і рашуча адправілі ў Нямеччыну на работу. Яго верная Марыя пасылала яму, што магла. Яе любоў выклікала пашану, яе ахвярнасьць і чысьціня і шчырасьць пачуцьцяў мяне здзіўляла. Такога друга Бог дае людзям не часта, і жаль толькі, што, карыстаючыся з сяброўства жанчыны, Бакач ёй не адплачваў тым жа.

Часам паказваўся ў Прагу Вітушка, які беларускасьці не адрокся, але не ў галаве яму было мяняць высокі матэр'яльны ўзровень жыцьця на крыжовую дарогу шчырага змаганьня за Беларусь. Вось больш-менш гэта было тое, што ў Празе. На фоне іх ціхі абсалютна чужы нам яўрэй Вольфсан, які дасканала ведаў, што пераджыць вайну і ўсе няшчасьці таго часу трэба і яму, і яго дзецям, і нам усім. Прыходзіў ён часам да нас, маўчаў. Малады інг. Калоша, худы і вымучаны некалі беспрацоўнасцю і такі можна сказаць голадам, тым цяжкім голадам, калі ўсё ёсьць і толькі няма граша, каб пад'есьці, цяпер ажаніўся з Ольгай Вяршынінай і быў недзе на нейкай рабоце. Не памятаю, можа, нат выехаў недзе. На вочы нейк не пападаўся.

Ольга Вяршыніна была дачкою нейкага вельмі для мяне загадачнага чалавека, беларуса, безумоўна, але я яго ў жывых не застала. Жанаты ён быў з чэшкаю, якая разам з ім вельмі памагла ў свой час новапрыбыўшым бел. студэнтам у Празе. Яны радзілі ім, як умелі, падкармлівалі, калі трэба, і для многіх былі як бацькі. Казалі, што Вяршынін — гэта было не яго ўласнае прозьвішча. Пасьля Калошу чэхі выдалі саветам разам з намі. Ня ведаю, на сколькі быў ён засуджаны і гдзе яго выслалі. Ведаю толькі, што нарэшце ён вярнуўся ў Прагу, але Олі свае ўжо не застаў, яна з труднасьці пакончыла самагубствам. У каго былі дзеці, ня ведаю.

Даволі паважнай фігурай сярод пражскіх беларусаў быў Васіль Русак, слуцкі паўстанец. Гэта быў энергічны дзеяч, вельмі шчыры беларус, але, паводле мяне, недалёкага маштабу. Ён па жонцы меў краму, гдзе таргаваў і зарабляў няблага. Меў харошую вілу за Прагаю і ня меў дзяцей. Часам ён фінансаваў «Іскры Скарыны» ці нешта іншае, што пераважна афармляў да друку др. Грыб. Русак вельмі любіў усюды быць першым, што яму не заўсёды ўдавалася. Гаварыў, дык на нейкім славянскім эсперанта. Многа каму крыху памагаў, але казалі, што кожную дапамогу землякам заносіў у спецыяльную кнігу, так мовячы, для парадку. Дзядзька ён быў неблагі і недурны, але крыху арыгінал. Ня мог зразумець, як гэта такому скромнаму Геніюшу, які ў свае гады не дабіўся нават капіталу, можна мець усе забэйдаўскія кружэлкі. Мала яшчэ тыя кружэлкі, але яшчэ такую беларускую жонку? Пасьля ад'езду Янаўкі ён явіўся да нас з падаркамі, з прадуктамі, лепш кажучы. Прынёс усяго пакрысе і вельмі быў уражаны тым, што я яму за ўсё заплаціла і забараніла болей нешта для нас прыносіць. Ён розна мудраваў, як гэта дапамагчы мне. Выдумаў, што яму трэба схаваць у мяне прадукты, бо немцы могуць зрабіць рэвізію ў краме. «Не, не,— кажу,— сябра, нічога мне вашага ня трэба». Разыходзілася яму аб тое, каб я менавіта напісала аб ім паэму, і пры гэтым аб слуцкім паўстаньні. Не мела я тады часу нават выслухаць гэтых спраў, чаго вельмі шкадую сяньня. Русак меў добры голас і ахвотна сьпяваў у аматарскай групе опэрных чэскіх артыстаў у Празе. Яго выдалі чэхі недзе ў 1945 годзе, і ў лагеры, кажуць, забілі яго. Аднойчы ў лагеры на Інце я загледзелася на адну жанчыну, вельмі да яго падобную. Яна была са Слуцка і, як аказалася пасьля, яго родная пляменьніца Каця Русак...

Недалёка за Прагаю жыў у пана і даіў кароў Мікола Судзьдзеў. Быў гэта харошы просты хлапец з арміі Балаховіча. Жыў з чэшкаю Мажанкаю, вельмі працавітай жанчынаю. Дзяцей у іх не было. Судзьдзеў ахвотна прыязджаў да нас, галасіўся да беларусоў і ўмеў жыць куды лепей за ўсіх нас, асьвечаных ідэалістаў. Мяне ён вельмі любіў. Пасьля вайны ўзяў савецкае грамадзянства і прынёс на яго анкеты нам. Калі я ад іх адмовілася, дык з болем зацеміў, што «Вы будзеце вялікай па сьмерці». Паводле яго практычных разьлікаў, такое не аплачвалася... Кожнаму сваё.

Былі і іншыя беларусы ў Чэхах і ў Славаччыне, але яны да нас не галасіліся, беларускія пэрспэктывы былі не цікавыя. Каб нешта сапраўды зрабіць для народу, дык трэба было йсьці на небясьпеку і забывацца зусім аб сабе. Ня кожнаму такое да густу, ды, горай, не ўсім пад сілу. Чэхам было бясьпечней. Мы вельмі спагадалі чэхам, але ім здавалася тады, што яны маюць ворагаў толькі немцаў, а ў нас ворагаў болей, ад якіх нам грозіў проста апартэід, і мы гэта добра разумелі.

Змаганьне нашае пакуль што было амаль без пэрспэктыў, але ні на што не гледзячы, уніжаныя часта і пакрыўджаныя, мы ўпарта змагаліся за правы свае, за зямлю дзядоў сваіх, за мову нашую прыгнечаную, за сваю гісторыю і дзяржаўнасьць. Ля такой барацьбы заставаліся толькі адчайныя волаты. Нямала было такіх. А інача нам было, як чэхам. Той самы страх пасля атэнтану на Гайдрыха, той самы боль, калі пералічваліся іх ахвяры.

У мяне без мужа было даволі цяжкае матэр'яльнае становішча, справа ў тым, што др. Градзіл плаціў мужу вельмі нямнога, а каб таньней яму было, дык у працоўнай кніжцы ганарар мужа быў запісаны напалову меншы, бо тады меней плаціць на касу хворых для работніка і інш. Калі ж мужа забралі, дык плаціл мне толькі паводле кніжкі. Градзіл ведаў гэта, але яму такое было абыякава. На карткі пражыць было цяжка, а дакупіць што ўжо не было за што. Гатоўкі ў нас не было ніколі, бо замнога было галодных і наогул патрабуючых. Я расказала ўсё фраў Піпэр, і яны парадзілі мне схадзіць да доктара Вэхтэра, які быў начальнікам Саюза Нямецкіх Лекараў і загадваў усімі мэдычнымі справамі.

Я пайшла да яго. Гэта быў сярэдніх гадоў чалавек даволі сымпатычны вонкава, са шрамам, як належыць нямецкаму студэнту. Гутарылі мы крыху па-чэску, крыху пя-нямецку. Я яму коратка ўсё расказала і кажу, што за такія грошы не пражыву. «А вы Градзілу казалі пра гэта?» — пытае. «Не, не казала, ён сам гэта павінен ведаць». «Ага, не казалі, дык гэта фальшывая гордасьць з вашага боку, вось што: трэба тады Градзіла падаць у суд». «Не,— кажу,— калі мой муж ня меў куска хлеба, ён даў яму працу, хоць скромную, і няхай я буду галодная, але злом за добрае не заплачу». Вэхтэра паклікалі, і я пайшла. Крыху пазьней сказалі мне Піпэры, што паводле меркаваньня доктара Вэхтэра, дык беларусы шляхотны народ... А дапамог мне, як заўсёды, доктар Піпэр. Ён зьвярнуўся да чэха, прыматара, гэта зн. як бургамістра, горада Прагі, і ён крыху пабольшыў маленькую нашую зарплату. Жыць было можна. Да таго нашая суседка пані Моравцова шыла скураныя рукавіцы ад крамы, гдзе ёй давалі іх пакроенымі. Вось часам я памагала ёй, гэта былі дэкаратыўныя швы і няблага ў мяне атрымоўваліся. Была гэта бедная жанчына, але як жа харошая. Юра бегаў у школу, і Свіцкі, дырэктар школы, вельмі хацеў, каб ён заўсёды быў з яго сынамі Нікам і Ванем, каб яны набіраліся энэргіі і шустрасьці крыху ад яго. Хлопчык вучыўся надзвычай добра. Фактычна ён не вучыўся, вечна выкручваўся і вырабляўся, але, калі аднойчы настаўніца прачытала кусок нейкай цікавай прозы і загадала яму расказаць, дык малы паўтарыў гэта слова ў слова, чым непамерна зьдзівіў увесь клас.

Юра быў на дзіва набожны. Яшчэ маленькі шторанічы шукаў нечага пад падушачкай, што туды клаў яму ноччу ангельчык. А ангельчык быў кахаючы, шчодры, і дзень пачынаўся радасна. Калі часам той ангельчык забываўся нешта палажыць, хлопчык крыўдаваў і раз сказаў нават «кака ангельчык», але болей такога не паўтарыў. Ангел быў добрым. Хлопчык быў чысты і вельмі літасьцівы для ўсяго жывога. Калі аднойчы загубілася яму любімая цацка, дык прыходжу, а ён стаіць на каленях і вядзе гутарку з добрым Бозенькам, гдзе можа быць тая цацка, каб ён дапамог яе знайсьці. Гэта пазьней вельмі дапамагло самотнаму, замучанаму юнаку перахітрыць прасьледаваццеляў, якія намагаліся маральна яго зьнішчыць, і застацца добрым чалавекам. Аб Юрку, яго здольнасьцях і розуме расказвалі па Празе анекдоты. Юра пісаў вершы. Почырк у яго быў немагчыма паганы, але настаўнік чэскае мовы сказаў мне, што ўсе вялікія людзі пішуць заўсёды непрыгожа...

Добры той Чэх высока цаніў малога Беларуса, а вось расейскія настаўнікі не ўсе



Ларыса Антонаўна з сынам.

яго любілі і ён не ўсіх. Адна настаўніца, відавочна, манархістка, заявіла ў школе, што няма ніякае Беларусі і т. п. Хлопчык абурыўся і сказаў: «Я маленькі і магу паказаць на карце, гдзе ляжыць Беларусь, а вы велькая і гэтага не ведаеце, сорамна гэта...»

Адзін раз вярнуўся са школы вельмі задуманы, нешта тварылася ў яго дзяцінай душы. Нарэшце падышоў да мяне і кажа: «Мамачка, я сяньня цярпеў за Беларусь». Я збянтэжылася: «Як жа, сынок?» А справа была такая: настаўнік, які не прызнаваў Беларусі, толькі сваю адзіную і недзялімую Расею, расьцягнуў хлопчыка на лаўцы і добра яму ўсыпаў. Можа, і была на гэта якая невялікая прычына, але чыстая дзіцячая душа добра разумела, за што яго б'юць, маленькага... У чэскай школе было іначай, але чужынцам у час акупацыі нельга было ў чэскую школу.

Так горкая доля нашага народу клалася на нашую нашчадзь ужо ад дзяцінства. Ня раз яшчэ білі хлопчыка за яго беларускасьць, дабівалі яго фізічна і маральна. Б'юць яго яшчэ і сяньня, а што будзе з маленькімі ўнукамі? Няўжо і ім давядзецца цярпець, як і нам? Што ж, што ўжо Бог ім дасьць, толькі няхай ня будуць горшымі ад нас, няхай не адракаюцца ад сваяго, няхай будуць чэснымі людзьмі і сапраўднымі сынамі нашага Народу!

А дарагі мой Расьціслаў, як толькі змог, уцёк дамоў. Хлопцы ў Бэрліне дапамаглі яму ў гэтым, і ён прыехаў у Жлобаўцы. Зямля гэта ўжо была нямецкая. Яе, як і другія маёнткі, прызначылі немцы для сваіх герояў вайны, а Гродзеншчыну ўжо загадзя прылучылі да свае Прусіі. Брата пакінулі пакуль што як нейкага эканома ў яго родных Жлобаўцах. Што ж, і гэта няблага пакуль што. Расьціслаў аднайшоў самотную бабку Рыгорыху, старэнькую ўдаву па нашым парабку Рыгору, і ўзяў яе сабе замест маці. Пасля прыбіліся да яго нейкія хлапцы. Славачка перавёз з Гудзевіч наш перавезены туды немаведама чаму дом і стаў жыць. Гэты велікан любіў, як дзіця, маці. Для яе, вывезенай недзе ў дзікі Казахстан, ён і перавозіў гэты дом, каб мела куды вярнуцца з высылкі. Людскія сэрцы не маглі верыць таму, што і пасьля вайны не спыніцца нечалавечы зьдзек над людзьмі, гэтага нельга было зразумець сапраўдным жыхаром старой беларускай зямлі. Так было толькі, казалі, некалі, за татараў... Але татары яшчэ ня самае горшае ў гісторыі нашай зямлі. Мэтады нішчаньня людзей, чужых культур і народаў не былі ў іх так удасканаленыя, як сяньня... Дарма чакалі мы з Расьціславам сваіх Бацькоў. Вырак сьмерці напісалі ім нелюдзі загадзя. А мы яшчэ верылі.

Так, як Чэхаславаччына, як і Гродзеншчына, так і нашая Зэльва і родныя Жлобаўцы былі вайною прылучаныя немцамі да Нямеччыны. Гэта давала нам больш магчымасьцяў пасылаць пасылкі адныя другім. Памагалі мы так мужавым бацькам і Расьціславу. Ён перавозіў дамоў нашую хату, і я пасылала яму з Прагі цьвікі, рознае жалеза і асабліва косы, яны былі вельмі добрыя і патрэбныя людзям. А волат Расьціслаў заказаў сабе зрабіць касу паўтара мэтра шырынёю. Калі касіў, дык тры жанчыны вязалі за ім снапы. Ён быў так сьвята прывязаны да Жлобаўцаў, што ніяк ня мог зразумець, што я туды не прыеду. Неяк не цяміў, што абавязкі жонкі і маці важней за наш родны кут...

А кут той мне сьніўся начамі. Не зусім было добра там светлаваласаму Расьціславу, было адзінока. Аднойчы атрымалі мы дзіўнага ліста. Расьціслава прасьледаваў чорны цень. Ён яго часта стаў бачыць на панадворку і ў хаце. Вяртаецца сутоньнем з поля, паявіцца ля яго высокі чорны чалавек, уздыхне і зьгіне ў паветры. Мой муж, цьвярозы мэдык, прачытаўшы ліста, рашыў, што Расьціслаў мог гэта бачыць толькі ў нецьвярозым стане. Я яму так і напісала. Аказалася зусім іначай. Брат, гэты чысты і, як сьляза, незаганны юнак, пачаў і піць і курыць, як пісаў, з гора і з адзіноты. Толькі чорнага чалавека бачылі ўсе, хто тады жыў у Жлобаўцах,— і старая Рыгорыха і дзяўчына, якую Славачка ўзяў у помач Рыгорысе, і хлапцы, якія з імі жылі. Мы з Расьціславам ніколі не махлявалі, проста лічылі гэта ніжэй нашага гонару, і нельга было яму ня верыць. Яшчэ сяньня расказваюць сяляне аб тым чорным чалавеку, як загрудкі браў Расьціслава начамі. Брат не ўсё мне аб ім расказаў, шкадаваў мяне відавочна.

Што ж, зноў старыя сямейныя духі, якія так ведамыя ў сем'ях маіх бацькоў. Можа, у цяжкі час перадсьмяротны так наведваюць сваю верную нашчадзь у палёх духі іх продкаў. Нешта ж між зямлёю і небам ёсьць. Брату я часта пісала, і ён называў мяне «рыбка залатая», гэта таму, што ўсё мне хацелася аддаць яму, усё выслаць, усім дапамагчы. Чэхі мне ўсё давалі — і дзьверцы да пліты, і самую пліту. Толькі дзіва мне, як гэта ўсё тады даходзіла, а даходзіла ўсё. Калі раз вечарам летнім вяртаўся Расьціслаў з хлопцамі з рэчкі, да іх падышлі партызаны. Што ж, паклікалі іх у хату, напаілі, накармілі, тады сьвіснулі партызаны, і пазьбягаліся ўсе тыя, што акружылі Жлобаўцы, не ведаючы, як брат зарэагуе на іх візыт. Ракою жа пралілі кроў нашага роду ў 41 годзе... Партызаны пасябравалі са Славачкам, яны завялі яго да Люціка, якога хацелі забіць за тое, што падпісаўся і выдаў на вываз бацькоў. Расьціслаў, як хрысьціянін, папрасіў іх усіх выйсьці, спыніць свой гнеў і помсту пакінуць Богу...

А мама калела з холаду і голаду ў Казахстане, дагарала яе жыццё, Аркадзі і Аляксей ваявалі ў Андэрса, маленькая Люся расла ля казахскіх авец, а Ксеня і Ніна найменей думалі аб хворай маці. Недзе, няведама гдзе нават, здаецца, у гродзенскай турме, крычала, прасіла аб помсьце нявінна пралітая кроў тата, але мы з Расьціславам не мсьціліся, мы не любілі сваіх ворагаў, настолькі хрысьціянамі мы не былі, але мы памагалі ім у цяжкі час, можа, крыху спадзяваліся, што дабро ачалавечыць іх душы, а можа, і нічога не спадзяваліся, проста мы не здольныя былі зрабіць зло.

Начальнік таго невялікага партызанскага збору ля Воўны, нейкі Міша, здаецца, вельмі зачасьціў са сваімі хлопцамі да Расьціслава. Яны абодва абмяркоўвалі апэрацыі, вельмі пры гэтым аглядаючыся, каб не нішчыць народу. Крыху пазьней мы прагута-

рылі з братам ноч напралёт, было гэта ў Зэльве. Расьціслаў клікаў мяне ў Жлобаўцы, але мяне не пусьцілі. Ён запэўніў мяне, што партызаны радыя мяне сустрэнуць, і вось тады пачаў расказваць пра іх. Я пыталася: ці не ўдарыў яго камісар нямецкі? Ён папрасіў, каб я аб гэтым ніколі не запыталася яго болей. Сказаў толькі, што мама мусіць жыць і яму трэба яе дачакацца...

А той камісар быў раней у Зэльве, быў гэта нейкі, кажуць, немец з палякаў, меў адну руку і сабаку, якога рад наскоўваў на людзей. У Зэльві вешаў яўрэяў, біў беларусаў і любіў полек. Казаў мне Славачка, што наш знаёмы настаўнік Файкоўскі перакладчыкам у яго, дык ужо мае зусім крывы твар і вывернутую шчаку ад пабояў таго камісара. А на семнаццацігадовую дзяўчыну нацкаваў сабаку, які так пашматаў дзяўчо, што сканала... Чаму ж не заб'еце гада, пытаюся? Нельга, Залатая Рыбка, сто чалавек нашых за яго забілі б, сёлы трэба нам сьцерагчы. Казаў, што аднаго такога запынілі ў ляску на спацыры на кані, дык грымнуўся гад на калені і крычаў: я быў добры, я быў добры! Яго толькі адлупілі, здаецца, таксама думаючы пра сёлы. Той Міша, відно, не дурны быў хлапец. Ён ажаніўся з дзяўчынаю з Палавок, вёскі, што каля нас, і памёр, казалі, пасьля вайны ад сухотаў...

Ведаючы нямецкую мову, шмат каму памагаў Расьціслаў. Жыў ён спакойна, бо людзі любілі яго, але пад канец прыйшлі нейкія невядомыя, далёкія партызаны і ледзь яго не забілі. Не хацеў ён ехаць да нас у Прагу. Кахаў маці і чакаў яе, завяраючы мяне, што бальшавікі цяпер перамяніліся і ўжо перасталі глуміць і вынішчаць людзей. Маці, маці і маці...

У Красным Грудзе жыла мая дваюрадная сястра, што за Каліноўскім. У іх бываў Расьціслаў, перавёз да іх свае рэчы, калі ў 44 годзе адыходзіў у Савецкую Армію. Ён скрываўся спачатку, бо хацеў ехаць шукаць нашай маці, але тая нашая сястра яго выдала. Расьціслаў загінуў 26 красавіка 1945 года, пахаваны недзе ў р-не Барнім у Нямеччыне. Шмат пазьней сястра Ніна прасіла мяне, каб я кінула думаць пра Беларусь, бо яны вынішчаць усю нашую сям'ю. Яны забілі маяго тату, дамучылі сьведама маму, атруцілі сястронку Люсю ў 1952 годзе ва Вроцлаве, даканалі маральна і фізычна Юрку, а ў канцы вайны савецкі афіцэр забіў выстралам у вісок Расьціслава, кажучы: «Твая сястра-пісьменніца супраць нас, і ты кулацкі сын...» Вестку гэтую трудна мне праверыць, але, мяркуючы па тым, як яны нішчылі людзей і асабліва нашую сям'ю, гэта зусім праўдападобна. Такога не рабілі нават гітлераўцы, асабліва са сваімі людзьмі. Высокі мой, светлы мой, каханы, малады брат... Я толькі пытаюся ў Бога — за што?

Нейк пару гадоў таму падышоў да мяне чалавек у Воўпе. Ён мне сказаў, што ў арміі хлапцы з Данілаўцаў угаворвалі Расьціслава ўцякаць з-пад Бэрліна, ён адмовіўся. Сказаў, што ўдома ёсць Папенюкі і іншыя, якім ён зрабіў дабро, і яны цяпер выслугоўваюцца перад бальшавікамі тым, што яго прасьледуюць... Што ж, і гэта пакінем Богу... Мы з Расьціславам як дзеці, і пакуль што гэта наш крыж.

Калі мы вярнуліся з лагера, дык былі зусім бедныя, амаль абдзёртыя. Тады я паехала па просьбе Янэчкі да тае свае стрыечнае сястры Лены ў Красны Груд. Славачка пісаў мне, што завёз да яе і маю зінгераўскую машыну. Меў да нас пасьля доўгае разлукі прыехаць наш сын. Мы хацелі прадаць машыну і крыху лепей прыняць сына. У Воўпе сустрэлі мяне нашыя селяне, яны завялі мяне ў сяло, брыгадзір даў каня і чалавека, і мы паехалі ў Красны Груд. Сястра мая сядзела пад яблыняю, і перад ёю ляжалі горы яблыкаў, якімі яна мяне частавала. Яна вельмі зьдзівілася, што я добра выглядаю, а што яна хворая, ходзіць на ўколы. Пачала бедаваць, што яна бедная, тады я заверыла яе, што нічога ў яе прасіць не зьбіраюся. «А што ў цябе ёсьць?»— запыталася яна. «У мяне ёсьць Сын і ёсьць Муж, а гэта вялікае багацьце!»— сказала я сястры. Тады я пачала пытацца ў яе маю машыну, аб адзежы братавай я не гаварыла, яна перарабіла яе сваім сыном. Сястра ахвотна аддавала мне маю машыну, але толькі тады, калі я дам ёй 600 рб. (было да рэформы), бо яна дала Славачку, якога выдала, два кілагр. сала і 500 рб. грашыма, вось гэта я ёй мушу вярнуць, інача яна ня мае што гаварыць са мною... Тады селянін, які быў са мною, кажа ёй: «Калі вы давалі Расьціславу грошы, дык тады пуд жыта каштаваў 500 рб., я вам дам сяньня два пуды жыта, толькі аддайце Ларачцы яе машыну». Яна не аддала. Мне прыпомнілася, як вайною ў Прагу прыехала яе родная сястра з сям'ёй, з мужам сьвятаром Лапіцкім і дзяцьмі і як я старалася ўсё магчымае зрабіць для іх, але я маўчала. Чалавек, які мяне прывёз, хацеў паглядзець на машыну, і мы пайшлі ў былы палац,







гдзе жыла мая сястра. Паркет блішчэў, зелянела плюшавая мэбля, адчуваўся ва ўсім вялікі дастатак. «Гэта мне людзі перахавалі»,— тлумачылася да подласьці скупая скнэра-сястра, а селянін сказаў ёй: «Вось бачыце, вам перахавалі рэчы, а тут за чужую машыну вы хочаце грошы ад чалавека, у якога няма, толькі як на дарогу...» Машына мая стаяла раненая куляю і гранатаю. Машына перажыла нас. Я пагладзіла яе рукою, і мы пайшлі. Тут сястра ўпала амаль у істэрыку, яе дачка пачала плакаць, каб я ў іх засталася, сын ужо прынёс гарэлку. «Не,— сказала я,— з такімі людзьмі не пераламлю я хлеба»,— і выйшла. Сястра дзівілася, як мяне, паню, яшчэ возяць сяляне, а яны вазілі мяне, можа, крыху баяліся старшыні, але падвезьлі. Усю дарогу назад мяне мучыла сэрца, і падарожжа я ўспамінаю са страхам. Гэта была родная дачка замучанай у 41 годзе татавай сястры цёці Мані... Людзі зрабіліся як зьверы, яны вырывалі адзін другому з рук убогія лахманы і старыя рэчы. Напаверх выплыла ў людзях найгоршае. Усякая шляхотнасьць у асяродзьдзі бальшавікоў выдаецца «буржуазным предрассудком», нечым так ненармальным, як некалі — подласьць. Вартасьць чалавека мералася не яго чынамі, пражытым жыцьцём, а той толькі шызафрэнічнай ярасьцю, з якой ён хваліў некалі Сталіна, а цяпер тое, што славілі заместа яго. Людзі пашалелі ад дзікага. Мне казалі, што ў 41 г. быў канец сьвету, і людзі, каб выжыць, рабіліся проста зьвяр'ём. Калі ястрабкі арыштавалі татавага брата ў Гудзевічах, дзядзьку Валодзю, дык яго жонка са страху пакінула чацьвёра дзяцей, ад 15 гадоў да 4г., і ўцякла ў Польшчу.

Старшая сястронка за некага выйшла замуж, а маленствы папляліся аж у Крынкі, ад Гудзевіч гэта амаль 50 км, да сваяго дзеда Юрка Анісімовіча. Шукалі ратунку. Дзед данёс на іх у НКВД з просьбаю, каб забралі ад яго памешчыцкіх дзяцей і вывезьлі туды, гдзе ўсіх вывозяць... Не пасьпелі іх вывезьці, бо наскочылі немцы. Расказвала мне гэта з жудасьцю Тамара, адно з тых бедных дзетак. Дзед памёр у Хорашчы, згубіўшы розум, але гэта пасьля. Людзям забіралі зямлю, іх суседзяў, іх родных, і самае страшнае тое, што ім забіралі сумленьне, тое беларускае, хрысьціянскае сумленьне маіх землякоў. Тое ж самае я наглядала і ў Празе. Гэта была адзіная нагода, гдзе праяўляліся самыя зьвярыныя інстынкты чалавека, і называлася гэта — прагрэсам... У Гітлера рабілі гэта паводле яго загаду, а тут рабіў гэта кожны! Кожны стараўся даказаць, што ён дастойны біць, мучыць і забіваць, знача, прыгодны для Сталіна. Трудна думаць, што людзі, узгадаваныя на падобным, створаць культуру, дастойную чалавека. З такіх крыніцаў раней ці пазьней выплыве загуба для сьвету. Машына — не культура, і шрубкі — не індывідуа...

І так Прага, 1943 год, вясна. У Прагу маецца ў водпуск прыехаць мой муж, мы з Юрам яго вельмі чакаем. Але пакуль прыехаў ён, дык паявіўся, на маё гора, Ермачэнка. Ён адразу прыслаў да мяне сваяго ад'ютанта Аўчыньнікава, які загадаў мне здаць Ермачэнку бел. архіў па В. Захарка. Што ж, я яму паказала дзьверы. За некалькі гадзін ён зноў прыехаў у наш малы пакойчык, цяпер ужо з запіскаю нейкага Лангера і Рыхтэра — начальства з Менску. Я ветліва паясьніла Аўчыньнікаву, што мы жывем у Пратэктараце Чэхі і Марава і толькі тутэйшая ўладзе я падпарадкуюся. Трэці раз ён прыехаў з загадам ужо ад пражскага гэстапа. Я сказала, што паеду да Ермачэнкі.

Хораша адзеўшыся, каб не адчуваць сябе ніжэй ад іх, я села ў трамвай. Ва мне ўсё дрыжэла. Я паднялася ў кватэру Ермачэнкі, і яго дзержымордa адчыніў мне дзьверы. Ля дзеравянай бочачкі, з каньяком відавочна, стаялі поўныя чаркі, закусі не было відно, а Ермачэнка і два немцы сядзелі ў дыміну п'яныя, чырвоныя і ня вельмі пэўныя ў вымове слоў. Яны папыталіся ў мяне: гдзе ключ ад архіву памершага? Я пацікавілася: нашто ім гэта? «Мы хочам вывучыць бел. мінуласьць, каб ведаць, як у далейшым адносіцца да беларусоў як да нацыі». Я сказала, што ключа ў мяне няма. «Што ж, мы тады зломім замок»,— прамармытаў немец. Атмасфера была напружаная, слоў падала мала, і былі яны цяжкія, як град. «А ў каго ключ, каму яго даў Захарка?» Не ў нашых інтарэсах было путаць Міколу і камплікаваць ужо і так дастаткова скамплікаванае нашае становішча, і я адкрыла сваю вельмі элегантную сумку і палажыла ключа ім на стол. Немцы з цікавасьцю паглядалі на мяне, яны былі болей талковыя за Ермачэнку.

Уся я была ў цёмна-шэрым і ў чорным, і найчарнейшым быў мой настрой. На сходах я па-бабску расплакалася. Нікога, хто мне дапамог ці парадзіў бы, ля мяне не было. Калі прыехаў Янка, дык ніякіх ён зацікаўленьняў маімі справамі не праявіў. Быў

вельмі заняты сабою і толькі сабою. Ён, здавалася мне, перастаў быць нават джэнтльмэнам, і, гледзячы на яго, мне рабілася прыкра. Многа распавядаў пра Слонім і становішча на Беларусі. Немцы да яго адносіліся з недаверам. Еў ён разам з імі, але ў асобным пакоі, зусім адзін, каб ня слухаў размовы немцаў. Ён сам ня сеў бы з імі за стол, але тое, што яны сэпаравалі яго, было прыніжаючым. Муж расказваў аб расстрэлах сёлаў, аб тым, як яны стараліся іх ратаваць. Мужа прыслалі на месца доктара Дылеўскага, таксама з Чэхаславацыі, якога арыштавалі. Супраць мужа былі палякі і немцы. Палякі рукамі немцаў стараліся вынішчаць альбо высылаць у Нямеччыну беларускі элемэнт. Яны многа ўжо пасьпелі вынішчыць нашых, абвіняючы іх у камунізьме. Камуніст ці не камуніст — для нас ня мела значэньня, трэба было ратаваць усіх. Муж вырваў з лагероў савецкіх і яўрэйскіх лекараў, і яны ўсе ўцяклі ў партызаны. Калі мужа камісар Эрэн абвініў у дапамозе ім, дык ён сказаў, што хіба камісар ведае тое, што яўрэяў розуму вучыць ня трэба. Эрэн, яшчэ пад уплывам палякаў, затаіў на мужа нянавісьць, але Піпэр трымаў з Прагі руку над Янкам, і пакуль што яму нічога нельга было зрабіць...

А тым часам Ермачэнка паехаў з немцамі на кватэру дзядзькі Васіля, і яны перавязьлі архіў дзядзькі на кватэру да Ермачэнкі. Ермачэнка больш-менш арыентаваўся ў тым, што было ў архіве. Дзядзька паказваў яму дакументы, і вось ён не знаходзіць іх, ён лютуе! Аб гэтым мне расказала пані Крэчэўская, якой Ермачэнка абяцаў, што назаве яе імем ясьлі ў Менску. Гэта яе не кранула. Цану авантурніку яна ведала. Але доказы Ермачэнкі былі галаслоўнымі, бо чым ён мне мог давесьці, што ў архіве было. Немцам я сказала, што архіў пакінуў мне дзядзька Васіль проста як сваёй сваячніцы, але са страху я ня спала ночы. Янка зьбіраўся ад'язджаць. Заставацца з Ермачэнкам было небясьпечна, і Янка пайшоў прасіць, каб нас з Юрам пусьцілі да бацькоў у Зэльву.

На дзіва, нам гэта дазволілі, толькі на гэты раз без права ехаць у Слонім і наогул у «Остлянд», як казалі яны. Мы хуценька сабраліся ў дарогу і на Бэрлін і Варшаву выехалі на дзьве нядзелі да бацькоў у Зэльву. У Бэрліне сустрэліся з сябрамі, і яны нам памаглі сесьці на варшаўскі цягнік, на які быў сапраўдны натоўп. Едучы, мы маўчалі, маўчала і нашае дзіця. Немцы, як чмялі, глядзелі на ўсіх нянемцаў, не скрываючы свае нянавісьці. Каля цягніка бегалі іх партыйныя фрау з апаскамі на рукавах і нешта ўсё дапамагалі сваім. Адчувалася тут, што немцы людзі, а рэшты яны не прызнаюць. І як там людзі маглі з імі жыць, гэта як сярод ваўкоў...

У Варшаве нешта прадавалі ля цягніка худзенькія хлопчыкі. Блукалі людзі, вынішчаныя і галодныя. На такім фоне ўпэўнена вырысоўваліся сытыя немцы ў ваенным і элегантныя іхнія фрау, якія, здавалася, ня бачылі вокал няшчасных ці вельмі ўжо лёгка згадзіліся з іх менейвартасьцю. Стала палякаў жаль. Цярпеў народ, а ён, затуманены, думаў некалі, што і ён пануючая нацыя над намі, цяпер сурова расчароўваўся. Па дарозе ў адным купэ з намі ехалі немцы з водпуску. Сярод іх быў нейкі швейцарац чыгуначнік, які бязбоязна высказваўся аб тым, што ён разумее беларускіх партызанаў...

У Беластоку стаялі калоны яўрэяў з зоркамі на рукавах, яны мелі атупелыя твары, бы стаялі тут, а самыя адсутнічалі, ачамі недзе былі далёка. Было трагічна, што нішто іх ня можа выратаваць з гэтае прорвы, хоць немцаў, здаецца, не было так многа, вось кінуліся б на іх, і хоць нехта ўцёк бы. Цягнік ляцеў па роднай зямлі, але была яна нейкая пустая. Вясна была яшчэ раньняя, у Празе толькі зацьвітаў бэз. На палёх стаяла дагары нагамі, розна ўздыблена многа танкаў, накіраваных на захад. Цяпер яны застылі, як жудасныя манумэнты трагічнай бездапаможнасьці. Ля цягніка, ля палатна дарог ляжало пару паравозаў і перакіненых вагонаў, ля іх шэрыя, болей чымсьці бедна апранутыя жанчыны пасьвілі каровы. Мужчыны, якія нешта рабілі на палёх, мелі нейкія ненатуральныя, імправізаваныя шапкі на галовах, як быццам вайна тут трывала вякі і пагінулі ўсе шапачнікі ў Беларусі. На станцыі ў Ваўкавыску насільшчыкі з рыкшамі перавезьлі нашыя рэчы на прыгарадны, мясцовы цягнік.

Нарэшце мы ў Зэльві. Ясна зьзяе папалуднёвае сонца і асьвячае надпіс на станцыі, на гэты раз па-нямецку. Божа, думаю, калі ж дачакаемся мы ўсё на зямлі нашай назваць сваім імем? Едуць нейкія фурманкі, яны ахвотна вязуць да Зэльвы нашыя чамаданы, а мы лёгка ступаем па роднай зямлі, а яна ўжо ад станцыі здаецца нейкай раненай, апустошанай і вельмі, вельмі сіратлівай. У самой Зэльві яшчэ страшней. Немаведама чаму ў руінах увесь цэнтр, усё разьбітае, спаленае. Пажар спыніўся на нашай хаце. Мужаў тата ўлез на страху і паліваў яе вадою, так абараніў рэшту вуліцы. Хлеў побач згарэў, і, відно, ужо стаяць кроквы новага хлява.

Выбеглі да нас бацькі, цалуюць унука, плачуць. Бацька сухі, чорны і босы, чысто жабрак, мама, акуратна апранутая, біла масло, быццам прачувала, што будуць госьці. Навокал страшна: попел і руіны. У нашай хаце жыве сям'я Архімовічаў. Гэта тыя, якія за тое, што ўзялі іх у хату, пасьля абкрадуць пасьмертна мужавага бацьку і зноў будуць старацца выдаць нас на мучэньні паўторна. Успамінаю з жахам аб іх, гэтых найболей пабожных каталіках Зэльвы...

Доўга ў ноч гутарым, і ўспамінам і крыўдам няма канца. Уся душа мая ў родных Жлобаўцах, але паехаць туды нельга, на гэта патрэбны асобы дазвол. Так хочацца пабачыць сьцежкі, гдзе яшчэ сьлед бацькоў, і што з імі, няшчаснымі, і гдзе яны сяньня. Як страшна, калі бураць гнёзды і забіваюць на зямлі жывое. А гняздо было старое, вялікае, а птушак як шмат. Я адна са сваімі думкамі. Муж мой толькі сьведак, яму не баляць ні раны бацькаўшчыны, ні трагэдыя маёй сям'і. Ён мае сваё жыцьцё, слонімскія большыя і меншыя авантуры рознага характару ды спрэчкі з нейкім там камісарам Эрэнам, які, як пасьля аказалася, ня супраць яго расстраляць, каб ня Прага, ня доктар Піпэр у Празе.

Назаўтра ад'язджае муж, я яго праводжу. Яму не ў галаве нейкая там БНР, ні сьмерць дзядзькі Васіля, ні яго, ні мае бацькі — усё гэта лічыць пяском у параўнаньні з важнасьцю свае пэрсоны. Я зусім не адчуваю, што ён ад'язджае, мне нейк лягчэй. Сардэчна гутарым з яго бацькамі, а Юра бегае, лётае, у хату лазіць праз вакно і рвецца на поле з пастушкамі пасьвіць кароўку.

На другой палове хаты жыве Каця Вікторка з сынамі, мужа стрыечная сястра. Яна нечаму палохае мяне партызанамі, да іх ходзіць нейкі жудасны немец, і мне ўсё гэта дзіўна. Аднойчы яна паклікала мяне на вуліцу. Я ўбачыла жудаснае явішча: паўзло па вуліцы нешта падобнае да малога танка, а насупраць ляцеў на кані поўным галёпам мой шасьцігадовы сын! Я махнула рукою, што будзе, тое будзе, неўгамонны малы патомак сялян дарваўся да свае стыхіі. Людзі яго падзіўлялі. Бацькавага каня забралі бальшавікі, дык ён даваў унуку поўны барэцік гаўса, і ён бег да суседа, гдзе быў харошы конь. На ім якраз, трымаючыся за грыву, цяпер ляцеў, у жыцці ніколі не сядзеўшы на кані. Ляцеў і хахатаў з радасьці.

На месца чатырохкутніка крамаў на зэльвенскім рынку нехта пасадзіў парк маладзенькі. Не было яўрэяў, ні іх шматлікіх крамаў, і тут прайшла тая ж, што ўсюды, трагэдыя. У чорнай нейкай хаце жыла ўдава па сьвятару Якабсоне, была трагічна счарнелая. Я адведала старушку. Мае знаёмыя паказвалі мне дзетак, якіх выратавалі ад вывазу, і яны цяпер як сіроты. Чаму ж не выратавалі нам хоць Люсеньку? Па Зэльві хадзілі нямецкія салдаты, вельмі страшныя да насельніцтва не былі, шукалі самагон, яйкі, рабілі свой «аерканьяк».

Нашыя суседзі Байбусы, якім датла згарэла хата, ладзілі вечарынку. Панна Стася з панам Весялухай, сваім пазьнейшым мужам, зусім не адчувала ні гора, ні страху, ні літасьці над тымі, што гінулі ў лагерах, на франтах, па лесе... Людзі значна адзічэлі, калі ў такі час маглі танцаваць, атупелі начыста. Кожны важны немец меў сабе любоўніцу ў Зэльві, і гэта было яшчэ страшней. Гэта былі полькі пераважна, якім здавалася, што занялі яны адпаведныя, «ключовыя пазыцыі» і зноў хоць такім чынам могуць рабіць супраць беларусаў польскую палітыку....

А на плоце вісела аб'ява, гдзе пералічваліся расстраляныя заложнікі, я не дачытала іх да канца... Стагнала толькі раненая зямля, а людзі, як мурашкі, ціха краталіся, думалі аб жыцьці. Я папыталася ў адной знаёмай, як жа яна жыве з тым немцам, які, напэўна, забіваў людзей... Ён ня шмат забіў, адказала, можа, усяго кільканаццаць асоб, і то, калі забіваў іх, дык быў п'яны... О, Божа, што робіцца з людзьмі, на гэтакага ж глянуць боязна. Пачаў заглядаць нейкі Фрыц і на наш ганак... Нічога я так у жыцьці не баялася, як гэтага чалавека. Тоўсты карак быў з незажытымі скуламі, нахабны, сам так і паглядаў у мой бок, і была б сьмерць мне, каб ён мяне крануў, бо такога я ніяк не стрывала б... А ўсе зэльвенскія дамы лічылі такое за гонар...

Згінь ты, прападзі з такой пэрспэктывай! Немцы за мною шпіёнілі, а нашая пані Каця ў гэтым памагала... Хто ж бачыў такую жудасьць? Нарэшце я пайшла да камісара

папрасіць, каб дазволіў брату да нас прыехаць. Гэты ветліва прыняў мяне, даў дазвол і выразіў жаданьне, каб я засталася настала ў Зэльві.

Славачка прыехаў! Высокі, як дуб, прыгожы. Стаю, паглядаю і плачу. А ён абняў мяне і слова ня вымавіць... Ноч напралёт гаварылі мы з ім. Часам было чутно, як ляціць аэраплан, тады Славачка казаў мне, чый ён, арыентаваўся па гуку. Абгаварылі мы ўсе сямейныя, усе партызанскія справы. Расьціслаў вельмі хацеў, каб я прыехала ў Жлобаўцы, што партызаны радыя чакаюць мяне. Тым, хто забіў бацька маяго і вынішчыў сям'ю, я ня верыла... У дзядзькі маяго была дачка, і я думала, няблага, каб Расьціслаў з ёю ажаніўся. Ён заязджаў да іх, але, калі я папыталася, ці ён кахае яе, хлопец прызнаўся, што кахае іншую, але гэтую возьме, бо я так хачу... Я спалохалася і пачала прасіць яго, каб ажаніўся з тою, якую кахае. З ніводнай не ажаніўся, перашкодзіла сьмерць. Ад'язджаў мой брат пакуль што з мужавай мамай у Пятрэвічы.

У Зэльву прыехаў бел. канцэрт. Артысты прыйшлі да нас запрасіць мяне на яго. Я вельмі хораша апранулася, адзеньне ў Празе шылася з густам, і таму на мяне ўсе зьвярнулі ўвагу і немцы. Я стаяла разам з іншымі жанчынамі, і мяне за руку стуль вывалаклі наперад. Артысты вельмі хацелі, каб і я нешта сваё сказала. Я шчыра паясьніла ім, што гэта не для мяне... Канцэрт быў вельмі добры, і мясцовы бацюшка запрасіў артыстаў да сябе. Там пры чарцы ім вельмі разьвязаліся языкі, амаль кожны тост быў за мяне. Паразьбіралі ўсе драбніцы з маёй сумачкі сабе, як сувеніры, а тоўсты немец пачаў пытацца, што я за такая важная пэрсона, няўжо нельга ўспомніць таксама і «Дойчлянд»? У людзей выявілася ўся нейкая спрэсованая нянавісьць да ўсяго, што не наша, было дзіўна.

Назаўтра быў ужо Славачка. Яшчэ з усходам сонца зноў пад акном паявіліся артысты, яны клікалі мяне. Усе мы пайшлі на зэльвенскія могілкі, скуль было відаць Зальвянку і другі яе бераг, які ўжо лічыўся «Остлянд», а мы былі «Райх»... Сьмешна, каб не трагічна... Мы маўчалі, сэрцам ахапілі ўсю нашую зямлю, гутарылі што хацелі, ня верылі ў нейкіх даносчыкаў спасярод нас... Пасьля пасядалі, хлопцы мелі гарэлку і закуску. На першай траве выпілі па чарцы, пакаціліся сьлёзы. Хораша ляжаў, выцягнуўшыся на траве, Славачка, быў задуманы.

Артысты, забраўшы сваіх жанчын, адыходзілі. Яны неслі тое, дзеля чаго галоўнае езьдзілі па сёлах: кашы з яйкамі, з салам. Несьлі іх на калочку па двое. Ім не было ні карэты, ні машыны, йшлі пешкі. Усе абнялі мяне, кожны пацалаваў. Праз сьлёзы нешта гаварылі. Пасьля я прачытала ў беластоцкай газэце вельмі цёплае апісаньне нашай гэтай сустрэчы. Пасля я праводзіла Славачку. Конь у яго быў харошы, але ехалі мы памаленьку, гаварылі пра бацькоў. Ехалі далей і далей і не хацелася расставацца. Нарэшце далёка за Бародзічамі абняліся, расцалаваліся. Я пайшла хутка, каб не аглядацца, але не стрывала, калі павярнулася, дык убачыла жудаснае. На месцы стаяў і конь і брат, і ўся яго магутная постаць уздрыгвала з плачу. Мы болей у жыцьці не спаткаліся. Я засталася пры мужу, а сэрцам ірвалася туды, гдзе гэты верны, найдарожшы мой брат, каб, забраўшы сына, з ім разам чакаць бацькоў.

Другі раз для мяне зацьвіў бэз гэтай вясною. Мне сьнілася, як ён асыпаў парог наш. «Бэз асыпаў квецем твой парог, Расьціславе, наймілейшы браце».

Назаўтра прыехаў Яначка. Яго проста выкінулі са Слоніма. Немцы, якіх ён лячыў па сваёй спецыяльнасьці вэнэролага, парадзілі яму маўчаць і казаць толькі «яволь», г. зн. нешта накшталт «так ёсьць». Ён так казаў: далі яму хатні арышт і за тыдзень папперлі. Палякі на гэты раз зрабілі нам добра, іх даносы, на шчасьце, ня скончыліся сьмерцю мужа. Нядаўна бацька Алега Лойкі езьдзіў, як сьведак на Эрэна, слонімскага камісара, у Нямеччыну. Разглядалася і справа расстрэлу мужа. Выратавала яго, як я раней пісала, Прага, знача, зноў — Піпэр.

Прыезд мужа быў як дзіва, як цуд. Нам проста ў такое ня верылася. У паперы, якую яму далі, забаранялася яму мэд. практ. на тэрыторыі ўсяго т. зв. тады «Остлянду»... Янка бараніў сёлы і сьмела выступаў супраць Эрэна... Палякі цешыліся, далёка глядзець і бачыць яны не ўмелі...

Нехта, хто дапамог выкінуць мужа са Слоніма, зрабіў нам добрую ўслугу. Па тым, што ўначы стралялі па мужу, што даносілі на яго палякі і не любілі немцы, можна было судзіць, што жывым ад іх ня вырвацца, бо наогул ліквідавалі людзей самахоць. А гэта бы цуд: ехаць у Прагу! Доўга мы не пабылі ў бацькоў, паехалі яшчэ паглядзець у Пятрэвічы, у тыя некалі так камуністычныя за Польшчы. Сваіх родзічаў мы



засталі на сялянскай вечарынцы... Я сумелася: такая вайна, партызаншчына, амаль сьмерць па дарогах, а сяло гоне самагонку, п'е, і вось скачуць сабе, як у мірную пару. Мы не маглі так, боль зямлі адгукаўся ў сэрцы. Мне далі дазвол паехаць да брата, але муж мяне не пусьціў — мы сьпяшаліся ў Прагу.

Да Ваўкавыска ехалі прыгарадным цягнікам, людзі прыглядаліся да мяне, зьвярталіся з пытаньнямі, з просьбамі. Мы затрымаліся на пару дзён у Бэрліне, сустрэліся з сябрамі на супольнай вячэры, гдзе ўсё было на карткі. Хвалілі мяне, выступаючы, нашыя сябры, а Мікола, які выступаў апошні, дык сказаў проста: «Яна наша Жоанна Д'арк». Мне пацямнела ў вачах. Ранюсенька мы паехалі. Некалькі асоб нас праводзіла, занялі нам месцы загадзёў. Я доўга трымала ў руках букет чырвоных ружаў, і здавалася мне — чую галасы сяброў.

У Празе пачаліся нечаканыя клопаты, паводле загаду са Слоніма мужа належала адправіць на працу ў Нямеччыну, як лагернага лекара. І чаму ж такая нянавісьць з таго Слоніма, што там Янка мог нарабіць? Мне прыпомнілася, як крыху раней наведаў мяне ў Празе адзін вельмі элегантна апрануты чалавек. Ён быў урачыста настроены і вельмі паважна прасіў мае рукі: дазвольце мне заапекавацца вамі і вашым сынам. Мяне затрасло, але я папыталася ў яго, на якой падставе ён просіць мае рукі пры жывым мужу? «А ён не вернецца болей»,— адказаў мне нядошлы, няўпорны жаніх мой. Болей я, здаецца, нічога не пыталася, а толькі енчала са злосьці на ўвесь пакойчык, а той «жаніх» ляцеў па сходах з цыліндрам у руках.

Знача, у Празе ведалі, што муж мой жывым ня вернецца... Знача, зноў пашкадаваў Бог нашую сямейку. Мне не заставалася іншае рады, як зноў йсьці да фрау Піпэр прасіць ратунку. Па беларускаму абычаю з пустымі рукамі я не йшла. Хоць падаркі мае былі не вялікія, але былі яны патрэбныя. Муж дастаў працу ў арбайтсамце, там, гдзе высылалі людзей на працу. Што ж, гэтае месца добра аплачвалася, але яно вельмі не падабалася маяму мужу. «Не хачу грошай, не хачу рабіць там,— скаржыўся мой Іван Пятровіч,— хачу быць лекарам і толькі лекарам».

Зноў я пайшла да добрых людзей, хоць я ім добра ўжо надаела. Вельмі быў зьдзіўлены доктар Піпэр, што муж адмаўляецца ад такіх грошай, каб толькі далей дасканаліць сваю мэдыцыну. Тады я толькі зразумела ўсю мудрасьць нашага прыяцеля, калі мужу далі малаплатную, але вельмі харошую працу ў касе хворых. Там працавалі сапраўды выдатныя лекары, ад якіх можна было многа навучыцца. Яшчэ яны пры дапамозе сваіх сяброў памаглі нам памяняць кватэру, бо Юрачка падрос, і ложачка яго было ўжо замалое, а большага не было гдзе дзець.

І так мы пераехалі на вуліцу Гэжманову, № 7. Штодзённа я выпраўляла сваіх хлопцаў — аднаго ў школу, другога на працу. Чакала дамоў з нецярплівасьцю, бо час быў неспакойны і кожны шчасьліва пражыты дзень быў ужо сам па сабе выйгрышам. Прыходзілі да нас землякі. Я забылася сказаць, што зараз пасьля маяго прыезду ў Прагу зайшла да нас аднойчы доктар Галубянка. Была яна тоўсьценькая, невялічкая, добра апранутая, мілая. Гутарыла са мною вельмі расчулена, здавалася мне, што ўсяго яна мне не сказала. Болей я яе ня бачыла. З пачаткам вайны яна закончыла жыцьцё самагубствам. Да нас многа прыязджала сяброў. Людзям было цікава, як выглядае іх паэтэса, якая піша так, як яны думаюць, як яны адчуваюць. Харошы, вартасны доктар Тумаш і далей выгладжваў мае вершы, хоць пісаць пачала я меней, да мяне пачалі прыглядацца, чапляцца крыху, дакараць мяне за мой пэсымізм. Пасля падарожжа ў Зэльву цяжка было быць аптымістым. Вайна пакінула крывавыя сьляды па народзе нашым, на зямлі незасеянай, на харошых нашых гарадох і найстрашнейшы сьлед на няшчаснай сям'і маёй.

Часта пісаў брат. Я праз Жэнэву, праз польскі Чырвоны крыж шукала братоў і мамы, вывезеных у Казахстан. Расьціслаў быў рад, што сьпіць ён пры адчыненых вокнах, што людзі так цудоўна адносяцца да яго, разумеюць яго. Але людзі ёсьць людзі, вось і напалі на Жлобаўцы нейкія іншыя партызаны, і Расьціслаў ледзь выратаваў жыцьцё... Ехаць да нас у Прагу ён ніяк не хацеў, чакаў нашую няшчасную маці, каб мела куток свой, хлеба кавалак на старасьць. Юра добра вучыўся, многа чытаў. Муж купляў яму шмат кніжак. У яго была свая шафка, свой куточак. Хлопчык быў дасьціпны, умеў ужо думаць, арыентавацца ў няскладным жыцьці ваеннага часу. На ўсходзе немцы адступалі, і фронт ужо прыбліжаўся да Беларусі, зноў распоруць снарады грудзі роднай зямлі і загіне нямала тых, хто найлепшы ў народзе. Немцы, на-

пэўна, і самыя ўжо ня верылі ў перамогу. Стала нейк меней страшна. Прайшла першая гадавіна сьмерці дзядзькі Васіля Захаркі, зацьвіў у Празе і перацьвіў бэз.

Аднойчы муж прыйшоў з працы вельмі занепакоены, яму загадалі на працу па тэлефоне заўтра з самага раньня прыйсьці ў гэстапа. Мы не заснулі, ці мала ёсьць прычын, каб згубіць свабоду і нават жыцьцё ў такі час... Назаўтра муж вярнуўся дамоў яшчэ сумнейшы: яму загадалі, каб мы траіх — муж, я і Юра — ехалі адразу ў Менск на кангрэс. А чаму Юра? Загад з Остміністэрства... Знача, зноў Ермачэнка, зноў ягоная чорная рука цягнецца да маяго горла. Прашу ў мужа, каб узяў пасьвядку з месца працы, што ня можа пакінуць свае работы, якое так многа вайною, проста кажу яму, што для чына ён важней, чымсьці я. Ехаць некаму трэба, але ехаць супраць фронту — гэта ехаць на сьмерць... Толькі б не ехаць ім, бо тут адчуваецца зноў капкан...

Еду я адна. Я не звярталася цяпер да фраў Піпэр, але яна сама прыйшла да нас, каб ратаваць мяне. Было позна, ехаць было трэба. З Прагі ехаў яшчэ паводле таго ж загаду і інг. Васіль Русак. Знача, мы ўдваіх. Думаць не было часу, у жылах яшчэ была маладосьць і страх, адзіны страх толькі за сваю сям'ю, а яна застаецца ў Празе.

У Прагу прыехаў якраз Адольф Клімовіч, ён затрымаўся ў нас. Прыехаў, каб ратаваць беларусаў. Беларуская хадэцыя пастанавіла ратаваць сваіх, перапраўіўшы іх у Чэхаславаччыну, дзеля таго і прыехаў у Прагу Клімовіч. Ведаючы адносіны бальшавікоў да рэлігіі, можна было спадзявацца вынішчаньня, фізычнага вынішчаньня нешматлікіх бел. хадэкаў. З немцамі ім было не па дарозе, і яны не хацелі ўцякаць з імі разам. З кароткай гутаркі з Клімовічам было відно, што чэхі арыентуюцца толькі на рускіх, чакаюць іх і хочуць паспрабаваць супрацоўнічаць з імі. Клімовіч прадбачыў канец такога кантакту і выказаў свае меркаванні, але хто не спрабуе, той не паверыць тым, якія ўжо добра пазналі адных і другіх. Чэхі лічылі сябе найболей культурнымі і разумнымі з усіх славянаў, і ім здавалася, што яны ў падобным саюзе будуць мець гэгэмонію над адсталымі расейцамі і ўсімі славянамі, што ўсё будзе паводле іх планаў, асабліва ўся эканоміка. Іх пераканаць у тым, як яны памыляюцца, было нельга. Што ж, каго бог хоча пакараць, таму адыме розум.

Я прыгатавала крыху прадуктаў, што ў вайну можна было прыгатаваць, каб Янка меў дастатак, а Юрачку мы аддалі Ружэне Вітмаеровай, жанчыне, якая часта наведвалася да нас і была, здаецца, савецкай шпіёнкай, але тады мы аб гэтым ня ведалі. З сабою я амаль нічога ня брала, апрача бутэрбродаў і бутэлькі каньяку на ўсякі выпадак. Муж і Клімовіч праводзілі мяне да цягніка. Я ўбачыла, што забылася ўдома свае невялікія грошы і партманэ. Клімовіч па іх паехаў. Быў гэта ўжо з самага пачатку нядобры знак.

Нарэшце я папрашчалася з імі і цягнік рушыў. Муж плакаў сьлязьмі. Ехалі мы да граніцы з Польшчаю. Русак маўчаў, ён нешта думаў і толькі соп, я да яго не аказвалася. З намі ехала сям'я вельмі цікавых людзей. Яны папыталіся ў мяне, куды мы едзем. Даведаўшыся праўду, не маглі супакоіцца. Яны гатовыя былі вярнуць мяне сілаю назад, прадбачылі найгоршае. Яны слухалі забароненае радыё, чаго баяліся рабіць мы. Пару гадоў ужо, як нам дасталі кароткія хвалі з радыёпрыёмніка і на гузічак начапілі картку, у якой было, што за слуханне чужога радыя грозіць сьмерць. Баяліся мы за сына. Часам толькі прыходзілі Міціныя і ўсоўвалі ў прыёмнік шпільку. Нехта стаяў на вахце, і такім чынам слухалі забароненае. Баяліся мы дворнічыхі, і нездарма. Усемагутная даносчыца пры немцах, такой жа была пазьней і пры бальшавіках.

Чэхі папрасілі ў мяне мой адрас, далі мне свой. Я абяцала ім паведаміць адразу аб сваім падарожжы, безумоўна, калі вярнуся, на што паводле іх было мала надзеі. Бліжэй Польшчы паявіліся немцы, якія ехалі дамоў на «урляуб». Былі гэта відавочна фольксдойчы, бо гутарылі па-польску. Везьлі яны з Італіі шаўковыя панчошкі, шоўк і іншыя падарункі сваім дамам. Сярод іх выдзяляўся вельмі востры на язык аўстрыяк у скураных кароткіх нагавіцах, малады яшчэ. Я маўчала, але ён нешта ў мяне запытаўся абыякавае, я адказала яму паважна, мусяла сказаць і тое, куды я еду. Аўстрыяк, які ехаў мабілізавацца ў Варшаву, вельмі спалохаўся, ён таксама рад бы вярнуў мяне дамоў, але мы пад'язджалі ўжо да польскай граніцы.

Мы пераходзілі ў польскі цягнік, а пакуль што йшлі на таможню. Аўстрыяк узяў



мае рэчы і пэўна стаў побач мяне. Я ў жыцьці ня бачыла такога страшнага, зьверскага чалавека з сядлаватым носам, як той галоўны тамажнік. Ён енчыў, іраў, кідаў рэчы і наводзіў на ўсіх жах. Палякі нейк не палохаліся, яны, відавочна, прывыклі, але ў Празе падобнае было хіба толькі на гэстапа. У мяне быў пашпарт без грамадзянства, але зьвер схапіўся толькі за маю кніжку «Ад родных ніў», ён трос ёю і нешта крычаў, што тут за русіш літаратура. Спалохаўся і мой спадарожнік і папытаўся ў мяне, што за кніжка, калі я яму расталкавала, што кніжка мая выданая ў Празе, ён праверыў гэта, пагаварыў нешта са зьверам і, схапіўшы мой чамадан, павёў мяне хутчэй у цягнік. Я мусяла сказаць яму, што я паэтка, што прывяло фрыца ў захапленьне. Дзіўны быў гэта чалавек, прозьвішча было ў яго славянскае, ён зусім перамяніўся і ледзь не плакаў, што мне трэба ехаць у самое пекла. Ён запрасіў мяне на абед у рэстаранвагон, гдзе шчодра дазваляў абстрыгаць свае картачкі на нас дваіх. Я запрапанавала яму каньяк, а ён мне аддаў свой дэсэрт. Немцы на нас паглядалі, але ён трымаўся як джэнтльмэн. У Варшаве ён завёў нас з Русаком у пачакальню для немцаў і не адышоў ад мяне, пакуль не здаў мяне на рукі доктару Шчорсу, якога аднайшоў у Варшаве, і не пераканаўся, што гэта зусім парадачны чалавек і мне нічога не грозіць. За ўсё гэта прасіў толькі, каб я яму адказала на ліста, калі ён мне напіша ў Прагу. Як жа сардэчны, як жа харошы быў гэты чалавек, быццам Піпэры.

Варшава здалася мне сумнай, бязлюднаю, кожны дом, гдзе былі немцы, быў аплецены калючым дротам. Гэта падняло маю павагу да палякоў. Мейсцы ў трамваях былі падзеленыя для палякаў і немцаў. Людзі на вуліцах былі настарожаныя, сумныя, апранутыя вельмі скромна.

Шчорс вёз нас да сябе, гдзе ля шпіталя была ў яго кватэра. Мы спачатку пайшлі з ім да яго маці, якая ляжала пасьля апэрацыі на апэндыцыт. У Шчорса былі яшчэ сябры з Бэрліна, ехаць на кангрэс ён не зьбіраўся і дзівіўся, куды гэта нясе нас.

Мне вельмі хацелася ведаць, што ж задумаў на гэты раз Ермачэнка... Неабыякавасьць яго да мае асобы настарожвала.

Назаўтра раненько мы ўжо ехалі ў напрамку Беларусі. Каля Беластоку ўжо пачалі паяўляцца цягнікі пад адкосам, і штораз то іх было болей. Цягнік йшоў толькі да Ваўкавыска, а там былі толькі цягнікі вайсковыя, на якія нас ніхто не хацеў браць. Русак як пень, нічога ня думаў, не прадпрымаў, сядзеў, соп і драмаў. Мне сказалі, каб я зьвярнулася да нейкага начальніка. Той быў вельмі расстроены. Сумна паглядзеў на мяне і папытаўся, ці не баюся? Кажу яму, што не баюся і ехаць нам трэба. Ехалі мы мінаючы Зэльву, а там недзе быў брат мой, былі мужавыя бацькі, але спыняцца цяпер ля іх было небясьпечна і мне і ім. Спыніцца ў такі час — гэта знача застацца назаўсёды, а ў Празе чакала дзіця.

Нарэшце селі мы ў цягнік, гдзе ўсе ваенныя і ніводнай жанчыны. Акружылі мяне немцы, якія ехалі з адпускоў у Менск. Яны хвалілі беларусаў, баяліся партызанаў. Да цягніка падбягалі дзяўчаты з маслам і яйкамі, адной з іх я пачапіла свае пацеркі, так мне хацелася нешта пакінуць тут.

Мне вельмі хацелася піць, пад'язджалі да Мастоў. Усюды былі надпісы «толькі для немцаў», гэта было аж страшна, і мяне проста ўзрывала ад гэтага. Я ўвайшла ў буфет і кажу: «Я не немка і хачу піць, вось вам грошы, папрашу ліманад». Мне далі бутэльку, і я яе забрала ў цягнік. Адпускнік немец парадзіў мне болей гэтага не рабіць. А як жа тут вытрымаць, калі кожная нечысьць толькі і ведае, што заводзіць у нас розныя свае парадкі, абсалютна не беручы пад увагу карэннага насельніцтва краіны, яго найсьвяцейшых правоў... Колькі ж будзе такое трываць?..

Цягнік ляцеў насупраць ночы. Ля палатна дарогі паваленыя цягнікі і бункры, бункры. Лясы высечаныя ля чыгункі шырокаю паласою, а далей шэрыя хаты, саламяныя стрэхі і бяда там напэўна і страх. Яшчэ толькі шчасьце, што корміць зямля, а нашыя ўмеюць пражыць і на камені...

У нашае купэ набілася немцаў, усе мне нешта расказваюць. Гэта танкісты. Я не ўсё разумею, стараюся слухаць. У іх страх, боль, і нейкая безнадзея, наракаюць на ўсюды існуючых партызанаў. Адзін немец пытаецца ў мяне, ці не баюся так адна між самымі мужчынамі? Кажу, што не, што немцы, іх ваякі — рыцары; ілгу як нанятая. «Ну, мы рыцары ў сябе ўдома, а на заваёваных землях мы не рыцары»,—кажа фрыц. «Што ж,— адказваю,— сапраўдны рыцар — усюды ён рыцар»,— і гляджу немцу ў вочы, ён іх адварочвае ўбок.

Але вось спыняецца цягнік, чутно стрэлы. У купэ ўваходзіць афіцэр, разганяе кампанію і кажа: «Тут будзем стаяць ноч, ля цягніка ёсьць бункер, але ён толькі для немцаў, калі баіцеся ў цягніку, можаце йсьці ў бункер». Я кажу: «Так, я вельмі баюся, але ўсё ж застануся тут, дзякуй вам за ласкавасьць». Афіцэр выйшаў. Русак соп у кутку, недзе стралялі, зрабілася вельмі халадно. Я, здаецца, задрамала. Пад ранкі пачуўся рух, салдаты запалілі малую печачку, стала цяплей. Ля нас паявіўся шустры немец, якому круціліся вочы, ён усё выпытваўся: чаго мы едзем, скуль, хто мы.

У тым часе Русак дастаў карту Беларусі, якую нарысаваў яму некалі Жук, гдзе граніцы Беларусі больш-менш былі згодныя з нашымі этнаграфічнымі. Карта ў руках цывільнага пасажыра зьбянтэжыла немца, ён вырваў яе Русаку з рук і пачаў разглядаць і крычаць нешта. Я тут крыху спалохалася, гдзе ж такое рабіць, едучы насупраць фронту. Дала я немцу бутэльку з каньяком, паказала дазвол з Прагі, каб толькі ён ад нас адчапіўся.

На лініі стукалі, нешта строілі, што ноччу папсавалі партызаны, выехалі мы позна. Наперад йшла плашчадка з пяском, ехалі памалу, спыняліся. А цягнікоў паваленых было не пералічыць. Адзін ляжаў, і дым яшчэ йшоў з паравоза. Ну і партызаны! На нейкай станцыі насядала салдат, вагон быў поўны, ехалі яны на фронт. Мне гэта ніхто не казаў, але выгляд іх быў дзіўны, у адных нейкі адсутнічаючы, у другіх атупелы. Задуманыя трагічныя твары з зачыненымі ачыма. Адзін еў, другі разглядаў фатаграфіі, і здавалася, што плюнуў бы ён на гэтую ўсю бойню, каб мог бы, і ўцякаў бы да свае сям'і. Думалася: якое гэта варварства — вайна, якое ўзаемнае забіваньне...

Нарэшце мы апынуліся ў Менску, зьлезлі з цягніка. Падбеглі да нас рыкшы, самыя сапраўдныя хлапчукі, упрэжаныя ў тачкі. Дзікасьць несусьветная. Узвалілі мы аднаму такому свае рэчы, ён і павёз. Гляджу на Русака і кажу: «Вось і прыехалі мы на Беларусь, каб бедны хлопчык валок нашыя рэчы». Русак падышоў да хлопчыка, упрогся разам з ім у тачку, і так яны йшлі пасярод вуліцы.

Менск ляжаў паранены, разьбіты, адныя руіны і нішчата. Я пачала плакаць, нэрвы мае ня вытрымалі. Не магла глядзець на шэрых, убогіх маіх землякоў, на іх твары худыя і на кантраст — сытых немцаў...

Нам паказалі будынак, гдзе быў кангрэс. Мы прыехалі позна, кангрэс ужо адбыўся. Да нас падыходзілі людзі, знаёміліся з намі. Мяне ўсе ведалі з літаратуры. Твары людзей чырванелі з нейкага неспакою, аказалася — яны выступалі горда, моцна супраць усіх ворагаў Беларусі і супраць немцаў, не скрываючы гэтага. Кангрэс гэты дазволілі нехрысты толькі адступаючы, калі гінулі ўжо самыя, тады толькі згадалі пра нас. Людзі разумелі гэта.

Да мяне падышоў Вітушка, сказаў, што завязе мяне да Арсеньневай. Калі апынуліся ля ягонай машыны, такога нейкага «казла», ён спыніўся і кажа: «Ларыса Геніюш, я ненавіджу немцаў, я толькі і толькі беларус, але нам трэба здабыць яе для народу, гэту зямлю нашу, і трэба нам усё дзеля гэтага выкарыстаць... Я мусяў сказаць вам гэта». «А я і так гэта ведала».

Мы паехалі да Кушаляў. Натальля Арсеньнева была сама ўдома, мы прывіталіся. Я памылася. Раптам увалілася ў хату поўна моладзі, яны хацелі, каб я пабыла з імі, у іхняй кампаніі гэты вечар. Натальля А. іх ветліва ўсіх выправадзіла. Мяне ўлажыла ў пасьцель, і я плачучы, як дзіця, заснула. Вечарам збудзілі мяне, прыйшоў Кушаль. Мала ў жыцьці я сустракала так шляхотных, бескарысьлівых патрыётаў, якім быў Кушаль. Ён, як і Вітушка, жыў і дыхаў толькі тым, што мог нешта рабіць для Беларусі.

Мы былі ў такім становішчы, што нам нельга было абмінуць найменшай магчымасьці, гдзе можна было б заявіць аб тым, што мы людзі і зямля гэта — наша зямля! Аб сабе з нас мала хто думаў, думалі аб народзе, аб справе. Нам нельга было падняць наш народ, але старацца захаваць яго фізычна, ратаваць яго ад ворагаў, ад абыякавых, штурхаючых сёлы на гібель, было неабходна.

Малая розьніца між немцамі і рускімі для нас, адказаў мне Кушаль, калі я ганіла немцаў. «Яны нелюдзі, але і тыя нічога добрага, акрамя лагероў і смерці, пакуль што не прынясьлі нам». Я змоўкла. Пачалася трывога, і мы спусьціліся ў склеп, гдзе я адчувала сябе як у Празе, бо публіка была там эўрапейская. Аказалася, што ў гэтым доме жывуць немцы і склеп супольны. Назаўтра з Натальляй А. мы пайшлі ў Дом Ураду. Нас агледзелі, далі пропуск, і мы падняліся наверх. Сустрэў нас першы Кастусь Езавітаў. Ён быў несказана рады з нашае сустрэчы, бо даўно ўжо шмат пісаў мне, называючы мяне салаўём беларускай эміграцыі. Прыйшоў да нас і Юрка Віцьбіч. Ён сабраўся ад'язджаць, раскрыў свой чамаданчык і паказаў мне, што акрамя кашулі ўзяў з сабою ў дарогу маю кніжку... Назьбіралася моладзі. Нехта нас фатаграфаваў. Пасьля Езавітаў пазнаёміў мяне з Радаславам Астроўскім. «Я чуў пра вас»,— сказаў мне Астроўскі, нейк крыху непрыязна глянуўшы на мяне. «І я пра вас чула»,— кажу яму ў адказ. Прэзыдэнт сьпяшаўся, сказаў усім сабрацца ў вялікую залю. Мы туды пайшлі таксама. На цэнтральнай сьцяне вісеў вялікі партрэт Астроўскага. Людзей сабралася поўна. Астроўскі загадаў усім эвакуавацца, каб пайшлі атрымаць трохмесячную зарплату і зьбіраліся ўцякаць. Людзі заварушыліся. Я ўбачыла свайго знаёмага яшчэ з дзяцінных гадоў, ён падышоў да мяне, і я крыху супакоілася, бо ведала, што гэты харошы чалавек выратуе мяне з найгоршага. Мы зноў паехалі да Кушаляў, але без Натальлі. Яна пабегла да бацькоў Адамовіча, якія былі самыя, яна наагул найменей думала пра сябе, памагала іншым.

Усім было загадана сабрацца ўжо з рэчамі ля будынка, гдзе быў кангрэс. Я пачала пакаваць рэчы Кушаляў, завязваць усё ў клункі. Кушаль паглядзеў па хаце і кажа: «Трэба, каб нашае сэрца было пры нас, глупства ўсё гэта, набытное». Пакідалася многае. Насмажыла я нейкай яечні, накарміла ўсіх, і мы паехалі на той panaдворак, гдзе ўжо сабралася многа людзей. Ні відно было чамаданаў: клункі, клункі. Сэрца сьціскалася, гледзячы на гэтых людзей. Куды ехаць, да каго ехаць? Мы, якіх павыклікалі з-за граніцы, мелі права ад'ехаць цягніком. Было нас даволі. Сябры выпрасілі нейк пэрсанальную машыну Астроўскага і злажылі туды свае рэчы. Пасадзілі мяне ў машыну, каб ехала за імі, калі прыйдзе шафёр. Поўная машына партфэляў, чамаданчыкаў, і я сяджу ля іх, вартую. Твар у мяне заплаканы, хоць усе да мяне тут добра адносяцца, але горад у руінах гняце несуцешна. Немцы едуць, гаргечуць, а мы тут седзімо, чакаем варожае ласкі — згінь ты, прападзі... Падышоў да мяне Алесь Салавей, прысеў такі прыгожы юнак, прадэклямаваў мне мае вершы. З маленькім клуначкам і маладою жонкай з дзецям на руках падышоў яшчэ адзін паэт. Гэта ўсяго іх багацьця. Душаць сьлёзы. Для ўсіх багатая мая Беларусь, жывуць тут і пасуцца розныя адшчапенцы, толькі для сваіх дзяцей яна такая няшчодрая. А яны яе любяць, нясуць жыцьцё свае ёй у ахвяру і гінуць, і вецер заносіць пылам сляды іх. Між іншым той паэт з жонкаю трапіў да баўэра ў Нямеччыне. Памерла дзіцятка іх, не было ў чым пахаваць, аж кляты фрыц зьлітаваўся, даў дзьве дошчачкі беларусянятку памершаму. Закапалі малое, як жывёлінку.

Сяджу, чакаю шафёра. Нарэшце бачу: сунецца дзябёлы дзядзька і, убачыўшы мяне, аж грыміць, што я раблю ў яго машыне. Кажу: «Гэтыя рэчы пакінулі тут сябры і казалі, што вы завязеце іх і мяне на станцыю». «Я нікога не павязу, гэта не мая справа»,— грыміць яго вялічаство прэзыдэнтаў шафёр. Ах так, дрэнь, калі столькі людзей у небясьпецы і трэба ім дапамагчы, ты тут будзеш слухаць мяне ці не слухаць? Дык ведай, ведай, воўча шкура, што вязьці мяне завялікая чэсьць для цябе, нехрыст. Крычу, а сама выкідаю рэчы з машыны ў горбу. Шафёр сумеўся, можа, ужо і павёз бы мяне, але з такім зьверам, халуём нямецкім сама не паеду! А той жа прэзыдэнт дазволіў сябром машыну і што ён тут зьдзекуецца. Людзі глядзяць на мяне, як на дзіва. Падыходзіць, кульгаючы, нейкі чалавек, дае мне палку і кажа: «Дайце яму гэтай палкаю, прахвосту, надаелі яны мне, я лекар, я хацеў тут зрабіць беларускі чырвоны крыж, яны, вось такія, як ён, не далі мне, гады». Падымаецца бунт на дзядзінцы: капітан жа сыходзіць з карабля апошні! Ніхто не думае пра людзей. Ажно вярнуліся сябры, цягніка няма. Бачаць яны, што тут робіцца, маўчаць, крывяць насамі, а да мяне падыходзіць бацюшка, ды мой сваяк прытым, прапануе фурманку сваю на рэчы і гасьціну ў сваім доме, што ля вакзала, каб было бліжэй. Яго чалавек ужо пакуе чамаданы на фурманку, але тут перашкода. Зьнекуль явіўся нейкі тып высокі і чорны, называецца Сьцяпанаў. Учапіўся да маіх мужчынаў, а іх якіх 10 чалавек, каб нікуды не ехалі, што ён завядзе нас у сховішча, там пераначуем і г. д. Не дае пакаваць рэчаў. Я крычу, каб ён адышоў і каб яго ніхто не слухаў, бо яго сховішча ў руінах — гэта чортавая лавушка! Я чую руку Ермачэнкі, вось ён яшчэ хацеў, каб быў тут і муж і сын наш, якому дзесяць гадоў няма... Не адыходзіць, бандыт, толькі кажа: «Не слухайце гэтую жанчыну, не едзьце да папа, мы тут весела з вамі правядзем вечар». Мне ўсё ясна, нас тут трэба ўсіх забраць. Безумоўна, ня немцам мы патрэбныя. Ясна, як божы дзень. Мяркую, каб бліжэй да станцыі. Ужо

іх некалькі сабралася супраць мяне. Нарэшце кажу: «Хто хоча ехаць са мною, няхай едзе, а не, дык будзе вам горай!» Сьцяпанаў дастаў пачку папяросаў, цэлую сотню, і частуе імі Езавітава, а той глянуў на яго і кажа: не да смаку мне вашыя папяросы...

Фурманка паехала, і ўсе мы пайшлі за ею. Ніхто не адышоў. Не адышоў і Сьцяпанаў з дружкамі. Вёў нас тры кіламетры да таго бацюшкі, усё пераконваў, каб вярнуліся, але выйграла я! Дачка татавай сястры цёці Мані была жонкай айца Лапіцкага, вось мы да іх і прыехалі. Старэнькі сьвятар Балай сядзеў ля стала і заставаўся з намі, галоўнае, са сваімі рэчамі, а мае сваякі і жонка і сын айца Балая ад'язджалі ў царкву, гдзе вельмі моцны склеп. Сястронка мяне не клікала, а я села на канапу ля стала, зьняла чаравікі і ўздыхнула. Супакоілася нарэшце. Сябры былі пры мне. Сьмешна. Пасьля пайшлі мы з Езавітавым на станцыю. Усюды ляжала поўна раненых, стагналі. Цягнік йшоў толькі ў пяць раніцай, але, каб дастаць білеты на яго, трэба было мець посьвядку аб дызынфэкцыі ад вошаў — энтляусунгшайн... Ах, ну ж і немцы, гінуць, падцягваюць порткі на хаду і яшчэ трымаюцца да апошняй хвіліны распарадку, ну і орднунг!

Я зноў на канапе, ля стала ўсе сябры, на стале рэвальверы. Усе нервовыя, прыйшлі яшчэ незнаёмыя. Відаць, і яны разгадалі Сьцяпанава, але маўчалі і паглядалі, што будзе. Адзін сябра ведае маю сям'ю, дзеда, ён кажа: «Як жа вы, такое багатай хаты, так ведаеце быт наш, душу нашага народу, скуль вы ўзяліся такая харошая?» Я тут адна сярод іх. Амаль плачуць, што трэба ўцякаць са свае зямлі, гордыя хоць тым, што вельмі моцна выступалі сябры супраць немцаў на кангрэсе. Не называю сяброў, няхай жывуць спакойна. На стале паявілася ежа, бутэлька. Пілі і плакалі і былі ўсе як адзін, а мяне гатовыя бараніць сваім жыцьцём. А тут няпэўнасьць, а можа, не дажывём да заўтра?

Трывога, усе пахаваліся ў склепік, селі на бацюшкаву бульбу і кублы, але Езавітаў выцягнуў мяне за руку, абняў і кажа: «Не бойся, мой салавейка, яны ня будуць горад бамбіць».

Назаўтра ранічкай мы былі ўжо на вакзале. Посьвядкі аб дэзынф. мы з Езавітавым проста купілі. Занялі мы цэлае купэ. Яшчэ да нас прыселі землякі, і цягнік на адыходзе. Тут я замерла, убачыла Сьцяпанава, а з ім нямецкія салдаты, якія напалі на нашае купэ, з крыкам «раус русішэ швайн» усіх нас выкінулі! А цягнік адыходзіць! Даў мне з сабою Кушаль, каб перавезла яму даўгі кажух, а ў мяне яшчэ рэчы. Дала я кажух Сяднёву, паэту, бо ён нічога з сабою ня меў. Усе кінуліся да другіх вагонаў, хто куды, цягнік рушыў, на дручку вісеў Кушалеў кажух, а ледзь жывы Сяднёў ехаў на буферах. Ну і ну... Вось штука, вось Сьцяпанаў...

Немцы сядзелі адзін на адным. Набралі з сабою машынкаў, пакункаў, бурчаць на нас, ледзь не выпіхаюць з вагона. Сябры ўгаворваюць іх, а я прашу, каб не ўніжаліся, ужо што будзе, тое і будзе. Едзем дзесяць мінут, а пятнаццаць стаім і сунемся ўсё так памаленьку. Немцы прыціхлі, усе на мяне паглядаюць, а я кармлю сваіх сяброў, кожны мне прынёс што меў, і я дзялю ўсім беларусам і незнаёмым, усім пароўну. Ехаў там нейкі наш лекар, ехалі іншыя, якіх мы зусім ня ведалі, але з якімі пораўні дзяліліся тым, што было. Немцы бурчэлі, пасьля голасна пачалі лаяцца: для іх мы ўсе былі «русішэ швайн», і яны, седзячы на сваіх трафеях, скрыгіталі зубамі са злосьці, што іх пышны, наглы і ганаровы паход па калоніі закончыўся тым, чым і меў закончыцца,— безгаловым уцёкам дамоў. Хлопцы трывожыліся, але я іх папрасіла, каб стрывалі ўсе рэплікі, маўчалі. Калі было найгорай, дык падняўся адзін старэйшы немец, які сказаў, што ведае нашую мову. Проста сказаў ім: «Вы мелі б вучыцца ад гэтай жанчыны, як быць людзьмі». І яшчэ нешта гаварыў ім. Усе пачалі да мяне прыглядацца, нейкі малады баранэт, якога ў цывільнай вопратцы пасылалі з фронту дамоў, уступіў мне месца, усе мы вальней уздыхнулі.

А цягнік поўз і два разы столькі стаяў, што поўз. На кожнай такой станцыі прыходзілі да мяне сябры, якія трапілі ў другія вагоны. Кожны нешта мне нёс: хто цукерку, хто кусочак бісквіту з хаты, Мірановіч, наш мастак,— вялікую срэбную латышскую манэту «лат», якія латышкі носяць як мэдальёны, а Найдзюк назьбіраў ля чыгункі на замінаваным полі суніцаў чырвоных першых і прынёс іх мне. Пазіраюць на нас немцы, і ім няўцям такое. Адзін ня вытрымаў і пытаецца ў мяне: «Скажэця, мадам, няўжо ў вас столькі любоўнікаў?» Усе мы сумеліся: пра што, пра што, але пра любоў у іх разуменні мы тут начыста забыліся, гледзячы на параненую нашу зямлю.





Ларыса Антонаўна. Пражскі перыяд.

Адзін сябра кажа: «Гэта ж нашая паэтка». Немец не разумее гэтага, кажа, што і ў іх ёсць паэткі, але ж пачуцьця такога да іх няма... І мы ніяк не вытлумачылі немцу нашую ўзаемную, глыбокую, як гора нашае Радзімы, любоў.

Далей ад Менску перапынкі рабіліся меней частымі, на адным з іх зьлез і немец, які задаў нам такое пытаньне. Быў кульгавы і памаленьку пайшоў ля вагонаў. Калі вярнуўся, дык прынёс і падаў мне букецік васількоў, нічога не сказаў пры гэтым, відно, што нас зразумеў. На адным такім перапынку выцягнулі мяне сябры з вагона, была гэта нейкая станцыя, здалёк бег ударлявы сьвятар, і каса толькі паддзыгала яму на шыі. Відно, сьпяшаўся, каб уцячы ад фронту. Мяне паклікалі ў вагон, гдзе я ледзь не абамлела: на лаўцы стаяла бутэлька гарэлкі, закусь, каля яе Ярэміч і жудасны Сьцяпанаў — разам выпівалі... О, сябры мае наіўныя, беспрынцыповыя, недальназоркія...

А цягнік прысьпяшаў, бег, сябры апусташалі мой радзікюльчык, усе прасілі ў мяне сувэніраў, давалі свае. За вокнамі мільгалі сёлы, шэрыя яшчэ хаты і жанчыны ля іх, танклявыя, шэрыя, зажураныя. Зусім як на абразах Міpановіча. Мы стаялі з ім і спрачаліся. Я бачыла заўсёды нашую Беларусь гожай, квітнеючай, радаснай. Ён мне даводзіў, што памыляюся, а я яму казала, што бачу наперад. Па дарозе людзі вылазілі, і стала вальней. Па шляху раўналегла з цягнікам ехала безьліч машынаў — ні канца, ні пачатку... Немцы ўжо асвоіліся з намі зусім, толькі мы на іх мала зьвярталі ўвагі. Паволі сядало сонца, разьвітальныя яго праменьні клаліся на высечаную ад дрэў паласу, на палі, на сёлы, а там было маё сэрца і мае вочы. Мне здавалася: бачу свой дом, цяжка ступае тата па сьцежцы, сьмяюцца сёстры, гамоняць браты, і мама клапоціцца, як прыняць і чым пагасьціць мяне, дзіця, адарванае ад яе сэрца. Заўсёды ўдома, калі заходзіла за хатаю сонца і апошнія яго праменьні нейк трагічна лізалі ўзгорак нашага панадворка, мне рабілася трывожна і сумна за заўтрашні дзень. Сэрца шчамілі прадчуцьці нядобрага, і я бегла дамоў, абвівала рукамі бацькавую шыю, стаўшы на цыпачкі, ці туліла голаў на маміныя грудзі. Яна як бы крывілася крыху з маіх такіх дарослых нечаканых пяшчотаў, але адчувалася, што шчасьлівая гэтым, бо замаўкала і выцірала вочы. У такія хвіліны я цалавала галованьку Люсі і раз сказала на свіньню нашую «сьвіначка-дзецятко», чым мяне пасьля доўга падрочвалі. Я дзякую таму часу за любоў да мяне амаль усіх стварэньняў, дрэваў і самой зямлі. А можа, гэта я ўсё так кахала тады?

Яшчэ маленькай я мела вялікае перажываньне. Мне расказалі пра рай і пекла, і я ўсё думала, як зрабіць, каб мае каханыя бацькі не трапілі ў тое пекла, няхай ужо лепей я за іх адпакутую. Начамі не спала я, часта плакала і вельмі хацела хутчэй памерці. Гэты жах непакоіў мяне вельмі доўга. Я была набожнай з пялюшак, як з пялюшак ужо была вернай дачкою свае Беларусі. Худое, хворае брыдкое дзіця закаханае ў бацькоў сваіх і ў родную стыхію. Сьлёзы ліліся на рукі, а цягнік ляцеў. Пекла не мінавала бацькоў маіх, вораг разбурыў нашае гняздо, а я вось бясьсільная, першы раз бясьсільная ў жыцьці і каб памагчы ім, каб іх ратаваць. Успомнілася, як бягом сьпяшалася дамоў з Ваўкавыска такая малая, вечна задуманая. «Кудэмі йшла дачушка?» — пытаўся раз тата. «Бегла на Лазы, наўпрасткі», — адказваю. «Ах, дзіця маё, толькі што мы пагналі тудэмі трох ваўкоў, разарвалі цялушку...» Ага, цяпер разумею, чаму так раўлі каровы ля кустоў. Усё праносіцца ў памяці, і так хочацца бачыць маці і многае, многае ёй расказаць...

Я не пішу аб каханьні, не люблю выкладаць людзям таго, што часам моцна закранала сэрца. Усё гэта мінала, праходзіла, рабілася буднем, а любоў да братоў, да зямлі, да Бацькаўшчыны была заўсёды ясным, божым сьвятам у маёй душы, і за яе я пераносіла пакуты і не маргнуўшы вокам пайшла на мучэньні, несучы Імя Яе высока, як сьвятасьць, імя маей Беларусі...

Наступіў вечар. За Лідаю цягнік не спыняўся амаль, а пёр што меў сілы. Відно, што там меней было партызанаў. Немцы пачалі сьпяваць пра «Гаймат», як-ніяк яны былі радыя, што едуць дамоў. Мы пазлазілі ля Вільні і пайшлі да Ярэмічаў, які нас усіх запрасіў. Жонка яго, полька, і дачка ня вельмі былі радыя нашаму масаваму нашэсьцю, але нас частавалі, і хутка я адпрасілася спаць. Мужчыны яшчэ разважалі. Назаўтра я там адведала сваю куму пані Маліцкую. Яна вельмі чакала рускіх, бо паявіўся нейкі ксёндз, які іх запэўніў у бацькоўскай любові Сталіна да ўсіх каталікоў. Ксёндз той, ці прадажнае, ці наіўнае стварэньне, быў тады вельмі папулярным у Польшчы. Мы разьвіталіся рана з Ярэмічамі і паехалі ў Вільню прыгарадным цягніком. Твар мне абветраў, папухлі ногі. Йшлі мы пад Вастраю Брамай да Найдзюкоў. Езавітаў яшчэ купіў мне па дарозе ягадаў, Міpановіч нёс марожанае, як малой...

Я з любоўю на іх паглядала і думала толькі, каб яны выратаваліся жывыя з гэтае ўсей бяды. У Найдзюка нас міла сустрэла яго дарагая сямейка, асабліва жонка. Нас вельмі шчодра пачаставалі. Езавітаў і Міpановіч сабраліся ў Рыгу, ім яшчэ трэба было ратаваць багатыя свае архівы. Мы разьвіталіся, як найраднейшыя. Болей у жыцьці мы не сустрэліся.

З Найдзюком і яшчэ з адным сябрам мы пайшлі паглядзець Вільню, гдзе я была першы раз. Зайшлі да ксяндза Адама Станкевіча, быў ён рады. Мой сябра папярэдзіў мяне, што з палітыкаю ксяндза не згодны, але трымаўся ветліва. Ксёндз Адам адразу выклікаў да сябе маё даверра, мы разглядалі яго кнігі. Якраз прыехаў з Прагі Клімовіч і расказаў аб беларускім духу нашае хаты на чужыне. Ксёндз быў узрушаны. Пасьля мы пайшлі на лукішскі пляц, гдзе авеяла нас духам мужнасьці Кастусёвай і вялікай адказнасьці за лёс свайго народу, мовы яго, культуры. Нам не зарысоўвалася нічога светлага, акрамя мураўёвых, як за Кастуся, але слабейшымі быць мы ня мелі права. За нашыма плячыма ўжо былі гэкатомбы ахвяраў за Беларусь. Йшлі мы рознымі напрамкамі, кожны змагаўся, як умеў, і калі змагаўся за свой народ шчыра, знача, і гэта залічыцца. Апошні ўздых Кастусёвы не дасьць нам спыніцца ў самым адчайным нашым змаганьні за лёс Бацькаўшчыны... Я адчувала гэта.

Вечарам доўга па-беларуску гаварыла радыё, мы слухалі, ноччу прыязджалі ўцекачы з Беларусі сумныя, на адлёце далей. Назаўтра мы пайшлі на станцыю. Цягнікі не йшлі. Мы доўга сядзелі, Найдзюк пацяшаў мяне, дзякаваў мне за ўсё, за дух маіх вершаў: «За тое, што ты такая...» Йшоў ваенны цягнік, а ў нас не было ні папераў, ні білета, ды і гутарылі мы абое па-нямецку пагана. Што рабіць? Мы накуплялі нямецкіх часапісаў са свастыкаю ды з фюрэрам, як мае быць, і селі. Што ж, могуць нас расстраляць тут без дазволу... Але страху ніякага! Увайшоў немец, а мой сябра паказвае на полку, гдзе ў чамадане паперы, а сам гартае «Сыгналы» (быў такі часапіс). Праняслo... Я крыху спацела.

На літоўскай граніцы з Прусьсю мы вылезлі. Тут ужо мы ад дэзынфэкцыі не адкупіліся. Прыйшлося ўсё аддаць у пражарку, і мае пражскія ўборы былі як пажованыя. Вокал было шмат фурманак, гэта ехалі коньмі расейцы ў Нямеччыну, сьвяціў на іх месяц. Пару кіламетраў йшлі мы пехатою да граніцы. Там ад нас патрабавалі паперы, але відно было, што мы эўрапэйцы, ды прытым я захапіла ў Натальлі. А крыху тытуну на ўсякі выпадак, якім і пачаставала пагранічнікаў. Цягнік нас нёс цераз Прусію. На адной станцыі мы ўбачылі сямейку сьвятара Лапіцкага, яны сядзелі на шматлікіх аб'ёмістых клунках. Мая сястронка зацеміла, што ля мяне ўсё мужчыны... Мне стала ўстыдно за яе ўзровень думак і разуменьня, і я была радая, што едзем мы далей ў Інстэрбург. Яны ўсе напраўляліся ў Кэнігсбэрг пэўныя сябе, задаволеныя.

Вось мы і ў Інстэрбургу. Мой спадарожнік, які правёў мяне гэтымі ўсімі шляхамі, вяртаўся назад да сям'і. Яго цягнік адыходзіў зараз, а мой адыходзіў увечары. Я правяла яго да вагона, глянуў ён на мяне сумна і сказаў: «А можа, хоць пацалуеш мяне за ўсё...» Я падставіла яму парэпаную ад ветру шчаку і засьмяялася. Цягнік рушыў. Вечарам на сваім чамадане змучаная, адзінокая, сумная я ехала ў Прагу на Торунь.

Я ў Чэхах! Трэба перасядаць на цягнік, што на Прагу. Забылася, як называецца тая станцыя. Выходжу і бачу перад сабою Русака! Ну і дзіва! Як паехалі, так і прыедзем разам, але ён мала са мною хацеў гаварыць, важнічаў нейк... І вось я ў трамваі пад'язджаю да свае хаты. Як добра ўдома. Нікога няма, ляжаць Юрачкавыя сшыткі, перабіраю іх мімаволі. Разглядаю сябе — рукі брудныя, твар страшэнна абветраны, а ногі спухлі мне, як навоі. Нехта ля дзьвярэй — то вяртаецца муж, першае яго пытаньне, ці прывезла яму кніжкі з Зэльвы?.. Як я вярнулася жывая, як перажыла ўсё, як там Бацькаўшчына перад фронтам — аб гэтым ні слова... І тут я расплакалася... Мне ўспомніліся тыя, якія хацелі бараніць мяне да апошняга дыху, тыя, якія плакалі дзіўна па-мужчынску, пакідаючы Бацькаўшчыну. Я нагрэла ванну, памылася і заснула сном каменным. Назаўтра збудзіў мяне званок, я адчыніла. Расьсмяяна глянула на мяне пані Ружэнка, якой я пакінула Юрку, але твар яе раптам зьбялеў, і злосная грымаса замяніла ўсьмешку... Яна сьмяротна спалохалася, зьдзівілася, што я вярнулася дамоў. Мне пайшоў мароз па скуры. Я і раней ня верыла гэтай жанчыне, якая сілай

 

перлася ў нашую хату, і толькі шкадую сяньня, чаму я тады ня выгнала яе назусім з нашай хаты...

Я, выхаваная ля маці, ня ведала яшчэ, што людзі могуць быць няўдзячнымі за дабро і подлымі шпіёнамі ў сваіх знаёмых. Юрачка быў вясёлы, і адзіны ён рады з маяго прыезду. Цераз пару дзён запрасіла мяне прыйсьці да яе Відавіса Паўлаўна Ляцкая, жонка памершага прафэсара Ляцкага. Яна цікавілася, як выглядае Менск і якія там навасьці. Я паглядала на сьцены іх пакояў, увешаных вялікімі фатаздымкамі Меражкоўскага, Тэфі, Гіпіус, Блока і інш. Гэта ўсё былі іх сябры, якія параспісваліся ўсюды «собственнохвостно», бо ў іх быў нейкі жартоўны «Союз обезьян». Мы пілі каву, размаўлялі. Мяне зьдзівіла зацікаўленасьць Відавісы Паўлаўны маёю асобаю. Я ехала дамоў рада, што страшнае прамінула. Мне не хацелася варушыць думкамі мінулай паездкі, бо нажом у сэрца была думка аб Расьціславе, аб ягонай долі, аб старэнькіх мужавых бацьках... Мне быў патрэбны спакой, каб адужаць.

Удома мяне чакала неспадзеўка. Абодва менскія сьвятары з сем'ямі з Кэнігсбэрга прыехалі да нас у хату... Госьці ёсьць госьці, але тут не гасьціна, а трэба іх нейк ратаваць, прыпісаць, прыстроіць і т. п. Прытым муж мой ня любіць ні сьвятароў, ні клопатаў з імі і наагул нервовы стаў, здаецца, і сам сябе ён ня любіць... Але ўсё нейк зрабілася. У айца Балая быў сын як абраз прыгожы, і калі нехта да нас званіў, дык матушка хавала дзецюка ў туалет ці ў ванну, каб яго ня бачылі, не забралі. У Лапіцкіх было двое дзяцей — Лёля і Жоржык, якраз сябры для Юры. Ён імі і заняўся. Гэстапа не дазваляла іх прыпісваць, і тады я сабе прыпомніла чэскае супружжа, з якім я пазнаёмілася, выязджаючы ў Менск.

Што ж, я знайшла і ўрад і таго чалавека, які быў шчыра рады, што бачыць мяне жывую. Ён завёў мяне да сваяго начальства. А начальніцай «сацыяльнай дапамогі для Чэхаў і Маравы» была фрау Нот. Гэта была высокая жанчына гадоў за 40. Яна папыталася ў мяне аб падарожжы і сказала, што ля Менску была вялікая здрада. Мы гаварылі яшчэ, і так нейк выйшла, што я, усхваляваная тым, што бачыла, папыталася яе, як яна можа стрываць такія паводзіны сваіх землякоў на нашых землях? Яна адказала мне вельмі паважна, што вельмі нізка ўпалі маральна яе суайчыньнікі і яна ня мае права адыходзіць тады, калі патрэба людзей шляхотных і адданых яе радзіме... Гэта было праўдай.

Як мне расказалі чэхі, дык фрау Нот старалася заўсёды зьмягчыць, зьмяніць суровыя загады таго часу і вельмі актыўна памагала чэхам. Яна паклікала пры мне сваю сакратарку і загадала ёй пускаць мяне да яе ў любы час, калі я ні пажадаю. Памагла яна мне лёгка замэльдаваць сьвятароў, яна проста загадвала гэстапа, і яе слухалі. Таго чэха мы запрасілі на пачастунак, на чарку. З фрау Нот мы шчыра пасябравалі, і я магла памагаць цяпер, каму мне толькі трэба. Вельмі міла частавала мяне яна ў сваёй багатай, арыгінальнай кватэры, расказвала пра сваяго жаніха, які працаваў ваенным хірургам. Кожны дзень яна пісала яму лісты. Хутка ўладкавала я сваіх гасьцей на кватэры. Для мяне не было немагчымасьцяў, і людзі радыя мне памагалі, чым толькі маглі. Не пасьпела сказаць Міціным, як яны ўжо адпусьцілі адзін пакой для сям'і айца Балая, а Лапіцкія пасяліліся ў Моджанах з пані Крэчэўскаю ў кватэры дзядзькі Васіля, за якую мы плацілі. Забылася яшчэ адну рэч: пакуль да фрау Нот, дык сьвятарам сказалі, што іх не прапішуць, бо яны не маюць працы. Лапіцкі быў задуманы і нарэшце паказаў мне чарнавік, які напісаў яму Ермачэнка. Знача, сьвятар і там ужо быў...

Ермачэнка надыктаваў, што ён быў у Менску чалавекам веруючым, гуманным, памагаў удовам, сіротам, царкве і г. д. Адна хлусьня, прытым несусьветная, якую Лапіцкі меўся падпісаць. Я адабрала ў яго гэтую пісульку і сама пайшла да пражскіх сьвятароў, да айца Ісакія. Кажу яму: ратуйце нашых сьвятароў, грошы яны маюць, дык вы дайце ім толькі працу на вока, каб іх тут у ціхай больш-менш Празе затрымаць. Гэта мне яны зрабілі з радасьцю і загадалі, каб айцы ўвечары ўжо прыйшлі служыць вячэрню! Во яны зьдзівіліся, калі я ім сказала йсці служыць, а калі яшчэ схадзілі да фрау Нот і ўсё без Ермачэнкі цудоўна ўладзілася, дык айцец Мікалай Лапіцкі і кажа: «Няма ў вас апартаментаў адпаведных, ні машыны, ні нават каракулевага пальта, і Вы можаце зрабіць усё, што хочаце, у Празе, прытым чэснымі шляхамі...» А Ермачэнка недзе ўжо тую паперку гатовіў сабе для наіўных амэрыканцаў... Ну і ну... Загневаўся ён на мяне страшна. Пачаў пісаць і вымагаць ад мяне, каб здавала ў архіў усё, што датычыць Беларусі. Паслала я яго вон.



У Прагу прыехала і дачка Р. Астроўскага з зяцем, і гэтыя ўсясільныя людзі прыйшлі да мяне з просьбаю дапамагчы. Ім далі дазвол на пражываньне ў Празе, а вось працы мужу лекару не давалі... Павяла я іх на чэскі град да др. Піпэра. Сьмешна, у тым чарнінскім палацы я як удома, быццам некалі там жыла, вось дзіва... Піпэр як Піпэр — прыняў мяне ласкава, даў Мінкевічу працу ў найлепшым пражскім шпіталі на Булёвцы. Я яго пачаставала папяросамі, якія заўсёды насіла з сабою ў партсігары дзядзькі Васіля, каб не абразіць, закурыла і сама. Першы раз у жыцьці.

Памагалі мне ўсе: чэхі, немцы, эмігранты, камуністы і нацыяналісты, свае і чужыя. Я дзякавала богу, што не пакідае нас адзінокіх у чужым народзе і сэрцы чужых людзей робіць для нас спрыяльнымі і адданымі, а сэрцы землякоў нашых — роднымі, кахаючымі імя і асобу маю, маяго сына і маяго мужа, і гэта ў часы, калі так страшна. У Прагу пачалі з'язджацца ўцекачы з Беларусі, з Украіны. Да пані Косач-Шымаcноўскай прыехалі яе сёстры, абедзьвія сядзелі ў сав. лагерох. Вельмі мілыя, у хустачках, скромныя, вучылі мяне розуму, і мне жаль сяньня, што я іх не паслухала.

Амаль усе землякі знаходзілі мяне, нашую хату. Гэта былі пераважна гарачыя патрыёты, якія з болем ад'язджалі ў сьвет і толькі таму, што бесперспектыўнасьць беларускай, нацыянальнай працы пры Саветах была ім ведамая даўно. Калі паўставала пытаньне: свабода ці Бацькаўшчына — людзі выбіралі свабоду. Не ўсе да нас заязджалі. Ехалі нейкія Аўдзеі і Баўдзеі, якія, казалі, вельмі нажыліся ў часы апошняй вайны, гандлюючы гарэлкаю і прадуктамі ў час голаду. Такія наведвалі Ермачэнку; з намі яны не мелі б, аб чым гаварыць. Астроўскі з сям'ёй пакуль што спыніўся ў Русака, да нас зайшоў толькі аднойчы і то на малую хвіліну. Відно было, што яны не любяць мяне. А вось усе няшчасныя, са свежым болем па пакінутай Бацькаўшчыне былі ў нас сталымі гасьцьмі. Разам мы бедавалі. Прыйшоў час маім землякам паглядзець на шырокі, зусім іншы ад нашага традыцыйнага — сьвет.

Юрачка шчыра апекаваўся ўцекачамі. Вучыўся ён на дзіва добра. Калі часамі паяўляліся горшыя ацэнкі, дык амбітны хлопчык сядаў за заняткі паважна і зноў ганарыўся посьпехамі. 27 ліпеня 1944 года скромна адсьвяткавалі мне 34 гады. Муж купіў мне залаты пярсьцёначак з амэтыстам, і я загледзелася ў сіні колер цудоўнага каменьчыка. Мне тады прыпомніліся вочы маяго серадольшага брата Аркадзія — такія ж былі беззаганна сінія. Якраз у гэты дзень ён аддаваў Богу душу недзе ў Лорэта ля Рыма ў арміі ген. Андэрса. Аб гэтым прыйшла вестка пасьля вайны. Не пісаў да нас болей і Расьціслаў і мужавы бацькі. Страх аб іх лёсе спыняў дых. Усе ратаваліся, уцякалі, а Расьціслаў шукаў маці, якую вельмі любіў. Дарма, усё дарма, вера ў дабро можа быць толькі ў гуманных, дэмакратычных дзяржавах.

Прыехаў у Прагу паэт Сяднёў, дацэнт Жарскі, Русак. Гэта былі пераважна савецкія людзі, і той вялікай, амаль сьвятой любові і ахвярнасьці для Радзімы ў іх не было. Я з імі не знаходзіла супольнае мовы, часам іх адносіны выглядалі як правакацыя. Не пазнаць было, што мае для іх вартасьць у жыцці і ў што яны вераць... Час быў нялёгкі, што чакала расьцярушаных па цэлым сьвеце, што чакала тых удома ў супольным суровым расейскім катле? Ці хоць яшчэ пару дзесяткаў год застануцца сабою? Нам было найгорай, да ўсіх пакутаў таго часу мы яшчэ радзіліся «кулакамі»... Гэтае слова самое забівала нявінных, сіраціла дзяцей, гнала на высылкі, турмы, на несказаныя цярпеньні. Гэта былі як яўрэі за Гітлера, усе амаль ужо гэтым адным словам асуджаныя на загубу. Гэтае слова, як выпалены агнём знак, відно на чале маім нават сяньня. Нясу яго як пакуту і як нейкі церпкі гонар тых, якія пагінулі ў муках... Сяньня асабліва. Гэтых пачуцьцяў «менейцэннасьці» ў мяне болей, як у іншых, і ўсё я нясу гэта горда! Некалі ж было ўсё толькі для палякаў, пасля «нур фюр дойтшэ», а цяпер толькі для тых, хто ў партыі ці хто даносіць. У градацыі савецкай я на найніжэйшай перакладзіны: 1 — беларуска, 2 — паэтка непаслухмяная, 3 — «кулацкое отродие», 4 — зэк!!! 5 — хрысьціянка, якая верыць і не баіцца! 6 — сын у Польшчы, 7 — сябры па цэлым сьвеце, 8 — сьмяротна вінаватая за тэстамэнт... Па ўсіх гэтых пунктах адзін жах. Хоць ты не жыві на сьвеце, а я яшчэ нейк жыву. Жыву і сама дзіўлюся гэтаму.

У Празе памёр украінскі паэт Олэсь. Было вельмі многа людзей на пахаваньні. Аддалі яму сваю павагу і беларусы. Я вельмі любіла ўкраінскага журналіста Алега Лашчанку, гэта быў палкі і разумны патрыёт, своеасаблівы ў падыходзе да людзей,



 

якіх ацэньваў нейк інстынктыўна на вартасных і паганых. Заўсёды ён ведаў нешта новае, добрае. Ненавідзеў немцаў настолькі, што аднойчы, калі я хацела пазнаёміць яго з фрау Піпэр, дык ледзь, вельмі не хочучы, толькі падаў ёй руку. У мяне было шмат знаёмых, нават сяброў між чэхаў, а ён прызнаваў толькі ўкраінцаў, і то не ўсіх. Затое, калі ўжо паверыў некаму, дык назаўсёды. У людзях амаль не памыляўся.

Чэхі былі амаль стопрацэнтна супраць немцаў і прагна чакалі рускіх, вельмі ружова рысуючы сваю будучыню пры іх. У нас наконт гэтага ніякіх ілюзыяў не было, горкай практыкай лягла на маю сям'ю хваленая рознымі агентамі ўсходняя культура. Пэрспэктыва была нецікавай. А час ляцеў, і вясною пачалі людзі пакідаць Прагу. Цягнікі былі поўныя, людзі лезьлі вокнамі, ехалі пад амэрыканскія бомбы, а ўсё ж ехалі.

Старшынёй Пражскага Камітэту Самапомачы быў Аляксандр Русак. Камітэт знаходзіўся ў яго на кватэры, куды ён памясьціў і Абрамаву з сям'ёй, калі яна прыехала ў Прагу. Зрабіў гэта на маю просьбу, але хутка я пашкадавала свае даверлівасьці. Абрамава вельмі хутка напісала на Русака данос у гэстапа з тым, каб атрымаць ягоную кватэру. Мы вельмі расчароўваліся ў т. зв. савецкіх людзях-беларусах, яны йшлі ўсімі абманамі да сваіх шкурных мэтаў, не ведаючы ніякае этыкі. Былі спрытнымі і хітрымі, іх мэтады былі часам страшныя. Гэта былі ваўкі. Ніякае дабрыні ці міласэрнасьці і ніякіх граніцаў для зла. Гутарка з імі не акрыляла, а насторожвала тым, што прыніжалі яны лепшае ў людзях і людзкасьці. Здавалася, што цяжкія варункі жыцьця даўно ўжо забілі ў іх розныя ідэалы акрамя тых, якія ў даны мамэнт аплочваліся. Што гэта, матэрыялізм, думала я сабе, старонячыся ад іх...

Прыемным выняткам з гэтае масы былі Міціны з Кіева. Яны нейк спалучалі ў сабе шляхотнае і практычнае і заставаліся прытым вельмі харошымі, інтэлігентнымі людзьмі. Сябры прасілі мужа, каб выязджаў з намі і ён. «Не, я сацыяліст,— цьвердзіў муж,— і я тут застануся». Тады яны прасілі, каб нас з Юрам пусьціў з імі выехаць, што нас не пакінуць, выратуюць, дагледзяць. «Не,— цьвярдзіў муж,— сына не дам, а калі жонка хоча, няхай едзе сама без дзіцяці». Я маўчала. Мяне калаціў ніколі яшчэ няведамы страх з таго, што чакала нас наперадзе. Маё найбольшае жаданьне было ехаць як найдалей з Прагі, каб пазьбегнуць лёсу маіх бацькоў, які быў страшнай рэальнасьцю. Вялікай мужнасьцю было стрымаць сябе і не ўцячы, калі ўцякалі найразумнейшыя.

Я ніколі ня слухала мужа і вось паслухалася яго першы раз, і згасло для мяне сонца і болей, здаецца, з той пары яно не засьвяціла мне на маім шляху. Тулілі мяне да сябе, ад'язджаючы, Міціны, клікалі ехаць разам, плакалі. Апошняй прыйшла да мяне фрау Нот, каб ратаваць мяне і сына, і я не паехала. Доктар Янка Станкевіч угаворваў і клікаў мяне, Лашчанка бянтэжыўся з таго, гдзе я застаюся, а мой муж гатаваў нам цяжкую пакуту, глухі і сьляпы перад лёсам.

«Што робіце, пані Ларыса,— пераконваў Лашчанка,— ды, урэшце, я вас ужо не шкадую, я шкадую бальшавікоў, што ім рабіць з вамі? Дзьве магчымасьці: альбо даць вам высокае становішча, альбо забіць адразу — бедныя бальшавікі!» І каб давесьці, што ён ня меней адважны, сябра Алег застаўся ў Празе, як я. Яго схапілі, але, на шчасьце, удалося яму ўцячы ад іх на захад. Шчасьлівы чалавек, што ж, ён быў нежаданы, і ніхто не ставіў яму ультыматумаў, не казыраў дзецем... Захварэла фрау Піпэр, і яна прасіла, каб мы разам ехалі, каб я была пры ёй.

Перад гэтым яшчэ за паўгода прыйшоў да нас Опа (бацька фрау Піпэр). Муж быў на працы. Ён пачаў мне паясьняць, што цяпер такі час, што лекары працуюць і з лапатамі і што яго зяць бясьсільны ў гэтым выпадку нам памагчы, што мужа маяго прыказалі паслаць у лагер працоўных на Мараву, у Куціны, куды перанесьлі нейкую авіёфабрыку з Аўстрыі. Было відно, што паступіў зноў данос на Янку, Ермачэнка не спаў. Якраз быў налёт на Прагу, і Опа застаўся ў нас на абед. Сардэчна і хораша мы пагутарылі са старэнькім, калі ў хаце дачкі ён крыху стрымваўся, дык у нас крытыкаваў фюрэра з грунту. Было відно, што і немцы думалі, але страх за сем'і і за жыцьцё скоўваў ім языкі і рукі.

І так зноў прыйшлося ехаць мужу недзе ў мараўскія лясы, гдзе ў цяжкіх варунках размяшчалася тая фабрыка і рабочы лагер. Аднойчы я яго наведала, ледзь дабралася нейкай грузавой машынай. Жыў ён вельмі прымітыўна, але сталаваўся ў чэскай рабочай сям'і і даглядалі яго добра. Пазнаёмілася я там і з Карлем Вотрубай, мужа фэльчэрам. Гэта быў студэнт мэдыцыны, які, калі немцы закрылі чэскія унівэрсытэты, не пажадаў ехаць канчаць студыі ў Нямеччыну і лепей пайшоў на працу. Карлічак да апошняга часу застаўся нашым вялікім сябрам. Ён аднойчы сказаў мне, што хацеў бы ажаніцца з беларускай. Быў гэта выдатны чалавек і шчыры сябра. Моцна трымаўся нашай сям'і Аляксандр Русак. Тут ужо было нешта няяснае, гавораць розна. У той час было многа розных людзей, і адзінай, разумнай рады, якую мне некалі даў Ермачэнка, каб не пускаць у хату чужых людзей, мы не паслухалі. Быў цяжкі час, і хацелася дапамагчы людзям, чым мы маглі. А яны паяўляліся зусюль!

Аднойчы пані Марыя Крэчэўская прыехала да нас са сваім шваграм др. Вукдэлічам. Быў гэта чарнагорац, высокі, прыстойны, з сынамі Бранкам і Драгам. Некалі ён студыяваў у Празе і закахаўся ў такой жа студэнтцы, прыгожай беларусачцы і павёз яе ў дзікую Чарнагорыю, гдзе тады яшчэ жанчыны ўцякалі ў лясы, каб раджаць, і дамоў прыносілі сыноў у прыполе. Сястры п. Крэчэўскай гэтакае не грэзіла, бо ўсё ж сям'я была асьвечанай. У багатым чарнагорскім народным строі яна выглядала цудоўна, і казалі на яе «краліца», г. зн. каралева. Ядвіга пасьля захварэла на астму. Мела двох сыноў і дзьве дачкі, і вось Вугдэліч з сынамі нечаму прабіраўся на захад далей, старанна пазьбягаючы сустрэчы з немцамі. Драга цудоўна сьпяваў па-італьянску. І тут трэба было дапамагчы землякам крывінцы нашай хоць нейкім адзеньнем, неабходным у цяжкую пору вайны і нястачаў. Я ніколі не была скупая і рада, чым магла, дзялілася з людзьмі. А памагаць трэба было многім. Часам было сьмешна, бо другія, якія незнаёмыя людзі слалі мне грошы. Адзін такі сябра напісаў, што хацеў сабе зрабіць радасьць і таму, праходзячы ля пошты, выслаў мне грошы, бо я то ўжо буду ведаць, што з імі зрабіць. Другія, выходзячы з нашай хаты сілаю выпхнутыя, каб не разьлічваліся за драбніцы, пасьпявалі нейк яшчэ забегчы на пошту і выслаць тысячу карон. А колькі пасылак, хоць хлеба, хоць цыбулінку людзям...

Адных праважаеш, другіх сустракаеш, а ў кішэнях пераважна пуста. Хораша так было! Толькі сьледаваццелі мае такога не разумелі, тут бескарысна не дапамагаецца людзям, і нашую хату палічылі цэнтрам амэрыканскай разведкі. А мы тых амэрыканцаў ня бачылі ў вочы, ды і яны ня ведалі аб нашым існаваньні. Прыходзілі і чэхі па дапамогу, шукалі дарогі да харошага Піпэра, і ён ніколі не адмовіў. Бывала, хоць вітаміны выпіша зьняволеным на Панкрац (пражская турма), а часам і дапаможа паважна.

Я была такой, якою мяне выхавалі ўдома, а Алег Лашчанка цьвердзіў: «Шчо б вас, Ларісо Антонівно, знав Гітлер, він бы нэ міг буты такім жостокім та крывавым». Ну, але той нехрыст ня ведаў беларускай натуры і шпарыў па-свойму, робячы навечны ўстыд старой нямецкай культуры, а на нас наганяючы страх бязглуздымі загадамі. Калі быў на яго атэнтат, дык не было чалавека, які не жадаў бы яму прадчаснай канчыны. Але, на жаль, лёс трымаў яго на гора яго собскага народу і на няшчасьце ўсіх тых, кудэмі каціліся бязьлітасная вайна і ўставалі новыя, пасьляваенныя зьдзекі.

Я зноў вельмі непакоілася за Янку. Нашае супружжа было як сон, як нерэальнасьць. Усё нас лёс разлучае: то пасьля вясельля на колькі месяцаў, то пасьля нарадзінаў Юры на два гады, то на Беларусь, то цяпер на Мараву. На століку ля маяго ложка Эвангельле, якое чытаю вечарам, а малы Юра прытуліцца да мяне і слухае, слухае. Яму заўсёды мала маяго таварыства: «Мама, няхай сяньня будзе мой дзень, і мы будзем толькі з табою, будзем маляваць, чытаць, расказваць». Як нам тады добра, мы, як два сябры, як аднагодкі, цешымся тым самым, калі я яму чытаю ўрыўкі са свае «Рагнеды», яму здаецца, што ён малы Ізяслаў...

Даўніна наша раскіданая і па пражскіх архівах, і жаль, няма яе адкрываццеля др. Грыба, няма дзядзькі Васіля з яго працаю над гісторыяй Беларусі. І іначай жывем мы сяньняшнім днём трывожным за лёс Бацькаўшчыны і за лёс найбліжэйшых. Недзе ужо падзялілі Эўропу, куды самыя хацелі далучылі цэлыя народы, не папытаўшыся згоды на гэта ў тых, хто праліваў кроў...

Ізноў парадкі чужыя, ламаньне на іншы манер ужо ломанага-пераломанага, замена багоў і адвечнае праўды людзей і зямлі, на якой гэтыя людзі жывуць з вякоў вечных. Так, не было болей сонца, яно прыходзіць з благаславенствам, а не з грубаю сілаю, якая ўводзіць у душы людскія законы недарэчных адзінак. Экспэрымэнт. Гэта тое, што нас чакала пасьля ўсіх жудасьцяў мінулай вайны. Мір не бальсам на душы, а мір як новыя раны, якім не відно канца. Вайна не скончана, яшчэ вярэдзяць душы,

і караюць, і выклікаюць за вернасьць старому Богу... А Ён глядзіць з вышыні сваяго ўкрыжаваньня, дазваляе блудзіць і ў пошуках розных праўдаў вяртацца ў рэшце рэшт да адвечнае, мудрае: «Любі бліжняга сваяго, як самога сябе». Бо на гэтым толькі можа будавацца шчасьце і мір на зямлі. Ідэю любові да людзей Ісус з Назарэту прыпячатаў дабравольнай сьмерцю на крыжы.

Не, Ён не гнаў мільёнаў адборнай моладзі на загубу, каб сілаю ўмацаваць свае ідэі, а на сьмерць пайшоў сам. Ускрашаў памерших, сцаляў хворых, загадваў кахаць сябе людзям узаемна, быць справядлівымі, не прагнуць чужога, знача, і чужое зямлі. Навучаў. Дванаццаць апосталаў, простых людзей, умацавалі Яго праўду трывальней і мудрэй, чымсьці сяньня гэта робяць тысячы газэтаў, усе радыё і тэлебачаньне сьвету! Мудрасьць крылатая, яна, як насеньне дуба, ляціць і ўкараняецца ўжо на вечнасьць. Проста і мудра, велічна і вечна!

А пакуль што збіраюцца ў Празе няшчасныя ўласаўцы, якім лёс дазволіў яшчэ крыху пажыць, бо, падведзеныя Сталіным, адданыя на міласьць-няміласьць ворагу, яны ўжо даўно гнаілі б зямлю, каб не ратаваліся ў арміі РОА. Хто канаў ад голаду і масавага зьдзеку над людзьмі, той іх асудзіць не можа. Трагічны іх лёс выклікае сьлёзы. Зноў тут паняцьце двух тыраніяў і ніякае трэцяй магчымасьці, каб ратавацца. А калі б хоць капелька разуменьня людзей, жалю над імі! Самыя разумныя тут будуць гнаныя, як бараны на рэзьню, бо розум ні тым, ні другім не патрэбны. Сіла, тупая сіла, але багнэты ніколі не зацьвітуць дрэвамі, танкі не згаруць пад хлеб зямлі, бомбы не забаўкі і аэрапланы не птушкі...

Напэўна, і ў хрысьціянаў быў бы прагрэс, але ён меў бы гуманныя мэты.

Уцякаюць з Прагі масава немцы. Не немцы, бягуць у страшную нямеччыну да недабіткаў у разбураныя гарады, у голад. Там з кожным днём будзе лепей, казала мне Ольга Пэтрыўна, сястра Лэсі Украінкі, а там, гдзе вы хочаце застацца, ніколі добра не будзе, ніколі... Як часта я цяпер яе ўспамінаю, але ратунку няма. Мой «сацыяліст» быў шчасьлівы, што ўсе паехалі і мая асоба ў яго праўным, супружаскім распараджэньні, а рэшта ня мае значэньня. Толькі паэты, як птушкі, адчуваюць будучае і цярпяць ужо авансам. Здаецца мне — ступаю па нажах і крываваяць мае ступні.

Нехта прынёс нам з чэхаў кусок мяса, парадзілі купіць у запас хлеба, вечарам маладыя чэхі ходзяць, зрываюць нямецкія напісы на вуліцах і разьбіваюць іх аб брук. У нас Вялікдзень, якраз вялікая Пятніца. Прыйшоў да нас інг. Лось, ён вельмі разумны ўкраінец, жанаты з чэшкаю, але цяпер другое зарысоўваецца на паліт. гарызонце, і чэшка памалу яго выганяе, ёсьць дзеці. Калі б украінка, дык яна пайшла б з ім ахвотна далей на змаганьне — чэшцы патрэбныя толькі выгоды і люксус у жыцці, а на гэтае пэрспэктываў ніякіх...

Мне прыпомнілася другая чэшка, жонка др. Янкі Станкевіча, спэцыялістага па Айкітабах. Яна з ім як найвярнейшы сябра. Цудоўна ведае нашую мову, і тры сыны яе — гэта тры палкія беларускія патрыёты. Не кожная беларуска зраўняецца з ёю ў адданасьці ў служэньні нашай Бацькаўшчыны. Дай Ёй Бог здароўе!

Назаўтра ў Вялікую суботу йдзем з Юрам у цэркву да споведзі велікоднай і да прычасьця. Трывожна... Мая споведзь болей падобная на паліт. размову з айцом Ісакіем, мы з ім сябе разумеем, зыходзімся на славянстве. Выходзім з сынам за руку з цэрквы, сонейка, усюды сьцягі нацыянальныя, амэрыканскія, англійскія, савецкія. На Гусавым пляцы народ. За малую хвіліну там будзе бой і танкі разаб'юць стары памятны ратуш і слаўны чэскі Арлой, гадзіннік з 12 апосталамі, якія выходзяць апавяшчаць гадзіны. Кажуць, у сераднявеччы асьляпілі чэхі таго майстра, каб болей Арлоя нігдзе не стварыў. Нехта казаў, што гэта быў яўрэй. Магчыма.

Яшчэ мінуты мы затрымаліся б, і было б па нас. Нашае шчасьце. Чэхі ўжо недзе змагаюцца за радыёвысыланьне. Усюды сьцягі, сьцягі... Малады нямецкі вояк выводзіць за руку з аўта дзяўчо ў вэлюме з букетам кветак. Як не ў пару... Ужо болей ніхто па вуліцах ня ходзіць, усюды робяцца барыкады, страляніна. Мужа ўзялі на мэд. пункт у касьцёле. Я хаджу да яго, і ён заміраe са страху, як вярнуся дамоў пад стрэламі. Толькі я адна не баюся, іду, і кулі мінаюць мяне. Людзі вырываюць каменьні з бруку, барыкады растуць, я стаю ў дзьвярох нашага дому, сорамна сяньня ня быць з людзьмі. Так некалькі дзён. Прыйшоў муж нарэшце, рано гаворыць радыё. Уласаўцы і чэхі дружна хочуць бараніць Прагу, то йзноў устрывожаным голасам немцы просяць уласаўцаў іх не пакідаць. Зьмяніліся адразу ролі. У нашай частцы Прагі яшчэ даволі спакойна. Рана я чую праз радыё, што савецкія танкі на пэрыфэрыі Прагі! Мне жудасна, усё прачытанае пра іх, пачутае, перажытае родзічамі ўстае прад вачыма, здаецца, сьмерць выцягнула па мяне свае кастлявыя рукі і я цяпер у яе поўнай уладзе. Ах, Янка...

За пару гадзін танкі на нашай вуліцы. Сядзяць на іх маладыя, запыленыя байцы, у іх вясёлыя міны пераможцаў. Афіцэры нешта камандуюць, яны важнічаюць, ледзь гавораць з людзьмі, а людзі вітаюць іх, на танкі сыплюцца кветкі, залазяць дзяўчаты ў народных убраньнях — май! Юра ўжо пазнаёміўся з нейкім афіцэрам, прывёў яго ў хату, ён мне не падабаецца. Нечаму ў нас затрымоўваецца нейкі малы штаб. У нас Вялікдзень, і я стаўлю, што маю, на стол, а яны прыносяць з кухні сваё і гарэлку. Смяюцца з нашых чарачак, просяць шклянкі. Я чую, як маёр кажа салдатам, каб нічога не чапалі ў нас у хаце, што нельга!

Вонку чэхі лупяць немцаў малых і старых. Маёр кажа мне, каб я сказала ім, што такога рабіць нельга, пабітага, ляжачага ня б'юць. Я разумею, што гэта толькі словы, бо чаму ж гэта ён сам ім ня скажа, а ён паглядае толькі. На голых плячох немцаў рагі ад бізуноў, яны разьбіраюць барыкады. Вечарам наш малы штаб ад'язджае. Назаўтра чэхі жануць немцаў вуліцамі. Усім ім выпалілі смалой гакэнкройцы на лобе. Між імі і жанчыны і ад пачатку вайны ведамыя нам антыфашысты. Чэхі іх б'юць. Б'юць іх, галоўнае, калабаранты, тыя, якія супрацоўнічалі з імі. Лупяць немілаєэрна...

Па вуліцы вядуць дзяцей нямецкіх, вядзе іх нехта ад швейцарскага Чырвонага крыжа. Чэшкі падбеглі і рвуць тых дзяцей, коцяць на зямлю, топчуць нагамі. Муж закрыў мне сваім каптаном галаў: «Не глядзі, маці, не глядзі». А ў хаце сядзець ніяк нельга, бо скажуць: не цешымся з «асвабаджэння» і можа быць нявесела... Удома Юра бяжыць з плачам і крычыць: «Не хачу жыць на такім сьвеце, гдзе б'юць дзяцей». О, сын, нашчадак шляхотнага, няшчаснага народу. Суседка прыпала мне да грудзёў і плача: «Пані докторова, я не магу глядзець на зьдзекі над людзьмі, але толькі вам гэта магу сказаць, сваіх баюся». О мілая п. Копэцка, нядаўна ж яна перахоўвала, памагала яўрэям...

Нейкія людзі падышлі на вуліцы і кажуць мне тое, што мая суседка, ён вярнуўся з лагера і таму бачыць зьдзеку ня можа. Так, мучыць і забіваць могуць толькі выбраныя, і такім менавіта аддалі ўладу над рэштаю людзей. Яшчэ так нядаўна, калі спыняўся ля нас цягнік са зьняволенымі ў паласатым, мы іх кармілі, глядзелі ўсіх і немцаў, а цяпер... А цяпер за адно нямецкае слова раз'юшаныя чэшкі лупяць на сьмерць. Йшлі палонныя Бэльгічане і нешта папыталіся па-нямецку, дык так на іх напалі бабы, што ледзь не забілі на месцы і, толькі даведаўшыся, што гэта палонныя з Бэльгіі, перамяніліся адразу ў чулых самарытанак — бэльгічане ім плюнулі ў твар. Босых немак гоняць па разьбітым шкле і лупяць, і ўсё ім мала, а вусатыя савецкія ваякі выносяць немцам па куфлю піва. Бой кончыўся, прагаласілі перамогу, і баец не патрабуе болей забіваць, яму хочацца добрага міру. Трох немцаў павесілі за ногі, палілі бензінаю і паляць... Згінь ты, прападзі з такою культураю! Поўнасьцю перабраўшы гітлераўскія мэтады, крычаць, што яны дэмакраты! На Панкрацкім пляцы вешаюць публічна Пфіцнэра, гэта гісторык нямецкі, які фальшаваў гісторыю чэхаў, і за тое яму такая «чэсьць» — публічна вешаць. Нам каб хоць дачакаць публічна адлупіць тых, якія фальшуюць нам нашую мінуласьць!

Ад раніцы чэскія мамы з возікамі з дзяцьмі і ядою чакаюць на пляцы на «відовішча». Нямала, трыццаць шэсьць тысяч, народу. Аж мудрая Англія папыталася па радыё: няўжо гэта народ Масарыка? З тае пары пачалі вешаць у вязьніцы, у двары. Прыходзіць сумны Карлічак і кажа, што ніколі не ажэніцца з чэшкаю, што яны азьвярэлі. Да яго сябры судзьдзі на Панкрацы прыйшла знаёмая дзяўчына, каб ён дастаў ёй «лістэк на поправу» (білет на павешаньне). Бо «любіцелям» гэтага відовішча прадавалі білеты. «Не,— казаў,— не ажанюся я ніколі з сваею зямлячкаю, гэта не людзі, я лепш вазьму беларуску...» Што ж, дарагі Карлічку, і беларускі не ўсе паэтэсы, ёсць і ў нас розныя, але такіх, якія б хацелі глядзець, як вешаюць людзей, такіх мала. Адна Еўдакія Лось пакуль што паліла мае жывыя вершы, вось ёй можна было б запрапанаваць білецік... Божа мой, такі ж не найгоршы той наш народ — ён у сэрцы сваім чалавечым яшчэ высока культурны ў параўнаньні вось з гэтымі: з аднымі і з другімі ў Эўропе. Ёсць бандыты і ў нас, але такіх мы лічым выродкамі, нават у час, калі ім была «зялёная вуліца», іх у нас не было многа... Не відно байцоў нават каля тых, якія мучаць

жанчын. Ля нас нейкі сав. шпіталь. Стары старшына штодзённа бярэ туды пару немак з лагера і ніколі не крыўдзіць іх, накорміць, нават дасьць ім з сабою. Яны дзівяцца яго высокай культуры. Доўга яшчэ праводзілі чэхі суд гісторыі над адвечным ворагам славянства, толькі жаль, што мэтады іх помсты-справядлівасьці не прыносілі гонару славянству ў XX веку нашае эры. Стварылі такую «рэволючни гарду» (рэвалюцыйную гвардыю), на якую ўсе казалі: рабуючая гвардыя. Гэтыя малойчыкі стралялі каго ня лень, аж адзін з іх прыйшоў да нашае кіоскершы зусім ужо з гэтага адурэлы і расказаў, што тыя нямецкія дзеці, якія прасіліся, каб ён іх не забіваў, усё стаяць яму перад вачыма і дзень і ноч, і ён адчувае, што ўжо дурэе...

Да нас прыйшоў аднойчы з аўтаматам партызан славацкі, які ведаў толькі адно, што я друкавалася за акупацыі, як друкаваліся ўсе да аднаго чэскія і славацкія пісьменнікі, і восьявіўся на расправу. Прыставіў мне да грудзей знамяніты, апеяны, апаэтызаваны аўтамат і хацеў ужо страляць, але яшчэ думаў. Я мяшала цеста ў місцы і так не пераставала яго мяшаць і з тым дулам, парваў мяне нейкі сьмех. Юра тым часам быў ужо на дварэ і ў хату вярнуўся са здаравенным байцом украінцам, які, убачыўшы такія зьдзекі над маці сваяго малога перакладчыка, падняў такую квяцістую лаянку і крык аб тым, як яны, якіх нашы асвабадзілі, будуць яшчэ тут палохаць нашых жанчын! Славак пачаў апраўдвацца, што, каб ведаў, што Юра гаворыць па-расейску, дык такога не зрабіў бы. Здавалася, што ён ужо не славак і амаль расеец, пакуль з аўтаматам. Папёр яго той украінец, і болей «герой» да нас не паказаўся.

Суседзі чэхі былі амаль усе маімі сябрамі, а ў час самай рэвалюцыі явіліся дзядзькі, якія развозілі вайною вугаль, усе камуністы. Я ім бывала заўсёды дам па жмені махоркі, якою нас шчодра засабляў з Беларусі мужаў тата. Часам нейк скамбінуюць вугля ды прыедуць прасіць закурыць, восьі я ім заўсёды дам пакрысе «зельля» і ніколі не вазьму іх вугля, а ў велькае сьвята і па чарачцы знамянітага беларускага самагону.

Вось і прыбеглі дзядзькі бараніць мяне ад усякіх нягод у час неспакою. Што ж, я іх прывітала з перамогай і нашкрабла яшчэ ў пудэлку закурыць ім. Прыбег з сяла і балаховец наш Судзьдзеў, які таксама адчуваў патрыятычную адказнасьць за цэласьць мае асобы. Пасьля мы былі аточаныя самымі апекунамі.

Байцы і, галоўнае, чыны вышэйшыя нахваталі крыху ў Эўропе трыпяркоў, мякка кажучы. Для іх быў з гэтай прычыны адпаведны шпіталь, але каму хацелася туды галасіцца ў такую слаўную пару перамогі, вось і лячыў іх «свой доктар». Лячыў хлопцаў сапраўды сумленна, і даволі мы іх любілі. Кожны з іх нам ня радзіў рушыцца з Прагі, а ў кампаніі кожны чулым голасам размалёўваў усю красу радзімы і клікаў дамоў. Мы верылі, безумоўна, гутаркам у адзіночку.

Мне ўсяк дагаджалі, вазілі мяне на машыне, прыносілі падаркі. Мы былі радыя, бо ўжо ніякія «славацкія героі» не мелі дачыненьня да нас. Часта было нам з нашымі новымі сябрамі даволі клапатліва, то частуй, то на рэнтген іх вядзі. Найгорай было, калі яны ў нас частаваліся, дзякавалі за ўсё і трэба было з імі выпіць. Гэта было неабходна. Муж пасьля двух аб'ёмістых чарак рабіўся нежывы, а ня выпіць мы баяліся. Наагул, прызнацца, мы ўсё ж іх вельмі баяліся. Піць даводзілася мне, я сільнейшая. У жыцьці ня піўшы, я піла поўнымі шклянкамі, перад гэтым выпіўшы добры глыток алею, і нічога мне не было! Трымалася як усе мае Міклашы, мае продкі знамянітыя тым, колькі маглі выпіць, не губляючы галавы і ног! Муж дзівам дзівіўся, разумеў маю адчайную ахвярнасьць, толькі не разумеў, нехрыст паганы, што ён мяне пакінуў на такія пакуты, а я яго выручаю.

Пакуль што ўсё йшло добра, галоўнае было нейк захавацца ў Празе любою цаною. Забіралі пакуль што ўсіх савецкіх грамадзян, але мы не былі ніколі савецкія, і нас гэта не датычыла. Чэскія актывісты таксама трымаліся далей ад нас. Муж працаваў на сваёй апошняй ваеннай працы ў вялікай фабрыцы «Чэска-мараўскай» у Празе. Вайною там чэхі весела рабілі немцам танкі, ну а цяпер нават ня ведаю, што яны там тварылі. Мужа яны пакінулі на месцы, але яго шэф, чэх, мусяў уцякаць. З дырэктарамі яны зусім ня цацкаліся, а загадвалі ім рабіць прысядкі і іншую гімнастыку за кару іх супрацоўніцтва. Мужа вельмі паважалі. Ён ім нічога асабліва добрага не зрабіў, але і паганага не зрабіў ніколі. Памагаў, як мог, і быў адным з чатырох лекараў фабрычных у рэспубліцы, якіх чэхі пакінулі ў спакоі і на працы.

Жылося нам матэр'яльна няблага, але вось спакою не было. Не было спраў ад



мужа бацькоў, ад Славачкі. Няведама, што было з мамай і рэштай сям'і. Тату я нечаму лічыла нежывым. Яго такі забілі ў гродзенскай турме, як і дзядзьку Валодзю. А вось за маму непакоілася.

У нас зноў быў цэнтр беларускага жыцьця. Усе ўцекачы, якія не пасьпелі выехаць на захад, зьбіраліся ў нас. Нейк трэба было іх ратаваць, бо дамоў яны не хацелі. Зачасьціў да нас вельмі харошы, паважны хлопец Пётра Сценьнік, ён вельмі моцна клапаціўся аб уцекачах. Недзе на вёсцы ля Прагі жылі нашыя, сярод іх доктар Мінкевіч з жонкаю і дзьвюма дочкамі, адна з іх была нарачонай Пётры. З Пётрам мы разумелі сябе як родныя і ўсё рабілі, каб ратаваць нашых. Прыходзіў і др. Мінкевіч і дацэнт Жарскі, які застаўся, каб вярнуцца дамоў, бо баяўся на Захадзе, як казаў, беспрацоўя. Паяўляліся розныя тыпы, і толькі я цяпер разумею, што было між іх поўна стукачоў.

Аднойчы прыйшла дзяўчына, якая шукала мужа. Казала, што ўцякла з сав. лагера, мела пры сабе толькі індэкс віленскага унівэрс., які паказала. Мужа яна ведала. Называць яе не хачу. Трымалася яна несамавіта, але я лічыла сваім абавязкам дапамагчы і ёй. Напала яна перадусім на папяросы, якія курыла без перарыву. Я карміла яе, калі прыйшоў муж. Яна нам залівала, што ўцякла з лагера, каб нас пабачыць, што яе ад амэрыканцаў укралі ў сав. лагер. Мы слухалі і не падазравалі, што прысланая яна па нашыя душы. Яна ў нас убачыла Пётру і ўсё пыталася ў яго, як дастацца на захад. Пётра маўчаў і мы з ім, госьці ня верылі.

Нарэшце мы з Пётрам паслалі адну чэшку ў Пльзэнь, каб яна нам даведалася пра вольны амэр. лагер для перасяленцаў. Найвышэйшы час было ратаваць людзей. У гэты час трэба было захварэць дачцы Мікулічаў. Захварэла яна цяжка на тыф. Палажылі дзяўчо ў шпіталь на сяле, гдзе яе не лячылі зусім, бо мяйсцовы пэрсанал быў камуністычны і іх лічылі за ўцекачоў ад сав. Бедныя бацькі бегалі ля вокан, а дзяўчо канала без лячэньня. Бацьку-доктара да хворай не пускалі. Аднойчы Пётра прыйшоў счарнелы з болю — Гэля памерла. Няшчасьце зрабіла нас неасьцярожнымі. Мы думалі толькі аб памершай. У мяне прасілі, каб выстарацца дазвол на пахаваньне яе на пражскіх могілках для эмігрантаў. Чэхі звычайна ні ў чым мне не адмаўлялі, не адмовілі і на гэты раз. Цела перавезьлі ў капліцу на могілкі. Было нейкае ўжо асеньняе амаль сьвята, і я паехала ў тую капліцу на вячэрню. Між праваслаўных мяне добра ведалі, і яны былі мне знаёмыя.

Ля капліцы я ўбачыла Жука і са зьдзіўленьнем папыталася, што ён тут робіць? Ён дзіўна паглядзеў на мяне і сказаў, што прыйшоў паглядзець на магілы байцоў. А тут яшчэ паявілася знамянітая «студэнтка віл. унів.». Я спалохалася. Яна мне вытлумачыла, што яе зноў пусьцілі з лагера, і пачала нешта закідаць, што пражскім беларусам грозіць бяда. Мяне настарожыла сама атмасфера таго вечара, а тут яшчэ такія гутаркі... Дзіўна.

Назаўтра быў дождж. Муж, адыходзячы на працу, прасіў у мяне, каб ня езьдзіла на пахаваньне, і ён ужо пачаў адчуваць небясьпеку. Рана прыехаў Пётра і пакінуў у нас хлопчыка ў веку нашага Юры, сам пабег на могілкі. Пахаваньне мела быць пасьля абеду. Я пакінула ўдома дзяцей і паехала да тае капліцы, павезла вялікі букет белых гладыёлусаў. Паехала, каб зляжыць свае спагаданьні бедным бацькам і перапрасіць, што нельга мне быць на пахаваньні.

Маці я сказала, што я чую, як за мною ўсюды ходзяць, і баюся, каб не прычыніць ім яшчэ большага гора. Маці, забыўшыся з болю аб усім на свеце, пачала прасіць мяне, каб я абавязкова прыехала. Я вярнулася дамоў, пакарміла дзяцей, і мы паехалі з імі на могілкі. Муж з працы прыходзіў толькі ўвечары. Калі мы ля альшанскіх могілак вылазілі з трамвая, я ўбачыла на другім баку вуліцы двох сав. афіцэраў, якія відочна доўга ўжо так стаялі, бо аж ім рагі з дажджу парабіліся на гімнасьцёрках. Я падбегла да дзяцей і абняла іх са страху. Яны спакойна йшлі пад вялікім сямейным парасонам і крыху зьдзіваліся.

Нябожчыцу ўжо пахавалі, мы спазьніліся. Засыпалі магілу, над якой стаялі нашыя людзі і між імі, абнімаючы адну нашую дзяўчынку, тая шпіёнка. Мяне затрасло. Насыпалі горку, мы пайшлі ў царкву. Няведама скуль назьбіралася нашых, яны не пабаяліся разьдзяліць няшчасьце з сябрамі. Стаю, гляджу на іх і плачу, а тая сьцерва пытаецца ў мяне: чаго плачу? Кажу ёй, што куды ж ехаць гэтым нашым няшчасным людзям, калі ж ужо будзе нашая Бацькаўшчына для нас і мы гаспадары ў ёй. Не магу

спыніцца ад плачу. Пасьля падыходзіць Пётра, усе мы складаем свае кашалькі, хто што мае, і разам Пётра расплачваецца з бацюшкам.

Людзі адыходзяць, а нам усё ёсць нешта там рабіць. Нарэшце ідзем і мы трое. Сьцерва, Пётра пасярэдзіне і я. Йдзем пад руку. Пётра раптам кажа: «Пераходзьма на польскую мову». Я аглянулася — за намі пасьпяшаліся тыя афіцэры, ад якіх я засланіла дзяцей. Божа... Яны падышлі і напалі на яе, пашто яна выйшла з лагера, і ўсіх нас павялі з сабою ў савецкі перасяленчы лагер. Яна мяне штурхае і кажа, каб я ўцякала, чаму? Як я пакіну Пётру, Божа мой...

Нас прывялі за той дрот, Пётра паказвае свае польскія дакументы, я сваруся з імі, што я не іх грамадзянка, але без Пётры, думаю, не пайду. Пётра зьбялеў, закурыў папяросу. Нарэшце вярнуўся той афіцэр і сказаў, што я магу йсці дамоў. Я там крычала, што дзеці самыя ў хаце, бо дзяцей мы адправілі адразу. Што рабіць? Пётры, я бачу, што не памагу, а вось рэшту людзей ратаваць трэба. Выходжу, а той, які выводзіць мяне, кажа: «Хто вы?» Кажу: «Хатняя гаспадыня». «Хто вы?» — пытае яшчэ раз. Кажу: «Паэтка». Тады ён пачынае мяне ўгаворваць, каб мы ехалі ў Сав. Саюз, што адвязуць нас аэрапланам, нават не праз лагер. Я крычу: Не, не, не! І бягу без памяці на трамвай.

Пакуль прыйшоў муж, я ўжо паслала сваіх знаёмых чэшак да нашых людзей, каб яны ратаваліся, хутчэй уцякалі. Паслала з адной і таго хлопчыка, сама плачу. Калі прыйшоў муж і нешта пачаў казаць, што нясмачная вячэра, што ён каўбасы ня любіць, я расплакалася горкімі слязамі, але аб падзеях на могілках я яму не сказала. Мяне апанаваў сьмяротны страх перад той доляю, якую гэты чалавек згатаваў мне, сабе і нашаму дзіцяці, бо было ясна, што перад намі прорва і цяпер ужо яе нам не абмінуць...

Божа мой, няўжо і нам гінуць, як няшчасным бацькам маім, як усяму нашаму роду? Божа мілы, ратуй нас, змілуйся, Божа, над дзецем маім у гэтай зямлі чужой і цяпер варожай для нас.

Знача, поўная найстрашнейшых прадчуваньняў, я ні слова не абмовілася мужу і назаўтра з раніцы аб падзеях на могілках. Мае чэшкі дасканала выпаўнілі просьбу, папярэдзілі каго належыць. Муж пайшоў на працу, сын гуляў з дзяцьмі на дварэ. Раніца была сумрачнай, а сэрцу неспакойна, як ніколі. Я пачала варыць нейкае павідла на зіму, але з рук мне ўсё падала. Так у абед нехта пазваніў. Калі я адчыніла, дык убачыла двох учарашніх афіцэраў, яны стаялі ля парога. «Не спадзяваліся нас?»— папытаўся рыжы. «Спадзявалася»,— адказваю абсалютную праўду, бо я такі думала, што прасьледаваць мяне не перастануць. Яны мне паказаліся такія страшныя, што здаецца, каб жывога Гітлера ўбачыла, дык не так спалохалася б... Што ж, увайшлі ў хату. Я іх папрасіла сесьці. Пачалася гутарка. «Мы вас вельмі просім вярнуцца ў Беларусь, вы тут бедна так жывеце, а ў нас Алесь Кучар зарабляе 11 тысяч рублёў на месяц, вось і вам дамо столькі ж». «А што вы зрабілі з нашымі пісьменьнікамі ў 37 годзе, ці я вам патрэбная на тое ж?»— кажу ім. «Мы чакалі вайны»,— адказвае афіцэр. «Што ж, вы зноў можаце чакаць вайны і рабіць тое самае». На гэта ён мне нічога не адказаў, толькі пачаў прасіць і ўгаворваць, каб мы вярталіся ў Беларусь. Глянуўшы на кніжкі, паабяцаў усё нам перавезьці. «Дзякуй, кажу, а што вы зрабілі з маімі бацькамі?»— кажу. «Мы былі суровыя самыя да сябе»,— кажа мне той душыцель. «Вы зноў можаце быць суровыя самыя да сябе,— кажу,— не, адстаньце ад нас, мы нікуды не паедзем!» У час нашай размовы ўсё званкі. Гэта сьцерва пытаецца, хто ў нас? Калі я ёй сказала хто, дык яна схавалася, быццам спалохаўшыся, каб яе не злапалі. Я, здаецца, ёй верыла, так яна ўмела прытварацца. Я вярнулася ў пакой, і яны папыталіся ў мяне: «Хто там быў?» Кажу — лістанош. Пасьля прыйшла адна чэшка і села ў кухні, прыбег Юрачка. Гутарка ў нас адна: «Слухаць і ведаць вас не хачу, ідзеце сабе, скуль прыйшлі». Тады рыжы афіцэр кажа: «Вось мы навучым вас любіць савецкіх афіцэраў, едзьце з намі цяпер на пляц «Пабеды», заедзем у кафэ». «Што ж,— кажу,— там у вас штаб, і туды вы мяне хочаце вязьці, мне ясна, дык каб ведалі, што жывой мяне ў рукі не дастанеце. Хутчэй я скочу з вакна і заб'юся на месцы, чымсьці вы мяне схопіце». А сьцерва ўсё звоніць... Я махлюю ім, як умею. «Што казаў ваш муж на гэта, што мы вас учора затрымалі?» «Нічога не казаў, ён нічога не ведае». «Няўжо, вы яму не сказалі?» «Не,— кажу,— не сказала». «Дык вы яму і далей не кажыце»,— радзіць мне бандыт. Сама, думаю, ведаю, што рабіць, а ты вось пакідай маю хату!

Нарэшце яны пайшлі, баявая мая чэшка, думаючы, што мне нешта грозіць, ужо сабралася клікаць чэскую паліцыю. Зазваніла і ўвайшла сьцерва, і якраз прыйшоў муж. Я хуценька расказала яму ўчарашняе і сяньняшняе і сама стала без памяці ля сваяго ложка на калені і пачала горача маліцца Богу. Я нейк проста анямела ў сваёй маўклівай малітве.

А падыходзіла страшнае, і трэба было прыняць усё і нельга было думаць аб сабе, а толькі і толькі аб тым запавеце, аб тым тэстамэнце, і нельга было выходзіць са шляху, пракладзенага шчырымі сынамі Айчыны. Нельга было, так мне дапамажы, Бог!

Янка вельмі спалохаўся. Я падала абед і запрасіла сьцерву, як звычайна. Толькі на гэты раз не было ў нас за сталом харошага Пётры. Ня раз мы ўсе разам палуднавалі і рознае плянавалі за гэтым сталом. Сядзіць дзяўчына, якой я так хацела дапамагчы, чым толькі магла. Яна нічога браць не хацела, а я ёй, «беларусачцы беднай», то панчошкі, якіх нігдзе няма пасьля вайны, то грошы. Папяросы толькі яна брала ахвотна і курыла, як той комін.

Раптам дзяўчына ўстае і кажа: «Не палохайцеся, гэта я пасланая, каб вас выкрасьці, мяне на гэта школілі. Ужо тры тыдні мы стараемся, каб чэхі выдалі вас, але яны ня хочуць гэтага зрабіць ні за што. Усіх выдалі, а вас выдаць проста не жадаюць, і нам трэба вас схапіць і ўкрасьці. А цяпер пытайцеся пра сваіх знаёмых на Беларусі, і вам усё скажу». Я толькі папыталася пра Пётру, і яна сказала мне, што яго ня выратуе, бо ён быў у Саюзе Беларускай Моладзі. Я яшчэ раз папрасіла ратаваць Пётру — дарма. Я анямела з болю і агіды да гэтае шпіёнкі, якая ўлезла пад выглядам «няшчаснай землячкі» ў нашую хату і вось чаго начаўпла.

Сябры мне многа пазьней сказалі, што ў зьняволеньні бачылі ў прыбіральні напісанае прозьвішча Пётры і крыж ля прозьвішча, знача, яго забілі...

Я нічога не пыталася ў сьцервы, я не магла глядзець у яе бок і толькі чакала, калі гэты смурод выйдзе з хаты. Яна ж, відно, хацела нам дабра, можа, за тое, маё збалелае за Беларусь сэрца, а я яе зненавідзела, як гіену. Я не магла зразумець, як можна лапаць, выкрадаць няшчасных, якія ўставалі з векавое нявbooлі і, як маглі, стараліся падняць усьвядоміць народ. Усе прадажныя перакідаліся з лагера ў лагер, выплывалі пры любых абставінах, як нечысьць на паверхню, а вось ідэйны, найлепшы наш элемент гінуў.

Я разумела бальшавікоў — яны заплацілі велькімі ахвярамі сваю перамогу, але іх перамога — гэта ня нашая перамога, бо мэта іх — вынішчыць нас і асыміляваць, што даказалі яны за ўвесь пэрыяд сваяго існаваньня. Яны ж ня могуць жыць з народамі, як брат з братам, як роўны з роўным, але, як той фюрэр нямецкі, гатовыя перарабіць сілаю на свой маскоўскі лад увесь свет, не думаючы аб тым, якія вартасьці нішчаць... Страшнымі цяпер мне зрабіліся і ўсе тыя харошыя, хворыя байцы, якія выжылі з цяжкіх баёў і сапраўды жадалі людзям дабра: «Не вяртайцеся, не вяртайцеся дамоў, вам няма там чаго рабіць...»— іхнія словы.

Цяпер я іх баялася ўсіх, не магла іх ні бачыць, ні чуць. Не адчыняла ім ніколі дзьвярэй больш. Іх недзе перавялі за Прагу з іх штабамі, і чэхі вельмі сардэчна з імі развіталіся, хоць многае ім не падабалася. Замест гэтых шэрых скромных герояў з крывавых баёў паявіліся цяпер тылавыя «ваякі» ад МВД, і яны ўжо анулявалі тое добрае і шляхотнае, што было ў франтавікоў. Нельга было цяпер выдаваць нашых, пройдзе час, сатрэцца розьніца, болей зразумеюць адныя другіх, тады...

Пераважна гэта адносілася да беларусаў-заходнікаў, якія ня мелі абавязкаў да сав. дзяржавы, бо не жылі амаль пад ёю і нічога пакуль што яна ім не дала, нават КПЗБ не прызнала, а хацела ад нас усяго! Усяго безапэляцыйна! Яшчэ на Беларусі чуліся крыкі раскулачаных на сьмерць і вывожаных з хатаў у пустэчы, якімі надзялілі лёс гэтую дзяржаву на пакуту ўсім людзям. Я хадзіла як учадзеўшы, свой боль і боль за харошага беларуса Пётру...

Як тут выкруціцца, як ратаваць сям'ю? Аб сабе я ня думала. Вось трэба было плаціць, сурова плаціць за асьліную ўпартасьць сваяго «сацыяліста». Праўда, уцякаць з немцамі, ня маючы з імі нічога супольнага, лагічна, не было пашто, але якая ў Сталіна логіка, калі ад яго капрызаў гінулі мільёны людзей... Такі ўжо лёс і сапраўды з пагранічнага Вімпэрку, як мы — трапіць проста на канец сьвету ў Комі, дык гэта трэба



**У гарах.**

мець сапраўды беларускую долю... І вось я ведаю прыблізна, калі па нас прыйдуць, і ведаю тое, што чэхі ня хочуць нас выдаць, і ведаю, што ня маюць права ламаць нам дзьвярэй... Ведаю многа, але як ратавацца — засталося два дні... Паганая «панская» натура, ня можам недзе схавацца ў чэхаў з той няшчаснай прычыны, каб не зрабіць ім зла, бяды, якога «Сібіру» на іх не прыклікаць. Гэта з нас можна дзерці скуру, але мы нікога яшчэ нічым не скрыўдзілі, мае рукі на тое, каб памагаць людзям, і вось мы як дурні і што нам самотным рабіць? Бог і мы, вера толькі на Бога продкаў маіх.

Мой «атэіст» разгубіўся не на жарты. Я хоць маю Бога, а ён сваю логіку, якая трашчыць. Быў у мужа адзін харошы пацыент, якому ў свой час многа зрабілася, пан Дворжак, быў ён загадчыкам нейкага спартыўнага клуба. Пайшлі мы ўтраіх да яго, каб ён нас нейк пераправіў у Пльзэнь, гдзе былі гуманныя, разумныя амэрыканцы, якія, калі і саджалі людзей, дык не са здзеку, але вінаватых сапраўды. Такое мы чулі праз іх, а ў нас жа віны ніякае! Сьняцца мне тыя Амэрыканцы начамі, як адзіны ратунак нашай няшчаснай сямейкі.

Вось мы і ў пана Дворжака, дзянёк позьні, летні, сонечны. Ходзяць сабе людзі, шчасьлівыя людзі, ах, якія шчасьлівыя — іх заўтра ня будуць красьці... Пан Дворжак ня можа нам памагчы, ён захварэў, выйшаў да нас і так сказаў, што ня можа. Ня мог сапраўды, цераз дзьве нядзелі памёр на апэрацыйным стале ад раку мачавога пухера... Што ж, бліжыцца нейкая непазьбежнасьць... Мне прыпомніўся верш мой адзін з апошніх: «Дай адкупіць мне цярпеньнем паэта долю, і волю, і шчасьце народу...»

У нас яшчэ ёсць добры чалавек пан Чада, ён чэх. Хочацца выратаваць хоць Янку. Звонім яму ад пана Дворжака, і Янка едзе да яго. На трамвай сядае ля сквера. Я з жудасьцю бачу яўрэя Вольфсана, якога мы выратавалі ў часе вайны, ён з-за дрэва сочыць за намі... Божа мой, а нас жа маглі з-за яго парасстрэльваць... Ну і сьвет, ну і людзі ў гэтым «сацыялістычным» сьвеце... Дамоў ідзем з Юрам, ён мая сіла. Добра, што хоць Янка ў бясьпецы, удар будзе па нас дваіх, і мы вытрымаем! Бог з намі. Я зьбіраю ўсе мае сілы, і ўсю маю веру, і ўсю маю любоў да маяго народу — я вытрымаю! Сын, маё хлапчанё, пры мне, і ён усё дасканала разумее. Праўда, ён нейк нам сказаў, што хто быў на версе, той цяпер на нізе і наадварот і як добра, што мы былі і засталіся пасярэдзіне. Цяпер мы выходзім з усіх гэтых рамак, нас узялі на мушку. Вось мы з сынам у хаце, звоніць тэлефон, то чэх адзін пытаецца, ці мы ўдома...

Знача, яшчэ адна загадка раскрываецца. Гэты чэх убіўся нейк у наш дом вайною, каб мы памаглі яму ў складаньні нейкага агульнаславянскага слоўніка. Некалі ён быў консулам у Югаславіі, так, прынамсі, нам рэкамендаваўся. А мы дурні (я, я) яшчэ кармілі гада ў цяжкі ваенны час... Чорт вас бяры са шпіёнамі, плюю на вас!

Нас з сыночкам чакае бой, добра, што хоць муж у бясьпецы. Калі мяне злапалі на могілках, я з адчаю напісала ліста прэзыдэнту Бэнэшу, каб ён мяне ратаваў, бо ж і я ад яго ў свой час не адракласся. Так непрыстойна пісаць свае «заслугі», але што рабіць, калі трэба ратаваць сям'ю. Думаю аб гэтым цяпер.

Мы з сынам дваіх у маёй пасьцелі чытаем Евангельле па-беларуску, молімся горача Богу. Дваіх няшчасныя супраць сталінскага заядлага апарату, двое самотных беларусоў — Божа, Божа, ратуй нас. Так мы і паснулі, пагасіўшы сьвет.

Разбудзіў мяне бесперапынны званок і трэск дзьвярэй у сенях. Што робіцца, казалі ж, што дзьвярэй не ламацімуць! Выходжу, а там голас за дзьвярыма: «Мамачка, пусьці мяне, гэта я, твой Янка, я хачу быць разам з вамі, ці ўжо жыць, ці ўмерці...» Адчыняю дзьверы, пан Чада прывёў маяго «галубочка» на маё гора... Мне ж самой было б спакайней. Ну і лёс... Хутка паслала яму пасьцель і падумала сабе, што ўсё ж ён шляхотнейшы, чымсьці я сабе думала...

У нас былі прыгатаваныя тры ўколы, калі б нас бралі на зьдзекі, адныя ці другія — дык мы пастанавілі лепш траіх памерці. Уколы ляжалі яшчэ з вайны.

У хаце ў мяне ўсё больш-менш ёсць, нават сухая бульба. Ходзім па хаце на цыпачках, як духі, больш ляжымо. Панядзелак. Калі ж ужо будуць нас красьці? Вокны завешаныя, і ніхто ня ведае, што мы ўдома. Ведае толькі той пан Зіка, быўшы югаслаўскі консуль, пацук аблезлы, каб ён скруціўся да раніцы... Дзень прайшоў сяк-так. Хлопцаў сваіх я накарміла, гаворым мы мала, болей думаем. Я яшчэ не чытала «Графа Монтэ-Крыста» Дзюма, вось цяпер пачала чытаць. А няхай яго, ну і літаратура мне трапіла на гэты час... Што ж, і мы тут як на тым востраве Іф...

Я хварэла ўвесь час на язву страўніка, і ад такога перажываньня вельмі пачало мне балець «пад лыжачкай». Звычайна сода мне памагала. Было ўжо над вечар, ціха кругом. Я ўстала босая, з распушчанымі косамі да пояса, у доўгім, да зямлі, халаце, узяла шкляначку тонкую венскую і замяшала лыжачкаю соду, каб выпіць, як раптам пачаў званіць званок, але так званіць, што я ня выпіла той соды і, трымаючы лыжачку рукою ў шклянцы, каб не бразнула крый Божа, падышла да дзьвярэй і падперла іх моцна плячом. За дзьвярыма гутарка, як на кірмашы, а я стаю, не баюся, вось толькі каб тая лыжачка не бразнула. Мне здаецца, я лекачу. Не, няхай яны ня ведаюць, што мы ўдома... Галосны наш званок грыміць, не перастае. Цямнее. Я на цыпачках іду

на сваё ложка. Муж ляжыць, як нежывы, бо і што скажаш? Мераю вокам адлегласьць да вакна. Затрашчаць дзьверы, дык выскачу галавою ўніз, я ведаю, што я ім патрэбная, як і ўся мая кулацкая сямейка. Не, я жывая не дамся! Званок звоніць і звоніць, і звоніць да першае гадзіны ўначы. Пасьля мы паснулі.

Ранак быў сонечны, мы хадзілі, елі ціхенечко, амаль не дыхалі. Была пошта, нехта званіў, але мы нікому не адчынялі. Юрачка, наш неспакойны, як жывое срэбра, сынок, цэлымі днямі сядзеў пад сталом на дыване і ставіў вежы з падушак, што на канапе. На дзіва спакойны малы. «Сынок, ты, напэўна, хочаш на двор, такая ж пагода?» «Не, мама, што мне з таго, каб быў я на дварэ і ня меў татачка і мамачкі, лепш я пасяджу пад сталом і буду мецць мамачку і татачка»,— мудра на дзіва сказала хітрае наша дзіця.

У мяне заўсёды нейкія запасы ежы. Я сялянка. Вось цяпер гэта ўсё прыдалося. Юру падабаецца есьці смачныя кампоты штодня... Так мы прасядзелі тыдзень, аж да суботы. У суботу мы выйшлі. У хату налязела людзей, плачуць, цалуюць нас, прынесьлі ежу і кветкі. Адныя думалі, што мы ўцяклі, другія баяліся, што нежывыя.

Знача, пад наш вялікі дом прыехаў грузавік з «асвабадзіцелямі», і салдаты пад нашымі вокнамі трымалі расьцягнутыя брэзэнты, а начальнікі званілі, але пад дом наш сышлася ўся часьць горада, гдзе мы жылі, увесь квартал, і паднялі крык, што не аддадуць «пані доктарову», што мы іх людзі, харошыя людзі! Цікава, што найбольш крычалі і лаяліся камуністы, што ж, людзі працы ня раз адчувалі маю спагаду, і не адзін сэкрэт з часаў вайны быў паміж намі. Добрыя людзі, яны крычалі, што без чэскай паліцыі ніхто ня мае права чапаць нас, а тут было якраз без паліцыі. Наш зямляк, якога мы ратавалі вайною, інг. Жук памагаў шукаць нас. Ён вадзіў знамянітую «экспэдыцыю» па хатах, па кватэрах (кватэраў болей як 30), вадзіў і ў склеп, а ў дзьвярох паставілі патрулёў. Так да першай гадзіны ўначы. Болей не паказаліся. «Экспэдыцыя» закончылася, павезьлі Пётру, налапалі яшчэ кандыдатаў у лагеры ў Комі, і на гэты раз ім зноў не ўдалося схапіць нас. Бог даў нам яшчэ тры гады чалавечага жыцьця, праўда — трывожнага...

Муж быў бледны, хістаўся, адзін цень. Ён пабег недзе пратэставаць у камендатуру, але дэлегацыя з нашага квартала ўжо пабывала ў галоўнай сав. камендатуры ў гор. Лысай над Лабаю. Бедныя, добрыя, яны ўжо нас і там ратавалі...

Я яшчэ раз напісала прэзыдэнту рэспублікі і на гэты раз напісала яшчэ паслу амэрыканскаму ў Празе Лаурэнсу Стайнгарту. Я верыла толькі яму. Чэхі дасталі паперы з маімі ініцыяламі, перапісалі маяго ліста на машынцы па-чэску і цераз адну асобу, добра ёй заплаціўшы, я паслала гэтага ліста ў самае амэр. пасольства.

На трэці дзень харошы Стайнгарт ужо паведамляў мне, што гаварыў з чэскім урадам і пакуль што каб я была спакойная. Я цалавала таго ліста, і здавалася мне, што небясьпека амаль мінула. Яна не мінула, але тры гады, ад 45 да 48, гэта былі самыя страшныя гады, калі людзі мерлі ў лагерах як мухі, іх проста нішчылі «вялікадушныя» пераможцы абедзьвюма рукамі, асабліва нацыянальна ідэйных. З яўна нямецкімі прыслужнікамі яны адразу знаходзілі супольную мову і рабілі іх правай рукою ў вынішчэньні ўсяго беларускага. Людзі, каб захаваць жыцьцё, падлелі нейма-верна, каяліся нат у тым, чаго ніколі не рабілі. Кляліся ў вернасьці Сталіну і камунізму, страшнае называлі — гуманным, дурное — мудрым, сваё добрае хрысьцілі паганым, ад беларускага з болем сэрца шарахаліся, як ад вагню, згубіўшы надзею, што наагул ажывем калі-небудзь.

Усё залівала матушка Русь, недабітыя, бедныя ўласаўцы выслужваліся, як культуртрэгеры на нашых землях, каб толькі іх не пасылалі дамоў, гдзе добра іх ведалі... Вось яны і партызаны ня нашага народу сталі цяпер на стражы і пільна сачылі, каб не прачнулася Беларусь тая адвечная са сваёю гістор'яй, з Пагоняю любай, з роднаю моваю, з народнаю песьняй і з каханьнем да старога сваяго народу.

Час йшоў, з Граду пражскага не было ніякага адказу ад пр. Бэнэша, можна было думаць, што ён маіх лістоў не атрымаў. Надышоў час аддаць Юру ў чэскую школу. Расейская гімназія і пачатковая школа перайшлі цяпер у рукі прысланых з Масквы настаўнікаў. Яны мне не падабаліся: поўныя падазронасьці да кожнага чалавека, нейкае казёншчыны, салдацкай патрабавальнасьці і сталінскай суровасьці, яны мала адышлі ад тых, якія выхоўвалі «гітлер'югэнд». Мы пастанавілі аддаць Юру ў нармальную чэскую школу. Спачатку мне не хацелі аддаваць яго папераў, але я і слухаць не хацела аб тым, каб ён і далей там вучыўся. У чэскую школу чужынцам йзноў нялёгка было даць, у той час, дзіця. Пачаліся «Народні выборы» і т. п. рады. Трэба было некалькі падпісоў давераных сьведкаў, што мы за часоў акупацыі не былі калябарантамі і т. п. Чэхі падпісвалі нам гэта абедзьвюма рукамі, і так Юру прынялі ў школу. У расейскай ён скончыў чацьвёрты клас, і вось чэхі хацелі, каб ён паўтараў у іх той жа клас, бо не дасьць рады. Я ўпрасіла іх, каб узялі хлопца ў пяты клас на пробу. Калі я прыйшла да дырэктара за пару тыдняў, як ён мне назначыў, дык аказалася, што Юра ўжо найлепшы вучань класа, а да канца года ён быў найлепшы вучань усей чэскай школы, усімі любімы «выраблянец».

У Юры паявіліся новыя калегі, але яны яму не падабаліся. Часта хлопчык выказваў мне свае думкі: «Мамачка, у іх дзікія забавы, яны на ходніках рысуюць усё віесельніцы і гуляюць у тое, што вешаюць людзей». Так, гэта было страшна. Нашы некультурныя беларусы ніколі такіх гульняў ня ведалі, а можа, цяпер і яны пайшлі з «духам часу»? Было аб чым думаць.

Нарэшце прыйшла вестка ад тата — пакуль што яны ў Зэльві былі жывыя. Тата пераслаў ліста Славачкі яшчэ з арміі. Гналі іх тады на захад. Аб сьмерці Расьціслава мы яшчэ ня ведалі. Старыя беларусы ў Празе былі вельмі занятыя сабою, даказвалі, бедныя, сваю лаяльнасьць новым парадкам і каяліся ў тым, чаго не рабілі, бо ніхто з іх для бел. справы амаль нічога і не зрабіў. Забэйда цьвердзіў, што яго палітыка была самай разумнай і яму нічога ня грозіць. Зразумела. Да нас прыехала Відавіса Паўлаўна Ляцкая, яна пацяшала мяне, што красьці мяне і не ўкрасьці яшчэ не самае страшнае, жыцьцё напярэдзе. Ермачэнкавыя рэчы чэхі з ярасьцю расьцягалі з яго кватэры і з яго вілы, гдзе гаспадаром пакінуў ён старэнькага бацька свае жонкі. Старога не скрыўдзілі, толькі выгналі з апартаментаў. Перад канцом вайны Ермачэнка запусьціў бараду, каб яго не пазналі. Аднак немцы самыя яго пасадзілі, кажуць, за тое, што спэкуляваў золатам, у шынах аўтамабіля вывозячы яго з Менску, гдзе да ўсяго іншага меў, напалову з сястрою свае жонкі, камісіённую краму!

Даведалася я аб гэтым ад Піпэраў. «Ведаеце,— казаў др. Піпэр,— я зрабіў так, як вы, фраў Ларыса, не мсьціў. Калі прыйшла да мяне жонка Ермачэнкі прасіць дапамогі, я і яму дазволіў вітаміны і туалетныя драбніцы ў камеру. Бачыце, ад вас навучыўся»,— нейк іранічна паўтарыў ён.

Прыйшла цяжкая вестка пра нашых гасьцей — сям'ю сьвятара Балая. Яны трапілі пад страшны амэрыканскі налёт на Дрэздэн. Калі шчасьліва выбраліся са склепу пад царквой, дык іх сын Косьця схапіў ровэра на зямлі. Немцы, кажуць, адразу яго расстралялі. Гэта было жудасна.

У Чэхаславацыі тым часам адбываліся маніфэстацыі, мітынгі, парады. Здаецца, не было ім канца. Муж, як і раней, хадзіў на работу ў сваю фабрыку, і часам было яму цяжка. Калі прыводзілі да яго хворых немцаў, рабочых, дык трэба было да іх адносіцца бязьлітасна, як адносілася рэшта пэрсаналу. Ён жа да ўсіх адносіўся толькі як лекар, які бачыць хворага і яго хваробу. Падтрымоўвала яго ў гэтым яго лекарская і беларуская этыка. Усё жыцьцё ведаю сваяго мужа і ніколі не заўважыла, каб ён адступіўся ад шляхотнай лекарскае этыкі, ад мовы свае роднай і ад шматпакутнай Айчыны.

Ад часу тае няўдачнае кражы я са страхам хадзіла па вуліцах, за мною так і шмыгалі сышчыкі, і я іх ведала ў твар. Я замірала ад кожнага аўта, якое ля мяне спынялася. Нейк зайшоў да нас супрацоўнік чэскай тайнай міліцыі. Ён нат сказаў, што пр. Бэнэш «урговал», гэта знача яшчэ раз пытаўся ў іх аб маім лёсе. Лісты ён аддаў у Мін. Унут. спраў, гдзе тады міністрам быў камуніст Носэк. Лісты палажылі пад сукно, а цяпер зноў варушаць справу. Той чэх парадзіў нам узяць чэскае грамадзянства, якое дадуць нам, а мне асабіста парадзіў запісацца ў «Саюз Антыфашыстаўскіх жанчын» і ў Саюз Чэска-Савецкай дружбы, тады ўсё будзе добра.

Уражанні з тае кражы, з тае нагласьці і з гора мае сям'і былі такія цяжкія, што я пайшла назаўтра і запісалася ў Саюз Чэска-Паўночнаамэрыканскай дружбы», прэдседацелям якое быў прафесар Шпачэк. Я пачала хадзіць у саюз на лекцыі ангельскай мовы разам з малым Юркам. Ён цесна пасябраваў з пляменьнікамі чэскага прэм'ер-міністра Здэнка Фірлінгера, якія прыехалі з Амэрыкі і па-чэску амаль не размаўлялі. Іх старшая сястра выкладала ангельскую мову ў саюзе.

Аб Юрку зноў гаварылі анекдоты па Празе. Аднойчы яму сказала настаўніца зрабіць сказ са словам прыгожы (бэатыфол), хлопчык і сказаў: «Мая дзеўчына вельмі прыгожая». Настаўніца яго падняла на сьмех малога. Юра абразіўся. Калі дала яна

яму зноў слова «немагчымы», дык ён злосна адказаў ёй: «Нашая настаўніца — асоба немагчымая». Ад таго часу ён ня мог цярпець яе.

Юрку і тут усе любілі, а яго настаўнікі цанілі яго як вучня і як маленькага, самастойнага, разумна думаючага, шляхотнага чалавека. Здольнасьці ў хлопчыка былі вялікія, і мы хацелі вучыць яго як найвышэй. Вучыўся ўжо ён у чэскай гімназіі, і іх прафэсар-немец хаваў сабе ўсе яго хатнія працы, у якіх бачыў і глыбокія думкі і здольнасьці. Так надзейна зарысоўвалася юнацтва нашага адзінага сына.

Але самым важным пытаньнем цяпер было пытаньне існаваньня. Чэхі хутка гублялі сваю волю ў сваёй дзяржаве, правы над імі ўсё болей забіраў сабе Сталін. Для нас гэта было трагічным. Цераз прафэсара Шпачка, які адразу зьвярнуў на маю асобу ўвагу, я навязала крыху лучнасьць са сваімі сябрамі, паслала ім апошнія свае вершы, якіх ніхто цяпер не зьбіраўся друкаваць, ды яны і былі не да друку. Я ведала, што ўсе яны больш-менш нейк уладзілі жыцьцё, і галоўнае, што жывыя. Часам даставала газэтку, выданую францускімі прафсаюзамі на беларускай мове. І гэтую газэтку сябры пачалі маім вершам, не забылі, знача.

Мне прыпомніліся ўсе мае сьмелыя як на ваенны час вершы, мой боль над лёсам нашых суродзічаў палонных і вывезеных на работу, і тых, што ў лясох, і тых, што па сёлах. Беларус у маю хату — хлеб на стол, часам апошні яго кусочак роўна раздзелены паміж госьцем і сынам. А прыйдзе час, і мільёны маіх землякоў пашкадуюць мне нават скарыначкі хлеба ў няволі, не памогуць малому хлопцу, адзінокаму і разгубленаму, на пасьляваенных дарогах чужой зямлі. Яшчэ сеці расставяць і зацягнуць у чорны омут, скуль ратуе адзін толькі міласэрны Бог.

Калі аднойчы нясла я праз лес пад канвоем цяжкое бярвеньне і снег быў вышэй пояса, я адчула, што душуся, што сэрца маё ўжо адмаўляецца працаваць, і тады падумала аб тых, якія, хвалячы тое, што чыняць над намі, езьдзяць сабе ў галубых экспрэсах ці службовых або ўласных машынах наўпрасткі, праз сьвежыя магілы маяго роду і ўсіх за вайну палеглых дзеля сытасьці іх. Маці наша, Беларусь наша, колькі ж яшчэ будуць зьвінець ланцугамі дзеці твае? Але гэта было шмат пазьней, ужо ў Комі АССР.

А пакуль што дайшлі справы, што Мікулічаў вывезьлі, бо яны не пажадалі ўцякаць, атупелі, амярцьвелі няшчасныя з гора. Такіх браць найлягчэй. Другія ж усе паўцякалі, і нават сястра Мікуліча, якое не прыкмецілі. Знача, павезла сьцерва свой багаты ўлоў. Адпакутуюць за тое, што неўзлюбілі «айца, вусатае крывавае сонца рускай зямлі». Пасьля і нас з мужам асудзяць разам на паўстагодзьдзя, і будзе ім няўцям, як можна не захапляцца «вялікім і мудрым», які пасьпеў ужо пазабіваць і вынішчыць не толькі род мой, але і паважную частку народу, лепшых яго сыноў.

Колькі іх ужо перавярнулася, тыранаў на нашай зямлі, і кожны крута загадваў найвастрэйшую нагласьць любіць сябе! «Собака бьющую руку лижет». О, не, не, не, мы нашчадкі Міколы Гусоўскага, мы племя Скарыны, браты Кастуся — мы ўжо вам не сабакі!!! Сьвет перавярнуўся дагары нагамі, усё засланіў сабою падтрымованы сто мільёнамі штыкоў і аўтаматаў — грузін. Грузія і сяньня ганарыцца, як умела адным сваім прадстаўніком мільёны вынішчыць славян. Хахочуць у кулак грузіны і спадзяюцца гэтак жа прадаўжаць надалей. Жудасны забойца вісіць у іхніх харомах, як нацыянальны герой. Проста жадаю ім, каб лепшых яны ня мелі!

Прад вачыма паўзуць манашанькі, як шкілеты, і з прасьветленымі цярпеньнем вачыма засуджаныя ўдовы з арлоўскай турмы, не кажучы ўжо аб цярпеньні нашых народаў. Строіць свой посьпех і благабыт на падобным — гэта зажыва стаць жывёламі, ніколі не дастойнымі званьня людзей. Вось цяпер наглядаю, як успрымае гэтае ідалапаклонства сярэднеэўрапэйскі, культурны народ, і з жалем бачу ажыўшыя з каменнага веку пачаткі жывёльнага ў людзях...

Расплываецца цень Масарыка над яго народам, успаміны аб ім, харошым, вандруюць на дно шафаў як капіталістычны дысананс, небясьпека сацыялістычнага, новага ладу. Адвечныя славянафілы чэхі дарма шукаюць рысаў славянскага ў вусатым і насатым Джугашвілі, крыху крывяцца, але загад ёсьць загад, і Прага пад уплывам новых барадатых, насатых пракокаў ходзіць на галаве. Няўжо і ім Бог адняў начыста розум? Не, гэта не замена багоў, гэта цынічнае ануляваньне дасягненьняў людскасьці за дзьве тысячы гадоў прасьветленай, хрысьціянскае эры.

Я пачынаю крыху разумець, што я нарабіла, запісаўшыся ў «Саюз амэр.-чэх. дружбы», для мяне прасьледаванай — гэта страшная небясьпека, але адначасова для



мяне як для чалавека — гэта адзіны крытэрый жыцьця, прамень сьвятла ў цьмянай яськіні, гдзе мы цяпер апынуліся. Усё грозіць нам згубай, але сумленьня свайго, твару свайго чалавечага мы не губляем! Юрачку мы запісалі ў Імку, гэта саюз хрысьціянскай моладзі на манер амэрыканскай. Разам з Фірлінгравымі ён едзе «На Сазаву» ў летні дзіцячы лагер. Гэты лагер, кажуць, найлепшы ў сярэдняй Эўропе.

У мужа отпуск, і мы з ім першы раз едзем адпачываць у «Шпіндлерув млын» у Судэты. У прыватным доме адпачынку нам няблага, толькі муж ня хоча хадзіць, ня любіць. Ляжыць на сонейку, выграваецца. А ў горах хораша, зелена, пасьля Прагі паветра, як найлепшы лек. Кормяць няблага, толькі порцыі мікраскапічныя, і мы даволі галодныя. Які шчасьлівы мой муж, а вось я зусім няшчасная, сумую, лекачу ўся, не знаходжу сабе мейсца. Раптам баюся за Юру, пішу яму на Сазаву поўныя каханьня лісты. Пераживаю. Чаму? Тут усё нямецкае, але немцаў выгналі, ходзяць адныя толькі старушкі ў чорных хустачках, на іх нельга глядзець — колькі трагічнага болю ў іх тварах...

Гэты боль аж крычыць, і я яго адчуваю, бо я так добра ведаю, што гэта боль. А кругом вясёлыя курортнікі, папіваюць «пивичко», сьмяюцца, ходзяць у горы, і рэшта ім усё абыякава. Праўда, яшчэ тут ходзяць хораша апранутыя дамы — чэшкі. Яны наравяць усё трымацца бліжэй да зьняволеных калонаў, якія працуюць у лесе, відавочна, жонкі калябарантаў. Калі добры, людскі канвой, дык яны сустрэнуцца, пагавораць...

Як жаль, што не відно канца лагером і зьняволеньню і здаецца, што яно толькі пачынаецца. Мне несказана цяжка. Са сваімі прадчуцьцямі я толькі пакута, вечна настрожаная бяда маяму мужу. Ён сабе ляжыць, чытае і нічога хімэрнага, несамавітага яго ня мучыць... Нявесела мець паэтку за жонку, недзе думае ён сабе. А я бягу ў касьцёл, там правіць ксёндз яшчэ немец, якога не пасьпелі прагнаць. Што ж мне рабіць, каб было лягчэй? «Адпраўце мне ймшу за памершых»,— прашу ў ксяндза. Гавару яму, хто я і што мне вельмі, вельмі цяжка. У касьцёле ня так, як у царкве, я стаю, малюся, але мне і пасьля ймшы не палегчала...

Йдзе экскурсія на Сьнежку (найвышэйшая там гара, нешта 800 мэтраў), я ўпрасіла мужа, каб пайшлі і мы. Хораша, так хораша, неба блізка, а калі захмарылася, дык аблакі плывуць пад нагамі, не нагледжуся на прыгаство, скачу лёгка, як каза, я ня ведаю змучаньня, але пачынаецца дождж, мы заходзім у турысцкую хату, перакусваем нешта, за намі ўбягае, засопшыся, тып з партфэлем і пытаецца, ці не ўздумаем йсці яшчэ на Сьнежку? Шпіён, шпік за намі і тут, у гэтых божых гарах, ледзь ужо дыша няшчасны вырадак, як жаль, што не йдзем на Сьнежку...

Дамоў у Прагу вяртаемся аўтобусам і пасьля цягнікам. У аўтобусе як пад стражай, проста адчуваецца, як акружылі. У цягніку ўжо вальней. Едзем дамоў, і нам сумна, ужо сьцяна дыму і сажы над Прагаю, здаецца, цяжэй стала дыхаць.

Юра вернецца за пару тыдняў. Ад'язджаючы, мы былі ў яго на Сазаве, вазіў нас на лодцы, частаваў абедам. Былі мы з другімі бацькамі і ля іхняга кругу, гдзе пяюць і чытаюць малітву. Хлопчык тут чуецца добра, а з нас такі рады, такі рады. Нешта трэба напісаць яму, галоўка не працуе на такой цудоўнай рэчачцы, просіць, каб я яму крыху дапамагла. Сам ён зробіць лепей, калі захоча, але я крыху памагаю. Маці.

Едзем, і я аб ім думаю, так ужо хочацца пабачыць сыночка. За гэтыя тры нядзелі столькі пошты! Назаўтра бяруся за парадкі. Столькі прыгожых рэчаў мне купіў муж, калі мы ад'язджалі, новы нэсэсэр, туфелькі адныя, другія, шорты. Усё гэта складаю на месца. Выціраю сьцены, вытрасаю дываны, драткую паркет, мыю, шарую, прасую цэлы дзень, да чацьвертай гадзіны ўначы, каб ужо ўсё гэта кончыць. Праца адганяе трывогу.

Назаўтра доўга спімо, мужу яшчэ цераз дзень на працу. На падлогу падае пошта, бягу, бяру лісты і сярод іх адзін, гляджу, з Польшчы, ад мае сястроначкі Люсі. Заміраю: чаму ж не ад мамы, баюся адкрыць ліста... Божа мой, даю яго мужу... Муж адчыняе ліста, чытае, маўчыць, збялеў нейк... Божа мой, мама памерла ў 45 годзе з голаду ў Казахстане, тата загінуў у гродзенскай турме, Расьціслаў загінуў у арміі Касцюшкі ў 45 годзе 28 красавіка, Аркадзій загінуў у 44 годзе 27 ліпеня ў арміі Андэрса ў Італіі... Ногі мае з ваты, і сьвет кружыцца, кружыцца... Праўда гэта?, праўда гэта? Ці не замнога столькі на чалавека за раз? О, мама... О, Славачка, няўжо і ты наважыўся мяне пакінуць, брацiку мой... Аркадзічак, Тату... Гэта няпраўда, няпраўда, няпраўда... Бяда мне, бяда, як пераніжыць мне і пашто жыць?.. Божа мой, барані дзіця

маё адзінае, ратуй маяго мужа... Юрачка, сыночак мой, як табе, Юра? Я, здаецца, згубіла розум, білася аб падлогу галавою, грызла зямлю. Сапраўды, я, здаецца, здурэла.

Толькі цераз пару дзён пайшла старацца, каб мне дазволілі паслаць пасылку ў Польшчу, апрануць няшчасных, Люсі паслаць лекі, бо хварэла на бурцулёз, якім заразілася ад гавец у Казахстане...

Трэба было паехаць і паглядзець, ці жывы Юра? Ноччу мне прысьнілася, каб не наракала, што можа быць яшчэ горай, яшчэ страшней. Сьмерць і гора абступілі мяне з усіх бакоў, надыходзіў нейкі абсалютны канец, трагічнае завяршэньне цярпеньня. Што ж, у гэты час муж мой меў ненармальную жонку. Здаецца, ніхто з людзей ня меў такога жудаснага болю, як я... Сёстрам я ўсё паслала сваё, і людзі мне памагалі. Адзела іх усіх, пааддавала ўсё, што мела. Люсенька была шчасьлівай. Памаглі ім і мае сябры ў Польшчы, далі ім кватэру ва Вроцлаве, далі працу. Цяпер яны маглі жыць.

Толькі я стала горам для сваей сям'і, уся душа мая была з мёртвымі. Удома быў толькі мой цень. На імшу я дала па іх у касьцёл, і каталіцкі ксёндз маліўся па іх. Яшчэ сьцерва папярэдзіла мяне, што пражскія сьвятары, якія засталіся, цяпер агенты іхнія і ўсё даносяць... Не ведаю, ці і гэта было праўдаю, але мне рабілася страшна нават ад пачутага расейскага слова.

А сёстры жылі, ачунялі. Што толькі магла я ім слала — і прыгожую ябланецкую біжутэрыю, і лекі, і новае, і крыху ношанае — і гэтым жыла. Жаль мне было часам мужа, бо са мною ўжо не было ніякае гутаркі, як з дурнем. Настаўлю фатаграфіяў памерлых і ўглядаюся.

А на працы ў мужа пачало ня ладзіцца, пачалі яго змушаць уступіць у партыю, але ён сказаў ім, што лекар і ксёндз не сьмеюць быць партыйнымі. Партыяў чатыры, а яны для ўсіх. Пачалі памалу капацца пад намі ўсюды, і спакою ўжо ў нас не было.

Аднойчы прыйшоў ліст, на якім было толькі напісана: «Доктар Іван Геніуш у Празе». Шукалі нас доўга, але знайшлі. Ліст быў ад брата Аляксея. Ліст быў прыблізна такі: дарагі швагер, гдзе мая сястра і гдзе наш Юра? Пачалася перапіска. Паляцела трагічная вестка і да яго. Ён быў у Англіі, прыгожы, рослы, з крыжамі заслугі, але без раненьняў выйшаўшы з вайны. Аркадзій сканаў у яго на руках і пахаваны ў Лорэто ў Італіі, у Братняй магіле з палякамі, з якімі і ваяваў.

Брату хацелася памагчы мне, пасылаў, што мог, найболей ангельскія цыгарэты, бо іх усё было мала. Аднойчы прыслаў мне і залаты крыжык у папяросах цудоўнай мастацкай работы. Я не расставалася з ім, аж зьдзерлі мне яго разам з абручальным персьценем і гадзіньнічкам у савецкай турме і болей іх мне не вярнулі...

Я крыху супакойвалася. Нас наведаў брата прыяцель англічанін Сыднэй Алард. Вельмі цікавіўся нашай сям'ёй. Бываў у нас, што вельмі не падабалася нашаму наваколью, і мы проста самахоць йшлі да нейкае згубы, ня хочучы ніяк пакарыцца хмарнай рэчаіснасьці. Жылі трудна, але жылі, як хацелі, жылі, як сапраўдныя людзі, ня крывячы сваім сумленьнем і не прадаючы яго ні дорага, ні танна, бо на чалавечае сумленьне цаны няма! Такое не прадаецца, і няхай мне ніхто не кажа, што нельга ўстояць!!! Няма сумленьня і няма чалавека! Касьцяк людскі — гэта людское сумленьне.

Нас пачалі падганяць, каб мы бралі грамадзянства. Муж хацеў чэскае, аж пішчаў. Вельмі гнаны чужынец, праз усё жыцьцё ён хоць раз хацеў быць грамадзянінам дзяржавы. А Сыд Алард таксама пытаўся ў мяне: «Хто бароніць людзей без грамадзянства?» Я кажу яму: «БОГ!» «А англійскіх грамадзян бароніць БОГ і кароль»,— мудра адказаў Сыд... Жаль, я не зразумела тады як належыць разумных слоў братняга друга, ды і ён мог бы сказаць мне гэта хоць яшчэ адзін раз, і жыцьцё нашае было б лягчэйшым...

І так мы пачалі старацца чэскае грамадзянства, як хацеў муж. Чэхі ня проста давалі людзям пасьляваеннае сваё грамадзянства. Яны нас трасьлі-ператрасалі, перавяралі ўсе костачкі і ніякіх грахоў не маглі за намі знайсьці. Было толькі ім незразумела, чаму за нас, чужынцаў, бяруцца ўсе іх чатыры партыі. Яны нам гэта сказалі. Ніяк не маглі зразумець, што беларусы мы, што мы людзі, людзі ў кожных абставінах жыцьця, якія не здрадзілі праўдзе, шляхотнасьці, сваёй Бацькаўшчыне, Народу і ўсім добрым людзям на сьвеце. Вузкалобыя гэтага не маглі зразумець.

Юра выступіў супраць ідэі чужога грамадзянства і сказаў нам, што гэта здрада перад сваім народам. Было нам дзіўна яго слухаць. Сяньня думаю, што, можа, яго,







малога, агенты якія так навучылі. Аднойчы нам яго ўкралі, павезьлі з сабою нейкія байцы, адразу нейк пасьля іх прыходу ў Прагу. Ноч не было хлопчыка, і мы каналі са страху. Назаўтра нам яго прывезьлі байцы таго штаба, які першы ў нас затрымаўся. З ім нам прывезьлі мяса, каўбасу і сваю, здавалася, дружбу. А сяньня нечаму думаю, а можа, яны нам тады купілі дзесяцігадовага хлопчыка? Я сяньня ўсё ўжо магу чакаць ад іх, хоць такое і неймаверна. Сына мы ніколі ні аб чым не пытаемся. Нам цяжка задаваць яму падобныя пытаньні, раніць чалавека, а ён маўчыць. Маўчыць...

Людзі пачалі вельмі разачароўвацца ў савецкіх байцах і людзях. Рэчаіснасьць выглядала непрывабна, зусім іначай, як прапаганда на старонках сав. газэт. Найболей не падабалася пагоня за гадзіньнікамі. «Давай часы» стала насьмешлівай пагаворкай.

Чатыры партыі моцна змагаліся перад выбарамі. У чэхах найболей галасоў атрымалі камуністыя, у Славаччыне наадварот. Славакі не маглі даравацъ Бэнэшу сьмерці ксяндза Ціса. Бэнэш і тут кіраваўся помстаю. У яго волі было памілаваць гэтага чалавека. Адсутнасьць велікадушша, трагэдыя тупых адзінак, рэпрэзэнтуючых народ. Час йшоў. Чэхаславаччына ўсё яшчэ не выходзіла з чаду помсты і маніфэстацыяў, але бурныя словы не маглі закрыць суровай для камуністых праўды — народ, прывыклы да ладу і парадку, расчароўваўся ў пустых словах, традыцыі перамагалі.

Беспартыйнага маяго мужа звольнілі з працы. Далі яму нейкае адшкадаваньне. Трэба было шукаць працы. Тым часам далі нам чэскае грамадзянства. Мне сяньня здаецца, што далі нам яго, проста каб мы не ўзялі другога, калі ўжо не бярэм савецкага. «Е нам цти дат вам обчанстви» (гонар для нас даць вам грамадзянства),— сказалі нам чэхі, даючы нам яго.

Муж шукаў працы, а сябры ўсё рабілі, каб толькі нас перацягнуць да сябе. «Ужо год еў бы кансэрвы,— гаварыў муж,— каб цябе паслухаў. Ну, пакуль што еў па кусочку сьвежага мяса, але гэта яшчэ пакуль што, пасьля амаль дзесяць гадоў жывіўся знамянітай камсою ды хлебам з мякінаю. Кансэрва была як мара, як сон, які не збываецца...

Нас клікалі ў Парыж, прыслалі паперы, каб лягчэй было нам дастаць дазвол і візу. Знайшліся ў нас там сваякі. Муж не хацеў слухаць, а мудры Юра так радзіў: «Хадзі, мамачка, паедзем з табою, а татачка так нас любіць, што хутка за намі прыедзе, не вытрымае». Гэта зрабіць тады сапраўды было б найразумней, але муж галава ў хаце, пагледзімо, што будзе далей, як жа тая галава пакірує?

Бяда ў людзей іх шматкі, іх рэчы. У нас гэта былі горы кніжак, якія ўчэпіста трымалі маяго мужа пры сабе. Яны, здавалася, яму даражэй за нас з сынам. Я зацінала вусны, і прадчуваньне згубы нейк зусім авалодала мною. Муж шукаў працы. Абяцалі яму яе і ў Карлёвых Варах, і ў нашых мясцох, а далі ў мястэчку Вімпэрку ў Судэтах, ля самай граніцы. Вось крыху толькі заблудзіўся, і амэрыканцы схопяць цябе на граніцы ў абдымкі. О, які гэта нязьдзейсьнены, які салодкі сон... Здаецца, нічога не хацеў бы, толькі б не баяцца, што йзноў цябе схопяць і павалакуць, як і іншых, на канец сьвету ў свае суровыя, душагубныя сьнягі і марозы.

Чэхі, напэўна, нам і далі гэты Вімпэрак, што спадзяваліся-такі на нейкі розум у беларускіх галовах. Але каго Бог пакараць хоча, дык прытупляе той розум... З мужам на гэтую тэму дарма было гаварыць, і хоць адзіным яго аргументам былі кансэрвы, усё ж ён трымаўся за яго аберуч і з месца скрануць не даваўся. Яму сьнілася Бацькаўшчына, а мне свабода і жыцьцё, гдзе ўсе людзі роўныя — кулакі яны ці люмпэн-пралетары, абы былі чэснымі людзьмі. Здаецца, раз на дзень еў бы, каб толькі не баяўся за сваё адзінае, дарагое дзіця. Рэчаістасьць была страшнай: ніякае магчымасьці літ. працы ці наагул працы для сваяго народу, карыснай, канструктыўнай, і гэты ніколі не засынаючы страх з тылавых «герояў» арміі, якая паволі адыходзіла з Эўропы дамоў, тых, другіх, пакідаючы за сабою.

Алёша не забываў нас. «Дзьве тысячы братоў маіх ляжыць тут»,— пісаў ён, перасылаючы здымак Монтэ Касыно і знамянітую песьню аб ім. Пісаў па-польску, бо так яго вучылі ў школе (іначай не вучылі) і польскае наваколье Андэрсавай арміі апалячыла яго начыста. Хлапчаня не магло сьцяміць, што Беларусь — гэта не толькі тыя, хто зьнішчыў нашых бацькоў, што Беларусь — гэта старая нашая казка-зямля, нашая Маці і нашая мэта. Не час было пераконваць брата, я яму паслала толькі пачатак свае кніжкі з вершамі аб гэтай зямлі. Мне было радасна з таго, што ён, хоць ён адзіны выжыў з гэтай вайны. Пасьля пачалі мне пісаць і дзяўчаты, яго сымпатыі, і я пацела па-ангельску, адказваючы на іх лісты. Хлопец быў хоць вады напіся — высокі,

стройны і на здымках амаль волат сярод акружаючых яго дробных, нармальных людзей. Толькі, на жаль, любіў джын, у чым мне чыстасардэчна прызнаўся. Пісаў аб ім і яго камандзір андэрсаўскі. Маляваў хлопца хораша, як растаропнага добрага чалавека. Аляксей, кудэмі ні праходзіла іх армія, усюды лёгка вывучаў мовы і так размаўляў па-італьянску, па-нямецку і дасканала ведаў ангельскую мову.

Пісаў, што мог вучыцца ў Андэрсавай арміі, але хацелася яму ваяваць...

Аляксей быў нашаю радасьцю, а яго сябра з вайсковай ангельскай місіі ў Празе Сыд Алард — мілым госьцем. А ў вачах паноў долі зямлі, гдзе мы жылі, гэта было сьмяртэльным грахом. Бо хоць брат і біўся супраць таго ж ворага, цяпер аказалася, што ахвяры толькі сьпяць роўныя між сабою па капцах і магілах, а пераможцы дзеляцца на класы.

А я прызнавала толькі паганых і добрых людзей, бо разумны, асвечаны інтэлігент куды больш патрэбны грамадству за азьвярэлага, тупога пралетара, якога мэта пакуль што толькі і толькі — карыта. І так будзе вечна, бо людзі могуць лепш жыць матэр'яльна, але яны не дасканаляцца масава да ўзнёслага ахвярнага ўзроўню назначаных лёсам адзінак, якія служылі і будуць вечна служыць прыкладам людзям. Ня мэта раўняць усіх людзей да ўзроўню такіх прымітываў. На Захадзе падымаюцца людзі больш да ўзроўню шляхотных інтэлігентаў. Прынамсі, такіх ставяць, выбіраюць, каб валодалі рэштаю.

Муж памалу зьбіраўся ў Вімпэрак, а Юра пайшоў у школу. Муж пісаў, што яму не пагана. Аднойчы я выбралася яго адведаць. Гэта цераз 200 км за Прагаю. У гарах ужо было халадно, і сам Вімпэрак такое цяжкае зрабіў на мяне ўражаньне, што я раніцай уцякла ў касьцёл, каб хоць крыху акрыяць душою. Нігдзе яшчэ не было мне так жудасна, як у гэтай мясьціне. Ня высказаць было маяго страху, і муж адмаўляўся мяне разумець. Душа паэта — сэйсмограф. Яшчэ раз паехалі мы туды на Сьвятога Мікалая (чэскае старое сьвята) з сынам. Уражаньне не было лепшым. Наадварот. Нават сяньня цяжка мне пісаць пра тыя дні.

Муж там чуўся як рыба ў вадзе. Восенню 47 г. пан Кржывоноска, наш добры знаёмы, ведаючы, як я хачу пабачыць маіх сёстраў, дастаў машыну і павёз нас на Сьнежку, гдзе сустракаліся чэхі з палякамі, бо гара была падзеленая напалову. Цудоўна ехалася, пераначавалі мы ў гатэлі прадгорыя і назаўтра пайшлі пехатою на Сьнежку. Няслі падаркі, і сэрца сьціскалася ад сустрэчы пасьля стольких падзеяў, а сустрэча блізкылася. Горы былі восеньню ня меней прыгожыя, лужайкі яшчэ зялёныя, сосны дзявоча задуманыя ў чыстым небе, а пагода была, як высненая. Юрачка бег лёгка пад горку, а я ўжо ня бегла, як бывала раней, пачало не хапаць мне паветра. На Сьнежцы дзьве гасцініцы, і ў польскай мы знайшлі нашых! Ніна моцна пастарэла, а Люся была як абразок — такая зграбная, прыгожая, што не адарваць вачэй. Пан Кржывоноска адразу сказаў, што такое дзяўчыны нельга пакідаць палякам. Чэхі ўсё яшчэ ня мелі ласкі на іх. Мы завялі іх на наш чэскі бок, я дастала ежу, на стале разлажыла, але есьці ніхто ня мог, мы і гутарылі мала, проста нейк анямелі. Я надзела на пальчык Люсі залаты пярсьцёнак, які мне купіў муж у дзень сьмерці Аркадзія, ня ведаючы аб гэтым. Люся марыла аб пярсьцёнку і была радая. Было яшчэ і на суkeначкі і інш. Юра быў вельмі рад, усё хацеў быць з Люсяй. Даў ёй сваю прыгожую горскую палку.

Я папыталася аб замустве, і цудоўная Люся сумна адказала мне, што ў яе загробны жаніх... Мне пайшоў мароз па скуры. Яшчэ раней, калі я ім усё апісала пра Славачку і пра таго чорнага ценя, які прасьледаваў яго, Люся адказала мне, што жывучы ў Казахстане і да яе прыходзіў чорны цень. Першы раз увайшоў праз закрытыя дзьверы ў зямлянку, у якой яны жылі. Усе спалі, Люся яшчэ мылася, і сказаў: «Спой, невеста, не пугайся...» Люсю знайшлі на зямлі абамлелай. Ад таго часу, як і ў Жлобаўцах, многія яго бачылі. Мама прачнецца, а над спячаю Люсяй чорны цень. Люся мне казала, што прывыкла да яго. Аднойчы ноччу прачнулася і, убачыўшы цень, папыталася: «Што ты ад мяне хочаш?» «Тваю маму»,— адказаў цень. Цераз два месяцы мама памерла. Цень паказаўся яшчэ раз, і ў паветры праняслiся словы: «Со святыми упокой». Болей Люся тым часам яго ня бачыла, але дзяўчо нейк чакала непазьбежнай сустрэчы з ім, свае сьмерці. Многа пазьней, у 1952 годзе 22 мая, Люся памерла вельмі загадачна, толькі не духі былі прычынаю яе сьмерці...

Усё гэта неверагодна, але я ня маю падставаў ня верыць чэснаму-найчасьнейшаму брату маяму, маці сваёй і дарагой сястронцы. Я ня маю падставаў ня верыць ім, і я ім веру. Я мела намер забраць з сабою Люсеньку. Перад ад'ездам схадзіла на чэскую паліцыю, і яны абяцалі мне яе прыпісаць, калі ўдасца, перавезьці яе ў Прагу. Люся была гатовая йсці з намі, але Ніна так спалохалася, так зьбялела і пачала прасіцца, каб мы ня бралі Люсенькі, бо яе за гэта пасадзяць, а яна ўжо ведала савецкую турму...

Польскае таварыства ахвотна забрала з сабою пад апеку маіх сёстраў. Панесьлі нават іхнія рэчы. Дружныя і харошыя палякі ў горы, як брацьця. А мы йшлі памалу да свае машыны. Са Сьнежкі відно было польскі бок. Мне здавалася, што там бясьпечней крыху. Пайшла мая Люсенька, як русалачка, з імі ў маім зялёным касьцюме, у харошай шапачцы белай. «Каб не гэты шакалад, што ем, і каб не падаркі ад іх, я думаў бы, што гэта сон»,— мудра выказаўся мой Юра.

Як было хораша, што я іх бачыла. Пан Кржывоноска ніяк ня мог супакоіцца, што палякам мы пакінулі такое дзяўчо, такое цуда... Задуманая, сумная, як не з гэтага сьвету, дзяўчынка адышла ад мяне назаўсёды, маленькая Люся... Ня шчодра адмерыў ёй лёс ніць жыцьця. Расказвала я ім пра таго Толіка-партызана (мне здавалася, што ён Міша, але людзі з Палавок мне сказалі, што Толік). Успаміналі, як нейкі Сундукевіч (з Лазоў, здаецца) арыштоўваў тата, як гнаў яго Заяц з Тупічан, азьвярэлы, на безбароннага пана, аж да Лунны. Яшчэ жыве ў Мастох нейкі Капейка, які прыгарнуўся да Расьціслава ў час вайны, а пасьля прасьледаваў яго толькі за тое, што купецкі сын. Так даказваў сваю рабскую адданасьць Сталіну, памагаючы фізічна вынішчыць яшчэ жывых. Недзе і далей прадае ў Мастах на лесапільнай фабрыцы такіх жа нявінных. Што ж, залаты фонд сяньняшняга рэжыму. Цераз такіх гінулі людзі, не ўсе, безумоўна,— толькі тыя, хто не ўцякаў, хто не пакідаў гнязда сваяго, зямлі роднай, каму здавалася, што людзі ўсё ж за дабро заплацяць дабром і за праўду — праўдай... Няўжо так вынішчаць увесь наш род?

А крывавыя кіпцюры ўжо памалу зацiскаліся ля маяго горла, і малы сынок йшоў насупраць страшнога сіроцтва. Так наканавана ўсяму нашаму роду гінуць на зубах гэтых азьвярэлых людзей. Мне найболей цяжка, бо я кахала гэты народ, кахала яго безгранічна... А можа, гэта толькі шумавеньне, крывавая пена такіх жа крывавых дзён, можа, яшчэ б'ецца чалавечае сэрца ў маяго народа і загамоніць некалі пратэстам супраць садызму? Так мне хацелася гэтаму верыць.

Муж пісаў з Вімпэрку, клікаў мяне да сябе, бо было яму цяжка. Страшны Вімпэрк, на ўспамін аб якім браў мяне жах. Трэба было здаць хлопчыка на кватэру, а самой ехаць. Мае добрыя знаёмыя Сіраполкі знайшлі нейкую ўкраінку пані Кучынскую, гдзе і аддалі мы Юру, над якім апеку пераняў пан Кржывоноска — наш знаёмы чэх. Часта я прыязджала да Юры, тады мы йшлі на нашую кватэру і праводзілі там пару дзён. Былі тады шчасьлівыя. Я заўважыла толькі, што Юра стараецца быць самастойны, гэта палохала мяне. Пані Кучынскай ён не слухаў. Муж мала наагул звяртаў на яго ўвагі, а цяпер дык зусім ня бачыў яго. Хлопчык вырас велькі, нейк выцягнуўся.

Аднойчы я ехала да мужа. Звычайна спакойна бывала ў аўтобусе, але на гэты раз да мяне ўчапіўся нейкі тып, які вельмі пагана гутарыў па-чэску з расейскім акцэнтам. Бяссільны, каб вырваць ад мяне хоць слова, ён звяртаўся да шафёра і да ўсіх з аўтобуса, што гэтая дама буржуйка, сама жыве ў Вімпэрку, а сын яе вучыцца ў Празе і т. п. Мне прыпомніўся Аляхновіч, нічога новага, паўтараецца тое, што перанёс калісьці ён. Цераз пару дзесяткаў гадоў так жа адзін з іх «прадстаўнікоў» нападзе на мяне ў Польшчы па дарозе ў Крынкі. Калі муж спаткаў мяне ў Вімпэрку, я паказала яму на прасьледаваценя, і ён адразу ўцёк. Таксама ў Польшчы ўцёк той чакіст у лес, не даязджаючы да Крынак...

Йшлі мне па пятах, сачылі, акружалі, і толькі муж мой быў глухі і сьляпы і паранейшаму баяўся, каб хоць не пераехаць граніцы ў Заходнюю Германію. У мужа была медсястра і сакратарка, якой бацька быў немец, а любоўнік — партыйны актывіст, чэх вельмі зацікаўлены нашымі асобамі. Муж і тут ня бачыў нічога страшнага, наадварот. Мне ўсё было ясна, але я рабілася пасіўнай і як тупая авечка йшла на зарэз. А трэба было браць сына і ратавацца, бараніць жыцьцё адзінага сына і сваё. Праступнае кіданьне нас Сталіну пад ногі ніколі не лягло каменем на сумленьне маяго мужа. Мы для яго былі рэчы, чымсьці жывыя людзі.

У яго былі свае зацікаўленьні, сваё жыццё. Будучы ў Вімпэрку, я варыла яму, падавала, паліла ў печы, а ў свабодны час малявала алавікамі ці акварэльлю. Калі ён

ехаў далёка на вызавы, дык браў мяне заўсёды з сабою. Тады я глядзела на лясы, на пакінутыя ў іх немцамі хаткі і думала пра Беларусь. І тут і там было для мяне страшна. Страшна, калі вайна, але страшней, калі на яе крывавых сьлядах прадаўжаецца сабачае, нізкае сачэньне, мучэньне і выданьне людзей, якія ня хочуць гнуцца, не патрабуюць апраўдвацца і не паддаюцца загаду або любяць тое, перад чым некалі садрагнецца людскасьць, як перад пеклам. Логіка тут была рэчай сьмешнай, а подласьць і нізасьць законам дня. Цяпер многае зьмянілася, але такое робіцца і далей, але хоць крыху маскуецца, тады ж гэта было яўна, выразна нагла.

І так пасьля высокай эўрапэйскай культуры ў Чэхаславаччыну прыходзілі паняцьці: мядзьведзь — начальнік, тайга — закон... Аднойчы ў суботні вечар мы нешта гаварылі з мужам, як раптам пазваніў нехта, калі мы выйшлі адчыніць, дык у дзьвярох стаяў Юра і хахатаў. У яго былі канікулы, і ён сам прыехаў да нас. Колькі ж было тады радасьці! Аднак Юра хацеў паездзіць на лыжах, і муж завёз яго на самую граніцу да знаёмых, гдзе былі лыжныя тэрэны і нават трамплін. За тою граніцаю жылі людзі, якім цяжка было пасля вайны, але якія падымаліся эканамічна і маральна, і жыцьцё ў іх з кожным днём рабілася лепшым. Я паехала па Юру, але ён яшчэ хацеў паезьдзіць на лыжах. Да нас вярнуўся сам, прыбег на лыжах! Ехаў праз пакінутыя сёлы, і было яму страшна. Яшчэ не ўсё абжылі тады чэхі ў т. зв. «пограничы», яны запрасілі на гэта нават балгараў, і вось «братушкі» памагалі там рабіць калхозы. Сколькі кароў, столькі начальнікаў на пакатых баках Судэцкіх гораў. А некалі там кожны гаспадар меў па некалькі кароў, і агульная іх колькасьць была дзесяць раз большай і дзесяць раз лепшай ад калгаснай.

Людзі на ўсё гэта глядзелі скептычна, але, як казалі немцы: «Бэфэль ист Бэфэль», і вось кожны гэтаму прыказу падпарадкоўваўся, каб толькі ня трапіць у сталінскія, крывавыя кіпцюры. Прафэсар Шпачэк напісаў мне, што хацеў бы мяне бачыць і пагаварыць. У Прагу паехаў муж, але Шпачэк, паводле яго слоў, нічога не хацеў з ім гутарыць. Сёстры ўжо добра ўладзілі свае жыцьцё, і здавалася, што ім будзе спакойна і добра. Мае знаёмыя, хто як мог і хто чым мог, памагалі ім. Яны нават пісалі, што ім яшчэ ніколі так добра не жылося. Была добрая кватэра, і кожнай праца, і ўсе тры разам. На жаль, ім хацелася яшчэ лепей, галоўнае — весялей. Усё гэта кончылася трагічна.

Алёша пісаў па-ранейшаму. Ужо пачаў звыкацца з лёсам і новай сваёй Бацькаўшчынай — гасціннай зямлёю Англіі. Бліжылася вясна, яна раньняя ў горах. Калі доўга не прыходзіў муж, дык я выходзіла на двор і глядзела, як ймкнуць цёмныя хмары і як губляецца ў іх бездапаможна адзінокі месяц. Той пэўнасці жыцьця, стабільнасьці заўтрашняга дня, што была некалі, не прадбачылася нават. Кожны жыў абы дзень да вечара, нават партыйныя. Меліся быць выбары ў Чэхаславаччыне, але не адбыліся. Замест іх зноў была рэвалюцыя, на гэты раз разьдзяліўшая народ на камуністаў і дэмакратаў. Выйгралі камуністыя, бо так загадаў тады Зорыну Сталін.

Даўно ужо мінуў перыяд крывавай нямецкай акупацыі, з якой мы выйшлі жывымі, але самае галоўнае, што паэзія мая, мая любоў да Беларусі была чыстай, як крыніца ў полі. Я нікому ні слова не сказала, не напісала, акрамя Зямлі маёй і маяго Народу! Мае словы табе былі толькі, Айчына мая пакрыўджаная, табе была ўся вернасьць мая, якую пранесла я праз нялёгкія дні, бо табе толькі сваё жыцьцё прысьвяціла. Надыходзіць другая пара выпрабаваньняў. Для мяне яна будзе яшчэ страшнейшай, але Божа Зямлі мае, Божа продкаў маіх, дай мне сілы вытрымаць найцяжэйшае. Няхай вернасьць мая і любоў мая будуць дастойныя мукаў Тваіх некалькіяковых, мая Беларусь! Галінка з Тваяго дрэва, пясчынка з палёў Тваіх, нясу Табе рэшткі жыцьця маяго і маё сэрца. Як жа хачу пралажыць мукамі сваімі сьветлы сьлед да заўтрашняй Тваё долі. Пакідаю Вам усім на памяць словы мае і на міласьць Вашу, маіх нашчадкаў. Няхай крыўды мне зробленыя адкупяць шчасьлівыя дні для іх на Зямлі, якая ёсьць нашай. Інтэрнацыянал — гэта не прыдбаць сабе чужую маску і адрачыся ад усіх вартасьцяў сваяго роду, гэта быць шчырымі брацьмі ў сваім народзе і ў брацтве паміж народамі. Інтэрнацыянал — гэта не падпарадкаваньне сільнейшаму, але падпарадкаваньне роўнасьці, любові і праўдзе. Ніхто лепей за нас самых не сьпяе нашае «Рэчанькі», не станцуе «Лявоніхі», не ўздыме шляхотнай народнай культуры нашай да такое вышыні, каб бачылі людзі, што мы акрэмы, самабытны, стары і варты народ!

І так нічога ў мяне няма, нават лісінай норкі, а ў пэрспэктыве сэрца, расьпятае





на заінелых дратах поўначы за Беларусь. Знача, так наканавана. О Божа, не пакінь сына маяго адзінага і не дай загубіць яму ў прорвах адзінокага жыцьця імя і аблічча чалавечага і беларускага! За мною ўжо магілы маіх найдарожшых, а наперадзе зьдзек і крывавы лёс. Што ж, памераем з ім сілы. Хто будзе сільнейшы: зьдзек над намі ці мая любоў? Няхай на маёй асобе спыняцца ўсе пакуты народу нашага. Ён заслужыў, каб быць вольным! Вякі перахаваная мова народу маяго, наша культура ад св. Ефрасіньні ўжо гуманная, якія ж вартасьці гэта ў сьвеце лагероў, забіваючых чалавецтва сьцюжай Варкуты і агнём Асвенціма! Ці ж можна аддаць на забыцьцё і зьнішчэньне такія вартасьці народу без шкоды для ўсяго чалавецтва? Сьпі спакойна, дарагі дзядзька Васіль Захарка, не дамо зглуміць нашага скарбу. У рукі мае перайшла воля Твая, а сэрцы дочак заўсёды вярнейшыя роднай Маці! Усё будзе забрана мне, і сьлед мой амаль зацёрты, але зярняты чынаў Вашых і нашых слоў перажывуць усё маральнае катаваньне і закрасуюць у недалёкім часе, каб вечна наш жыў народ!

Не, нельга мне вінаваціць маяго мужа, бо хто абышоў лёс свой, які яму наканаваны зверху? Іду, мяне будуць судзіць і вінаваціць за тое, што не люблю іх, бо іншае віны ў мяне няма. Няхай хто з жывых, каму замучаць бацькоў, вынішчаць род яго, адарвуць ад сэрца і кінуць на мукі адзінага сына, разаб'юць сям'ю і засудзяць абоіх з мужам на паўстагодзьдзя кіркаваньня Богам і людзьмі праклятае мерзлаты, няхай зразумее: ці можна «любіць» за такое і называць гэта паводле рэцэпту іх «мудрым»??? Можа, каго змусілі і на гэта за скаромейшы кусок т. зв. «народнага хлеба», але хіба ж гэта людзі? Гэта халуі і ахвяры іх.

Ня можа быць вартым і шляхотным тое, якое праводзіцца такімі мэтадамі ў жыцьцё. Вялікае крывавымі мэтадамі брыдзіцца! Канчаецца гасьціна мая ў т. зв. братняга славянскага народу. Як лёгка замянілі чэхі сваю адвечную вернасьць славянству на грузінскія вусы сваяго новага ідала! Страшна нейк, шкада іх крыху, бо ж прачнуцца і будзе ім жудасна: каго, на што лёгка так і так бяздумна памянялі? Што ж, ён «натхняў» нават беларускіх ткачыхаў, «абагачаючы» нашыя народныя ткацкія матывы ўзорам ботаў сваіх, акрываўленых славянскай крывёю, і, галоўнае, узорам жудасных сьвету грузінскіх вусоў... Ну і «натхненьне» для народаў зямлі, ды яшчэ эўрапэйскіх!

Недзе ў закрытым вартаваным памяшканьні дагараў чэскі прэзыдэнт Бэнэш. Цяпер ён стаў ворагам. Яго выкарысталі і адкінулі ў яму, калі ўжо стаў не патрэбны... Так з кожным палітыкам і з кожнай чалавечай праўдай, якая не надаецца ў марксісцкі талмуд. А талмуд той застыў на псэўдапраўдах дзевятнаццатага стагодзьдзя і клаў цяпер на пракрустава ложа абалванелых дзеячоў новай нейкай чужой чалавечаму, асабліва славянскаму сэрцу — рэлігіі. Адно было мне яшчэ пацехаю нейкай. Я верыла, што ў мужа былі гэта памылкі і што ён, як і я, не зарачэцца шляхотных праўдаў і дасягненьняў вялікіх людзей на гуманным развіцьці чалавечай культуры.

Мяне чакала павольнае забіваньне паэта і ніякай магчымасьці творчае працы наагул. Але ўсё ў Божых руках, і таму жыць — цікава! А недзе стаяла нашая калыска, так мне думалася тады. Нашая хата ў Жлобаўцах. Памятаю, як тата вазіў на яе лес з-за Нёмана. Бярвеньні былі смольныя, аб'ёмістыя. Сані праваліліся ў Нёман разам з татам, і магутны, шыракаплечы тата доўга ляжаў у пасьцелі з адмарожанымі нагамі. Пасьля ставілі дом, пасьвянцілі падмуроўку, паклалі туды сьвянцонага зельячка, як рабілася яшчэ да нас. Разьвіталася я з ёю ў 37 годзе, ад'язджаючы да мужа з сынам. Калі вывезьлі нашых бацькоў, перавезьлі нечаму нашую хату ў Гудзевічы, Расьціслаў вярнуў яе назад на сваё месца, каб мама, вярнуўшыся, мела гдзе жыць. Але не вярнулася мама, і йзноў перавезьлі гэтую хату цяпер у Ваўкавыск на Віленскую вуліцу. Туды перавезьлі і нашае гумно на гараж. Было там ДЭУ, а цяпер нават ня ведаю, якая там установа.

Часам прыходжу і гляджу на яе здалёк і бачу: здаецца, тата з адмарожанымі нагамі як звозіць тугія бярвеньні на хату для сваіх семярых дзяцей. Было ў ёй звонка і было трагічна, бо крывавая будучыня прадзіралася ўжо ў нашую людскую сьвядомасьць прадчуваньнямі жудасных дзён. Узгадавала яна высокіх, мажных і харошых братоў маіх і сагрэла вечным цяплом сэрца маё беларускае, загартавала яго ў дабрэ і праўдзе, якой не змаглі ніякія ворагі людскасьці. Думалася: нехта з нас адыдзе, нехта застанецца на гэтай зямлі ў гэтай хаце і будзе чакаць нас, калі прыедзем у вялікае сьвята на магілы дарагіх бацькоў і ўсім нам будзе як у маладосьці, і памяць бацькоў будзе асьвячаць шляхі нашыя і выпраўляць нашыя памылкі. Мы славяне, мы беларусы, у якіх ня гіне памяць аб мінулым і да якіх продкі нашыя асабіста ад вякоў

ужо, прыходзяць на «дзяды», каб разам пабыць у гасьціне. Усё благое адыходзіць у небыцьцё, і застаецца чысты ўспамін аб найлепшым. Ходзім па зямлі і чуем, здаецца, спагаду і параду дзядоў сваіх сярод шырокага поля. Адабралі нам нават гэтае, абсьмяялі веру нашую, абычаі нашыя і мову нашую на нашай зямлі. А нашыя «Дзяды» ўсё ж прыходзяць да нас у кожную восень... І пакуль яны будуць прыходзіць да нас, датуль мы будзем людзьмі.

Жыцьцё нашае было працай, болем, але было і песьняй, якой не было ў другіх народаў. Пяялі ўсюды і пяялі ўсе. Пяялі — знача жылі! Цяпер у нас пяе толькі гарэлка ў застольлі, раве бяздумна ўголас, калі маўчыць душа нашая і песьня не кранае сэрца. Чаму ж не пяём? Чаму голас народу спаралізавала, чаго не было нават за лютае паншчыны? Некалі казаў муж нашай Валі, нявестачцы: «Ты яшчэ не засьпявала ў нашай хаце, таму ты ня нашая». Ён вельмі чакаў, каб гэтая «дочка» нашая запяяла... Не мадэрныя, чужыя песьні, а нешта з душы нашай, з душы народу...

Знача, застанецца за намі залатая Прага. Былі ў мяне з ёю свае гутаркі. Старыя муры і каменьні болей мне гаварылі за жывую сучаснасьць. Узнагароджвалі за пакінуты родны край. Цяпер пазбаваяць нас аднаго і другога. Пазбаваяць нас зусім усяго, і буду номерам толькі «0-287», які мне нашыюць на плечы і па якім будуць аклікваць мяне ў нечалавечы мароз нечалавечага краю аленяў і КОМІ...

Хто ж даў права, хто ж даў права вырываць людзям душу і пераліцоўваць, пераварочваць на нейкі лад адвечную душу народаў? Ці могуць судзіць аб вартасьцях тыя, якія не разумеюць паняцьця сапраўдных вартасьцяў людства? Недзе яшчэ думалі за нас, нехта яшчэ хацеў ратаваць нас. Былі гэта чужыя людзі, а лёс гнаў нас ужо на поўнач загадамі Сталіна і яго халуёў. У Празе бушавала рэвалюцыя і падалі апошнія стаўпы незалежнасьці, якой не анулíравалі нават суровыя акупанты немцы. Крычалі яшчэ на вуліцах Сакалы — сіла і гордасьць народу, але і яны замоўклі перад хітрай і грубаю сілай.

25 гадоў пражыў муж мой у гэтым горадзе і ў гэтым народзе. Ён ужо думаў пачэску, так як па-беларуску. Цяпер вырывалі яго з карэньнямі, і мне было вельмі жаль яго. Людзей, якіх нельга было зламаць, належала зьнішчыць. Пазней скажа мне нейкі журналіст, які забрыў на дапрос у знамянітую «амэрыканку», што якая розьніца, з чэскім мы грамадзянствам ці з іншым, гэта толькі пытаньне пару гадоў, калі ўсё гэта будзе — рускае... Адна дзяржава... Нейкі гібрыд Эўропы і азыятчыны, падумала я.

Што ж, чалавек — жывёліна, якая магла жыць некалі на дрэве, пасьля ў пяшчэры, дык пэвен час стрывае і тут, але гэта будзе рэгрэс! Хвост нам пэўне ня вырасьце, але духовыя вартасьці атупеюць альбо і зьнікнуць зусім. Шчасьце людзей рэч індывідуальная, так і народаў. Як жа страшна пакідаць мілае сэрцу, прывычнае роднае...

Ці ж заменяць нам бяздумныя і бездушныя лозунгі сьвята нашых «дзядоў»? Руінамі глядзелі ў будучыню нашыя старыя замкі, гарады і сьвятыні. Іх заціралі, бурылі вялікую мінуласьць, як хацеў некалі сам фюрэр: зьнішчыць усё і тады цьвердзіць, што немцы прынесьлі культуру. Ён усё зьнішчыў, толькі далейшы яго план праводзілі нагла ў жыцьцё другія каланізатары. Вартасьці спрадвечнага Ваўкавыска пачыналіся ад Баграціёна... І так усё і ўсюды. Паявіліся новыя Гэбэльсы, ніяк не ўступаючыя яму ў хлусьні і ярасьці прапаганды. Тое, што людзі называюць свабодаю, нам ужо вырвалі з сэрцаў.

**Працяг будзе.**

Фотаздымкі з архіваў **Л. А. Геніюш, І. М. Чарняўскага.**

**Публікацыя і падрыхтоўка тэксту Міхася ЧАРНЯЎСКАГА.**

# Публіцыстыка



*Далягляды перабудовы*

# САВЕЦКАЯ ЎЛАДА: маці ці мачаха?

Прызнаюся: дакладна не ведаю, але чуў, што быццам бы Чырвоныя плошчы ёсць на свеце ў чатырох месцах: Маскве, Казані, Пекіне і... Уздзе. Так, так, у невялічкім райцэнтры, што ў 70 кіламетрах на паўднёвы захад ад Мінска, таксама некалі прыжылася гэтая назва. Мясцовыя жыхары ганарацца ўласнай няхай і даволі сціплай Чырвонай плошчай, якая сваім існаваннем заўсёды напамінае ім пра сталіцу, асацыіруецца з вядомымі сімваламі нашай дзяржавы.

Дык вось каля гэтай плошчы, у цэнтры старой часткі гарадскога пасёлка, стаіць гарбаценькая, ледзь не па вокны аселая да зямлі хатка. Жыве ў ёй сямідзесяціпяцігадовая Алена Іванаўна Радкевіч. Дацягвае свой век адна. Казалі, праўда, сын недзе ёсць. Аднак гэта «адкрыццё» нічога не мяняе ў незайздросным існаванні бабулі, якая засталася сам-насам са сваёй глыбокай старасцю.

Становішча яе даўно заўважылі людзі, заўважыў выканком пасялковага Савета народных дэпутатаў. Прапаноўвалі дапамогу: выдзялялі грошы — адмаўляецца наадрэз, спрабавалі пакласці ў хаціццы падлогу — не дазваляе. «Хапае, дзеткі, у мяне ўсяго хапае». Вось і паспрабуй знайдзі выйсце з парадоксу, з такой сітуацыі, калі не жаданні размяжоўваюцца з магчымасцямі, як звычайна бывае, а наяўныя магчымасці ўпарта адхіляюцца нежаданнем. Толькі адно і згаджаецца ўзяць бабуля з людской дабрачыннасці — дровы.

Старэчы капрыз! Паспрабуй разбярыся, калі нават на размову чалавек не згаджаецца. А выканком тым часам папікаюць неўпарадкаванасцю хаціны. Дзе-небудзь у аддаленай вёсачцы яе маглі б не заўважыць. На Чырвонай жа плошчы такое недапушчальна! Коле вочы паказным руплівцам за сацыяльную ўладкаванасць. Таму і падпіхваюць яны выканком «навесці» парадак.

Прыведзеная сітуацыя па знешніх прыкметах выглядае выключнай. Сапраўды, адмова ад дармавой дапамогі — рэдкасць у наш час. Аднак па сутнасці яна і тыповая. Зноў, як звычайна, таварыш нізавы Савет паміж двух агнёў, у самым спляценні чалавечых узаемаадносін. Дакладней, не Савет, а яго выканком і перш за ўсё старшыня, намеснік. Яны часцей за іншых вымушаны разблытваць наматаны кімсьці жыццёвы клубок.

Звычайна ж так: ледзь што — у выканком. Да яго звяртаюцца, у яго просяць, здараецца, патрабуюць. Ідуць сюды хадакі з праведнымі і няправеднымі патрабаваннямі. І можаш не можаш — вырашай. Ад таго, як паставіцца да іх выканком, раздвояць яны ўсю Савецкую ўладу на добрую ці кепскую, на маці ці мачаху.



А як жа ўмудрыцца ёй, мясцовай уладзе, застацца спагадлівай і чуйнай для ўсіх нас разам і для кожнага паасобку пры цяперашняй лядашчай матэрыяльнай аснове, на якой трывае мясцовы Савет! Што і казаць, па сутнасці, назначаны закулісным, зверху кіруючым дзядзькам, загорнуты ў шпалеры інструкцый і правілаў, прыціснуты указаннямі розных інстанцый, без трывалай капейкі ў сваёй разлікова-рахунковай кішэні, мясцовы орган улады, калі што і можа па-сапраўднаму зрабіць, дык толькі выдаць даведку аб тым, што тут пражывае такі і такі.

— Было б куды лягчэй, каб у выканкоме меліся ў дастатку грошы,—дзялілася неяк сваімі бедамі старшыня Урэцкага пасялковага Савета народных дэпутатаў з Любаншчыны Таццяна Іванаўна Капачэня.— Дык жа няма іх. А значыць, і ў вялікім, і ў малым трэба ісці на паклон да багатых «сваякоў» — прадпрыемстваў і арганізацый. Толькі тыя яшчэ падумаюць: даць беднаму Савету транспарт, выдзеліць людзей, адпусціць сродкі ці не. Ну, а калі далі, выдзелілі, адпусцілі, не прамінуць падкрэсліць і выглядам, і дзеяннем, што мясцовая ўлада ў залежнасці ад іх.

Ды не словы, не пастаяннае папіканне жабрацтвам крыўдзіць работнікаў выканкомаў. Гэта можна стрываць, асабліва калі воз клопатаў усё ж рухаецца сумесным намаганнем мясцовых сіл. Абражае грамадзянскі гонар тое, што жабрацкае існаванне нізавой улады ўзаконена і што за чатыры з паловай гады перабудовы якіх-небудзь істотных зрухаў у яе становішчы не адбылося.

Нездарма той-сёй даволі ўсур'ёз пагаворвае аб ліквідацыі сельскіх Саветаў як прадстаўнічых органаў. Аргументы простыя: маўляў, калі Савет нічога не вырашае, навошта ён! Лепш «пасадзіць» на гэтую тэрыторыю ўпаўнаважанага ад райвыканкома, які і возьме на сябе папярова-справаздачныя функцыі. Бо менавіта толькі яны і застаюцца рэальна магчымымі для сельскага Савета і яго выканкома. Не згодны! Я таксама не пагаджаюся, знаходзячы пры неабходнасці дзесятак прыкладаў ініцыятывы старшыняў сельвыканкомаў у вырашэнні наказаў выбаршчыкаў, дэпутацкіх запытаў, іншых спраў. Яны ёсць і яшчэ раз красамоўна пацвярджаюць, што менавіта праз ініцыятыву, асабісты аўтарытэт, а не заканадаўчымі ці эканамічнымі рычагамі прыводзіцца ў дзеянне механізм нізавой улады. І добра, калі побач ёсць паплечнікі з ліку кіраўнікоў прадпрыемстваў, гаспадарак, актывістаў грамадскіх арганізацый, якія надзелены пэўнымі паўнамоцтвамі і маюць такія-сякія сродкі. Яны падтрымаюць, дапамогуць. А калі іх няма!

Такі варыянт таксама не выключаецца. На Уздзеншчыне, напрыклад, ёсць Цялякаўскі сельсавет. Калісьці тут быў і саўгас з гучнай назвай — імя ЧБВА. Натуральна, выканкому і кіраўніцтву гаспадаркі, жывучы агульнымі і блізкімі клопатамі, удавалася ў меру даступнага не пакідаць без увагі сацыяльныя праблемы, знаходзіць пэўныя магчымасці для задавальнення жыццёвых запатрабаванняў вяскоўцаў.

Але ў адзін не зусім добры для цялякаўцаў год саўгас расфарміравалі. Адна частка яго была далучана да саўгаса «Уздзенскі», другая — да эксперыментальнай базы імя Суворава, на трэцяй заставалася падсобная вытворчасць мінскага аб'яднання «Інтэграл». Сельсавет жа застаўся. Застаўся, пазбаўлены моцнага гаспадарчага партнёра — саўгаса, разрозненыя кавалкі якога цяпер тэрытарыяльна хаця і аб'яднаны сельсаветам, аднак эканамічна яны не самастойныя, сталі структурнымі падраздзяленнямі сваіх новых гаспадарак. А іх кіраўнікі знаходзяцца ў іншых сельсаветах, там жа і выбраны дэпутатамі. Свае позіркі, безумоўна, яны скіроўваюць перш за ўсё туды, а не на Цялякава. Вось і перабіваецца тутэйшы выканком ад сесіі да сесіі, абівае парогі багатых «родзічаў» яго старшыня М. М. Ясковіч, выпрошваючы міласціну.

Улада — прасіцель. Штосьці не памятаецца, каб калі-небудзь уладарылі па-сапраўднаму ў позе каленапрыклоннікаў.

Бадай, з першых школьных падручнікаў мы ведаем, што аснову палітычнай улады ў СССР складаюць Саветы народных дэпутатаў. Канстытуцыйная дэкларацыя падмацавана асобным Законам аб мясцовых Саветах. Ім акрэслена шырокае кола паўнамоцтваў нізавога органа ўлады. Ды, урэшце, само паняцце Савет мае на ўвазе, што ўсе рашэнні мясцовага жыцця могуць і павінны быць прыняты пасля агульнага абмеркавання, пасля таго, як парадзяцца на іх прадстаўнікі народа, яго пасланцы.

Аднак за гады адміністравання першасная перадумова Савета — радзіцца, раіцца — ігнаравалася надзвычай упарта... Ды і самі прадстаўнікі народа, падабраныя па спісах і разнарадках райкомаў, а не пасланыя на гэтую раду выбаршчыкамі, не атрым-

лівалі патрэбнага імпульсу знізу. А калі далучыць да гэтага ўрэзаныя паўнамоцтвы, бездапаможнасць дэпутатаў перад штодзённымі праблемамі, няцяжка ўявіць вытокі бяздзейнасці, казённага адбывання сваёй прадстаўнічай ролі і пасіўнасці многіх з іх.

Залежная ад чаго хочаш, але толькі не ад волевыяўлення мясцовых грамадзян, прадстаўнічая ўлада фарміруе і адпаведны апарат, які «састаіць на службе» не ў народа, не ў Савета і нават не ў выканкома. Бо апаратам ніжэйшага Савета камандуюць і непасрэдна вышэйстаячы Савет і яго службы. Магчымасці мясцовага органа ўлады зноў жа звязаны з іх прыхільнасцю: дадуць — не дадуць! Ці не таму, бездакорна выконваючы ўстаноўкі зверху, органы кіравання і іх работнікі нярэдка страчваюць свой імпэт, калі справа датычыць просьбы знізу, звычайнага звароту да ўлады радавога выбаршчыка, прычым законнага звароту.

У Лагойскім райкоме партыі быў сведкам адной размовы. Да загадчыка арганізацыйнага аддзела Аляксандра Копціка зайшоў вадзіцель саўгаса «Іскра» Юрый Акуліч. Узрушаны, ён неяк ненатуральна апусціўся на прапанаванае крэсла. Здавалася, скажы што-небудзь не так — і хлопец сарвецца.

Шлях у райком былы воін-«афганец» праклаў праз многія мясцовыя і раённыя інстанцыі. Не разлічваў на завяршэнне сваёй вандроўкі па адміністрацыйных паверхах і пры наведванні райкома. Проста была патрэба выгаварыцца, пачуць хаця б слоўнае асуджэнне махровага бюракратызму і амаральнасці, з якімі сутыкнуўся былы салдат, калі «рызыкнуў» папрасіць кватэру. Спачатку дырэктар саўгаса В. Турмасаў папракнуў Юру тым, чаму ён узяў жанчыну з дзіцем, затым у райваенкамаце папракнулі тым, што па кватэрнаму пытанню звярнуўся не па адрасу, пасля ўжо ў райвыканкоме далі зразумець, як важна мець добрыя адносіны з кіраўніком гаспадаркі... З хлопцам ніхто нават не пагаварыў па-чалавечы, не пажадаў выслухаць яго споведзь.

Аляксандру Копціку ўдалося супакоіць Юру, увагай і спагадай прытушыць адчай, што душыў былога дэсантніка ад пачуцця бездапаможнасці перад абыякавасцю іншых. Змог пераканаць дырэктара ў неправамернасці дзеянняў і райком партыі. Сям'я воіна-інтэрнацыяналіста атрымала кватэру.

Справядлівасць быццам бы адноўлена. Але як аднавіць пасля гэтага павагу да Савецкай улады, ад чыйго імя выступалі людзі, да якіх звяртаўся Юрый Акуліч! Як падымаць аўтарытэт народнай і роднай, калі які-небудзь чыноўнік адным жэстам ці няўзважаным словам можа скасаваць зробленае ўсім дэпутацкім калектывам!

Рэцэпт адзін — выбары дэпутатаў, а не галасаванне за іх, зацвярджэнне на альтэрнатыўнай аснове тых самых чыноўнікаў у савецкі апарат. Першая сесія новага Вярхоўнага Савета СССР дэманстравала ўзор надзвычай зацікаўленага падыходу пры фарміраванні ўрада. Вось так бы на месцах! Ды штосьці не верыцца ў магчымасць такога на ўзроўні раённага Савета. Вельмі ж яшчэ моцна трымаецца тут дух адміністравання, аглядкі на «вярхі». Нават слушную прапанову па далейшаму ўдасканаленню дзейнасці нізавых органаў улады то тут, то там могуць сустрэць безапеляцыйным: «Вы што, супраць Савецкай улады!..»

Не, не супраць. Якраз за ўладу Саветаў. Моцную, ініцыятыўную, вылучаную народам і выбраную народам. А вось якой ёй быць у сапраўднасці, адчуваю, залежыць пакуль не ад народа. Бадай, больш ад цяперашняга (1989 года) складу Вярхоўнага Савета БССР. Апошняе слова пры зацвярджэнні новых законаў аб выбарах было за ім, бо прапановы па рэферэндуму прыкметна замоўчваліся. У сувязі з гэтым непараўнальна ўзрастае вага голасу кожнага цяперашняга парламентарыя. Але калі я вычытваю ў інтэрв'ю аднаго з іх, што ён устрымаўся ад выказвання свайго меркавання адносна вылучэння ў Вярхоўны Савет ад грамадскіх арганізацый, яшчэ больш пераконваюся: толькі загартаваныя ў перадвыбарнай барацьбе дэпутаты больш настойліва і паслядоўна адстойваюць інтарэсы людзей, больш незалежныя ад абставін, ад апарату кіравання. Народныя і родныя — панацэя аднакарэнныя.

На прыкладзе народных дэпутатаў СССР, якія прайшлі трыер альтэрнатыўнасці, можам сказаць: яны — увасабленне новага тыпу савецкага парламентарыя. За кароткі тэрмін імёны многіх з іх сталі вядомы не толькі ў сваёй выбарчай акрузе, але і ва ўсёй краіне. Больш выразна акрэсліліся іх платформы, іх стыль паводзін.

Народным выбраннікам з мясцовых Саветаў цяпер ёсць у каго павучыцца настойлівасці, кампетэнтнасці, канструктыўнасці. Аднак відавочна, што адной навукі мала. Раскрыць свае здольнасці лягчэй, калі само асяроддзе, умовы спрыяюць гэтаму. Іх, як мы ведаем, пакуль няма. І зразумела, чаму на большасці сесій сельскіх ды і раённых Саветаў цішыня ды спакой. А ў выніку штампуюцца рашэнні, загадзя прадпісаныя і напісаныя апаратам і зручныя перш за ўсё для яго, а то і проста дзеля формы, бо сур'ёзнай адказнасці за іх ніхто не нясе.



Давайце прыглядзімся да такой сітуацыі. Усім вядома, скажам, што раённы Савет на сваёй арганізацыйнай сесіі не толькі фарміруе выканком, выбірае старшыняў і намеснікаў, але і зацвярджае кіраўнікоў некаторых раённых арганізацый і службаў. Зацвярджаць то зацвярджае. Не памятаецца вось толькі ніводнага выпадку, каб ён адхіліў кагосьці ад займаемай пасады за хібы ў рабоце непасрэдна на сесіі, без папярэдніх узгадненняў. Зразумела, спешка ў такіх выпадках — не лепшы ход. Але ж нават з выпадкам выключным не даводзілася сустракацца.

Немагчымасць цалкам рэалізаваць свае правы ў кадравых пытаннях таксама моцна б'е па аўтарытэту мясцовай улады. Ды і самі кіраўнікі гатовы хутчэй падпарадкавацца партыйным органам, чым Саветам, адчуваючы за першымі большую сілу і ўплывовасць, у тым ліку на сваім асабістым лёсе. Невыпадкова заклікі аб перадачы ўлады Саветам часта натыкаюцца на непрыняцце іх самімі Саветамі. Улада — гэта сіла. Яна ж уяўляецца сукупнасцю эканамічных, прававых і палітычных магчымасцей уплываць на ўсе працэсы ў падведамаснай тэрыторыі. Такіх жа магчымасцей у Савета, асабліва нізавога, яшчэ няма. І якія б эпітэты ўладзе ні прысвойвалі, звалі яе маці ці мачахай — гэта не больш чым наша эмацыянальнае ўспрыняцце. Па сутнасці, улада на месцах па-ранейшаму застаецца ў ролі падчарыцы, якую можна пакрыўдзіць не толькі словам, але нават і дзеяннем.

Ці выгадуем мы калі яе да стану самастойнасці, ці «выправім» на свой хлеб! Ці створым такія ўмовы, пры якіх яна зможа браць пад апеку, дастойна паклапаціцца і пра тых, хто штодня навідавоку, каму надарылася жыць на «чырвоных плошчах» ці паблізу ад іх, і пра тых, хто вымушаны адзін на адзін са сваім узростам зімаваць у сваёй канцавой хатцы, аддаленай ад сельсавецкіх цэнтраў вёсачкі!

Адкажа, спадзяёмся, перабудова. Ды многае залежыць і ад кожнага з нас. Недарэмна ж старажытныя мудрацы гаварылі: кожны народ заслугоўвае такой улады, якой ён варты...

г. Мінск.

Мікалай КАРОЛЬ,
журналіст

7*



# У ПОШУКАХ ГАРМОНІІ,

## або Расказ пра былога першага сакратара райкома камсамола і некалькі меркаванняў накшталт таго, чаму ён пакінуў сваю пасаду



У арганізацыйным аддзеле райкома камсамола ўсутыч чатыры сталы. Усе яны літаральна завалены паперамі.

Вітаюся, але ніхто з прысутных на мяне не зважае—чуваць толькі бязладны гоман.

— Дзе мае планы?—пытае юнак свайго калегу-інструктара.—Пастановы пленума, бюро...

— Гэта не мая арганізацыя...

— У папках няма...

Паўза. Шоргат лістоў. Звініць тэлефон. Загадчык аддзела хапае трубку, нешта ў яе ліхаманкава даводзіць. Наўкол працягваецца крыху ірэальны тлум.

— А па ўзносах? Так, па ўзносах...

— Дык якая запазычанасць?

— Зводную ты выпісаў?

— А-ай! Папера згубілася!

— Мерапрыемствы па справаздачна-выбарчай!

— Ты паперу браў, табе гавару?

— Адчапіся, на ёй жа сядзіш...

— Цьфу ты, чорт!

...Такая, мабыць, штодзённая мітусня. Схіленыя над стосамі лістоў юнацкія і дзявочыя галовы, «кіруе» па тэлефоне загадчык аддзела (у адной руцэ ручка, у другой трубка), вочы не глядзяць на наведвальнікаў—і, вядома, бясконцыя корпанні ў пастановах, рашэннях і зноў паперы, і яшчэ раз паперы.

Колькі лесу змарнаваць трэба—з'яўляецца і такая «крамольная» думка—толькі на гэтае, няспыннае ў часе і прасторы, папяровае жыццё.

«Камсамол? Яшчэ адзін дэпартамент!»

Прачытаў днямі аб такой характарыстыцы, што выказаў у друку пра камсамол адзін увішны малец і міжволі задумаўся. Бо калі ў сталіцы і бачныя нейкія зрухі, то ў «правінцыі», на жаль, сапраўды амаль усё яшчэ застаецца па-старому: камсамольскім кіраўнікам аніяк не выпадае быць «бліжэй да мас», а папер з загадамі і пастановамі не становіцца менш.

— Першы ў сябе?—урэшце пытаю гучна.

Адна з галоў узнімаецца над сталом.

— Жукоўскі? У сябе.

— А дзе ваш першы, Касараў Ігар дзе?—пытаюся зноў, бо Ігара ведаю, быў у яго раней.

— Не працуе, пайшоў са сваёй пасады.

Вось дык справа...

Па падліках выходзіла, што ў сярэднім раз у пяць-шэсць гадоў у Барысаўскім райкоме камсамола па розных прычынах змяняецца першы сакратар. Адны працуюць больш, іншыя—менш. І гэта натуральна, бо згодзімся, што ў камсамоле ж не будзеш сядзець да пенсіі. Змена кіраўніка вядзе ў большасці выпадкаў і да змены «каманды». За апошнія дваццаць гадоў мясцовай раённай камсамольскай арганізацыяй кіруе ўжо шосты па ліку першы сакратар.

Але Ігар Касараў быў на гэтай пасадзе меней за ўсіх—з чэрвеня восемдзесят восьмага года па ліпень восемдзесят дзевятага: усяго адзін год. Нечакана для ўсіх дваццацішасцігадовы малады пачынаючы апаратчык, былы «афганец», камісаваны з арміі па раненню, чалавек, так бы мовіць, з вялікай перспектывай на будучае, папрасіўся на месца інспектара рыбааховы са сціплым па цяперашняму часу заробкам у 155 рублёў. З тае нагоды ў раёне не могуць зразумець: чаму і навошта? Працаваў жа добра, паважалі і на месцы, і ў абкоме камсамола быў на добрым уліку. У чым справа? Такое, можа, і не зусім далікатнае ўзнікае пытанне, але ж чалавек—істота цікаўная.

Заходжу да Міхаіла Жукоўскага, былога другога, а зараз першага сакратара камсамола.

Міхаіл сустракае робленай вясёлай усмешкай.

— Даўненько у нас не былі,— кажа ён.

У яго ўпэўнены выгляд, ужо, паспяваю заўважыць, папаўнеў.

— Пайшоў з камсамола Ігар,—тлумачыць ён,—як кажуць,—«не масць».

— Што так?

— Сам захацеў. А ўвогуле я не разумею, чаго ён усё шукае. Страчанае пакаленне—так быццам пра іх пішуць? І працаваў неяк не так, нават плана гадавога не склаў, куды далей ісці пасля такога...

— Няўжо і плана не было—такі жах! —жартую я, але мой субяседнік непахісна сур'ёзны.

— Так, так. І ведаеш, мы з ім, здаецца, і ў час работы, і ўвогуле не канфліктавалі, а ён на нядаўняй справаздачна-выбарчай канферэнцыі, як член райкома, супраць мяне прагаласаваў.

— ?

Міхаіл глядзіць запытальна—якое

ўражанне зрабіў такім сваім прызнаннем, але я маўчу.

— Вось бачыш, такія справы,— урэшце працягвае ён.— Апарат я дабраў, каму не спадабалася — пайшлі, а мне галоўнае, каб дысцыпліна, каб райкомаўцы мае выконвалі, што ад іх патрабуюць. І ўвогуле я не згодзен што-небудзь мяняць у камсамоле, я прыхільнік камандна-адміністрацыйнай сістэмы кіраўніцтва,— раптам з выклікам заяўляе першы.— Мо паспрачаемся?

Але я кажу, што, хаця і цаню яго шчырасць, спрачацца, на жаль, няма часу, дый ахвоты.

Думаю раптам аб тым, што абодва яны — і Ігар Косараў, і Міхаіл Жукоўскі — аднаго пакалення. Розніца ў якія два гады, але за тую пражытую невялікую колькасць гадоў лёс выпрабоўваў іх па-рознаму. Яны і нарадзіліся амаль па суседству: Міхаіл у вёсцы Новае Залазер'е, што на Талачыншчыне, а Ігар у вёсцы Лошніца на Барысаўшчыне. Міхаіл вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце імя Горкага, потым настаўнічаў, а Ігар скончыў Мінскае ваеннае вучылішча, ваяваў у Афганістане.

Па дарозе ў інспекцыю рыбааховы міжволі заглядваю ў «Праграму асноўных накірункаў дзейнасці раённай камсамольскай арганізацыі», якая, як растлумачыў, ахвяруючы яе мне на развітанне Міхаіл, нядаўна была ўхвалена і прынята на справаздачна-выбарчай канферэнцыі — на той самай, дзе кіраўніком камсамольскай арганізацыі выбралі яго, Міхаіла.

У першым жа радку чытаю:

«Переход от командно-административной системы управления к демократизации общества... является составляющим курса на перестройку...»

Такія вось... нечаканыя павароты.

У памяшканні інспекцыі рыбааховы, якая размешчана на першым паверсе старой раённай паліклінікі, дымна. Трое юнакоў паляць цыгарэты. Круглая светлавалосая галава былога першага ўзнімаецца над сталом. Ігар вітаецца, запрашае.

— Сядай, запальвай. Мы тут з інспектарамі раімся.

Размаўляць пра свае пошукі ў жыцці ён не вельмі схільны. Мо і так, сам сабе згаджаюся з ім — звініць жа толькі пустое. Але, пэўна, абрыдлае ўжо яму пытанне няўмольна круціцца побач.

— А ўсё-такі чаму з камсамольскай работай развітаўся? Не сакрэт жа, што на сваёй кар'еры гэтым рашэннем сам і хаўтуры справіў...

Ігар адказвае скупа і неахвотна.

— Ведаеш, аскома з'явілася.

Ён і сапраўды моршчыцца, нібы спрабуе недаспелую антонаўку. Два яго інспектары зірнулі ў акно і выбеглі на падворак, бо прыехала іх машына — стары ГАЗ-53. У шкло сыпле мокрым снегам, голыя рэдкія клёны панура стаяць пад ветрам. Золка.

— І потым,— дадае ён,— ты ж, мабыць, ведаеш, што я за той год на рабоце адсутнічаў па хваробе амаль тры месяцы, а там трэба ўвесь час круціцца. А сваю работу на каго іншага перакладаць няёмка.

Мінула якіх дзесяць гадоў, як Ігар скончыў школу, а здаецца, прайшло вялікае і доўгае жыццё. Перад службай у арміі ён паспеў крыху пакаштаваць механізатарскага хлеба: працаваў трактарыстам у мясцовым саўгасе «Лошніца», а потым, пасля прызыву, служыў у інжынерных войсках у Эстоніі. У «вучэбцы» стаў механікам-вадзіцелем ПЗМ-2 (палкавой землярыйнай машыны), трапіў у Цюмень, у батальён забеспячэння вучэбнага працэсу пры ваенна-інжынерным вучылішчы. Урэшце паступіў у Мінскае вышэйшае ваенна-палітычнае агульнавайсковае вучылішча. Аднойчы, калі ехаў дадому ў кароткі курсанцкі адпачынак, пазнаёміўся з будучай жонкай. Наталля была родам з вёскі Бытча Барысаўскага раёна.

Час ішоў хутка, і неўзабаве маладому лейтэнанту выпала служыць у Прыбалтыйскай ваеннай акрузе. У Рызе атрымаў прызначэнне на пасаду замполіта роты. А праз год яго накіравалі ў Афганістан.

Незнаёмая краіна ўразіла лейтэнанта. Здалося спачатку, нібы, па яго ж словах, «трапіў у пятнаццатае стагоддзе»: гліняныя домікі-мазанкі, мячэці, галота большасці насельніцтва і багацце асобных. Уразілі і мясцовыя сяляне, дробныя рамеснікі. Афганцы былі гордыя людзі і трымаліся з годнасцю, не зважаючы на беднасць. Яны ведалі кошт слова, якое давалі, і патрабавалі такога ж ад іншых, ад іх, чужынцаў, таксама. Паабяцаў — зрабі, а калі зрабіў дрэнна ці ўвогуле падмануў — табе няма веры.



Лейтэнант Ігар Косараў быў шчыра ўпэўнены ў тым, што ўсе яны — ён і яго салдаты — маюць рацыю, выконваюць неабходны інтэрнацыянальны абавязак, і падтрымліваў тую веру ў байцоў сваёй роты.

Ён лічыў тады, што так трэба.

Рота па падвозе паліва, ці, як іх называлі, «налїўнікі», дыслацыравалася ў горадзе Шындант. «Наліўнікі» вазілі ад граніцы салярку, бензін, авіяцыйнае паліва ў вайсковыя часці ў раён Кандагара. У роце налічвалася звычайна пяцьдзесят бензавозаў «Урал-4320» і «Урал-375» з прычэпамі. Тры-чатыры разы ў месяц рота адпраўлялася ў рэйд, які працягваўся пяць-шэсць сутак. За гэты час да Кандагара і назад трэба было пераадолець каля тысячы кіламетраў. Дзень-два адпачынку — і зноў у чарговы рэйд.

Нават выключна цывільны чалавек можа зразумець, што ўяўляла для праціўніка ў абставінах вайны калона з пяцідзесяці машын. Бо кожная машына — гэта бочка ў пяць з палавінай кубічных метраў, напоўненая палівам, і з такім жа прычэпам. Палівам, якое неверагодна хутка і добра гарыць. Якая гэта была спакуса для муджахедаў! Бадай, ніводнага рэйду не абыходзілася без сутычак з ворагам. Яны ж былі ідэальнымі мішэнямі на той тысячакіламетровай дарозе! І калі ў зоне пустынь можна было ў большасці выпадкаў толькі сцерагчыся мін: кітайскіх, італьянскіх фугасаў, японскіх з дыстанцыйным кіраваннем, то непасрэдна перад Кандагарам яны траплялі ў так званую «зялёнку» — зону вінаграднікаў і чароту. Адтуль на іх і рабілі напады.

Той лютаўскі дзень восемдзесят сёмага быў бы звычайны і рэйд іх таксама быў звычайны, калі б засада чакала ў звыклай «зялёнцы». Але на гэты раз на іх напалі за перавалам, калі яны вярталіся з Кандагара. Муджахеды «адсеклі» палавіну калоны. Парадаксальна, але бывае так, што часцей падпальваюцца напаўпустыя ад паліва машыны. Поўную бочку ці бак, здаралася, прашые куля, і... нічога. Вядома, калі не трапіць з гранатамёта. А вось калі ёсць паветраная падушка і туды трапляе хаця б іскра, то справа дрэнь — машына гарыць, нібы паходня.

У той цяжкі для іх дзень гарэлі аж трынаццаць машын. У такіх выпадках кожны ведаў: калі падбілі — машыну кіруй управа, у кювет, каб даць магчымасць рухацца калоне, а сам са зброяй таксама ў кювет, толькі ўлева, і — дзейнічаць па абставінах.

Па машынах, якія з інтэрвалам у чатырыста метраў рухаліся па дарозе, ударылі з гранатамётаў, стралковай зброі. Тэхнік роты прапаршчык Уладзімір Амельчанка, які сядзеў за рулём, быў забіты адразу.

Удзесяцярох яны залеглі ўздоўж дарогі. Навокал ніводнай шчыліны, куды можна было ўціснуць безабароннае цела. І ўвогуле тут пустыя словы: «каб жа ведаць», «каб магчы», «каб было так, а не інакш»... На тое вайна, дзе кожны дзень нечаканасць і кожную хвіліну ты можаш стаць проста масай, у якой праз нейкі час будуць кішэць чарвякі.

Косараў скаціўся на абочыну, тыцнуў ствалом «калашнікава» ўбок праціўніка, націснуў курок.

— Та-та-та-та-та...— звыкла затахкаў, заштурхаў у плячо аўтамат, і гэта адразу супакоіла.

«Не возьмеце нашармака...»

Лейтэнант ведаў, што дапамога абавязкова прыйдзе, бо наперадзе, у якіх дзесятках кіламетраў, наш фарпост — рота, якая блакіруе найбольш небяспечныя ўчасткі шляху. Хлопцы, калі ім паведаміць, абавязкова прыйдуць на дапамогу. Калі не адкажа рацыя, калі жывы радыст. Па іх жа страляюць у першую чаргу...

Калі на заставу наперадзе не напалі таксама...

Калі здолеюць прарвацца да іх праз міны, якія, пэўна, ужо раскіданы на дарозе...

Як многа такіх «калі», ад якіх на вайне залежыць жыццё.

Ён адкінуў пусты «ражок», уставіў новы. Грукацеў непадалёку аўтамат вадзіцеля Вадзіма Галікава. Трымайся, брат...

Нешта чужароднае з трэскам разарвала левае плячо, яго адкінула ўбок.

«Паранены»,— мільганула думка.

Ён зірнуў і скалануўся ад выгляду развярэджаных тканак, якія імкліва залівала кроў. Левая рука не варушылася.

— Я сэйчас, таварыш лейтэнант, я сэйчас...

Да яго поўз зенітчык — радавы Набат-

геды Маўлямаў, туркмен па нацыянальнасці.

— Сэйчас, сэйчас,—Маўлямаў таропка перавязваў яго, а ён баяўся толькі, каб не страціць прытомнасць і каб, крый божа,—не палон.

— Страляй, Набатгеды!

— Сэйчас, таварыш лейтэнант, сэйчас...

Нампаліт Косараў яшчэ не ведаў, што ім усё-такі пашанцавала, што ротны здолеў прарвацца да заставы і дапамога ўжо ў дарозе.

Праз паўгадзіны муджахедаў адбілі. За папярэднія і той самы бой ён быў прадстаўлены да ўзнагароды—ордэна Чырвонай Зоркі.

Потым былі адзін за адным шпіталі ў Шынданце, Кабуле, Ленінградзе, Мінску. За год некалькі аперацый. Разрыўная куля раскрышыла костку верхняй трэці перадплечча на дробныя асколкі. Зрошчвалі іх па метаду Ілізарава. Яму пашанцавала яшчэ раз, бо руку ў такіх выпадках звычайна адымалі.

У лістападзе, два гады таму, Ігар Косараў быў звольнены з арміі па хваробе і ўжо ў студзені прыйшоў у Барысаўскі райком камсамола другім сакратаром. Летам яго выбралі першым.

Памыляецца ўсё-такі той, хто думае, што работа ў камсамоле вясёлая, «не пыльная» і ўвогуле «гарбаціць» асабліва тут не трэба. Работа гэта нервовая, падкідвае штодзень шмат клопатаў і, самае горшае, пакуль яшчэ амаль пазбаўлена творчага пачатку, дакладней, была пазбаўлена ў сталінскі час і не аднавілася ў сваёй першапачатковай форме дагэтуль. І шляхі тут два: або прыняць яе такой, як яна ёсць, і «расці» самому, не зважаючы на ўсё, выкарыстоўваць свой шанц, ці спрабаваць нешта змяніць. Апошняе ва ўмовах артадаксальнай «раённай» сітуацыі можа і выклікаць, урэшце, так бы мовіць, звычайную несумяшчальнасць.

Хаця яўнага канфлікту з сістэмай за час работы Косарава ў камсамоле не было, але недзе ўглыбіні, у падсвядомасці яго самога, бадай, канфлікт наспяваў. Былога армейскага афіцэра, звыклага да іншых адносін, мо больш простых, які доўгі час хадзіў побач са смерцю, у рэшце рэшт не магла задавальняць гульня ў творчае жыццё, якая існавала і пануе зараз у рабоце камсамола і якая выдаецца за самое жыццё. Апарат, як бачыў перпцы, адарваўся ад патрэб моладзі, далёкі ад іх праблем, пошукаў, нязгод. Спробы паламаць стэрэатыпы натыкаліся на непаразуменне і раздражненне звыклага да традыцыйных форм работы раённага начальства.

Ігар Косараў зразумеў гэта адразу—калі сутыкнуўся з так званым маладзёжным сацыялістычным спаборніцтвам.

Умовы спаборніцтва на маючую адбыцца ўборку ўраджаю папярэдне абмеркавалі ў пярвічных, а потым прынялі на пасяджэнні бюро. Інструктар Вячаслаў Мілеўскі выступіў па мясцоваму радыё і занёс тэкст умоў у мясцовую газету, што і было надрукавана. Але раніцай наступнага дня Косараву тэлефанаваў старшыня раённага аграпрамысловага аб'яднання Куляшоў.

— З намі ўзгаднілі?—спытаў ён незадаволена.

— Быццам нармальна ўсё, у гаспадарках не супраць.

— Ага, яшчэ б не супраць! А калі вашых пераможцаў замест трох дзесяць будзе, хто ім выдзеліць грошы на прызы? Умовы заніжаныя! І пасля кароткай паўзы:—Друкуйце, што хочаце, а я не падпішу.

Умовы не былі заніжаныя. Ігар гэта ведаў дакладна. Высільваючыся, можна было камбайнеру намалаціць 300—350 тон збожжа. Але трэба добра папацець, працаваць на палях у суседзяў, бо сваіх плошчаў, вядома, не хапала. Дабавіць да гэтай лічбы яшчэ тон сто хлеба—сапраўдны працоўны подзвіг ва ўмовах раёна. А такія вынікі, як 700 тон для «Нівы», 1000 тон для камбайнаў больш магутных, за ўсю гісторыю раёна не здолеў дасягнуць ніхто. Тым больш незразумелай з боку РАПА і раённага начальства выглядала прапанова ўзнагародзіць механізатара, які намалоціць 1000 тон хлеба, легкавым аўтамабілем.

Вячаслаў, аграном па спецыяльнасці, ён жа асноўны дарадчык па спаборніцтву, не мог памыліцца.

— Пайду сам удакладняць,—уздыхнуў Косараў.

Старшыня РАПА Куляшоў сказаў:

— Не.

Толькі пасля неахвотнага ўмяшання райкома партыі ўмовы спаборніцтва зацвердзілі ў іх першым варыянце. А восенню, калі падвялі вынікі, не ў РАПА, а і самі, то не далі сабе веры: пераможцаў было больш трыццаці!

— Што будзем рабіць, Вячаслаў?—спытаў інструктара.—Пасеялі сапраўдную буру...

— Што пасеялі, тое і пажнём. Спаборніцтва і павінна быць такім. Масавым.

— І я таксама мяркую. Пераможцаў узнагародзім. Усіх. Інакш людзі нам не дадуць веры.

Напрыканцы таго года з'ездзілі па турысцкіх пуцёўках у Чэхаславакію—звеннявы з калгаса «Шлях Леніна» Саша Марчанка і механізатар з калгаса імя Суворава Саша Бурдыка; у Польшчу—камбайнер з саўгаса «Вясёлка» Віктар Ляшнеўскі; у Венгрыю—вадзіцель з калгаса «Шлях Леніна» Міхась Карась.

Трыццаць чатыры маладыя механізатары былі ўзнагароджаны магнітафонамі. Толькі Святлане Гарлеўскай з саўгаса «Вяляцічы»—лепшай маладой даярцы раёна за той год—прысуджаны каляровы тэлевізар так і не быў уручаны. Адмовілі ўсё тыя ж работнікі РАПА.

— Іх гаспадарка адмовілася пералічваць грошы ў наш фонд,—растлумачылі,—а калі яны так занадта хутка перабудаваліся, дык няхай купляюць прызы для сваіх калгаснікаў за свой кошт.

Дарэчы, пасля таго, як Косараў пакінуў пасаду першага, у райкоме камсамола ўжо не адважваліся парушаць традыцыі. Маладому камбайнеру па ўмовах спаборніцтва трэба было намалаціць на «Ніве» не менш як 600 тон збожжа, а на камбайне «Дон» аж 1000 тон. Вядома, такія абавязацельствы не здолеў выканаць ніхто—яны былі проста нерэальныя. Летась ніхто з раёна не паехаў не толькі за мяжу, а і куды побач таксама.

— Ведаеш,—падумаў неяк услых Косараў,—здзівіла тое, што здольнай моладзі нягледзячы ні на што шмат. Бяруцца спачатку горача за справу, а потым, глядзіш, не даюць яны нам веры, дый працуюць—абы дзень прайшоў. І камсамол для іх сапраўды нібы той дэпартамент. І мы не ведаем іх жыцця, вось бяда.

Тое веданне жыцця, якое ён атрымаў на дарозе ў Кандагар, часта ўступала ў сутыкненне з веданнем і ўчынкамі тых, хто яго акружаў.

— У абкоме камсамола раілі: вазьмі чатыры-пяць асноўных накірункаў і вядзі іх, а я за ўсё хапаўся, усё хацелася самому зрабіць.

Ён імкнуўся будаваць узаемаадносіны на паразуменні і здзіўляўся, калі людзі чамусьці падводзілі яго.

Загадчыца аддзела прапаганды і агітацыі райкома партыі Святлана Міхайлаўна Герасімовіч сама нядаўна прыйшла на сваю пасаду з камсамола.

— Вядома, рашэнне Косарава было нечаканым, але, мяркую, ва ўсім прычына адна—хвароба,—пазіраючы ўбок, растлумачыла загадчыца.—Толькі хвароба, і больш нічога. Мы тут у райкоме партыі добра ставіліся да яго. У першага, на мой погляд, ён нават у любімчыках хадзіў.

Слухаючы Святлану Міхайлаўну, нагадалася тое, што рашэнне Косарава ўсё-такі было своеасаблівым пратэстам, але прыхаваным, далікатным, нечым накшталт ціхага бунту. Ды іншага і не магло быць. Ён мог пайсці толькі дастойна. Як кажа прымаўка: «адыходзячы—адыходзь». Здаецца, тут выявілася ўсё тая ж несумяшчальнасць, дысананс, дысгармонія бюракратычных адносін і тых новых форм працы, якія нараджаюцца зараз у нас ва ўмовах перабудовы.

Андрэй Таркоўскі сказаў неяк, што ўсё жыццё шукаў для сябе гармоніі, спакою і міру ў душы. І што гэта асноўныя складаныя для задавальнення чалавека самім сабой і наваколлем.

Такой душэўнай гармоніі, бадай, і прагнуў Ігар Косараў. Але надыходзіла яна для яго не ў кабінетным тлуме і гульні ў актыўнае жыццё, а на блакітных дарогах ракі, калі неба пяшчотна пераходзіць у вадзяную роўнядзь, а лес зліваецца з сінявой неба, калі лодка імчыць па вадзе, а плынь яшчэ больш імкліва адбягае назад, і цябе вітаюць крыкі птушак—чайкі на водмелях праводзяць цупкімі позіркамі.

Яго ўсё часцей хвалявалі пытанні экалогіі ў сваім раёне, ён ужо ведаў усе яго болевыя кропкі: дзе загінула рыба, дзе недагледзелі каналізацыю і дзе «пагулялі» браканьеры.

У той год, нягледзячы на хваробу, многа ездзіў па пярвічных арганізацыях. Увогуле, як заўважыў за сабой, цягнула з кабінета ў дарогу—там лягчэй думалася і добра пачувалася. І думкі на-

паткалі ўсё тыя ж: жыць у згодзе з самім сабой, іншага выйсця няма.

Некалькі разоў зноў давялося класціся ў бальніцу: перадплечча зрасталася дрэнна, рана іншы раз адкрывалася, варта было калі перахваляваццa—чакай рэцыдыву. Спакваля ён здагадаўся: раны зажываюць хутчэй у тых, хто знайшоў душэўны спакой, гармонію ў рабоце і асабістым жыцці.

На словы мужа аб пераходзе на новае месца Наталля цяжка ўздыхнула: у сям'і ж нарадзілася другая дачка.

— Раней то пленум, то суботнік, а цяпер што—зусім без выхадных?

Але потым, праз якую хвіліну, дадала:

— Я з табой, рабі як ведаеш.

На выхадныя сапраўды давялося не зважаць. Летам і восенню і нават зімой свабодны ад работы дзень любяць скарыстоўваць дзеля сваіх мэт браканьеры—у асноўным з горада, але трапляюцца і з вёсак. Зімой робяць проламкі, закідваюць у іх сеці. Асабліва ласыя да лоўлі на зімавальных ямах, а іх на тэрыторыі чатырох раёнаў ажно адзінаццаць. А з вясны, калі лёд пайшоў, асноўная небяспека—гэта электравуды. Колькі імі малявак нішчаць! Рыба губляе здольнасць нераставаць. А пакаранне курам на смех: штраф у пяцьдзесят рублёў. Да слова, амаль у кожным гаражы ля ракі можна знайсці электравуду.

Са студзеня мінулага года яны з дапамогай грамадскіх інспектараў затрымалі каля чатырохсот браканьераў. Маглі і больш, але ж іх толькі пяць, участковых інспектараў, ды пяць лодак з маторамі, якія даўно трэба спісаць, ды два старыя матацыклы, ды стары грузавік...

Але канец мінулага года прынёс і нечаканыя змены. Мо таму і выглядаў такім задаволеным Ігар Косараў.

— Ведаеш, толькі з Мінска. Раней ботаў гумавых не маглі дапрасіцца, а зараз вось паперы, бачыш? Еду афармляць. Даюць новы матацыкл «Днепр-11». І гэта не ўсё. Здагадайся, што яшчэ даюць?

— Уазік,—выказваю яго «блакітную» мару.

— Пакуль яшчэ не, але даюць новы катэр з чатырохцыліндравым японскім рухавіком!

...Ён заставаўся членам райкома камсамола і, хоць душой быў ужо на новым месцы, з непаразумелай надзеяй чакаў справаздачна-выбарчай канферэнцыі. Хвалявала думка: як яна пройдзе, няўжо ціха—абы ўсё было гладка на паперы, а камсамольцы, як і раней, раз'едуцца па вёсках з адчуваннем таго, што перамены яшчэ далёка, а то і з крыўдай у душы? А мо адбудзецца інакш?

Канферэнцыя пайшла менавіта ў тым звыклым, старым напрамку, і тады ён прагаласаваў супраць, прапанаваў на пасаду першага сакратара альтэрнатыўную кандыдатуру Аляксея Чэрнікава—маладога старшыню прафкома з калгаса «Чырвоная Беларусь». Тое самае «супраць» Міхаіл Жукоўскі і ўспрыняў як нейкае супраць яго каварства.

А ён не мог інакш.

І ўсё-такі, калі ўдумацца, выбар Ігара Косарава ўяўляецца, бадай, апошнім звяном ланцужка адной і той жа з'явы, якая была шырока распаўсюджана ў гады так званага застою і часткова захавалася, як рэлікт, і зараз: перакваліфікаваннем здольных людзей у выніку нейкай непаразумелай несумяшчальнасці іх асабістых якасцей з якасцямі акружэння. Адзін у такой сітуацыі дасягне як выканаўца высокага становішча, другі пачынае «камплексаваць», успамінаць пра сумленне.

У Косарава яно ёсць. І час надышоў такі, што нашаму камсамолу, і не толькі яму, патрэбны не проста выканаўцы, а здольныя, ініцыятыўныя і думаючыя людзі. І, бадай, яны ўсё-такі прыйдуць.

І яшчэ адно. Ігар Косараў не бярэ з сабой у рэйды зброю—належачага яму пісталета ТТ з абоймамі.

Ніколі.

Юры СТАНКЕВІЧ



# ЧАС ПАГРОЗ І ПАДЗЕЙ

**МАЛАДАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПРОЗА, ГОД 1989**

## *Водгулле*

Ці служаць творы маладых празаікаў своеасаблівым люстэркам часу?

Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба папярэдне стварыць нейкі партрэт часу ва ўласных думках. Як тут быць?.. Можна следам за старажытнымі філосафамі ўявіць сабе пачварны твар Сатурна, які пажырае сваіх дзяцей. Сёння—нас. Перад ягоным тварам усё марнее і робіцца непатрэбным, нават ягоны партрэт.

Але ж мы яшчэ жывём і звыклі да больш простага: проста азіраемся па баках. Што ж дзеецца наўкол? Уваччу святло змешваецца з цемрай, па небакраі бязладна б'юць крывавыя бліскавіцы. Зрэдчас людзі нагадваюць мне то іскры, то вуголле ў попеле. Рэвалюцыйным, ваенным, чарнобыльскім. Робіцца вусцішна, і я разумею, што мінулае бязлітасна катуе, абпальвае цяперашнія гады.

Адметнасць нашага часу—пільная ўвага да мінулага. Яна відавочная і зусім не вымагае доказаў. Менавіта там, у мінулым, быў гістарычны парыў да роўнасці і шчасця, але ж разам з маёнткамі гарэлі бібліятэкі, на імперскім пагарэлішчы па-вар'яцку разбураліся прынцыпы чалавечнасці: не забі, не ўкрадзь... Там ўбіваўся ў сілу, абмацоўваўся на новым троне генералісімус. І не з'іржавеў дашчэнту калючы дрот, якім былі аблытаны сталінскія лагеры, дажджы яшчэ вымываюць з-пад курапацкіх соснаў белыя косці.

Што ж маладыя празаікі, не абмінулі трагедый дваццатага стагоддзя?

Твораў маладых за мінулы год надрукавана шмат. У часопісах «Маладосць» і «Крыніца», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Выйшла некалькі першых кніжак празаікаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Гэта «Фарбы душы» Алеся Асташонка, «Адзінота на стадыёне» Адама Глобуса, «Серабранка» Анатоля Андруховіча, «Формула дабрыні» Лявона Неўдаха, тут жа выдадзены зборнік таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Немалы ўраджай і ў бібліятэцы часопіса «Маладосць»: «Вочы начніцы» Уладзіміра Ягоўдзіка, «Ноч пацалункаў незалежнасці» Алеся Наварыча, «Гісторыя хваробы» Андрэя Федарэнкі, «Луп» Юры Станкевіча *. Патрымаў я ў руках і самвыдатаўскі зборнік маладых «Літаратура», які паказвае, што не прымаюць у аўтараў нашы часопісы і выдавецтвы.

---

*Творы з аўтарскіх кніг далей прыводзяцца без спасылкі на кнігі.

Каб не стварацъ няправільнае ўражанне, трэба адразу зазначыць: і самыя вялікія, і самыя страшныя (у залежнасці ад пункту гледжання) падзеі дваццатага стагоддзя непасрэдна амаль не трапляюць у творы маладых, сваіх адносін да рэвалюцыі, калектывізацыі, тэрору маладыя пісьменнікі амаль не выказваюць ні прама, ні з дапамогай мастацкіх вобразаў удзельнікаў тых падзей.

Зразумела, радавацца трэба на тое, што маем, а не ўздыхаць па тым, чаго няма. Але канстатацыі гэтага «няма» не пазбегнуць. Нават вайна, удзельнікі якой жывуць сярод нас, рэдка калі ўплывае на творчасць маладых празаікаў. Згадваецца яна ў лімаўскім апавяданні «Другая сустрэча» Васіля Шырко, у аповесці Алеся Асташонка «Малюнкі на попеле» і яго ж апавяданні «Гэлька, Шуркава маці». Напэўна, пісьменніцкі зрок маладога чалавека часцей за ўсё арыентуецца на ўласны жыццёвы вопыт. Таму пра калектывізацыю або пра сутарэнні, дзе мечаносцы новага часу катавалі свае ахвяры, ды і пра вайну будуць расказваць старэйшыя пісьменнікі. Васіль Быкаў, Сяргей Грахоўскі...

Не сказаць, каб маладыя смела «пайшлі» і глыбей у сівыя стагоддзі. Дваццатае не з Месяца ўпала, у яго таксама былі свае вытокі. Даследаваць іх тым больш важна для беларусаў, бо нацыя наблізілася да парога, за якім зеўрае нацыянальнае небыццё.

Дагэтуль мне здавалася, што моладзь сур'ёзна наважылася сцвердзіць сябе ў распрацоўцы гістарычнай тэмы. Такое ўражанне стварылася ад яе актыўнага ўдзелу ў літаратурна-гістарычных дыскусіях, пэўнае значэнне меў і даволі яркі ўваход у літаратуру празаіка Уладзіміра Арлова. Для яго далёкая гісторыя беларусаў стала блізкая, але ён адзін так і працуе ўжо як сталы пісьменнік. Далей— амаль пустэльна. У першых празаічных кніжках Юры Станкевіча і Алеся Асташонка па аднаму апавяданню, апавяданне Сяргея Астраўцова «Сурма» ў адзінаццатым нумары «Маладосці», аддадзеным удзельнікам семінара маладых літаратараў на Іслачы. Ды і то «Сурма» нагадвае, па-руску кажучы, «общее место» з такой вось гістарычнай атрыбутыкай: «кудлатыя пушчы», «багністыя балоты», мірныя людзі, якія «білі модлы багам сваім даўнім». Напэўна, шчаслівае жыццё магло доўжыцца бясконца, але мясцовы князь прэзентаваў замежнаму госцю «сымболь гэтага краю—туравы рог, сурму». Той затрубіў... «Трывожным, нярадасным рэхам адгукнулася блізкая птушка на той спеў, болем, здалося, сказіўся твар Перуна». І далей: «...неўзабаве іншая ўжо вера запанавала ў тутэйшых абшарах».

Па цытатах можна зразумець, як прывабна расфарбавана тут ідалапаклонства, а на хрысціянства аўтар глядзіць толькі як на ідэалогію чужынцаў, не маючую мясцовай асновы, мясцовых агульнагуманістычных каранёў. Заўважу, ужо не беручы пад увагу апавяданне «Сурма», што сюжэт гэты вандруе ад аўтара да аўтара, і, як на маю думку, у свой час ён вельмі зычыў ідэолагам, якія вучылі народ укленчваць перад новым ідалам—Сталіным.

У Юры Станкевіча ў апавяданні «Пераправа» гісторыя хоць і прыгодніцкая, але больш рэальная: падрыхтоўка да пераправы цераз раку французскага войска. Адзін з герояў «Пераправы»—ліцвін—паводзіць сябе сапраўды як герой, шкада толькі, што аб вытоках яго гераізму даводзіцца здагадвацца.

Бліжэй да асэнсавання пэўных момантаў у нацыянальнай гісторыі падыходзіць у апавяданні «Вяртанне» Алесь Асташонак. Самыя цікавыя старонкі тут тыя, дзе будучы класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч знаёміцца з беларускай мовай. Алесь Асташонак, хоць празаічная кніга ў яго першая, даўно не пачатковец, аўтар некалькіх п'ес. Ён удала ажыўляе нават тыя радкі, дзе Максім Багдановіч чытае слоўнік: «...Абгалочаны... аблашчаны... аблыжны... абмерлы... абмінуты... абражаны... абраснелы... абсцёбаны... абуджаны... абхвостаны... абшлоганы... абязвечаны...»

Каб сёння кожны беларус адчуваў сваю мову так, як Максім Багдановіч, каб так, як ён, удумваўся ў словы: «Адны з іх былі светлыя, цёплыя—як ён іх ні прамаўляў, сам сабе ці ўголас, яны ўсё роўна здаваліся прыгожымі і лёгкімі, быццам з паветра былі сатканыя—усё роўна як ноты з аркуша, што дзівоснымі гукамі ўзлятаюць з-пад пальцаў чараўніка-піяніста, які прыходзіў да бацькі калінікалі вечарамі...



Іншыя ж—нейкія горкія... Чаму так шмат іх у гэтай мове—такіх?..»

Думка, дзеля якой пісалася апавяданне, не надта прыхавана, затое пісьменнік здолеў перадаць яе натуральна. Тут яму дапамагла вядомасць абранага героя.

Калі ўлічыць гатоўнасць маладых працаваць на беларускае адраджэнне, то прозы, прысвечанай мінуламу нашай дзяржавы, у 1989 годзе імі недададзена. Крыху ахвотней «выкарыстоўваюць» яны ў сваіх творах водгулле мінулага. Яно дазваляе пазбегнуць прамога паказу далёкіх падзей і ў той жа час абазначыць іхнюю рэальнасць, іхні ўплыў на шляхі-дарогі, па якіх то самахоць, то пад прымусам ішлі беларусы.

Паказальнае ў гэтых адносінах апавяданне Андрэя Федарэнкі «Забабоны». У цэнтр яго пастаўлена быццам бы анекдатычная гісторыя пра тое, як стары скардзіцца чужым людзям на сына, які быццам бы кепска даглядае яго. А ў «фон» Андрэй Федарэнка заганяе занядбаную вёску, якую пакідаюць апошнія маладыя жыхары. Ні сама калектывізацыя, ні калгаснае прыгонніцтва, ні разбуральны для селяніна прымусовы перавод яго ў найміты прама не згадваецца, ды менавіта пра гэта думаеш, чытаючы «Забабоны».

Такі ж нелабавы падыход да цяжкага мінулага ў Алеся Асташонка ў вельмі шчымлівым яго апавяданні «Фрагмент». Герой тут раптам зацікавіўся дзяцінствам жанчыны, якая цяпер спіць на яго руцэ. У дзяцінстве яна заўсёды даношвала чаравікі старэйшых дзяцей і толькі аднаго разу мела свае, новыя.

Да дзяцінства з яго вясковымі рэаліямі звярнуўся ў аповесці «Вочы начніцы» Уладзімір Ягоўдзік. Калі не памыляюся, гэта яго другая кніжка. Герой аповесці Валера рана зведаў найвялікшае гора—смерць маці, рана зведаў, што такое дабро і зло. Вёска ў аповесці паказана з розных бакоў, пісьменнік даследуе і сацыяльнае, і маральнае, зрэдчас захапляецца казачна-сімвалічным успрыманнем жыцця. І, зноў жа, гвалт, учынены над сялянствам, пры чытанні точыцца некуды ў падсвядомасць, а ў рэальнасці пра яго толькі здагадваешся. Хоць бы з тужлівых пейзажных замалёвак: «Нізкае, сівое неба маўкліва туліцца да сіратліва застылых садоў і адразу за хлявамі непрыкметна зліваецца з пакатымі пагоркамі, што падступаюць да самай вёскі. На рыжай уезджанай дарозе—ні душы, і ад таго, мусіць, яна выдае чужою і няўтульнаю. Калючы пранізлівы вецер, што раптам дзьме ў твар і кусае за шчокі, пахне едкім гаркавым попелам, высыпаным у гародчык. Хачу і не магу паверыць, што заўтра — вясна».

Вельмі багатае водгулле мінуўшчыны ў апавяданнях Алеся Наварыча. Тут і цудоўнае фальклорнае мроіва—«Ноч пацалункаў незалежнасці», і няўклюдная беспрытульнасць, бязладнасць жыцця—«Недарэка», «Злачынства і кара», «Нелюдзь», і паляшуцкая ізаляванасць ад навакольнага свету з усімі яе плюсамі і мінусамі—«Лётчыкі», «Смакотнікі».

Апавяданне «Нелюдзь» напісана пра тое, як абуджаецца душа, чалавечая спагада да іншых людзей. Якраз дваццатае стагоддзе то высільваецца, каб здубела душа вясковага падлетка, то растузвае ў ёй прыроднае імкненне да дабра. Алесь Наварыч не даследуе трагічныя падзеі, толькі абвяшчае, што ў заходнюю частку Беларусі пасля вайны было нашэсце галодных мяшочнікаў з Усходу. Вось як гавораць пра іх:

«— З Савецкай Расіі! Савецкія ўсе,—сплюнуў прышчаваты, у зношаным фрэнчы, з плечукоў якога тырчэла жоўтая вата, нягolены мужчына.—Голад прыціснуў, вот і едуць, у калхозах усё пажэрлі—к нам падаліся...—І мужчына зладзейкавата азірнуўся, каб упэўніцца, што маніфестацыя ягоных палітычных меркаванняў засталася між імі і гэтым нехлямяжым дзедам».

Ці не душа курчыцца ў страшных сутаргах, калі зайшла ў хату да падлетка жанчына з дзецьмі, калі яны, схуднелыя, хрысцяцца на абразы, а ён сам сабе думае: «Стойце, стойце, васточнікі. Не на таго напалі. Што мне вашы жаргнанні, я сам у бога не веру, але вы спецыяльна хочаце задобрыць мяне, як якога цёмнага палешука, які не церпіць, што калі ў хату зойдзеш ды і не перахрысцішся на абразы, дык то і нечысць, і таму нічога такому васточніку не даюць. Ведаем вашы хітрыкі. Вунь стойце...»?

Стойце—гэта няблага, але ж жанчына страціла прытомнасць і павалілася ў парозе.

Такое ў нас мінулае, такія ў маладых пісьменнікаў спробы падступіцца да яго.

## *Герой на скразняку*

Да чаго ж прывёў нас пройдзены шлях? Героі аповесцей і апавяданняў адказваюць па-рознаму, ды большасць з іх незадаволена сваім жыццём або тым, што адбываецца наўкол. Праўда, ёсць і задаволеныя, ёсць. Напрыклад, Супер з аднайменнага апавядання Алеся Асташонка. Супер вучыцца ў інстытуце, чытае арыгіналы Мантэня, Сартра, Фрома, «Брахма-сутра», «Даа цэ дзін...». Захапляецца ён і гімнастыкай, раней не цураўся культурызму і каратэ. Карацей кажучы: «Калі ўжо ўгрызацца ў жыццё, дык з усяе сілы—інакш свайго не дамагчыся». Яшчэ карацей: Супер, або брэжнеўска-суслаўскі гарманічна развіты чалавек.

Брэжнеўска-суслаўскі, а не проста гарманічна развіты, таму што хоча «мець прыстойнае месца ў прэстыжным офісе, каб не сорамна было зірнуць у вочы любому, каб не прыйшлося стаяць у прадуктовым магазіне ў чарзе па доктарскую каўбасу», бо ён добра ведае, што сярод людзей «ёсць ваўкі і вярблюды, авечкі і тыгры», бо сам сябе ўяўляе маладым ваўком. І вось трапляе ў кампанію былых зэкаў. Усё яго здзіўляе: што гэтыя людзі не нарадзіліся зэкамі, што ў іх свае добрыя чалавечыя рысы, што зэкі, каб не беды на іхнія галовы, маглі б і не быць зэкамі. А самае галоўнае: ні веды, ні што іншае не можа даць Суперу перавагі над імі.

Абставіны, у якія трапіў Супер, як бы ўдакладняюць тое агульнае ўражанне, якое засталося ў мяне ад прозы маладых. Мабыць, асацыяцыя далёкая, але недачэпная. Жылі мы на белым свеце ізалявана ў штучнай атмасферы самазадаволення. Напампоўвалася штучная атмасфера проста: грамадская ўласнасць на сродкі вытворчасці робіць нас самымі прагрэсіўнымі і наогул найлепшымі. Раптам штучнае паветра крыху выпусцілі... Сталі мы пасярод усяго свету, пачасту не маючы чым прыкрыцца. Зладзюгі сярод нас, наркаманы, прастытуткі, пачвары без душы і сумлення, суперы. А наўкол—зраўняныя з зямлёй магілы нявінных, зруйнаваныя храмы і старажытныя муры, здратаваная зямля, атручаныя рэкі. І ходзяць вобліз курапацкіх соснаў скалечаныя «афганцы», а нарыхтоўшчыкі макулатуры пакуль што не выграблі з грамадскіх бібліятэк прашнураваную застойную хлусню. Саладкамоўную макулатуру з нашай горкай зямлі шафёры-дальнябойшчыкі развозяць па ўсёй Заходняй Еўропе.

Што ж з намі адбылося?

Як на маю думку, здавён у галовах людзей суіснуюць і змагаюцца дзве ідэі: індывідуалізму і калектывізму, або, калі іншымі словамі, ідэя непасрэднай свабоды і ідэя непасрэднай роўнасці. Яны бяруць пачатак у дваістай сутнасці чалавека. Як элемент прыроды ён ніколі цалкам не адмовіцца ад свабоды дзейнасці, а духоўнае развіццё будзе абавязкова звязвацца не толькі са свабодай, але і з роўнасцю.

Захад робіць акцэнт на індывідуальнай свабодзе, мы—на калектывізме і роўнасці, што ў рэшце рэшт ператварае свабоду толькі ў асэнсаваную неабходнасць для большай часткі грамадства.

Ні барацьба за свабоду дзейнасці, ні барацьба за роўнасць не абыходзяцца без крыві. Нават хрысціянская царква, з аднаго боку, абяцала неўміручасць душы і змушала чалавека дзеля яе выратавання да неагрэсіўнасці, а з другога—вымушана была асвячаць зброю на вайну са злом. Вайна са злом—таксама кроў.



Паралельна з распаўсюджаннем атэізму афармлялася тэорыя пераўтварэння свету, на жаль, заснаваная зноў жа на насіллі. Калі не верыць у неўміручую душу, то наогул няма што выратоўваць і дзеля дзеляжу даброт зямных брат падымае руку на брата.

Адданне забыццю агульначалавечых каштоўнасцей дзеля прывіднага будучага шчасця азначала толькі крывавае служэнне новым ідалам. Сёння наша літаратура падсумоўвае тое, што адбылося з намі за сем дзесяцігоддзяў. Стала зразумела: без пэўнага індывідуалізму, які грунтуецца на індывідуальных формах уласнасці, кепска развіваецца эканоміка, без хрысціянскай казані чалавек робіцца яшчэ больш жорсткі. Лепш абгрунтаваная навукай пралетарская мараль не здольна сцвердзіць самакаштоўнасць чалавечай асобы.

Страх смерці ад няправеднага суддзі ці пагроза зняволення, пануючая жорсткасць дзяржавы ў адносінах да грамадзяніна нават у дробязях стварылі асобу, якая апынулася цяпер на скразняку галоснасці.

Ну, Супер—гэта адзін бок нашых выдаткаў. Яны шматбаковыя, што добра прасочваецца ў творчасці маладых. Нейкае страшна-пакручастае жыццё ў рэцыдывіста з апавядання «Казючка», якое надрукаваў у «Крыніцы» Лявон Вашко. Тое, што гэты герой першапачаткова шукаў каханне, а знайшоў кроў і зняволенне, перарадзена ў лаканічна-спрэсаванай да бясстраснасці і адчаю манеры. Такая ж безвыходнасць у трызненнях старога, які памірае ў доме для старых,—апавяданне «Сон» зусім маладога аўтара Яўгена Мялешкі зноў жа ў «Крыніцы». Безумоўна, жорсткі погляд на свайго героя ў Валерыя Няхая ў апавяданні «Да горада рукой падаць», надрукаваным у «Маладосці». Сыну трэба прадаць бацькаву хату, бо не хапае грошай на «Масквіч». Бацька хаваецца і... памірае. Але ж не толькі сыны страшныя, страшныя і бацькі—апавяданне «Бацька» Уладзіміра Калкоўскага («Маладосць»). Бацька п'е, і з тае прычыны ў сям'і ўсталёўваецца бязладдзе, якое пагубіць усіх. Гарэлка перакручвае лёсы і героям апавядання Валянціны Куксы «Журавіны» («Маладосць»). Наркатычнай утрапёнасцю насычана споведзь Збыся з апавядання Адама Глобуса «А ты не смейся». Духоўнай пустатой павявае ад хлопцаў з лімаўскага апавядання «Між іншым» Міраслава Шайбака. Яны бадзяюцца па горадзе, фарцуюць і размаўляюць між сабой, раздаючы ўсім балы за індывідуальнасць—за уніформу салдату, за ватоўкі і каскі рабочым. І нават так: «Андрэй, інтэлігента бачыш, у акулярах адно шкельца трэснута—дамо тры балы?» Тут нейкая незразумелая і тым жахлівая сістэма каштоўнасцей, нешта накшталт гульні ў чэраве электроннай машыны. Праграма любая. Замест душы.

Можна яшчэ згадаць апавяданні Стаха Дзедзіча, Уладзіміра Бельскага, Галіны Ланеўскай... Дарэчы, у Галіны Ланеўскай у апавяданні «Народжаныя поўзаць» («Маладосць») ёсць і фарцоўка, і згвалтаванне, і прастытуцыя, але ёсць і спроба разабрацца, адкуль такая навала на нашу зямлю. Сталінскі трон ад Беларусі быў далёка, а ўсё роўна сталіншчына ўгрызалася ў нас глыбока і надзейна. У сувязі з гэтым паўстае складанае пытанне аб адказнасці катаў і іх памагатых. Хоць бы і маральнай. Як быць, калі ўнучка стукача працуе ў музеі яго ахвяры, задумваецца Галіна Ланеўская. З аднаго боку, ці ж адказвае ўнучка за ўчынкі дзеда, а з другога...

Прычын таго, што з намі адбывалася, зразумела, шмат. Абагульніць іх, паказаць галоўныя паспрабаваў у апавяданні «Немач» Сяргей Дубавец (зборнік «Тутэйшыя»). Па-мастацку жорстка акрэслівае ён сучасную духоўную пустату, некаторыя з магчымых яе форм, перадаючы словы незнаёмца, які на магіле смокча з рыльца віно:

«— Па-нима-ю... Ты са мной ни хощ-щ-щиш... Ты нащ-щ-щаль-ства... А ты пе-е-ей... Ты с рабощ-щ-щим класам не хощ-щ-щиш... Та-да я са...»

Пісьмо Сяргея Дубаўца шматслойнае, за першым планам прасвечваецца другі, трэці, таму спрошчана перадаваць змест апавядання не хочацца. Тым не менш, сэнс яго ў стрымана-пахмурным поглядзе на пануючае хамства, на тое, як аддаюцца забыццю магілы продкаў, родная мова, як на магілках можна з прыемнасцю пазіраць на жаночыя клубы... Вось канец апавядання:

«Я непрыхавана глядзеў ёй услед і быў гатовы прысягнуць, што ў яе першакласная пастава. Млява соўгаючы хвастом, яна знікла між водарасцяў-прахожых.

А мне нясцерпна захацелася пісаць. І не было як адлучыцца да стала. Толькі вусны самі нашэптвалі нешта.

Можа, й добра, што здарыўся гэты п'янтос. Добра, што яна пайшла і што мяне не чытаюць. Добра, калі ты нікому не патрэбны».

## З прычын ідэалагічных

Колькі разоў ужо крытыкі паўтаралі: пісьменнікі павінны клапаціцца аб «вечных» тэмах. А пісьменнікі як не чуюць, лезуць у палітыку, у злабадзённасць. Дзіўна? Нічога дзіўнага, калі ўлічыць, што да вечных тэм можна прабіцца толькі праз факты, дэталі свайго існавання. А яно не адпіхвае і палітыку, ідэалагічную канкрэтыку.

У мінулыя гады, калі пісьменнік не цураўся гэтага, ён звычайна падтрымліваў палажэнне пануючай ідэалогіі, цяпер пра маладых так адназначна не скажаш.

Адкрыты прысуд ідэалагічнаму насіллю ў нашым грамадстве чытач знойдзе ў апавяданні Вінцэся Мудрова «Палонны чорнага стэпу» (зборнік «Тутэйшыя»). Каб даць уяўленне пра тыя сілы, якія супрацьстаяць адна адной у апавяданні, выпішу цытату з дыялога.

«— Ваш апошні выбрык,—Базевіч перапыняецца, прыжмурвае вочы.—Ваш апошні выбрык, калі Вераб'ёў замест рэферата па «Малой зямлі» прачытаў ілжывы, поўны антысавецкіх прыдумак «жыццяпіс Тарашкевіча», камсамольскае бюро інстытута разглядае як палітычную правакацыю,—голас Базевіча халоднымі мурашкамі казыча спіну.—Так, мы рэабілітавалі Тарашкевіча, але рабіць з яго...

— Хто рэабілітаваў? Ты?!—пасінелыя ад напружання пальцы Гека раструшчылі прыпаленую было цыгарэту.— Учора хапаў за лыткі дзевак са «Спутніка», піячыў за дзяржаўныя грошы, драў глотку ў групе скандавання, а сёння рэабілітуеш Тарашкевіча? Ты? Бесхрыбетны мешчанюк, які залез у крэсла дзякуючы бацькавым каўбасам?»

Амаль такі ж прамы зварот да палітычных рэалій маем мы і ў лімаўскім апавяданні Леаніда Дранько-Майсюка «Пра тое, як я з Масквы ў Мінск мэблю перавозіў». Герой яго ў багажным вагоне апынуўся на скрыні з трунай «героя брэжнеўскага», «стукнутага ў Афганістане». Страшна? А іншыя дэталі сведчаць пра разбэшчанне і прадажнасць людзей, ад імя якіх салдат ваяваў, таму ўсё ў апавяданні нагадвае хістанне між пачварным і трагічным.

Як мне здаецца, гэтыя два апавяданні напісаны ў рэчышчы крытычнага рэалізму. Не сацыялістычнага, а крытычнага, бо прыхільнікі першага ўвесь час заклікалі адно аднаго і кожнага пісьменніка не здраджваць праўдзе жыцця і спакойна ёй здраджвалі. Яны мелі на ўвазе тую «праўду», якая заснавана на здубянелых ідэалагічных дактрынах і надзейна адгароджвала іх ад крытыкі. Метад, сканструяваны знарок, каб дагадзіць дэспатызму, любы факт вытлумачваў з нацяжкай, апраўдваючы відавочныя злачынствы, самадурства ўлад, палітыку, накіраваную на згуб нацыянальных культур. Такі «гнуткі» метад правільна было б называць ілжэрэалізмам. Меў ён прыёмы грубыя, меў вытанчаныя... Цяпер адкрыліся лепшыя магчымасці, каб пісаць праўду без нацяжак, быць рэалістам, ды, як відаць, складаная гэта праца. Пакуль што заўважаеш у творчасці маладых не столькі вяршыні рэалізму, колькі старанне пазбегнуць заганнай практыкі ўчарашняга дня.

Напрыклад, вельмі ёмкі і правільны з пункту гледжання лжэрэалізму заказ: напісаць твор аб антыалкагольнай барацьбе. Учарашнія схемы вядомыя, але... Уладзімір Бельскі, беручыся за апавяданне «Рэгістрацыя» («Маладосць»), адчуў, што сур'ёзна змагацца з «зялёным змеем» па ўчарашніх схемах ужо смешна, і пайшоў за сваім пачуццём. Таму ў апавяданні выкладзена гісторыя анекдатычная. Не забыты сур'ёзны начальнік міліцыі і несур'ёзны міліцыянер на меншай пасадзе (менш свядомы), які патурае самагоншчыкам, але ж бабка Кандраціха, якая нанялася на непрыемную ролю стукачкі, паказана проста дурнаватай.

Перавод старых схем у анекдот—першы шлях ад ілжэрэалізму. Другі намеціўся ў маладых, якія не хочуць ні дробкі наследаваць ад тых, хто хадзіў перад моцнымі гэтага свету на цырлах. «Менш палітыкі»—гэты «лозунг» прасочваецца ў кніжцы Адама Глобуса. Вось беднае на падзеі апавяданне «Вова, Вова». Рабочыя рамантуюць кватэру, абедаюць, дзеці глядзяць тэлевізар. Старэйшы хлопчык вучыць малодшага вымаўляць «р», той пакутліва памыляецца: «выба», «пав-в-вазумнеў». Калі шукаць, што канкрэтна аўтар наважыўся давесці чытачам, то якраз і спыняешся на пакуце хлопчыка, у якога не атрымліваецца сказаць тое, што ён хоча.

Пра іншае апавяданне «Слон» нехта з крытыкаў ужо вызначыў, што ў ім зашыфраваны лёс мастака. Герой штодня робіць абы з чаго (з дроту, руберойду, дзёрну) «сланоў», а прыбіральшчык з мянушкай Лістапад разбурае іх. Сцвярджаць, што ўсё гэта не мае дачынення да лёсу мастака, нельга. Тое ж маем з апавяданнем «Заказ», дзе стомлены мастак спачатку адмаўляецца ад новага заказу, а потым згаджаецца прыняць яго. Гісторыя канфарміста—так вызначыла крытыка. Мабыць.

Адам Глобус ведае пра сваіх герояў больш, чым піша. Прачытайце, як размаўляюць між сабой жанчына і мужчына ў апавяданні «Хто з нас не хацеў навучыцца ездзіць на ровары «без рук»?»

«— Устань са сметніцы.

— Не злуй. Лепш пацалаваў бы мяне.

— Спачатку ўстань. І я табе казаў—мы пад ліхтаром. Дый хопіць на сёння. Што гэта за жаданне пацалункаў на сметніку.

— Не на сметніку.

— А дзе?

— Не ведаю. А пацалунак з тапалёвым пухам, мусіць, прыемна. А калі табе залішне светла, пабі ліхтар. Будзе цёмна, я ўстану са сметніцы, і ты мяне пацалуеш.

— Няма каменя.

— А ты гадзіннікам.

— Гадзіннікам?

— Шпурні ў яго гадзіннікам. Пабі гадзіну, якая пнецца з ночы ўтварыць дзень.

— Нашто?

— Мы ж дамовіліся не пытацца нашто».

Здаецца, і з чытачамі пісьменнік дамовіўся не пытацца нашто. Ён палічыў бы такое пытанне за нетактоўнае. Працуе над культурай мовы, не забываецца на апавядальны артыстызм, а што датычыцца тлумачэнняў—не, яны непажаданыя госці. Ён знарок «выкрэслівае» іх з дыялогаў герояў і зусім не схільны тлумачыць іхнія ўчынкі сам.

Ёсць, праўда, у яго і больш празрыстыя, калі можна так сказаць, апавяданні. У апавяданні «Капялюш пажарнага колеру» выдатна паказана, як можа загінуць у душы творчае імкненне вызначыцца. У апавяданні «Сістэма» дадзена тое-сёе з думак героя пра ідэалогію. У свой час герой быў хіпаком, потым падняўся з падвала і ледзь не стаў начальнікам, але сам прызнаецца: «Пяць год я на жываце поўз. Ведаеш, я ж пад інтэлектуала касіў... А больш не магу, бо яны не б'юць, яны плююць у душу... Усё робіцца толькі за спіною. У вочы толькі добрыя словы, а за спіною бруд».

Тое ж мог бы сказаць былы хіпак і ў іншай краіне, такім чынам тут вызначачаны нейкія адносіны да ідэалогіі ў шырокім сэнсе слова.

Трэці шлях ад ілжэрэалізму—сучасная «фізіялагічная проза», узоры якой ёсць у зборніку «Літаратура». У Міраслава Шайбака ў апавяданні «Каб я здох» вайсковы маёр так размаўляе з ротай: «Бардак, а не войска. Адных абрэкаў і ба-

смачоў тупарылых як дадуць, так і круціся, як хочаш. Тут і свае горшыя за чурбаноў...»

Ён абражае чалавечую і нацыянальную годнасць салдат, ён ведае, што «дзяды» на горкі яблык збіваюць маладых, але бяздзейнічае. Таму ў казарме ўсталёўваюцца законы джунгляў.

А вось казарма паводле Уладзіміра Сцяпана ў апавяданні «Колер хакі»:

«— Гэй! Пятак, раскажы, якія ў тваёй Касі грудзі!—загадаў сяржант і штурхнуў нагой у панцырную сетку.

Алесеў твар палатнеў, рабіўся аднолькавага колеру з падушкай. Пляма на шчацэ цямнела.

— Ты што, не чуеш? Пісьменнік?

— Ён успомніў і язык праглынуў!

— Сяржант, глядзі, каб твой салдат слінай не задушыўся. Відаць, успамінае!

— Вялікія й мяккія, а, Пятак?»

Я выпісаў не самыя грубыя радкі.

Іншае—у апавяданні «Апошні рэйс» («Маладосць»), якое належыць пяру Івана Сяргейчыка. Размаўляюць у Афганістане старaслужачы і малады салдат.

«— Ты стаміўся. Можа, падмяніць?—прапанаваў Галаўко (старaслужачы.— М. С.).

— Дзякуй, не трэба. Такая стома—і доктар, і настаўнік,—прызнаўся салдат, выціраючы рукавом курткі слёзы і пот.—Вы лепей скажыце: служыць цяжка?

— Нялёгка. Я, напрыклад, не чуў, каб салдацкая служба была лёгкая.

— А вам ніколі не было крыўдна, што вы служыце тут, а іншы там—у Саюзе?

— За што?.. Я таксама служыў у Саюзе. А сюды трапіў, бо напісаў рапарт».

Хто служыў, той разумее: надта ўсё прыгожа, па статуце. А з іншага боку... Цяжкія вайсковыя канфлікты былі і будуць—пачытайце, напрыклад, лімаўскае апавяданне Васіля Шырко з сюжэтам з часоў Айчыннай вайны,—але ж здзекі ў казарме таксама не вычэрпваюць вайсковае жыццё. Веданне змрочных яго бакоў хутка можа зраўняцца з веданнем жыцця вясковага—тое веданне, калі яно не аплоджана думкай, ужо дало шмат нудлівых кніг.

Яшчэ адзін шлях, які аддаляе нас ад ілжэрэалізму,—паўфантастычныя і фантастычныя творы. Напрыклад, апавяданні Леаніда Драньке-Майсюка, які карыстаецца прыёмамі фантастыкі ашчадна, як бы толькі падсвечваючы з іх дапамогай звычайнае жыццё. Маю на ўвазе два яго апавяданні: «Пра тое, як я ўдзельнічаў у навагоднім баль-маскарадзе» («ЛіМ») і «Пра тое, як я чытаў забароненую літаратуру» («Крыніца»). У першым герой з'яўляецца на баль-маскарад у грыме пад Сталіна, і ўсе з жахам выдыгаюць перад ім, у другім героя падслухоўваюць спецслужбы, знаходзячы крамолу нават у беларускай мове. Няцяжка заўважыць, што прычыны гэтых апавяданняў зноў жа ідэалагічныя.

Паўфантастыка і фантастыка найчасцей пішацца маладымі пісьменнікамі для таго, каб зрабіць яркай і даходлівай публіцыстычную думку. Гэта датычыцца апавяданняў Анатоля Ярася «Учарашні дзень», Сяргея Булыгі «Фельдмаршал», Алега Мінкіна «Мяне тут не было» (усё надрукавана ў «Крыніцы»), Вітаўта Чаропкі «Няхай жыве горад Шчасця!» («Маладосць»), Валерыя Няхая «Не забудзьце памерці чалавекам» («ЛіМ»). Галоўная думка апавядання Алега Мінкіна, напрыклад, вельмі злабадзённая—барацьба за мір, неабходнасць прадухіліць вайну,—і зашыфравана яна ў фантастычных вобразах і падзеях, якія адразу прыцягваюць увагу чытача. У аўтара багатае мастацкае адчуванне жыцця, ён не можа задаволіцца фантастычнай канструкцыяй (многія аўтары задужа разлічваюць на яе арыгінальнасць) і адорвае тэкст «неабавязковымі» заўвагамі, якія ачалавечваюць фантастыку: «Да вечара ляжаў на канапе. Не чыталася. У галаву лезлі дакучлівыя думкі. І было такое адчуванне, нібы жыццё маё замерла і я, як не сваімі нагамі, блукаю даўным-даўно ў агідным мінулым тумане, ведаючы, што ніколі мне не выбрацца з гэтай бязвыйсцяй каламесы».

Такога ачалавечваючага элементу крыху не хапае ў напісанай Алегам Мінкіным і Віктарам Галковым прыпавесці «Краіна Хлудаў» (зборнік «Тутэйшыя»), хоць гэта найбольш значны фантастычны твор, прачытаны ў мінулым годзе. Нягледзячы на пэўны рацыяналізм аўтараў, прыпавесць чытаецца з неадрыўнай цікавасцю, хапае ў «Краіне Хлудаў» і сумнага рэалізму, і жорсткай сатыры. Звярніце ўвагу, хто тут дзейнічае: дыктатар Цмок Калывок, лідэр апазіцыі Хіцер Зміцер, прафесар Вуха Перакіднік, мастак Круцель Манцель, арыстакратка Гарэзія Набіванка... Выпішу адну цытату.

«Ранняя зіма і спячка перашкодзіла няўрымсліваму гаспадару хлудаў Цмоку Калывоку ажыццявіць усё задуманае ім па частцы карэннага абнаўлення Хлудзіі. У былых Нясумных прысадах ацалелі тры дрэвы, у кронах якіх ціха стракацеў з тузін напаўжывых конікаў. У Сажалцы пялёскаліся жвавыя апалонікі—патомства апошняй, не з'едзенай будаўнікамі канала, жабы. Заходні мур Высокага квадратнага паркана так і не быў пафарбаваны. Затое канал сіламі былой мастацкай багемы быў цалкам пракапаны, хаця ваду ў яго так і не пусцілі.

Менавіта ўласцівасцю хлудаў упадаць у зімовую спячку гісторыкі вытлумачылі пазней той факт, што хлуды ўвогуле захаваліся як від, і так званае Новае жыццё, пра надыход якога ўсур'ёз пачалі пагаворваць, так і не надышло.

Прачнуўшыся, хлуды даведаліся пра Адраджэнне, якое распачалі мала каму вядомыя дагэтуль «рухавыя» з Хіцерам Зміцерам на чале».

Публіцыстычная фантастыка завіхаецца блізка ад глабальных праблем. Пагроза вайны, экалогія, іншыя праблемы выжывання чалавека і чалавецтва. У апавяданні Алеся Наварыча «Вяртанне сыноў» (зборнік «Тутэйшыя») герой адчуў сябе чалавекам і адразу зрабіўся няўгодны чалавекападобным камп'югомам. Тое, што адбываецца ў «Вяртанні сыноў», асацыіруецца з нашай сённяшняй сітуацыяй, бо нельга сёння адчуць сябе беларусам, не выкліканчы незадавальнення камп'югомаў са стану нацыянальнага нігілізму. Яшчэ бліжэй да нацыянальнай праблематыкі яго апавяданне ў кніжцы, якое называецца «У цягніку». Хлопцы (у іх старажытныя імёны) шукаюць сваіх людзей, тых, хто размаўляе, як яны. А калі цягнік спыняецца, ідуць і не могуць дайсці да старажытных муроў.

Шкада, што ў беларускай фантастыцы мала твораў, даследуючых унутраны свет асобы. У поўнай меры да такіх твораў я б аднёс толькі апавяданні Алеся Асташонка «Чарга», у якім герой адмаўляецца ўдзельнічаць у раздачы нумароў (месцаў у жыцці), і «Метамарфоза»—аб двух амаль што супрацьлеглых па сэнсу жыццях аднаго чалавека. Мне заўсёды здавалася, што такая філасофская фантастыка блізка падыходзіць да рэалізму без нацяжак.

## *Мера для чалавека*

Калі чытаеш апавяданне Пятра Васючэнкі «Упрочкі» (зборнік «Тутэйшыя»), разумееш: нешта вясёлае і добрае назаўжды пайшло ад нас. Якраз як хлопцы з апавядання, якія калядавалі, пакуль не сутыкнуліся з неразуменнем.

Прыніжэнне ролі асобы ў грамадстве абавязкова звязана з аслабленнем народных традыцый, з адрывам чалавека ад роднага кутка, сваёй мовы, матчынай песні. Бурны пераход беларусаў ад вясковага да гарадскога жыцця адбываўся пры прамым фізічным і эканамічным насіллі, таму спадчына, якую атрымліваў горад ад вёскі, моцна сказілася, што ў рэшце рэшт прывяло значную частку беларусаў да страты нацыянальнай годнасці.

Памяняліся і адносіны да роднай зямлі, да братоў нашых меншых. Маладыя празаікі заўважаюць, якую пагрозу нясе з сабой збядненне душы. А яно прысутнічае як у вялікім, так і ў малым. Мабыць, такое вусцішна-вялікае, як Чарнобыль, пачынаецца з малога... У апавяданні Лявона Неўдаха «Формула дабрыні» працуюць поруч два чалавекі. Адзін клапоціцца пра тое, каб разбурыць кубло без-

абароннай пліскі, другі нават пасля смяротнай небяспекі для сябе—каб не кранаць. А ў апавяданні Уладзіміра Сцяпана «На вуліцы» (зборнік «Тутэйшыя») бліскуча створана ўражанне, што сабаку сорамна за свайго гаспадара. Адначасова і глыбіня, і панарамнасць пісьменніцкага погляду на тое, што адбываецца цяпер у прыродзе, як мы адносімся да яе, адчуваецца ў апавяданні Алеся Наварыча «Язь». Для апісання, здавалася б, звычайных рэчаў знаходзяцца сакавітыя, моцныя па сваёй выразнасці словы: «З вялікай прыпяцкай вадой утачыўся вялікі касяк рыбы ў паўнаводны прыток, што выносіў чырванаватую ад торфу даніну воднага багацця балот, якія, быццам венамі, аплецены меліярацыйнымі каналамі. Рыбу перапаўняла магутная жыццёвая сіла, што змушала рухацца наперад, супраць цячэння да далёкіх рачных затокі з цёплай і мяккай вадой, у якой сярод гарлачыкаў, рачнога аеру можна было аднераставацца. Рыбіны ішлі правільным руслам, але, калі дайшлі да нарobленых чалавекам шлюзаў...»

Больш маштабную спробу разабрацца ў чалавечых душах з дапамогай братоў нашых меншых зрабіў Юры Станкевіч у аповесці «Луп». Так клічуць ваўка, які вырас, бы сабака, на ланцугу, ды вось гаспадар наважыўся яго прадаць. Юры Станкевіч ахвотна карыстаецца традыцыйным канфліктам між дабром і злом, вакол якога разгортваецца сюжэт. Адны людзі збіраюць грошы, каб выпусціць Лупа на волю, іншыя забіваюць і яго, і чалавека, які паспрабаваў за яго заступіцца.

Праблемы душы—гэта і праблемы кахання. Зразумела, дваццатае стагоддзе і круціць, і здратоўвае яго. У старэйшых мужчын яшчэ было зазвычна ўздыхаць па Наташы Растовай, яны як бы забываліся на тое, што ні Андрэй Балконскі, ні П'ер Бязухаў, ні нават Анатоль Курагін не паслалі б Наташу ў гальванічны цэх ці хоць бы ў пыхлівую ўстанову, дзе, каб жыць, трэба ўмець круціцца. Маладыя гэта адчуваюць абвострана: няма таго, што зрэдку магло быць раней. Сучасную адзіноту маладой жанчыны знойдзем мы ў апавяданні Уладзіміра Калкоўскага «Надзейны спосаб» («Маладосць»), шлюб, заснаваны хутчэй не на каханні, а на інтэлігенцкім партнёрстве,— у аповесці Іны Зуб «Сцэнарый не для кіно» («Маладосць»).

Ёсць свае недасканаласці ў аповесці Андрэя Федарэнкі «Гісторыя хваробы», але яна цікавая рэдкай спробай паказаць хісткасць асобы маладога чалавека, яго гайданне між імкненнем да кахання і даволі распаўсюджанай думкай аб дастатковасці адных сексуальных адносін.

«Дастатковасць» з'яўляецца пад рознымі маскамі. У апавяданні Адама Глобуса «Паміж папярэднім і наступным» мужчына тлумачыць жанчыне, што ён верыць у каханне вось у гэта імгненне... Карціна, якую стварае пісьменнік, сведчыць найперш аб уцесе (у апавяданні выкарыстана слова «кайф»): «Мужчына стаяў на пяску каля мора. Хвалі каціліся на бераг і вярталіся ў мора. Жанчына стаяла спіною да зямлі, а мужчына—спіною да мора. І было сонца. І быў дзень. І быў вецер. Ён маляваў на пяску. А хваля змывала малюнак. Ён маляваў аголеную жанчыну. А хваля не пакідала і следу. Ён маляваў хутка і не паспяваў. А хваля паспявала».

Праўда, акрамя ўцехі, ці, лепш сказаць, асалоды, тут ёсць амаль фізічнае адчуванне, як бяжыць няўрымслівы час... А вось Пятро Васючэнка прысвяціў апавяданне «Бэзавае воблачка» («Крыніца») толькі адносінам жанчыны і мужчыны. Ён расказвае пра сустрэчу паэта і маладзенькай даступнай феі, сустрэчу, якая ў іх кончылася нічым, і прымушае чытача якраз аб гэтым «нічым» пашкадаваць.

Шчыра сексуальная тэма ўзята ў нізцы маленькіх апавяданняў Адама Глобуса «Здані» (зборнік «Літаратура»). Атрымалася нешта накшталт сучаснага «Дэкамерона». Можна з пурытанскім абурэннем папракнуць аўтара, можна сцвярджаць, што ён «зніжае» каханне... Тут не каханне. Пісьменнік расказвае пра секс і, дарэчы, робіць гэта стрымана, стараецца абысціся без пажаднага смакавання.

Секс без кахання, нейкі халаднаваты секс, пагражае стаць слаба прыхаваным атрыбутам сучаснага жыцця, своеасаблівым штрыхом эстэтыкі вялікага горада. Наўрад каб гэта нясло чалавецтву радасць, бо мера чалавечага ў ім здавён правяраецца таксама адносінамі жанчыны і мужчыны.





У агульнай плыні маладой прозы я стараўся вызначыць прыкметныя напрамкі па тэмах, па агульнаму сэнсу твораў. Паўтаруся: небагаты год выпаў у маладых на гістарычную прозу, ніхто з іх не даў партрэт сучаснага Сатурна—радыеактыўнага чарнобыльскага жарала. Але новыя штрыхі да партрэта сучасніка, да карціны нашага сённяшняга жыцця яны знаходзяць ахвотна і таленавіта. Хоць жыццё гэта вельмі складанае, са шматлікімі пагрозамі не толькі для чалавека, але і для чалавецтва.

Запамінаецца, як пільна ўглядаюцца ў чалавека Алесь Асташонак і Уладзімір Ягоўдзік, запамінаюцца артыстызм і вытанчанасць, мабыць, звязаныя з пэўным напрамкам жывапіснага авангарду, у творах Адама Глобуса. Ёсць інтэлектуальная віртуознасць у Уладзіміра Сцяпана, вялікая цікавасць і спагада да прыроды ў Юры Станкевіча. Алесь Наварыч часцяком пачынае апавяданне з яркага абразка, а потым драматызуе сюжэт і імкліва заглыбляецца ў маральнае. Усе яны, а таксама Вінцэсь Мудроў, Міраслаў Шайбак, абвострана адчуваюць сучаснасць.

Адносна новае ў беларускай літаратуры—фантастыка. Тут ужо ёсць прыклады арганічнага злучэння думкі з мастацкім вобразам—у Алеся Асташонка і Алеся Наварыча, у Алега Мінкіна і Вітаўта Чаропкі, хоць у большасці маладых яшчэ пераважае сітуацыйнае, сканструяванае апавяданне. Напрамак развіцця фантастыкі вядомы: ад сітуацыі да ўнутранага свету чалавека.

Літаратура ў бліжэйшы час мусіць па дробках збіраць рассыпаныя на гістарычным шляху агульначалавечыя каштоўнасці, змагацца з тымі спрытнюгамі, якія ўстанаўліваюць такую дыялектыку агульначалавечага і класавага, што яна забівае агульначалавечае. І каб прайсці шлях ад чалавека кашлатага да нармальнага, трэба адмовіцца ад ілжэрэалізму, ад неаборнага нашага ўдыгання перад магнатамі.

Нельга прынізіць ролю беларускай літаратуры для вяртання беларусаў у стыхію роднай мовы, мабыць, у самую прыемную з усіх стыхій. Таму—клопат аб форме, аб цікавасці твора. Радасна: маладая проза амаль не грашыць на шматслоўе, з якім звычайна звязаны апісальнасць, эмпірызм і няздольнасць сягаць думкай вышэй фактаў. Маладых проста цікава чытаць.

**Мікалай СЕРДЗЮКОЎ**

*Да 150-годдзя Францішка Багушэвіча*

# НАПІСАНА ДЛЯ НАШЧАДКАЎ

Для беларускай літаратуры XIX стагоддзе, як ніякая іншая эпоха айчыннага прыгожага пісьменства, стракаціць белымі плямамі, адгукаецца ў свядомасці балючым рэхам слоў: «страчана», «загінула», «не захавалася». Зрэшты, страты былі і пазней, аднак на **той час** пры нашай нішчымнасці на арыгінальнае беларускае слова страты прыкметна адчувальныя. Адлік іх можна весці ад самых першых дзён стагоддзя, калі дзядзька Дуніна-Марцінкевіча магілёўскі арцыбіскуп, прызначаны яшчэ Кацярынаю II мітрапалітам усіх рымска-каталіцкіх касцёлаў у Расіі, Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч распачаў збор матэрыялаў для слоўніка і граматыкі беларускай мовы (сёння невядомыя), і да апошніх дзён 1899 года, калі моцна схварэлы Францішак Багушэвіч, лежачы ў сваіх Кушлянах, пакутліва думаў над выратаваннем рукапісаў сваіх зборнікаў «Скрыпачка беларуская» і «Беларускія апавяданні Мацея Бурачка». Здадзеныя ў віленскі цэнзурны камітэт і забароненыя, яны былі вернуты іх аўтару і пазней загінулі. Мне чамусьці верыцца, што, калі б гаспадар Кушлянаў паправіўся, пераадолеў смерць, ён абавязкова пераадолеў бы і цэнзарскія рагаткі, выбраўся б на шлях, абвешчаны бунтарнай «Мужыцкай праўдай» і так удала падхоплены самім Багушэ-

←

**На радзіме Ф. Багушэвіча.**
Фота **У. Содаля.**

**Паштоўка.** З архіва **В. Целеша.**



Franciszek Bohuszewicz
Pieśniar Biełaruski. Napisaŭ „Dudku Biełaruskuju" pad prozwiszczem Macieja Buraczka i Smyk Biełaruski pad prozwiszczem Szymona Reŭki" spad Barysawa.

вічам,— шлях нелегальнага і непадцэнзурнага распаўсюджвання беларускага мастацкага слова.

З імем Францішка Багушэвіча, аўтара несмяротнай прадмовы «Браткі мілыя! Дзеці зямлі-Маткі маёй!», знітавана яшчэ адно публіцыстычнае слова — пракламацыя «Гаспадары, для Вас пішым гэта апавяданне...». Дзіўны парадокс: пра забарону згаданых рукапісаў кніг пісьменніка мы ведаем, бадай, яшчэ са школы, а вось брашура, якая прыпісваецца пяру Багушэвіча, не прыгадваецца нават ва універсітэцкіх лекцыях і ў дапаможніках для ВНУ. Хоць цяпер дастаткова разгарнуць 1-ы том ЭЛіМБела, каб на заканчэнне артыкула пра Мацея Бурачка прачытаць: «Яму прыпісваецца пракламацыя без назвы (пачынаецца словамі «Гаспадары, для Вас пішым гэта апавяданне»), выдадзеная па-беларуску ў Кракаве і прысвечаная падзеям у літоўскім мястэчку Крожы ў 1894 г.» (ЭЛіМБел, т. 1, с. 260).

Відаць, па традыцыі ад айчынных даследчыкаў мінулага стагоддзя ўсе найбольш значныя мастацкія творы прыпісваць буйным прадстаўнікам на беларускім Парнасе (Дуніну-Марцінкевічу ў свой час прыпісвалі шэраг тэкстаў, пачынаючы ад рэвалюцыйных пракламацый, гутарак і да ананімнай паэмы «Тарас на Парнасе») гэты твор залічылі ў творчы актыў Мацея Бурачка. Першы, хто атаясаміў пракламацыю з імем Багушэвіча, быў Яўхім Карскі. «Повествование о закрытии костела в Крожах приурочивается Ф. К. Богушевичу»,— пісаў акадэмік у трэцім томе славутых «Беларусаў» (Пг., 1922).

Невялічкая (памерам 9×13,5 см), на васьмі старонках, брашурка была выдадзена ў канцы 1894 ці напачатку 1895 г. у Кракаве (?). Напісаная па-беларуску лацініцай, яна з'яўляецца яркім узорам айчыннай публіцыстыкі, слаўным працягам лепшых нарадавызваленчых традыцый «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага. Змест яе складаецца, кажучы ўмоўна, з прадмоўкі-ўступу і трох раздзельчыкаў (лічбавая нумарацыя апошніх не пазначана, аднак напрошваецца лагічна).

Ва ўспамінах паэтавага сябра Зыгмунта Нагродскага, запісаных Антонам Луцкевічам у 1930-х гадах, згадваецца іншая асоба, прыналежная да выдання кнігі аб падзеях у літоўскім мястэчку Крожы: «Калі «Дудка» вычарпалася, Нагродскі надумаў перавыдаць яе сваім коштам. Якраз меўся ехаць у Кракаў — адвезці сваю дачку і наладзіць друк кніжкі аб вядомым працэсе за «бунт у Крожах» — Аляксандра Лапіньскі» (Луцкевіч А. Жыццё і творчасць Фр. Багушэвіча ў успамінах ягоных сучаснікаў // Запісы беларускага навуковага таварыства. Вільня, 1938, сш. 1). Каменціруючы гэтае імя, Генадзь Кісялёў называе Лапіньскага «аўтарам антыўрадавай кніжкі «Працэс Кражан» (Пачынальнікі. Мн., 1977, с. 442). Пра якое выданне згадваў у сваіх успамінах Нагродскі, беларускім даследчыкам бліжэй невядома.

І святкуючы 150-годдзе з дня нараджэння Францішка Багушэвіча, мы не можам сказаць пэўна, яшчэ не наспеў час (нягледзячы на такі важкі юбілей) вырашыць канчаткова пытанне: належыць гэтая пракламацыя пяру паэта ці не? Пакуль што на парадку дня стаіць іншая канкрэтная задача: пазнаёміць чытачоў і шырокае кола навукоўцаў з тэкстам. Яно ж зразумела: перш чым вырашаць няпростае пытанне атрыбуцыі твора, неабходна належным чынам вывучыць яго. Таму «Маладосць», змяшчаючы пракламацыю «Гаспадары...» на сваіх старонках, цалкам захоўвае першапачатковы правапіс.

Дагэтуль пракламацыю гарталі ўсяго дзесятак даследчыкаў, якія пакінулі свае аўтографы ў лісце для карыстання архіўнай папкай «Дело о сопротивлении власти в м. Крожах Ковенской губернии Росиенского уезда. 1894 года, г. Вильно». Гэтая паліцэйская справа-пратакол захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук ЛітССР, а ў ёй — адзіны вядомы сёння экземпляр беларускай пракламацыі (F. 9—3139, арк. 59—62).

Рыхтуючы публікацыю, мне давялося пазнаёміцца з рознымі друкаванымі і рукапіснымі крыніцамі, у якіх апавядалася пра падзеі ў літоўскім мястэчку Крожы. Тут, у сціслай прадмове, не да месца распачынаць гаворку пра ўсе «за» і «супраць» аўтарства пракламацыі на карысць Ф. Багушэвіча ці іншай асобы. Зазначу толькі, што акрамя рарытэтнай сёння беларускай крыніцы існуюць яшчэ рукапісная на польскай і друкаваная брашурка на літоўскай мове — вось вам прыклад інтэрнацыяналізму колішніх прыгнечаных народаў у царскай імперыі! Параўноўваючы апошняе, літоўскае, выданне "Našlys. Keletas žodžiu apie nežmoniškus Maskolių darbas Kražiose ir apie sudyimą Kražiečių Vilniuje. Tylžeje, 1895" («Нашліс. Колькі слоў пра нялюдскую справу маскалёў у Крожах і пра суд над крожанцамі ў Вільнюсе. Тыльзіт, 1895») з беларускім, Адам Мальдзіс зазначыў: «У абедзвюх брашурах ёсць тэкстуальныя супадзенні, аднак беларуская шмат у чым адрозніваецца ад літоўскай, больш канкрэтнай і пазбаўленай абагульненняў».

Але гэты на першы погляд «недахоп» (адсутнасць канкрэтыкі) стаў выразна станоўчай рысай беларускай пракламацыі. Яе аўтар нібы прыняў за ўзор мастацкае слова «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага і ягоных паплечнікаў. «Лятучыя лісткі» той першай беларускай газеты — не проста голая публіцыстыка, бясстрасны пераказ ланцужка падзей; у іх пададзены абагулены сацыяльна-палітычны аналіз парэформеннай Беларусі. «Мужыцкая праўда» па праву лічыцца класікай нацыянальнага мастацкага слова. А класіка, як вядома, рэч высокамастацкая ва ўсіх адносінах.

Яшчэ адной старонкай, упісанай у гісторыю нашай айчыннай публіцыстыкі, стане родная сястра «Мужыцкай праўды» — пракламацыя «Гаспадары...».

Язэп Янушкевіч

**Гаспадары,**

**Для Вас пішым гэта апавяданне. Пэўне ешчэ ня усе чулі аб тым, як царскія слугі мучуць і здзекуютца над тымі падуладнымі народамі, каторыя дзяржаць веру няправаслаўную. Правіцельства не пазваляе пісаць аб гэтым у газэтах, бо баітца Вас. Баітца вашаго справедліваго суду, бо вы сіла: з Вас найбольш набрана яго войска; вы плаціце большую часьць даходаў, з каторых ён жыве, вы даіцё усей зямлі праўдзівы хлеб. Вы ж і павінны ведаць, скольκі церпяць вашые браты пад царскім ярмом. Апавядання гэтыя смутныя і страшныя, а недоля наша вялікая! Але будзім помніць святые словы Эвангэліі: «Кожнаму будзіць аддана павэдлуг яго злосьці і павэдлуг яго заслуг».**

**І.**

**Нема на зямлі каралеўства, каб да яго належала толька народаў ружных вер, як до рассейскаго царства. Памаленьку праз шмат гадоў народы гэтыя, то сілай, то крутам да мутам падпалі пад русскаго цара. Наш народ, нашу айчызну сто гадоў таму гвалтам і подкупам забралі і падзелілі межы сабой Царыца Кацярына, Цасар аўстрыяцкі і Пруські Кароль. Яны і па дзісь дзень панують над трама часьцямі раздзёртай польскай зямлі. З таго часу тры разы палякі парываліся адбіць сваю свабоду; еднак жа ня змаглі, ня падужалі ворага, бо Вас, мужычкоў, ня было з імі, бо ешчэ тагды і Вы былі пад панамі у няволі і цёмные былі! Найшчырэй бараніліся тыя палякі, што пад рускім царом, але войска царская перэмагло.**

**Добра гэтак забраць чужую зямлю, гаспадарку, але ж сам той гаспадар усё будзе дабіватца, каб адабраць сваё дабро і жыць — як сам захочэ»,— падумаў цар, гэтак ніколі спакою ня будзе. Тагды найшліся дарадцы, яму парадзілі, што трэба усе веры пяравярнуць на рускую, дык тагды будзе і спакой. Вот яны і ўзяліся за гэтую работу!**

**Перш наперш трэба было ім падумаць аб тым, як утрымаць у праваславії тых, што ужо запісаны, або сілой пяравернуты, вот яны выдалі закон, што як хто намове праваслаўнаго у сваю веру — то яго у Сібір пасылаць. А ксяндзоў такіх, што ахрысце дзіця праваслаўнае, або шлюб дасьць, або выспавядае, хоць бы і ня ведаючы, у якой веры той запісаны — шмат пассылалі ў дзікія губэрніі і у Сібір. Дзеці такіх бацькоў, што адно з іх веры праваслаўнай — усе павінны быць праваслаўныя.**

**Потым сталі папы пераварачываць балванахвальцаў, татараў на сваю веру, а затым давай цісну́ць і мучыць уніятаў і каталікоў.**

**Усюды по чужых зямлях шанують веру сваіх падданых, хоць бы кароль і іншай быў веры, бо вера то рэч божая, святая, а ня людзкая работа. Але ў царскам паньстве дык і святую веру мучаць як самаго Пана Язуса.**

**Гадоў таму больш двадцаці цар даў указ, каб усе уніяты былі праваслаўнымі і з дзяцьмі і с ўсей грамадой, а касьцёлы уніяцкія зараз каб на цэрквы пярастроіць. Гэта было ў каралеўстве польскім, а у нашай зямлі, дык гадоў ужо больш пяцідзесяці, як усіх уніятаў пакасавалі, ксяндзоў іх пассылалі. Тут гвалту і бою было шмат, але па газэтах пісалася і другім каралям было пісана, што уніяты самі спадабалі праваслаўную веру і пяравярнуліся. Бог відзеў праўду. Людцы сілай баранілі бацькавай веры і Божаго дому голымі рукамі, хоць іх стралялі і забівалі, а шмат пассылалі, але Бога ня маглі адабраць, бо Бог усюды ёсьць і ён ня здрадзе! І па дзісь дзень шмат вёсак уні-**



**Сям'я Казіміра Багушэвіча.** Злева направа: **Канстанцыя** (жонка), **Францішак, Ганна, Валяр'ян, Апалінар** (сыны і дачка), **бацька, Казімір Багушэвіч,** 1864 г.

яцкіх засталіся веркымі сваей веры каталіцкай, дык тамураднікі сядзяць, і як толькі Бог каторай бабе дасьць дзіця, так забераюць ад хворай і цягнуць, як ваўкі ягня, да папа хрысьціць. Аднаго гаспадара так змучылі і абдзярлі за тоя, што не хацеў да цэркві хадзіць, што ён здаўся, толькі прасіў пазволіць яму астатні раз памаліцца па-свойму, хоць у гумне. Забраўшы сям'ю у гумно, ён запёрся, молючыся, запаліў яго, молючыся да Бога і згарэла ўся сям'я.

Шмат уніятаў так ня жаніўшыся і жывуць на веру, бяз шлюбу! Ці ж гэта ня нядоля, ня грэх! А ўсё ж хто да гэтаго даводзе! Царская ўправа!

Аж у харсонскай губэрніі бадзяютца па голых стапах сасланые бацькі уніяты, а па вёсках сваіх туляютца жабруючы іх жонкі і дзеткі.

Аднэй матцэ ураднік хацеў адабраць дзіця толькі роджаная, нясьці да папа, а яна яго з распачы ў агонь кінула! Хібе ж Бог гэтаго ня відзеў!

Бог на тоя даў нам веру святую, каб мы Яго пазналі ў праўдзе, але ня ў людзкой крыўдзе, каб у Яго научыліся цярпець, ад Яго чакалі пацехі у нядолі, душы спакою і шчасьця.







**Ілюстрацыі да паэмы «Кепска будзе!».** Мастак **В. Александровіч,** 1984 г.

II.

З уніятамі праве ужо пакончылі, цяпер за каталікоў узяліся. Ужо каталіку і на чугунку трудна на службу дастатца, ўсюды панабіваліся русскіе, а нашые бяз хлеба сядзяць. Як што казна будуе ці муруе і ў нас, дык прывозяць рабочых аж з Масквы і далей, а нашые бяз хлеба! Тым часам падаткі і мы плацім. Як у іх быў голад, дык і у нас пазабіралі магазыны, а як мы хацелі бы зарабіць на хлеб, дык і ня прымаюць.

Што рок забіраюць касьцёлы і то на казармы, то на стайні перарабляюць, а людцам за дзесяць міль да касьцёла трэба ісьці, па дзесяць тысяч душ у парафію збіта, а ці ж можна гэтулькі народу выспавядаць добра аднаму ксяндзу! Вот такая-то нашая доля! Нехай будзе Богу на хвалу!

Нядаўна, другі рок таму, на Жмуйдзі, гдзе народ і набожны і працавіты, і багаты і надто шчыра пільнуютца веры святой, дзеялася такая гісторыя, якую думаю вам расказаць, бо аб ей ужо весь сьвет ведае, але у нас аб гэтым пісаць ня можна, а затым і ня ўсім ведама.




Стужкі з вянкоў, якія былі ўскладзены на магілу паэта.

Фота **А. Наліваева.**

**Ёсьць на той Жмуйдзі у Ковеньскай губэрні мястэчка Крожы. Быў там кляштар мураваны з мураваным касьцёлам і касьцёл парафіяльны дзеравянны. Кляштар той закрылі, мнішэк павывозілі, а касьцёл прыказана замкнуць, спуставаць і разкінуць. Дзеравянны касьцёл і стары, згніўшы і нявялічкі; народ прывык да кляшторнага касьцёла і ведаў, што дзяравянны прэндка трэба рапараваць, а казна ня пазволе. Крожаны падалі просьбу да начальства, каб ім ня забіралі кляшторнага касьцёла, а каб лепей той дзяравянны закрылі.**

**Ведама і можна было згадаць адразу, што просьбы ня паслухалі, ды яшчэ прыказалі паліціі, каб прандзэй замкнуць мураваны касьцёл. Уся парафія як адзін, даведаўшыся аб гэтым, змовілася бараніць божага дому ад разбою. І дзень і ноч народ збіраўся і маліўся ў касьцеле і начаваў пад касьцёлам, так што ні спраўнік, ні ураднік не маглі закрыць касьцёл, бо народ ня даў, ня верыў, каб цар прыказываў бурыць касьцёл — дом божы. Але увосень 1893 року 9-га лістапада Ковенскі губарнатар па прыказу ваеннага губарнатора Оржэўскага прыляцеў у Крожы з паўсотняй ураднікаў, жандармамі і станавымі, а па дарозе сказаў, каб тры сотні казакоў на раніцу прыляцелі ў Крожы і каб быў дохтар з шматкамі для пяравязкі ранаў і інструмэнтамі. Ведаў значы, што будуць і раны і убоі. У глухую ноч уехаў губарнатар у Крожы з ураднікамі збройнымі і жандармамі. Ксяндзоў казаў разбудзіць і прышлі ўсе а другой гадзіне у ночы да касьцёла.**

**(III.)**

**Народ стаў у дзвярах з патрэтамі цара і царыцы і з крыжам касьцельным і ня пускаў губарнатара з бандай у дом Божы, покі ад цара ня будзе адказу на іх просьбу. Губарнатар адказаў, што ён па царскаму прыказу і прыехаў замыкаць касьцёл. Людзі ня паверылі гэтаму і казалі: «Каб ты быў губарнатар і каб меў яго прыказ, то б уночы ня ехаў як злодзей; пакажы ж той прыказ».**

**Губэрнатар прыказаў ураднікам сілай браць касьцёл і тут зачалі калечыць народ нагаямі, кнутамі і палашамі. Народ стаў баранітца, але як зачалі уцякаць людзі з касьцёла, дык ураднікі і станавы Гофман сталі страляць. Народ раз'юшыўся і разагнаў**










Магіла Багушэвічаў у Жупранах.

Малюнак **Я. Драздовіча.** 1929 г.

**уратнікаў, а сам губарнатар з чыноўнікамі ужо улез у касьцёл і запёрся. Людзі ізноў сабраўшыся адбілі дзверы і хацелі забіць губарнатора, бо ня верылі, што ён губарнатор дык уночы робе разбой у касьцеле, але ён схаваўся на хоры з жандармамі і адтуль абяцаўся, што будзе прасіць цара касьцёл заставіць і напішэ пратакол на сябе, што уночы у дом божы нарынуўся і страляў народ; а тым часам паслаў Гофмана, каб барздзей ехалі казакі. Покі гэта дзяялася, прыляцелі і казакі з пікамі і стрэльбамі і з нагайкамі і рынуліся як шалёныя на людцоў, а навет, кажуць, конна казак у касьцёл уехаў. Тут кроў лілася, а енк і Бог пачуў пэўне, толькі губарнатор цяпер разкашаваўся: народ лавілі, з хат цягалі, валаклі у воласьць і там білі голых, а кабет бэствілі і мучылі, губарнатор дазваліў казакам «пагуляць», і гулялі ж яны, паласкаліся ў людзкой крыві і сьлёзах. Шмат народу тут памучылі і пабілі. Катаваня людцоў цэлы дзень цешыла губарнатара і усё пытаўся здзекуючыся: «А што, губарнатар я, ці не!». Посьле гэтаго зо дзве сотні мужчын і баб паразсылалі па астрагах. Ня канец на гэтым, але тых жэ бедных пабітых, пакалечаных людзей аддалі пад суд за тоя, што яны супрацівіліся губарнатару і білі паліцію, і губарнатар напісаў у газэтах, што ніхто з народу і ня біты і ня раняны (аб забітых маўчок), а толькі каламі ранілі паліцыянтаў. Народу і дзецям і ксяндзам прыказана маўчаць аб усім, што было 9-га лістапада.**



Камень памяці Ф. Багушэвіча ля Лысай гары.

Фота **У. Лабады.**

**Хоць ня можна у нас аб гэтым пісаць, але у Бога гэта запісана, запісана і ў сэрцах верных людцоў, а адтуль ніхто ня выдзярэ праўды! Покі людзі будуць жыць, бацькі дзецям раскажуць, як трэба сьцярагчы сваей веры. Кепская то вера, што нагайкамі трэба да яе навaрачываць. Пана Язуса і святых апасталаў білі і мучылі, каб адвярнуць ад веры у праўдзіваго Бога, а вера ўсё-тыкі моц узяла, бо Бог за намі, а нагайка проці нас; мацнейшы крыж, як кнут; ня кнутом, але літасьцяй і добрым словам Сын Божы прыгарнуў нас да веры. Ня разбоем мы здабылі сваю зямельку, і сваю мову, і свае звычаі, але Бог нам даў радзітца у іх, у іх жэ і памром!**

**Суд над мучанікамі кражанскімі будзе, пэўна, апісаны, гдзе трэба. Гэта суд воўчы над авечкамі да і толькі таго! Хто бы ня верыў таму, што тут напісана, нехай сам запытаітца у Крожах.**

Рэпрадукцыі **А. Клешчука, Я. Мацюша.**







# Папытай у кнігарні

**МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ. Выйшаў першы том збору твораў у чатырох тамах. Гэта першае выданне мастацкай, публіцыстычнай і літаратурна-крытычнай спадчыны выдатнага беларускага пісьменніка.**

**У літаратурным руху 30-х гадоў Міхась Зарэцкі быў адным з кіраўнікоў літаратурнага аб'яднання «Маладняк», а затым «Полымя». У рамане «Вязьмо» ў сюжэтнавобразнай форме ім праведзена ідэя немэтазгоднасці суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Пісьменнік не мог пайсці супраць свайго сумлення, што ўжо несла вялікую небяспеку. Раман «Крывічы», пачатак якога быў надрукаваны ў чацвёртым нумары часопіса «Полымя» за 1929 год, быў нечакана арыштаваны і потым беззваротна страчаны. Тое ж чакала і гістарычную драму «Рагнеда». Самі назвы твораў у той час ужо нібы неслі выклік сталінскім паслугачам ад літаратуры. Пісьменнік, які ўвесь час адчуваў на сабе іх уціск, быў арыштаваны ў 1936 годзе і неўзабаве загінуў у канцэнтрацыйных лагерах.**

**У першы том Міхася Зарэцкага ўвайшлі апавяданні. Асноўная тэма большасці іх — змены ў жыцці беларускага народа, нялёгкія пошукі сэнсу жыцця.**

**Падрыхтаваны збор твораў супрацоўнікамі Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.**

**Прадмову напісаў Міхась Мушынскі.**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989.

**«НОВАЯ ДАРОГА». Выйшла з друку кніга прозы Сымона Баранавых, якая складваецца з рамана, аповесцей, апавяданняў і асобных лістоў пісьменніка. Гэта найбольш поўнае выданне творчай спадчыны вядомага беларускага майстра прозы, які быў рэпрэсіраваны ў 30-я гады і загінуў у сталінскіх канцэнтрацыйных лагерах.**

**Аповесці пісьменніка «Новая дарога» (якая дала назву кнізе) і «Межы» ўзнаўляюць для нас атмасферу дваццатых і трыццатых гадоў. Сымон Баранавых паказвае падзеі пачатковага этапу калектывізацыі, завастрае ўвагу на драматычным лёсе беларускага селяніна, які вынес на сабе першы ўдар сталінскай навалы і цемрашальства.**

**Непаўторны стыль аповесцей сведчыць пра добрае веданне пісьменнікам свайго рамяства, будняў вёскі, жыцця народа. Напісаны яны своеасаблівай і жывой мовай.**

**Раман «Калі ўзыходзіла сонца» расказвае аб барацьбе двух светапоглядаў у паслякастрычніцкі час. Пісьменнік рыхтаваў яго для выдання ў 1937 годзе, але не паспеў. Рукапіс цудам уцалеў (С. Баранавых даў чацвёрты экземпляр рамана пачытаць сястры жонкі Ганне Рудакоўскай).**

**Прадмову да кнігі прозы Сымона Баранавых «Новая дарога» напісала Лідзія Савік.**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989.

**«ВЕРСІЯ КАПІТАНА БАРТАША». У аснову дэтэктыўнай аповесці Івана Макаловіча пакладзены рэальныя падзеі, якія адбыліся ў адным з мікрараёнаў Мінска. Героі аповесці — супрацоўнікі сталічнага крымінальнага вышуку. У сваёй кнізе аўтар разглядае сацыяльныя і маральныя прычыны падзення чалавека, пераўтварэння яго ў злачынцу.**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989.

**«ПЕСНЮ У СПАДЧЫНУ». Выйшлі ў свет мастацтвазнаўчыя артыкулы Арсеня Ліса пра А. Грыневіча, братоў М. і Г. Гарэцкіх, М. Агінскага — людзей, якія пакінулі глыбокі след у грамадска-культурным жыцці Беларусі і Польшчы. Чытач з цікавасцю прасочыць за лёсам акадэміка Гаўрылы Гарэцкага, малодшага брата вядомага пісьменніка, які быў даследчыкам і стварыў бібліятэку прац аб прарэках Рускай раўніны і Беларусі з іх прыроднымі таямніцамі і багаццем. Ён жа даведаецца пра самы плённы перыяд у жыцці кампазітара, паўстанца, дзяржаўнага дзеяча Міхала Агінскага, які быў звязаны з Залессем, што на Смаргоншчыне.**

**У кнігу ўвайшлі і нарысы пра людзей малавядомых, якія, аднак, шмат зрабілі для беларускай культурнай спадчыны.**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989.

**«ПАГАРДА». У серыі «Бібліятэка замежнай прозы» выйшаў пераклад аднаго з найлепшых твораў Альберта Маравія — вядомага італьянскага пісьменніка XX стагоддзя. У рамане знайшла адлюстраванне гісторыя кахання тыповага заходняга інтэлігента. Аўтар дэталёва прасочвае прыхаваны ўнутраны канфлікт і разрыў паміж мужам і жонкай, складаны свет узаемаадносін людзей, адмоўны ўплыў на шчырыя чалавечыя пачуцці дзялкоў ад мастацтва.**

**Пераклад на беларускую мову Івана Пташнікава. Прадмову напісаў Э. Садаўнічы.**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989.

**«ДОКТАР ФАЎСТУС». У нядаўна заснаванай серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» пабачыў свет раман вядомага нямецкага пісьменніка Томаса Мана — лаўрэата Нобелеўскай прэміі.**

**Незвычайна рана, у дваццаць пяць гадоў, Томас Ман напісаў вялікі эпічны твор «Будэнброкі». У больш маладзейшым узросце толькі Міхаіл Шолахаў стварыў свой «Ціхі Дон». Удасканальваючы сваё майстэрства, Т. Ман працягваў ускладняць сваю творчасць, вяршыняй якой стаў раман «Доктар Фаўстус» — адзін з самых складаных твораў сусветнай літаратуры. Тэма яго — хаўрус мастака з чортам, гісторыя музыканта-дэкадэнта Адрыяна Леверкюна.**

**У сваім творы аўтар выкарыстаў моманты з'яўлення так званай додэкафанічнай сістэмы нямецкага кампазітара Арнальда Шэнберга, але яшчэ больш рэальнай сюжэтнай асновай паслужылі аўтару факты з жыцця нямецкага філосафа Фрыдрыха Ніцшэ. Сам ён, напрыклад, лічыў раман «раманам пра Ніцшэ».**

**Пераклад з нямецкай мовы і каментарыі Васіля Сёмухі.**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989.

## *Нашы аўтары*

**МАЗУР Тамара** нарадзілася ў 1964 годзе ў вёсцы Лазы Ваўкавыскага раёна. Працавала лінатыпісткай у Гродна. Зараз—у рэдакцыі стаўбцоўскай раённай газеты «Прамень». У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**ВЕРАБ'ЁЎ Павел** нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Рабавічы Слаўгарадскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у слаўгарадскай райгазеце, у часопісе «Народная гаспадарка Беларусі», у газеце «Чырвоная змена». Зараз—намеснік рэдактара газеты «Знамя юности».

**ПАПУРЭНКА Ірына** нарадзілася ў 1963 годзе ў Крычаве. Скончыла філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працавала настаўніцай, рэжысёрам дзіцячай студыі ў г. Глыбокае. Зараз жыве ў Мінску.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**БІБІЦКІ Алесь** нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Вербавічы Нараўлянскага раёна. Скончыў Брэсцкі педінстытут імя А. С. Пушкіна. Настаўнічае на Піншчыне.
Друкаваўся ў рэспубліканскіх часопісах.

**ЦІХАНЧУК Антаніна** нарадзілася ў 1959 годзе ў вёсцы Багданаўка Лунінецкага раёна. Скончыла Мінскі педінстытут імя М. Горкага. Працуе выкладчыцай у Крычаўскім СПТВ. Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах.

**ШПАКЕВІЧ Вольга** нарадзілася ў 1956 годзе ў вёсцы Кароцічы Столінскага раёна. Скончыла Мінскі педінстытут імя М. Горкага. Працуе выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры ў Мінску.
Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.

**КАШУБА Ганна** нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Леткаўшчына Капыльскага раёна. Скончыла паліграфічнае вучылішча, факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Працавала ў райгазетах, зараз—у Доме піянераў і школьнікаў у Мінску.
Друкавалася ў рэспубліканскіх газетах, у калектыўным зборніку «Лагодны прамень раніцы».

**КОТАВА Алена** нарадзілася ў 1952 годзе ў вёсцы Крупец Добрушскага раёна. Скончыла Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчаму мастацтву імя І. В. Ахрэмчыка, Ленінградскае вышэйшае прамысловае вучылішча імя В. І. Мухінай. Працуе мастаком у АН БССР.

**ГАРАГЛЯД Ніна** нарадзілася ў 1952 годзе на хутары Паўлінава Пінскага раёна. Скончыла Брэсцкі педінстытут імя А. С. Пушкіна. Працуе ў камянецкай раённай газеце «Ленінец». Друкавалася ў рэспубліканскіх часопісах і калектыўным зборніку «Нашчадкі».

**ТРАФІМАВА Таіса** нарадзілася ў 1955 годзе ў вёсцы Манькава на Случчыне. Скончыла педвучылішча. Працуе выхавацельніцай у ПТВ № 87 у Маладзечна.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**«МОЛОДОСТЬ» № 3 (1—176), 1990 г.**
**Ежемесячный литературно-художественный**
**и общественно-политический иллюстрированный журнал**
(на белорусском языке)

Мастацкі рэдактар **Віктар Казлоў.** Тэхнічны рэдактар **Яніна Важнік.**
Карэктары **Валянціна Башак, Мая Вінаградава.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79, выдавецтва ЦК КПБ. Тэлефоны: 31-85-43—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 32-82-29—сакратарыят, аддзелы паэзіі, прозы, крытыкі, 31-76-14—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 39-87-70—фотакарэспандэнт.

Здадзена ў набор 19.01.90. Падпісана да друку 26.02.90. АТ 00014. Фармат 70×90¹/₁₆. Друк высокі. Умоўн. фарбаадб. 14,77. Умоўн. друк. арк. 12,87. Ул.-выд. арк. 15,9. Тыраж 9880 экз. Зак. 576. Цана 60 к.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі пр., 79.



**Г. СЯНЬКОЎСКІ. Калыханка** (аловак, 1984).